


# ПОЛЫМЯ

*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ*
*І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС*

**1** (999)

*СТУДЗЕНЬ*

**Выдаецца**
**са снежня 1922 года**



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»

Мінск 2013

## *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб’яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»

## Мікола ЧАРНЯЎСКІ



### «КУПАЛІНКА» Ў ДОМЕ КУПАЛЫ

Кастрычнік лістотай апалай
У парку дарожкі замёў.
«Купалінка» ў Доме Купалы —
У самым найсветлым з дамоў.

Яму, песняру, даспадобы,
Відаць, творчых пошукаў ход:
Купалінцы ўвосень вучобу
У ім пачынаюць штогод.

Бы ў полі,
Сабраўшы за лета
Сваіх першатвораў снапкі,
Сюды з прысталічча паэты
З’язджаюцца — вучняў гурткі.

Узрушана стукаюць сэрцы —
У рытм іх нясмелых радкоў.
Тут, на паэтычнай паверцы,
Ці знойдзецца шмат смельчакоў?

Усіх хваляванне даймае
За вынік іх творчых пакут.
І воплескі й ціша нямая —
За суддзяў, за крытыкаў тут.

---

***Чарняўскі Мікалай Мікалаевіч*** *нарадзіўся 16 студзеня 1943 года ў вёсцы Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1966). Працаваў у рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі», на Беларускім радыё, у часопісах «Бярозка» і «Вясёлка».*

*Піша для дзяцей і дарослых. Аўтар зборнікаў лірыкі, сатыры і гумару: «Чалавечнасць» (1971), «Трывога» (1988), «Лёкса ў люксе» (1993), «У трох соснах» (1996), «Сонечны кошык» (2009) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра (1995), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2001), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2010).*

Ці ўсё, што вышуквалі,
                                        дбала
Сплялося ў суквецці радкоў?
Здаецца, сам Янка Купала
Іх слухае, як дружбакоў.

Глядзіць, як жывы, —
Ці з партрэта? —
Вясновіцца цёплы пагляд:
Гасцям сваім —
Юным паэтам —
Ці ж будзеш у доме не рад?

Ён побач, здзіўлёны нямала,
А вучні, бы шолах з двара,
І чуюць дыханне Купалы,
І голас яго гусляра.

Здаецца, і ён да размовы
Далучыцца, не праміне.
Ён рады: у роднае мовы
Не ўсё яшчэ страчана, не!

Пакуль яшчэ ў сэрцах дзіцячых
Не згас ён, агонь пачуцця,
Свой край будзе ўзвышаным бачыць,
Не будзе яму забыцця…

Кастрычнік лістотай апалай
У парку таемна шуршыць.
Купалінцы з Дома Купалы
Выходзяць, як з храма душы.

А сам гаспадар,
Бы ў паходзе,
З кульбакай, каб крочыць лягчэй,
Да выхаду з парка праводзіць
З наказам: «Прыходзьце яшчэ.

Прыходзьце, вам сцежка вядома,
Не змушу тут доўга чакаць:
Я сам, вас убачыўшы,
З дому,
Як кольвечы, выйду спаткаць».

## СКАРЫНКА

На любоў мне скардзіцца ці трэба?
Першая, каго я палюбіў,
Скібка хлеба, з асцюкамі хлеба, —
Ён як госць у нашай хаце быў.

Не баяўся ўпасці ды пабіцца,
Калі, з голаду падцяўшы дух,
Як гімнаст той,
Лазіў па паліцах, —
Можа, хоць скарынку там знайду?

Толькі не адзін я ў хаце шастаў:
Меншы брат за ёю цікаваў.
Шчасце надаралася не часта —
Ссохлую, абдзьмухваў, цалаваў!

На зубах скарынка храбусцела —
Ад пясчынак, што не змог здзьмухнуць.
Праглынуць зара́з яе карцела,
Ды ці ўсмак —
Адразу праглынуць?

Смакаваў скарынку па крупінцы —
Радасць з горкім сумам папалам.
Скібка хлеба…
Лепшага гасцінца
Не магло тады прысніцца нам.

А скарынка, здобраная здорам,
Як не здорам — соллю з часнаком,
Лепш за лекі памагала хворым,
Замяняла скорам часцяком…

Радуюся ніве каласістай,
А скарынку ўбачу —
Сум бярэ:
Колькі іх, духмяна-залацістых,
Сохне, гіне ў смецці на дварэ!

Ёй, не жытняй, чорнай, а другою
Сёння сорам на стале гасціць?..
Неспадзеўна хрумсне пад нагою —
Мне здаецца,
На зубах хрумсціць.

Мне здаецца,
Да паліцы ўзлезшы,
Лапаю, шукаючы, рукой…
Эх, цяпер бы, пры жыцці ўжо лепшым,
Хоць бы крошку
Радасці такой!

## ІДУ ДА ПЕСНІ…

*Вячаславу Статкевічу*

Ранак залаціста блісне промнем,
Цішу ўскалыхне птушыны хор.
Раптам, што забылася, прыпомню,
Вёсачку сваю,
Бацькоўскі двор.

Раптам, нібы ў сне тым, нада мною
Вочы маці зорамі ўсплываюць,
«Туман ярам, ярам-даліною», —
Ёй у лад вяскоўкі падпяюць.

Родны спеў…
Што можа быць найлепей?!
Ратавала песня землякоў.
Рэпнікі мае не толькі ў рэпе
Песню гадавалі для вякоў.

І на гэты мілы сэрцу голас
Я іду, спяшаюся туды,
Дзе асыпаў зерне позні колас,
Як дажджынкі,
На мае сляды.

Што пражыта — ніткамі прашыта
З любасці,
Мелодый,
Родных слоў.
Быццам сцежкай роснаю праз жыта,
Я іду да песні —
Як дамоў.

І калі заплача сэрца ў скрусе
І яго астудзяць скразнякі, —
Я да песні роднай прытулюся,
Як да цёплай матчынай шчакі.

* * *

Шаша пятляе праз лясы.
Брылькі прыпынкаў-станцый.
Варона,
Вераб'і,
Ласі —
На ёй, як на ружанцы.

Край Астравецкі поўны дзіў,
Яны — і ў назвах вёсак.

Даўнейшы час,
Што тут хадзіў,
Пакінуў адгалосак.

Мы ж едзем,
Дзівімся з акон,
І чым бліжэй, тым болей:
Варона —
Штосьці без варон,
Без гнёздаў іх таполі.

І там, дзе ўсплужана ралля,
Дзе шмат спажывы рознай,
Чамусь не бачу варання —
Абходчыкаў барознаў…

Дарогу вёў далей прасцяг
Лясіста-адзінакі.
Ласёў не ўбачылі ў Ласях —
Стаялі толькі знакі.

Няўжо далей ад тлумных трас
У госці падаліся,
А каб усцешыць згадкай нас,
У назве — засталіся?

А ў Вераб'ях
тых вераб'ёў
Злічыць на пальцах можна.
Няўжо да зерня хто падмёў
Двары ля хаты кожнай?

А можа, сходка сёння ў іх
На возеры любімым,
Што ўсім наўздзіў
З часоў былых
Завецца Вераб'іным?

Ці ля дарог няўседна ім? —
Тлум, грукат
Днём і ўночы.
Ці мо баяцца нам, чужым,
Паказвацца на вочы?..

Чаго б у думках ні насіў,
Рабі душой высновы.
Варона,
Вераб'і,
Ласі —
Куток, дзе грэюць словы.

* * *

Сонца. Дождж. Вясёлка.
Восені сюрпрыз.
Лісцям клёнаў золка —
Сыплюць грэцца ўніз.

А душы прасветла —
Знак у гэтым ёсць,
Хоць скупее лета
На вясёлкі штось.

Мала з небам згоды?
І дажджыць радзей?
Можа, ад прыроды?
Можа, ад людзей?

Можа, ёсць надзея
Нейкая… Аднак
Восені цяплеюць,
Нашы ж душы — як?

З-пад хмурынак волкіх
Выбраўшыся ледзь,
Прызімкам вясёлка
Ці не знак — вяснець?

## БЛАКІТНАЯ АЛЬТАНАЧКА

Юнацкіх дзён згаданачка,
У жніўны зарапад
Блакітная альтаначка
Дваіх гукала ў сад.

Сядзелі ў ёй, загадвалі,
Хінуліся шчыльней.
А зорачкі падглядвалі:
Цалуюцца ці не?

Ах, леты непаўторныя,
Дзе ваш згубіўся след?
Здаецца, гэта ўчора я
Пайшоў адсюль у свет.

З рабінкаю-дзяўчынкаю,
Што募 мараю была,
Блакітнай аблачынкаю
Ты з саду адплыла.

Стаю сярод здзічэлых я
І яблынькаў, і груш.

Туга незразумелая
Нашэптвае: «Не руш.

Не руш, што ўжо забытае,
Душу не варушы.
Альтаначку блакітную
Пакінь адно ў душы.

Няхай часцей нагадвае
Табе кахання дні
І маладосць крылатую,
Што не вярнуць ані.

І зорачкі над хатаю,
Ды ўжо сабе на злосць,
Няхай часцей падглядваюць,
Калі жаданне ёсць…»

Не ўгледзець ім ніранічкай,
Ні ў самы позні час:
Блакітная альтаначка,
Яна ж — у сэрцы ў нас!

* * *

***Лягчэй без хлеба перажыць вясну,***
***Чым без зязюлі.***

Рыгор СЕМАШКЕВІЧ

Зязюля недзе
Ранне ўсё
Кукуе —
Чытаць нібыта вучыць па складах.
І гэты спеў,
І гэтыя «ку-ку» я
Лаўлю, лічу іх,
Хоць даўно ў гадах.

Жыць колькі мне
На свеце застаецца —
Чамусьці не цікавіць, як раней.
Але ж чаго так часта сэрца б’ецца?
Чаму я дыхаць не магу раўней?

Што ў сэрцы гэта азбука зрабіла —
З двух нейкіх слоў,
Нязмушаных «ку-ку»?!
А можа, ў гэтым тайна іх і сіла —
Дарыла калісь радасць хлапчуку.

Вясна вачмі галоднымі глядзела,
У жменю крошкі змёўшы са стала.

Ды ў сад зязюля
Раптам прыляцела,
Сваё «ку-ку»,
Як скібку, падала.

І закарцела выбегчы на ганак,
І закарцела расчыніць акно,
Забыўшыся на шчаўе —
Той сняданак,
На жытні блін,
Што ў нас гасціў адно.

Ад успамінаў тых мне не схавацца…
Зязюлі ж голас
Чую ўсё званчэй:
Відаць, стараецца накукавацца,
Каб сум маўчання
Перажыць лягчэй.

Няўжо дні блізка:
З хаты выйду ранкам —
А дзе яна, схавалася куды,
Вясны вяшчунка,
Лета паланянка,
Хто будзе шчодра раздаваць гады?

Ат, зноў гады!..
Мне ў іх няма патрэбы.
Яна ж — маленства дзіўная пара:
Нясе «ку-ку» сваё,
Як скібку хлеба,
Як словы, што спазнаў без буквара.



**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# ЛІХАЛЕЦЦЕ

*Раман*

**Частка другая**

**XV**

— Недзе тут непадалёку знаёмы мой жыў, — сказаў Афінагенаў, калі яны выйшлі ад Васіля.

— Хто?

— Пац, хутар меў. У саракавым мы яго пасадзілі, тэрмін далі. Наёмную сілу выкарыстоўваў.

— Дык я яго ведаю, — пажвавеў Мурашка, нават пасміхнуўся, — ён і цяпер на сваім фальварку жыве. Якаў Арыстархавіч. Ведаю. Дзялок яшчэ той.

— Калісьці я ім займаўся, дапамог нават. Пяць гадоў далі, а маглі і болей.

— Калі так, дык павінен помніць. Фальварак яго тут побач, за ракой.

— А давай наведаемся?

— Можна.

— Каб не напароцца на каго.

— Тут ціха.

Яны абышлі царкву, папоўскі сад і накіраваліся ў бок Альберціна, спусціліся ў пойму, якую ахінуў негусты туманок, пайшлі, чапляючыся за купіны. Лосьна сустрэла гаркаватым пахам прырэчнай травы і лазы. Каля кустоў

---

*__Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч__ нарадзіўся 26 снежня 1937 года ў вёсцы Кругель Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута (1959). Служыў у арміі, настаўнічаў на Брэстчыне. Скончыў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры АН БССР і быў залічаны супрацоўнікам гэтага ж інстытута.*

*Працаваў у апараце ЦК КПБ, быў дырэктарам Інстытута літаратуры НАН Беларусі. Акадэмік.*

*У друку выступае як крытык і літаратуразнаўца. Аўтар манаграфій «Традыцыі і наватарства» (1972), «Упоравень з часам» (1976), «Сучасная беларуская паэзія: Творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс» (1983), «Як само жыццё» (1984), «Ля аднаго вогнішча» (1984) і інш., а таксама кніг прозы «Уліс з Прускі» (2006), «Расія» (2007), «Вяртанне» (2008).*

---

[*] Працяг. Пачатак у № 6—9, 2012 г.

ляжалі валкі скошанай атавы. Пад берагам плюскала вада, цёмная і таямнічая. Далей па цячэнні ракі была кладка, аднак па ёй не пайшлі — адолелі Лосьну па мелкаводдзі, якраз у тым месцы, дзе ў яе ўпадала Пліса. Доўга плёхаліся ў вадзе. На бераг усцягнуліся мокрыя вышэй пояса, а потым зноў трапілі на нейкую балацявіну. Гэта было старое рэчышча. Выкручвалі анучы і пераабуваліся пад разложыстым дубам, што стаяў на грудку, адтуль рушылі да хутара. Яшчэ не развіднела, панаваў змрок, але на падыходзе да хутара іх пачуў сабака. За плотам з будкі выскачыў здаравенны ваўкарэз і ашчэрыў клыкі, забрахаў, а потым неяк тужліва завыў. Начныя госці ад нечаканасці схапіліся за зброю, але з-за дзвярэй пачулі глухаваты мужчынскі голас:

— Хто там?

Сабака, нібы выканаўшы свой абавязак, схаваўся ў будку. Яго папярэдніка Фурсіка застрэлілі нямецкія памежнікі, і Пацы прыдбалі другога, таксама пільнага і злога. Прывыклі, каб быў сабака.

— Свае!

— Ну, раз свае, дык заходзьце, — запрасіў без лішніх роспытаў мужчына.

Дзверы адчыніліся, і ў праёме паказалася мажная постаць у капелюшы і накінутай на плечы світцы. У прыцемках і Мурашка, і Афінагенаў пазналі гаспадара Якава Арыстархавіча, зайшлі ў хату. Ужо ў сенях улавілі саладжавы мядовы водар. Гаспадар прапусціў іх уперад, у святліцу, у якой ледзь курэла падвешаная да бэлькі лямпа.

— Рашылі заглянуць на аганёк, — патлумачыў Афінагенаў, хаваючы ў цень свой дробны тварык.

Фальварковец уважліва паўзіраўся ў аблічча нечаканых гасцей. Адзін — у скуранцы, другі — у світцы. Погляд яго здаўся ім праніклівым і разам з тым недаверлівым.

— Пазнаяце? — спытаў Афінагенаў і таксама прыгледзеўся да гаспадара, які зняў капялюш, агаліўшы галаву, падобную на більярдны шар, бо не відаць было ніводнай валасіны.

— Няўжо гэта вы? — здзівіўся Якаў Арыстархавіч, пазнаўшы следчага, які калісьці, яшчэ да вайны, дапытваў яго ў Камянцы, у НКВД.

— Я.

— Бо таварыша Мурашку я пазнаў адразу. Маё шанаванне! Маё шанаванне! — гаспадар падаў аднаму і другому руку. З'яўленне нечаканых гасцей як бы нават узрадавала яго: не забылі, наведалі!

— Ну вот, сустрэліся, Якаў Арыстархавіч.

— Але, але! — пацвердзіў гаспадар і без якой-небудзь задняй думкі, а хутчэй па прыроднай наіўнасці, запытаў: — Адкуль вы?

— Гэтага вам ведаць не паложана, — суха адказаў Афінагенаў. — Нікому ні слова, імейце ў віду.

— Ну, а то я не ведаю! — у голасе пачулася лёгкая крыўда. — Вайсковыя парадкі! Чым менш ведаеш, тым лепш.

— Ну як жыццё? — уступіў у размову Мурашка, часта міргаючы вачыма і азіраючыся.

— Так сабе. Магло б, хоба на яго, і лепшым быць. Дык сядайце, дзе каму зручней, сядайце!

— Як настрой? — як бы ўдакладніў Мурашкава пытанне былы энкавэдзіст, сядаючы разам з сябрам так, каб не відаць было праз акно.

— Ой, і не пытайце! Неспакойна ў нас. Але дзе цяпер, хоба на яго, спакойна? Нідзе.

— Да-а.

Па выглядзе Якава Арыстархавіча не відаць было, каб гэтая даволі нечаканая сустрэча яго здзівіла. Ён нібыта ўжо і чакаў чагосьці. Чуў пра партызанаў, пра лясны супраціў. У лесе апынуліся акружэнцы, некаторыя з тых, хто пры Саветах меў цёплыя пасады. Начамі наведваліся ў вёскі. Але на тое, што давядзецца сустрэцца з тым самым энкаведзістам, які вёў допыт, намагаўся заблытаць, не спадзяваўся. «У жыцці ўсё здараецца, — падумаў ён, убачыўшы старога знаёмага. — Прыйшоў дык прыйшоў. Не павалачэ ж мяне зноў у турму…» У характары Якава Арыстархавіча была такая асаблівасць, што доўга злаваць не мог і пра зло не помніў, шукаў з усімі, як ён казаў, кансэнсусу.

— Хвядося! — гукнуў ён жонцы.

З кухні выйшла сярэдніх гадоў гаспадыня, якая паспела ўжо апрануцца і нават падвязацца фартушком.

— Пастаў чаго на стол! Мэду з тварагом прынясі! — сказаў гаспадар і дадаў: — Не марудзь!

Хвядося зірнула на незнаёмых ёй людзей, млява пазяхнула, атуліўшы рот далонню, і першае, што зрабіла, — пазанавешвала вокны.

— Хазяйка, ты нас не бойся! — падбадзёрыў яе Афінагенаў. — Мы свае…

— Свае, — пацвердзіў Якаў Арыстархавіч, правёўшы рукою па галаве.

Гаспадыня заспяшалася ў камору, а госці паселі за стол, на якім, прыкрыты абрусам, ляжаў хлеб. Гаспадар прымасціўся на нізкім столаку.

— А што яшчэ ў вас слышна? — спытаў Афінагенаў.

Якаў Арыстархавіч кашлянуў і зноў правёў далонню па лысіне.

— Я знаю, што вы нямножка пацярпелі пры савецкай уласці, — нібы паспачуваў Афінагенаў.

— Сядзеў, — ці то прызнаўся, ці то ўспомніў Якаў Арыстархавіч, пазіраючы на начных гасцей наіўна-хітраватымі вачыма. «Да гэтага часу не магу зразумець, што ж я вам такога кепскага зрабіў?» — гаварыў яго позірк.

— Я дапускаю, што можа нават і ў чом-та несправядліва. Ну што ж, лес рубят, шчэпкі ляцяць. Усякае можа случыцца.

— Але ж нейкая зачэпка была, — быццам сам сабе сказаў Мурашка. — Без зачэпкі звычайна не абыходзіцца. За нешта, відаць, зачапіліся.

— За анекдоты шмат народу сядзела, — уздыхнуў гаспадар і, як бы нешта прыпамінаючы, пачасаў за вухам.

— Пасля вайны разбяромся, — паабяцаў Афінагенаў.

— Дык што, яшчэ і пасля вайны будзеце разбірацца? — шчыра, як дзіця, здзівіўся Якаў Арыстархавіч, які быў упэўнены, што ўсё ўжо ў мінулым і ніякага вяртання да таго не можа быць.

— Не выключана, але вам баяцца не следует, — стрымана патлумачыў упаўнаважаны. — Хаця асабіста я прытрымліваюся таго ізвеснага палажэння, што невінаватых не існуе. Калі падумаць, дык кожны хоць у чымсьці, але вінаваты, кожны калі-небудзь саграшыў. Іншая справа, што не кожнаму даводзіцца за сваю віну адказваць, многія ўкланяюцца, імкнуцца абхітрыць і таму падобнае.

Якаў Арыстархавіч паціснуў плячыма:

— Я сядзеў, хоба на яго, не ўцякаў, але калі пачалася вайна, дык усе пабеглі, а паперадзе ўсіх адміністрацыя. Тады і я, думаю, падамся дадому, бо не заставацца ж без догляду аднаму…

— Правільна! — падтрымаў Мурашка, які ўважліва сачыў за размовай.

Гаспадыня прынесла і паставіла на стол талерак з варанымі яйкамі, паклала пруток каўбасы, а побач з ім нож.

— Хвядося, парэж! — загадаў Якаў Арыстархавіч.

— Сам парэж! — буркнула Хвядося і накіравалася на кухню.

Якаў Арыстархавіч, крэкчучы, падняўся са столака, выняў з-пад абруса хлеб, накроіў, пачаў кружочкамі рэзаць каўбасу, якая, нягледзячы на ваенны час, утульна пахла часнаком і кменам. Гаспадыня яшчэ раз схадзіла ў камору, і на стале з'явіўся талерак з тварагом, шчодра паліты мёдам-ліпцом, побач разлажыла лыжкі.

— Мы не галодныя, — пачаў аднеквацца Афінагенаў. — Дзякуй!

Мурашка маўчаў.

— Перакусвайце! — запрасіў гаспадар. — Гэта яшчэ не ўсё. — Выйшаў у камору і вярнуўся з пляшкай гарэлкі. — Як ведаў, што завітаеце. Свайго вырабу, карчоўка.

— Ні ў коем случае! — затрос галавой упаўнаважаны, замахаў рукамі, нібы яго падштурхоўвалі на злачынства.

— Выпіць не зашкодзіць. Давайце!

— Не, звіняйце, не паложана.

— Каб на спажытак!

— Не.

— Возьмем лепш з сабой, — выйшаў з няёмкага становішча Мурашка, адламаў ад буханкі хлеба бакавы акрушчык і сунуў яго ў рот.

Якаў Арыстархавіч моўчкі пацiснуў тоўстымі плячыма, быццам кажучы: «Калі ласка! Бярыце! Не збяднеем».

Госці ўзялі з талерка па кавалачку каўбасы.

— Вы ешце, перакусвайце! Не грэбуйце!

Гаспадыня прынесла збанок малака, пастаяла крыху і выйшла.

— Мы, собственна гавара, па іншаму поваду, — удакладніў упаўнаважаны, пачакаўшы, калі выйдзе Хвядося. — У лясу чакаюць ад вас, Якаў Арыстархавіч, помачы. Там ведаюць, што мы ў вас. Падумайце, чым вы маглі б дапамагчы, каб, як кажуць, не стаяць у старане? Каб не чакаць, як кажуць, з мора пагоды.

Гаспадар слухаў, седзячы на сваім столаку, схіліўшы галаву.

— Вы для нас, к вашаму сведзенію, якраз той чалавек, які нам патрэбны. Вы, калі хочаце ведаць, умніца!

— Каму я цяпер, хоба на яго, надта патрэбны! — сціпла варухнуў галавой Якаў Арыстархавіч.

— А вы падумайце!

— Вайна, хоба на яго, усюды дастане, — згадзіўся ён нарэшце, скрывіўшы вусны ў скептычнай усмешцы. — Але ж немцы, хоба на іх, надта палохаюць, кажуць, хто стане партызанам дапамагаць, дык заб'ём і спалім. Так яны і робяць. З імі не пажартуеш.

— Немец, яснае дзела, зліцца, — патлумачыў Афінагенаў. — Бліцкрыг не ўдаўся! Відаць ужо, собственна гавара, святло ў канцы тунеля.

— А ўжо відаць, — пацвердзіў Мурашка, каштуючы тварог з мёдам.

— Барометр вайны на ныняшнім этапе складваецца, к вашаму сведзенію, у нашу карысць, — зазначыў упаўнаважаны. — Масква, Ленінград застаюцца непрыступнымі.

На гэта Якаў Арыстархавіч нічога не адказаў, быццам моўчкі пагадзіўшыся з думкай упаўнаважанага, які лепш ведаў, што да чаго.

Ля вокан хтосьці прайшоў, цяжка ступаючы. Насцярожаныя госці зноў узяліся за зброю.

— Гэта Амброжый, — супакоіў іх гаспадар. — Брат. У сад пайшоў. Пчэльнік правярае. Вуллі часам крадуць.

На некаторы час у пакоі ўсталявалася цішыня. Гаспадыня корпалася на кухні.

— Можа, што з боепрыпасаў ёсць? — пацікавіўся Мурашка.

Якаў Арыстархавіч нейкі час думаў, нешта прыгадваў.

— Есць у мяне, хоба на яго, яшчэ ад тых Саветаў, — нарэшце ўспомніў ён, патроны, — ад тых, што ў дваццатым годзе былі.

— У якім? — перапытаў здзіўлены Афінагенаў.

— У дваццатым. Я пра тых, першых Саветаў, кажу. Поўскрынкі патронаў у мяне пакінулі. Нават не ў мяне, а ў майго бацькі. Запаслівы быў. «А раптам спатрэбяцца?» — кажа. Ну, дык вось…

— Вінтовачныя?

— Вінтовачныя, хоба на іх.

— Дык яны, напэўна, і сапсавацца маглі? — засумняваўся Мурашка. — Порах мог падмокнуць, адсырэць…

— Каб не падвялі, — дадаў Афінагенаў, — тады зноў узнікне вапрос.

— Халера іх не брала! Добрыя!

— Калі добрыя, то забяром, — сказаў Мурашка, — могуць спатрэбіцца.

— Вазможна, — працягваў Афінагенаў, — калі-небудзь нашы людзі за прадуктамі да вас звернуцца ці заначаваць.

— У жыцці ўсякае можа трапіцца, — зразумеў Якаў Арыстархавіч.

Крыху памаўчаўшы, упаўнаважаны пачаў новую тэму:

— І яшчэ адна справа. Паперы тыя… Хто іх парасцягнуў? Гэта ж архіў! Гасударственный! За яго, імейце ў віду, спросят…

— Ваш архіў?

— Ну, выходзіць, што наш, нашанскі. Адказнае дзела. Вельмі адказнае!

— Казённае, — азваўся Мурашка.

Якаву Арыстархавічу не трэба было тлумачыць, што такое архіў. Архіў — дакументы, гісторыя, пацверджанне таго, што адбылося. Фальварковец на нейкі час задумаўся, прыгнуўся, пашкроб патыліцу.

— Дзе ж ён, хоба на яго, мог падзецца? Калі людзі расцягнулі, дык ужо, напэўна, скурылі, бо бракуе паперы. А можа немцы забралі яго і чытаюць? Тут цяжка сказаць што-небудзь пэўнае. Не можа такога быць, каб нічога не ўсплыло. Калі так, то яшчэ ўсплыве.

Афінагенаў слухаў насупіўшыся, з выглядам чалавека, якога надта пакрыўдзілі. А словы фальваркоўца — «не можа такога быць, каб нічога не ўсплыло, яшчэ ўсплыве» — нават напалохалі і насцярожылі. Страх за архіў, што прапаў, ніколі яго не пакідаў, а цяпер, пасля размовы з гэтым хутаранцам, яшчэ больш абвастрыўся.

— Калі што дачуецеся, скажыце абавязкова. З такімі рэчамі не жартуюць. Віноўных мы, так ці інакш, адшукаем, і не сумняваюся, што яны прызнаюцца. Сродкі для гэтага, паверце мне, мы знойдзем.

Якаў Арыстархавіч паціскаў плячыма, нібы дзівіўся, як такое магло здарыцца.

— Архіў, хоба на яго, трэба ў каморы хаваць, як сала, — павучальна сказаў ён.

Ужо займалася ранне, калі яны сталі развітвацца. У хлеўчуку, чутно было, загагаталі гусі. Гаспадыня выйшла з хаты.

— Штобы ўсё паміж намі засталася! — папярэдзіў упаўнаважаны. — Імейце ў віду. Гэта дзела такое.

— Пра гэта не турбуйцеся.

— Ну, гэта мой абавязак.

— Дык усе ж жыць хочуць. Хіба я не разумею?

— Ну, пэўна, так, — згадзіўся Мурашка.

— Зараз кожнаму трэба быць вельмі асцярожным, — павучальна сказаў Якаў Арыстархавіч. — А можа прыкурнеце на гадзінку якую ў клуні?

— Не, нас чакаюць.

— Адпачніце! Без сумневу. Куды вы ўдзень пойдзеце? У клуні ёсць месца. Там ніхто не ўгледзіць.

Павагаўшыся, яны ўсё ж такі згадзіліся. Адчувалі сябе вельмі стомленымі. Выйшлі з хаты на ганак. На панадворку нікога не было, калі не лічыць некалькіх курыц, што кешкаліся каля хлява.

Якаў Арыстархавіч завёў у клуню, паказаў месца ў застаронку. Ноздры казытнуў водар жытніх снапоў і сена. З паддашка павявала свежым паветрам. Мурашка натапырыў вусы, павёў носам:

— Багуном пахне.

— Сёлетняе. Ля ракі касілі, — пацвердзіў Якаў Арыстархавіч і прынёс аднекуль коўдру і падушку. — Выбачайце, што адна. Спакойнага адпачынку! — пажадаў ён і выйшаў, зачыніўшы за сабою дзверы.

Упаўнаважаны, сцішыўшы дыханне, паглядзеў на напарніка:

— А што, калі немцаў прывядзе?

— Не прывядзе, — заспакоіў Мурашка. — Ён не дурны. Дык і вы ж сказалі, што ў лесе ведаюць, дзе мы.

Яны залезлі ў дальні куток і, не распранаючыся, паваліліся на сена. Яно пахла і шамацела. Афінагенаў паклаў падушку сабе пад галаву, а Мурашку давялося абыходзіцца без падушкі. Ён і сам не заўважыў, як зарыўся з галавою ў гэтае хмельнае надрэчнае сена і адразу заснуў.

Стомленыя, спалі амаль да вечара. Калі Мурашка прачнуўся ды вылез крыху з сваёй нары, па клуні бегалі сонечныя зайчыкі, а за сценамі чулася звычайная штодзённая мітусня. Раскатурхаў упаўнаважанага. Хацелася есці і піць, больш нават піць, чым есці. Гаспадар, нібы пачуўшы іхнія думкі, прынёс збанок квасу, нарэзанае тонкімі скрылікамі сала і хлеб. Дарога не блізкая, яны падмацаваліся.

— Дзякуй, хазяін, — ціха сказаў упаўнаважаны. — Ну, што, будзем развітвацца?

Якаў Арыстархавіч дастаў з кішэні гадзіннік на ланцужку, шчоўкнуў крышачкай і паўзіраўся ў цыферблат:

— На маім ужо сёмая.

З клуні выйшлі за абсаду. За пагоркам пачыналася хваіна — высокі меднастволы бор. Якаў Арыстархавіч кіўнуў галавой у бок пагорка:

— Добра было б на гэтым пагорку вятрак паставіць. Тут не блага дуе.

Упаўнаважаны нічога яму на гэта не сказаў, паглядзеў у бок пагорка і моўчкі працягнуў руку. Фальварковец падаў яму сваю вялікую пульхную далонь. І з Мурашкам развітаўся за руку.

Мурашка забраў, паклаўшы ў рэчмяшок, скрынку з патронамі, якую гаспадар захоўваў у клуні, у застаронку, прыкапаную ў самым кутку, у сухім месцы.

Яны накіраваліся да хваіны, што стаяла за пагоркам, недалёка ад абсады.

— А ўсё ж такі не дрэнны чалавек, — сказаў Мурашка, маючы на ўвазе Якава Арыстархавіча. — Гасцінны. Не благі. І гаварыць даецца. Да начэплівасці гасцінны.

— Не благі? — у голасе Афінагенава прагучала ці то здзіўленне, ці насмешка над сябрам. — Гэта так здаецца. Вайна, а ён пра вятрак думае. Чорнага кабяля не адмыеш дабяла. Прызнаюся табе, дружа, баяўся я, каб нам тут хто ў спіну не стрэліў, але абышлося.

Далей яны ішлі моўчкі, захоўваючы цішыню і канспірацыю.

Якаў Арыстархавіч вярнуўся ў хату, на ганку яго чакала Хвядося.

— Хто гэта быў? — спытала яна.

— Той, у світцы, — патлумачыў ён ёй, пасля таго як госці ўжо зніклі ў лесе, — Мурашка з Ліпны, а ў скуранцы — гэта мой следчы Афінагенаў. Душу вымаў, а потым у «тройку» здаў.

— Бачыш, як усё мяняецца, — сказала Хвядося.

— Мяняецца, — згадзіўся Якаў Арыстархавіч, — мяняецца, але пра сваё дбаць трэба.

## XVI

У жніўні жалі, а ў верасні малацілі збажыну. У Кужалёў керат, конная малатарня. Санька працаваў з усімі разам, віламі адкідаў салому. Потым за клуняй з Лявонам складалі скірду.

Вечарам, пасля работы, мыўся і ішоў да моладзі. Бавіў час з Маняшай, праводзіў дадому.

Часта бачыўся з Васілём, разам працавалі каля малатарні. Гаварылі пра рознае: пра фронт на ўсходзе, пра мясцовыя падзеі, пра няпэўнае становішча прыпіснікоў-акружэнцаў. У Ратайчыцах да Санькі, куды ён штотыдня хадзіў «мельдавацца», прыставаў Пыр, прапаноўваў ісці служыць у паліцыю. І зброя ў цябе будзе, кажа, і форма, і «пітанія».

Апошнім часам немцы пачалі забіраць у гаспадароў прыпіснікоў і адпраўляць у лагеры для ваеннапалонных. Каб не ішлі ў лес, бо некаторыя ішлі і ўжо адтуль нагадвалі аб сабе. Такая думка турбавала і Саньку. Яно добра было б таксама падацца ў лес, да партызанаў, але каб пры гэтым у нямецкую пастку не трапіць — як тыя, каго пастралялі каля Выгнанскага лугу. Не ведаючы броду — не суйся ў воду. Гэта — па-першае, а па-другое, калі рызыкаваць і што-небудзь рабіць, дык гуртам, разам з Пецькам Мачалавым і Віцькам-масквічом, а ніяк не аднаму. І яшчэ. Надта не хацелася падстаўляць гаспадара, Лявонція Міхайлавіча, бо адказваць давядзецца яму.

Сваімі меркаваннямі ён падзяліўся з Васілём.

— Трэба думаць, як быць у гэтай сітуацыі, бо яна, сам бачыш, няпростая, — няпэўна сказаў Васіль, выслухаўшы Саньку.

Знешне Санька выглядаў цалкам бесклапотным чалавекам, які змірыўся з лёсам і прывык да свайго становішча. Калі ішоў у Ратайчыцы, бесклапотнасць знікала. Ад гэтых «візітаў» у паліцыю можна было чакаць усяго: маглі і ў канцлагер забраць, і ў Германію вывезці альбо проста тут, у Ратайчыцах, застрэліць. Упэўненасці, што вернешся назад, не было. Пастаянна сустракаўся з сябрамі па нядолі, такімі ж акружэнцамі-прыпіснікамі, як і сам, — Пятром Мачалавым з Свішчова ды Віцькам-масквічом з Бранавіч. Там, у пастарунку, ім казалі, што савецкі ўрад аб'явіў здраднікамі і ворагамі народа ўсіх, хто трапіў у нямецкі палон. Наслухаўшыся такіх вестак, некаторыя з акружэнцаў пайшлі служыць у паліцыю.

Мінулы раз з Ратайчыцаў вярталіся разам і, як звычайна, гаманілі, абменьваліся пачутымі навінамі. З раніцы прайшоў дождж, пад нагамі яшчэ хлюпала вада. Сакавітая зеляніна набракла вільгаццю.

— Чулі, што сказаў Пыр? Што немцы ўжо Сталінград узялі! — загаманіў Пятро сваім хрыплаватым пракураным басам. Сярод іх траіх Пятро лічыўся быццам за старшага.

— Штой-та не веру я гэтаму, — азваўся Віцька-масквіч. — Прапаганда! Успомніце, як яны хваліліся, што Маскву ўзялі, а атрымалася наадварот: пад Масквой нашы армагедон устроілі, крэпка па мордзе далі.

— І я думаю, што, у сушнасці, брахня гэта! — падхапіў Санька. — Вернуцца нашы абязацельна, я і Царову хацеў гэта сказаць, але на ўсякі выпадак стрымаўся. Ля ўваходу яго сустрэў. Зноў пачаў угаворваць: «Ідзіце к нам! У нас харашо, харч харошы, самагонка…»

— А ты што? — спытаў Пятро.

— Хазяіна, кажу, жалка астаўляць. Двое іх — ён і жонка. Ён інвалід. Дзяцей няма. Ціжало ім.

Яны закурылі. Пятро зрабіў глыбокую зацяжку і пахваліў прыяцеля:

— Добра ты прыдумаў.

— Хазяіна і хазяйку я і ўпраўду паважаю. Прывык да іх.

Пятро, абуты ў нейкія атопкі, нацёр нагу і крыху накульгваў.

— А дзе твае сапагі? — спытаў Віцька-масквіч. — У цябе ж былі атлічныя ялавыя сапагі, амаль новыя!

Пятро ніякавата пасміхнуўся:

— Ды вось, разумееш, хазяін гаворыць: «Ты, — кажа, у Ратайчыцы ідзеш, у паліцыю, а ці вазвярнёшся — адзін Бог ведае. Можа стацца так, што і сапагі не панадабяцца, хто іншы іх з цябе сыме. Дураку якому пападуць. Так ты, Пятруша, лепш за ўсё дома іх пакінь, у мяня. У мяня, — кажа, — яны ў сахраннасці будуць, не прападуць…» Вось гэтыя атопкі, што на мне, і даў.

— Гэта ён, у сушнасці, па сваёй сялянскай разважлівасці, — Санька паспрабаваў абараніць гаспадара хутара, дзядзьку Хведара, у якога жыў Пятро, але, па ўсім відаць, сябры былі з ім не згодныя.

— Хіцёр твой хазяін! — Віцька-масквіч ажно мацюкнуўся. — Жадны. Аднак, па сутнасці, ён праў: не дадуць немцы нам тут жыць. У лагерах мяста вызваляюцца — і забяруць. Падмятуць! Як піць даць — падмятуць. Гэта мы як бы чаргі чакаем. Калі што горшае не здарыцца.

Нейкі час яны ішлі моўчкі, ні пра што не гаворачы. Кожны, пэўна, думаў пра сваё.

Нарэшце зноў загаварыў Мачалаў:

— А мне ў Ратайчыцах хтосьці лісток сунуў! «Гэта вам ад парцізанаў», — сказаў і пабег. Растаропны парнішка. Я яго і разгледзець не паспеў! — Пятро дастаў з кішэні складзеную ў чатыры столкі паперыну. — Вось! «Прочти и передай другому».

— Ну і што там? — адразу загарэўся Санька.

Яны адышліся ў бок, у карчы, і Пятро пачаў чытаць:

*«Дорогие товарищи!*

*Мы выиграли подмосковную битву, но война продолжается. Мы не склонны обольщаться успехами. Перед каждым из нас встаёт вопрос: “Что ты сделал для победы?” Нет жертв, перед которыми бы остановилась Россия, чтобы отстоять свою свободу.*

*Гитлеровские захватчики хотят сделать нас рабами немецких помещиков и капиталистов, но наш советский народ непобедим.*

*Дорогие отцы, матери, братья и сестры! Не верьте немцам и их прислужникам. Сопротивляйтесь и не давайте врагу ничего: ни хлеба, ни мяса.*

*Пусть дохнут гады! Уничтожайте их, проклятых, везде и всюду, не давайте им покою ни днём, ни ночью. Создайте партизанские отряды, диверсионно-террористические группы, группы народного ополчения. Помогайте партизанам. Каждый из вас должен вложить свой вклад в дело борьбы с немецкими захватчиками за освобождение своей Родины.*

*Да здравствует наш великий непобедимый народ!*

*Да здравствует партия большевиков, ведущая нас к победе!*

*Смерть немецким захватчикам!*

*Штаб партизан».*

— Вось так! — яшчэ больш распаліўся і пажвавеў Санька. — Парцізаны арудуюць!

— Дзела, канешна, сур’ёзнае, — зазначыў Віцька-масквіч.

Чуткі пра партызанаў апошнім часам даходзілі ўсё часцей. То там нешта спалілі, то там падарвалі. Далей — больш. Стала вядома пра знішчэнне гарнізона ў прыпушчанскай вёсцы Войтаў Мост, дзе было забіта каля дзясятка немцаў і разбіты матацыкл. Прыйшла вестка, што ў вёсцы Руднікі спалены гміна і паліцэйскі пастарунак. Забіта васямнаццаць немцаў. Каля Высокага нехта нямецкі абоз перастрэў, перабілі канвой, а зерне спалілі. Пра ўсё гэта Санька чуў ад Васіля. І ўсё адбылося быццам у адначассе — у чэрвені і ліпені. Дзейнічаў, хутчэй за ўсё, не адзін атрад, а болей.

— А немцы іх баяцца! — сказаў Мачалаў, нібы адкрыўшы для сябе нешта важнае.

— Выходзіць, што яны немцаў б’юць, а мы як бы ўкланяемся, адседжваемся, — прыцмокнуў Віцька-масквіч і непрыкаяна матлянуў галавой.

— Нешта і нам думаць трэба, — прагудзеў Пятро і ўздыхнуў. — Ёсць жа, у канцы канцоў, і сумленне. І прысягу ў свой час давалі…

— Калі б была хоць якая сувязь, — азваўся Віцька, — а без сувязі — што?

Сувязь — рэч дарагая, пра гэта ведалі ўсе, небяспечная! Вясной за сувязь з партызанамі толькі ў адным Пружанскім, суседнім з Камянецкім, раёне спалілі восем вёсак: Казлы, Краснае, Пасталова, Нямковічы, Ліхачы, Сілічы… Вогнішчы ўзвіліся на ўсю акругу. Мужчын усіх расстралялі, а жанчын вывезлі на галодную смерць у Беласток.

— У лес трэба падавацца, — сказаў Пятро, — і там іх шукаць.

— Сагласен, — азваўся Санька, — толька нада кое з кем пасаветавацца. Словам, у наступны раз пагаворым больш прадметна.

Сябры ўхвалілі такое рашэнне.

Санька раптам успомніў пра гаспадароў, да якіх яны былі прыпісаныя:

— Толькі вось хазяева каб не пастрадалі. Жалка.

— Пра гэта трэба падумаць, — згодна варухнуў галавой Віцька.

Рассталіся на развілцы дарог: адна, што ішла налева, вяла ў Свішчова, другая, справа, праз Пакупчыкі мела напрамак на Выгнанку, Пруску і Бранавічы. Санька прыгадаў сваю Маняшу: «Гэта ж, калі так, прадстаіць разлука». Нібы пачуўшы яго думкі, адгукнуўся Мачалаў:

— Сустракаемся.

— Сань, а Сань, а ты хоць раскарачыў яе? — грубавата пацікавіўся Віцька, які таксама ведаў, што ў сябра ў Прусцы ёсць зазноба.

— Не твая справа! Што вы прычапіліся?

Яны крыху пасмяяліся і развіталіся. Пятро пасунуўся налева, а Санька з Віцькам завярнулі ў свой бок — направа. Жылі ў гэтым краі ўжо не адзін

месяц і мясцовасць ведалі. Ідучы, Санька думаў, як бы зноў сустрэцца з Васілём ды пагаварыць больш канкрэтна. Далей цягнуць не выпадала. Перш чым шукаць Васіля, заглянуў у хату да гаспадароў.

— А дзе хазяін?

У хаце была адна Фёкла, мыла бялізну.

— Ён у клуні, парадак наводзіць, ток падмятае.

Санька падсунуў пад сябе столак, сеў і ўздыхнуў.

— Сумна штой-та, маманя…

— Чаму сумна? Зараз будзем абедаць.

— Абедаць?

— Усё ўжо гатова.

— Пара пра што іншае падумаць.

— Пра што? — Фёкла насцярожылася.

— Наверна, пайду я ад вас, маманя…

— Жаніцца хочаш?

— Да, штой-та наўродзе таго… — У голасе сібірака чулася напускная бадзёрасць. — Вазьму вінтоўку, на ёй і жанюсь!

— Сысці хочаш?

Санька нічога не адказаў.

— Схадзі пазаві хазяіна, будзем абедаць.

Сібірак выйшаў з хаты і накіраваўся ў клуню. Праз якія паўгадзіны вярнуўся разам з Лявонам. Абед ужо стаяў на стале — боршч з бацвіннем, забелены падсмеценнем, і грэцкая каша са шкваркамі. Побач — загорнуты ў абрус хлеб. Перад тым як сесці палуднаваць, напаўшэптам памаліліся і кожны, у тым ліку і Сашка, перахрысціўся, пасля чаго селі за стол, узялі ў рукі лыжкі і пачалі есці.

— А дзе Васілій? Што-та не відаць яго? — пацікавіўся прыпіснік.

— У Камянец ён паехаў, дошак на падлогу хоча заказаць, — адказаў Лявон, бліжэй падсоўваючы свой талерак. — Цяпер, ваенным часам, гэта не проста. І таго няма, і гэтага не стае, усяго бракуе.

Ён адламаў ад хлеба акрушчык, сунуў у рот, захрумсцеў, узяў лыжку, але есці не стаў, павёў гаворку далей:

— Але, як у Расіі кажуць, каму вайна, а каму маць радна. Шпронька, я чуў, зноў адчыняе лаўку.

— Апошнім часам ён надта важным зрабіўся, неяк на ўсё звысоку глядзіць, — сказала Фёкла.

— Бо хітры.

— Мірык Пацаў даўно гандлюе, — нібы напомніла Фёкла. — У Камянцы яго магазін заўсёды адчынены, у яго і селядца можна купіць. Дык хай і Шпронька гандлюе.

— Кожнаму сваё, — па-філасофску разважыў Лявон. — Хто поле арэ, хто ваюе, хто лавачку адкрывае, хто бадзяецца і па начах рабункі чыніць…

Санька ўважліва слухаў, што гаварылі гаспадары. Фёкла чакала, што ён скажа нешта пра тое, пра што пачынаў размаўляць з ёй, але сібірак маўчаў.

— Па начах, кажуць, Свісціян ходзіць… — азвалася яна.

— Ходзіць, — пацвердзіў Лявон. — Многіх ужо наведаў. — Гадзіннікі забірае, золата шукае.

Фёкла толькі ўздыхнула:

— Ох, куды нам, бедным, падзецца!

Абед працягваўся, пасля баршчу Фёкла паклала ў талеркі грэцкай кашы, запраўленай шкваркамі.

— Ешце, ешце, а то астыне! — напомніла яна. — Аднымі разгаворамі сыты не будзеш!

— Нашым цяпер ціжало, — нібы падумаўшы ўслых, пабедаваў сібірак, — і там, на фронце, і, па сушчаству, тут, у лясу…

— Цяжка сказаць, як яно будзе, — адгукнуўся Лявон, прыгладжваючы на галаве чубчык. — Я ў кузні быў, у Пахолка, ён мне завесы да дзвярэй рабіў, дык людзі кажуць, што Масква стаіць.

— Цяпер, рабята бают, ён на Сталінград напраўленіе ўзяў, Сталінград хоча ўзяць.

— Іш ты, куды дапёр! — пахітала галавой Фёкла, роспачна сашчаміўшы ля грудзей рукі. — Там жа і Куйбышаў недалёка — Самара!

— Не, Куйбышаву нічога не пагражае, — супакоіў яе Санька — Куйбышаў севернее.

Пасля абеда ён, выпіўшы гарлач малака, круціў жорны, малоў муку на праснакі.

* * *

Вечарам з Камянца вярнуўся Васіль. Вярнуўся без дошак, бо не працаваў тартак. Хацеў адразу ехаць дадому, але вырашыў наведаць колішняга свайго дружбака Мірыка ў яго лаўцы, якая знаходзілася на Брэсцкай вуліцы. Калісьці разам у школе вучыліся, яшчэ ў польскай, паўшэхнай, але даўно тое было. даваеннае жыццё неяк адразу аддалілася ў часе, адплыло ў далёкае мінулае. Мірыкаву лаўку знайшоў хутка. Над дзвярыма шыльда з надпісам алейнай фарбай: «МАГАЗІНЪ»

Васіль пад’ехаў бліжэй, прыпыніў каня і стаў разважаць, на якой жа гэта мове. Па-руску ці па-беларуску? Вырашыў, што ўсё ж такі па-руску, бо на канцы стаяў цвёрды знак. Зайшоў, дзверы былі адчыненыя, акінуў позіркам памяшканне, наблізіўся да прылаўка, зірнуў на паліцы. На прылаўку ляжалі брускі шэрага, невядома з чаго зваранага мыла, скрынкі з цвікамі. На сценах вісела некалькі хамутоў, шлеі. На паліцах — сякеры, вёдры, патэльні. Тавараў было даволі шмат: паліваныя чыгуны, лямпы, нейкая тканіна. У кутку стаяла бочка з мёдам. З-за шырмы выйшаў Мірык у сінім халаце, чыста паголены, галава раздзелена акуратным праборам. Пачуў, відаць, што ў магазін нехта зайшоў. Пазнаў старога сябра, падаў руку, яны павіталіся.

— У Камянец завітаў?

— Дошкі трэба, на падлогу. Я ж хату будую. А тут тартак зачынілі…

— Адчыняць! Гэта, хутчэй за ўсё, партызаны нашкодзілі, але адрамантуюць.

— А ў цябе як справы? — у сваю чаргу пацікавіўся Васіль. — Як таргоўля?

— А-а, так сабе. Вялікага прыбытку няма. Слаба купляюць. Прыйдзе нейкі дзядзька, паглядзіць, прыцэніцца, паківае галавой і кіруе ў дзверы. Можа табе цвікі трэба? У мяне ёсць, — Мірык кіўнуў на скрынкі з цвікамі.

— Цвікоў я ў цябе вазьму.

— Добрыя цвікі, такіх нідзе не купіш, я іх ажно ў Эрфурце заказваў. Нямецкія!

— Цвікі вазьму. Ты мне дапамажы з дошкамі, але гэта яшчэ не ўсё. Мне ж яшчэ і сталярка спатрэбіцца. Я і сталярку шукаю: вокны, дзверы…

— За сталяркай трэба ў пушчу ехаць, але там небяспечна, немцаў поўна. Бацька мой рвецца туды, вятрак хоча купіць і ў Альбярцін перавезці. Паста-

віць хоча, на гары, разам з Амброжыем, каб свой млын мець. А я яму кажу: «Не рабі глупства, не едзь, жыццём рызыкуеш! Паставяць да сасны і канец!»

— Невінаватага можа не зачэпяць?

Мірык ажно зарагатаў:

— А хто там будзе разбірацца — вінаваты ці не. Кокнуць ды і ўсё!

Гаворцы перашкодзіў паліцай, які ў чорнай куртцы з белай павязкай на рукаве і з карабінам на плячы зайшоў перад абедам у магазін.

— Хутка будуць вывозіць. Фурманкі падрыхтаваныя ўжо. У шапку не спі! — буркнуў ён, звяртаючыся да Мірыка.

Васіль не ведаў, што меў на ўвазе паліцай (відаць, Мірыкаў знаёмы), а пытаць у незнаёмага, ды яшчэ паліцая, не выпадала, тым болей што сам Мірык нічога прыяцелю на яго намёк не адказаў, а толькі павёў галавой. Прускавец расплаціўся за цвікі, узяў скрынку, развітаўся з Мірыкам і выйшаў на вуліцу. Кінуў скрынку ў кельню і нукнуў на каня, вырашыў пад’ехаць да млына, даведацца, калі можна змалоць мяшок-другі жыта. Мінуў колькі кварталаў і апынуўся на той, ужо можна сказаць прыгараднай, вуліцы, што вяла да гасцінца на Жабінку. Тут за вуглом калісьці і цяпер знаходзіўся пункт прыёму ўтыльсыравіны, куды можна было збыць старыя рызманы, анучы і ўсялякую непатрэбшчыну, але Васілёву ўвагу прыцягнула іншае, і ён жахнуўся ад убачанага. Па вуліцы гналі яўрэяў. Васіль з фурманкай збочыў, прытуліўся да плоту, потым уз’ехаў на чыйсьці падворак. Натоўп рухаўся павольна — мужчыны, жанчыны, старыя, дзеці… На павозках везлі хатні скарб — вузлы ды клункі. Канваіры трымалі на павадках чорных вастравухіх аўчарак. Па баках, разам з немцамі, паліцаі з белымі нарукаўнымі павязкамі, ва ўсіх карабіны. Васіль убачыў і таго паліцая, што наведваўся ў Мірыкаў магазін. Чуліся рэзкія вокрыкі і каманды. Самі ж людзі ішлі ціха, не чутно было ні гучных размоў, ні выкрыкаў, ні рыданняў. Прускавец зразумеў, што ён выпадкова стаў сведкам канца яўрэйскага гета ў Камянцы.

Гета — трагічная старонка ў гісторыі мястэчка. Праіснавала гета год у цяжкіх пакутах. Блытаніна калючага дроту наводзіла жах. Навокал стаяла кругласутачная варта. У гета мог зайсці толькі яўрэй, іншым уваход забараняўся. Камендант гета эсэсавец Вільгельм Пітц быў паталагічным антысемітам. «Калі бачу яўрэя, рука сама цягнецца да парабелума», — казаў ён. Дзейнічаў што называецца па інструкцыі. Прымусіў яўрэяў, якія знаходзіліся ў гета, выбраць свой савет (юдэнрат) і мець нават уласную паліцыю, але ўсё гэта толькі дзеля таго, каб зручней абіраць свае ахвяры. «Гольд, гольд!» — гаварыў Пітц, нагадваючы напалоханым людзям пра тое, што ад іх патрабуецца. Даставаў з кабуры парабелум, пагражаў. Насельнікі гета аддавалі апошняе, але задаволіць Пітца было немагчыма. Дайшло да таго, што Пітц павесіў на дрэве рабіна і загадаў яўрэям сабраць пяць кілаграмаў золата. Інакш гразіўся спаліць таго павешанага рабіна, якога супляменнікі, вядома, хацелі пахаваць. Сабралі ўсё, што толькі можна было сабраць. Камянецкі бацюшка Філасофаў таксама золата прынёс, хоць бачыў, чым гэта магло пагражаць.

…І вось цяпер яны ішлі. Дарога, здавалася, не ўмяшчала людзей, яны ішлі ў хмары густога пылу. Ён быў настолькі густы, што цяжка было разгледзець аблічча тых, хто ішоў. Твары потныя, стомленыя, губы засмяглі і да крыві патрэскаліся ад спёкі. На грудзях нашыты жоўтыя шасціканцовыя зоркі. Многія — босыя. Жанчыны ціха плакалі, неслі, тулячы да грудзей, змораных і спакутаваных дзяцей. Ішлі моўчкі, з выразам дакорлівай годнасці на тварах. Асабліва ўразілі Васіля іх невідушчыя пагляды. Шырока раскрытыя вочы здзіўлена глядзелі на свет і, здавалася, нічога не бачылі. Прускавец чытаў у

іх вачах асуджанасць і нейкі спакойны, застыглы жах. Як бы прымірыліся са сваёй трагічнай доляй. На вуліцы, апроч гэтага яўрэйскага абоза і канвоя, нікога не было. Як Васіль даведаўся пазней, жыхарам было загадана не выходзіць на вуліцу на працягу двух дзён.

Дома, калі Васіль распавёў пра ўбачанае бацькам, Фёкла запытала, уражаная гэтым жахлівым сынавым аповедам:

— Куды ж іх вялі?

Лявон тады зірнуў на жонку:

— Хіба ты не ведаеш, што робіць Гітлер з яўрэямі?

— У бок Жабінкі яны ішлі, — дадаў Васіль.

Так, абоз рухаўся ў бок Жабінкі, на чыгуначную станцыю. У свой апошні шлях ішлі дзве з палавінай тысячы камянецкіх яўрэяў.

15 кастрычніка 1942 года па загадзе Гімлера было ліквідавана Брэсцкае гета. Да таго часу ў ім было 24 тысячы вязняў, усе яны, як і камянецкія, былі вывезены цягніком на станцыю Бронная Гара (недалёка ад Картуз-Бярозы) і там расстраляны. Выратаваліся з гэтай колькасці 22 чалавекі. Там жа скончылі свой жыццёвы шлях і камянецкія яўрэі. Гэта было тое, што пазней назавуць Халакостам. Тады яшчэ ніхто не ведаў, што ў Гімлера існаваў план «Ost». Паводле яго ўсё насельніцтва «бэцырка» падлягала вынішчэнню, хаця, зразумела, пакуль што, да пары, да часу, яно пра гэта не ведала.

Васіль успомніў таго паліцая, што заходзіў у Мірыкаву лаўку, і яго гамонку: «Хутка будуць вывозіць, у шапку не спі!» Цяпер ён зразумеў, што стаяла за словамі «ў шапку не спі!». Той-сёй чакаў гэтай часіны канца яўрэйскага гета, каб пакарыстацца пакінутым дабром.

На гэты раз Лявону не захацелася чуць тое, што ён часам чуў раней: «Яшчэ можна жыць», — ды гэтак ужо ніхто і не казаў.

## XVII

Вярнуўшыся з Камянца, Васіль з дому амаль не адлучаўся: Прося ўжо мелася радзіць, і таму, калі што, трэба было клікаць бабку Васіліху, шукаць дапамогі.

Каб перагаварыць з Васілём, Санька наведаўся да яго ў хату. Просі дома не было, яна нешта рабіла ў агародзе.

— Ну, як жыццё? — сустрэў Васіль прыпісніка. — Айчым не крыўдзіць?

— Не.

Але выглядаў хлапчына нейкім надта заклапочаным. Васіль закурыў, Санька адмовіўся.

— Нечым ты, бачу, незадаволены ці што?

Санька доўга шкроб за вухам, вагаўся, не рашаўся пачынаць гаворку. Нарэшце пачаў:

— Непакоіць мяне адна думка…

— Якая?

— Ты ж ведаеш.

— ?

— Слушай, Вася, а каб у лес падацца? Точыць нешта ўнутры… Я ўсё ж ваенны чалавек, у свой час прысягу даваў…

— Дык калі тое было! Няўжо помніш? — здзівіўся Васіль.

— Помню, і ў тым, што Чырвоная Армія пераможа і Саветы вернуцца, я, Вася, не сумняваюся. Хаця на сённяшні дзень палажэнне складанае.

— А што цябе ў лесе цікавіць?

— Ну, ізвеснае дзела, лясныя людзі, парцізаны. Там сярод іх і нашы таварышы, акружэнцы, ёсць.

— Дык пры чым тут я?

— Мы дапамогі шукаем.

— Хто гэта — мы?

— Нашы рабяты — Пецька Мачалаў ды Віцька, што ў Бранавічах, у Шчура. Трое нас.

— Людзі ў лесе ёсць, гэта не сакрэт, аднак сувязі з імі ў мяне няма. Не такія яны, думаю, каб адкрывацца. Дзейнічаюць яны скрытна і тут жа знікаюць.

— Ты бы, Васілій, памог нам! Мы ж, у сушнасці, не здзешнія. Акажыся ты на маім месцы, я б табе памог. Увайдзі ў палажэніе. Мы ж ваенныя!

— А ці ведаеце вы, рабяты, што такое парцізанка? Гэта, брат, не жарты. — Васіль уважліва, нават неяк выпрабавальна паглядзеў на акружэнца. — Гэта — голад і холад, пастаянная небяспека, няпэўнасць, і параніць могуць, і забіць…

— Дзела небяспечнае, сагласен, усякае можа быць, аднак усё ж дапамажы.

— А якім чынам? Ты ж ведаеш, што за гэта можа быць.

— Ведаю, але трэба. Разумееш? Трэба! Мы ж людзі ваенныя, наша дзела — вінтоўку ў руках дзяржаць…

Васіль пацяснуў плячыма, паглядзеў на Санька, успомніў Афінагенава і размову з ім.

— Ну, што ж, паглядзім, калі будзе такі выпадак, калі сустрэнецца хто з лясных людзей, дык я, пры нагодзе, перагаварыў бы…

— Абяцаеш?

— Абяцаю.

— Хай бы ўзялі! Хай бы прынялі! Я б табе, Вася, па гроб жызні благадарны быў!

— А як гаспадары? Немцы ж адразу даведаюцца!

— Ну, што ж, пайшлі мельдавацца ў Ратайчыцы і не вярнуліся. З намі такое кожны раз можа быць.

Васіль нейкі час маўчаў.

— Ну, неяк яно будзе, — сказаў напаследак. — Пра нашу размову — нікому ні слова!

— Пра гэта можаш не беспакоіцца.

Чарговы раз яны — Санька з сябрамі Пятром Мачалавым ды Віцькам-масквічом — абмеркавалі сітуацыю, сустрэўшыся ў гмінным пастарунку ў Ратайчыцах. Вырашылі пры першым зручным выпадку, калі будзе сігнал ад партызан, падавацца ў лес. Што будзе, тое будзе.

— Не прападзём! — падбадзёрваў сяброў Віктар.

Рашэнне было гатовае, заставалася толькі яго рэалізаваць.

Першай заўважыла, што Санька ад слоў перайшоў да справы, Фёкла. Яна бачыла, як перамяніўся настрой прыпісніка, як замітусіліся сябры. У Пруску да яго часцей сталі прыходзіць Пецька Мачалаў і Віцька-масквіч і пра нешта паміж сабой шушукаліся. Праз нейкі час Віцька прыбег узрушаны. Увесь вымак, бо ішоў дождж. Фёкла чула, як Санька казаў: «Сабірайся!» Для Віцькі гэта было неяк нечакана: «Ужо?» — «Будзь напагатове, разам з Пятром! Можа быць у любы час!..»

Потым завітаў Мачалаў. Кіраваў усім Санька:

— Перадай Віктару, і ты таксама, каб у чацвер, як сцямнее, чакалі мяне на гасцінцы напроціў кладбішча. Там асіннік, у асінніку і будзьце! Ясна?

— Ясна!

— Харчу якога не забудзь і адзёжку. Усё зразумеў?

— Так точна.

Такім прыўзнята-радасным Фёкла Саньку яшчэ не бачыла. Ажно заспяваў:

Ты говорила, что не забудешь
Синий платочек сберечь…

Пад вечар ён кудысьці знік. Хутчэй за ўсё — хадзіў да Васіля. Вячэраў позна і адразу ж пайшоў у клуню на сена.

Усю ноч Санька не спаў. Намагаўся заснуць, але не змог. Хваляваўся. Пра радзіму ўспомніў, пра бацькоў, пра заімку ў тайзе. Ад сена далікатна бруіўся пах падсохлага аеру. Пазіраў у начную цемень і бачыў Маняшу. «Эх, дарагуша ты мая! — сумна ўздыхнуў у думках. — Шкада, шкада з табой расставацца, харошая мая. У сушнасці, ты выратавала мяне, дала забыццё ад жыццёвых бедаў і злога лёсу. Дзякуй табе! Палюбіў я цябе і цела тваё, такое прыгожае, пяшчотнае і слухмянае…»

Назаўтра, пад вечар, ён сказаў Фёкле:

— Ну, пака, мамаша! Да свіданія! Спасіба! За ўсё спасіба.

Фёкла ў сенях таўкла свінням бульбу, з карыта паднімалася пара.

— Уходзіш?

— Ухаджу.

— Я знаю.

Куды — яна спытаць, удакладніць не пасмела, а толькі ўздыхнула:

— Малады ты яшчэ…

— Не такі ўжо і малады, мамаша. Я — ваенны, сабой не распараджаюся. Нада — значыць нада. Для вас — я ў Ратайчыцы пайшоў, да Пыра, адзначацца. Гэта — калі хто спытае. Чакаем, далжон вярнуцца.

— А Маняша?

— З ёй мы яшчэ ўвідзімся.

— Пачакай, зараз гаспадар прыйдзе.

— Не, мамаша, няма калі чакаць, дайце мне адзёжку якую-небудзь! Папаша мяне паймёт.

— Пачакай, можа ён што разумнае параіць.

Фёкла адрэзала яму з сабой паўбохана хлеба, дала слоік каўбасы, залітай шмальцам, з пяць цыбулін, паклала ў палатняны мяшэчак. На плечы ён накінуў стары Лявонаў кажушок. Фёкла не ўтрымалася, заплакала, на мяшэчак капнулі слёзы. Апошнім часам яна трывожылася за нявестку, у Просі ўжо добра бачылася цяжарнасць, а тут яшчэ і прыпіснік даў такую нечаканасць.

— Не нада плакаць, маманя, — суцяшаў Санька.

Прыйшоў нарэшце Лявон.

— Наша Ланька ўжо значыцца пачала, — абвясціў ён. — Хутка цяля маем чакаць. — Убачыўшы па-дарожнаму апранутага Саньку, спытаў:

— Ты куды?

— Пайду.

— Куды?

Тут Санька перайшоў чамусьці на шэпт:

— Самі ведаеце, куды…

— Значыць, у лес ідзеш?

— У лес, папаша.

— Ці, можа, фронт даганяць?

— Яго ўжо не дагоніш.

— Дык куды?

— Але ж, папаша, не вам казаць — у прошлым вы ваенны чалавек, самі разумееце, гэта — ваенная тайна. Не хвалюйцеся, усё будзе добра.

— Падумай, Саня! Гэта можа быць правакацыя.

— Не, корашы ўсе свае.

Лявон нервова пацёр пасівелы чубчык над ілбом.

— Ну, што ж, справа твая, адгаворваць цябе не буду, ідзі! — Ён памаўчаў і ўжо сказаў нібы сам сабе: — Яно-то так, але не ўсім па лесе бегаць, нехта павінен і хлеб сеяць, без хлеба не пабегаеш.

— Не пабегаеш, — згадзіўся сібірак. — Дзякуй, што хлеб у вас еў без папрокаў.

— Пра што ты гаворыш? Якія папрокі?

— Калі хто спытае, куды падзеўся прыпіснік, скажаце, што ў Ратайчыцы пайшоў, да Пыра, мельдавацца.

— Я табе крэсцік дам, каб на грудзі быў! — яшчэ больш захвалявалася Фёкла і, плачучы, павесіла яму на шыю маленькі нацельны крыжык, які дастала з прыскрынка.

Санька расшпіліў сарочку і прыладзіў крыжык на голае цела.

— Ён сахраняць цябе будзе.

На развітанне ён абняўся і з гаспадаром, і з гаспадыняй і пайшоў.

— Блаславі цябе Бог, — прашаптала Фёкла ўслед і перахрысціла, павольна водзячы рукой.

Пасля гэтага яны з Лявонам доўгі час сядзелі моўчкі. Думкі былі пра Саньку. З аднаго боку, нібыта і палёгка атрымалася, знікала нервовае напружанне, бо трымаць у хаце палоннага было небяспечна нават пры тым, што ён хадзіў адзначацца ў паліцыю. Ці мала што магло здарыцца. А з другога — шкада было хлопца. Яны шчыра паважалі Саньку. А што яго чакае — таго ніхто не ведаў.

Заходзіла сонца. Вішнёвая чырвань, асветленая яго апошнімі промнямі, заліла паўнеба. Канчаўся дзень.

* * *

Гэта было расстанне з Маняшай. Яна прадчувала, што нешта павінна здарыцца. Ішла, нібыта была надта стомленая, крыху нават хісталася з боку на бок, нібы ёй цяжка было нешта несці. З выгляду — спакойная. Санька зірнуў на яе гладка прычэсаныя валасы, бледнае аблічча, сакавітыя вусны з крыху апушчанымі ўніз куточкамі.

— Маняша!

— Я, — сказала яна і парывіста наблізілася да яго.

Яны прыніклі адно да аднаго, абняліся. Яна звярнула ўвагу на кажушок, у які Санька быў апрануты, на мяшок, што ляжаў ля хлопцавых ног, заўважыла, што ў яго прыўзняты настрой.

— Ты такі незвычайны сёння ці гэта мне толькі здаецца?

— Не, не здаецца.

— Дык што? — Яна адчула, як да сэрца прылілася кроў.

— У лес іду, — стрымліваючы дыханне, сказаў ён і ўбачыў, як затуманіліся празрыстай вільгаццю Маняшыны вочы.

— А я? Пакідаеш? — дзяўчына заплакала, прыціснулася да яго, потым адхінулася і зноў прынікла. Сэрца, як і тады, кінулася наўскач.

— Маняша, дарагая, ты ж ведаеш, што цяперашняе маё становішча ненармальнае, я ваяваць далжон, а я, выходзіць, укланяюсь. У лес нада падавацца, інакш — кранты! Абавязак ёсць абавязак…

— Ты ж вельмі разважлівы. Ты падумаў?

— Падумаў. Вернуцца нашы, дык не пахваляць. Можа і не паздаровіцца. Ведаеш, як па законах ваеннага часу…

— Я разумею, — уздыхнула яна, — усё праходзіць, усё мінаецца. Праўду людзі кажуць: цудаў на свеце няма. А яшчэ казаў, што жанчына — уладычыца свету. Пакідаеш? Калі лёс звёў нас разам, дык, значыць, для чагосьці гэта было трэба? Абяцаў: сібірачкай станеш! — Яна схапіла яго рукі, моцна сціснула пальцы. — Эх ты!..

— Даруй мне, калі можаш, даруй, што гэтак выйшла.

Яна доўга ўсхліпвала і праз слёзы спытала:

— У лес? А шкадаваць не будзеш?

— Мы ж з табой не назаўсёды развітваемся. Я вярнуся! Вярнуся!

Канчалася лета, перадаючы ўладу восені. Надвор’е не паспела яшчэ папсавацца, навокал стаяла цішыня, якая звычайна бывае гэтай асенняй парой. Нізка над зямлёй — здавалася, можна было дастаць рукою — віселі зіхоткія зоркі, нібы ўглядаючыся ў тое, што дзеялася на зямлі.

— Помніш, тады, зімою, як танцавалі зоркі?

— Помню. Мая зорка — ты! — сказаў ён і зноў паспрабаваў яе абняць, але Маняша адхілілася.

— Зорка? Не, пра мяне — пакіданка — скажуць. Калі ты так робіш, дык мне застаецца адно — памерці. Іншага для мяне няма, — яна ціснула на яго сваёй жаночай логікай. — Ох, згубіцель ты мой! Ужо ж і бацькі не супраць, пераканала я іх!..

На яе вачах зноў паказаліся слёзы, адна нават пакацілася па шчацэ, і Маняша выцерла яе тыльным бокам далоні. Плачучы, яна сама абхапіла яго рукамі, паклала галаву яму на плячо, дыхнула нейкай асабліва абвостранай пачуццёвасцю.

— Вот нашы вернуцца, — зашаптаў ён ёй на вушка, — тады…

— Вернуцца, — яна перабіла яго, — толькі доўга чакаць давядзецца, сіл не хопіць.

— Ужо не доўга.

— Суцяшаеш. Хоць бы картачку пакінуў, глянула б і ўспомніла…

— Каб яна была. Няма.

Нейкі час яны маўчалі, стаялі абняўшыся.

— Скажы ж, нарэшце, што-небудзь…

— Эх, дарагуша ты мая! Калі ўсё будзе добра, забяру ў атрад і цябе. Разам на жалезку пойдзем!

— Якую жалезку?

— Ну, чыгунку падрываць.

— Ой, мяне бацька не пусціць.

— Да мы ў яго і пытацца не будзем. Пойдзем ды і ўсё!

Яна выцерла слёзы і, здаецца, крыху супакоілася.

— Я абажаю цябе, як і тады, у першы раз! Сераглазка мая курносенькая…

— Умееш, як сказаць…

— Не панікуй! Што гэта ты панікуеш? Усё будзе ладам!

— Абдымі хоць напаследак, прылашч…

Ён абняў яе, прыхінуў да сябе. На развітанне яны моцна пацалаваліся і рассталіся. Санька падняў з зямлі свой мяшэчак і пайшоў, некалькі разоў азірнуўся.

Сонца даўно атухла і схавалася за далягляд. Грэла назапашанае з лета цяпло зямлі. Трывожна білася сэрца: а што, калі задуманае не ўдасца? А як там, як усё складзецца? Усяго можна чакаць…

Сябры былі ўжо на месцы, чакалі ў асінавым пералеску з краю гасцінца, што вёў на Камянец. Асіннік ціха шалясцеў, лісце паспела ўжо наліцца асенняй барвовасцю, але прыцемкам яно здавалася проста цёмным. Санька ціха свіснуў і падышоў да сяброў. Апранутыя па-дарожнаму — у світках, якія аджалелі ім гаспадары, палатняных кашулях і кепках. У Пятра на нагах боты, якія ён на гэты раз не пакінуў гаспадару.

Трывога крыху сунялася. На зямлі, вакол дрэў і кустоў ужо ляжаў тонкі пласт апалага лісця, і яны прыселі на яго, адышоўшы воддаль ад гасцінца і замаскіраваўшыся за дрэвамі. Сталі чакаць сувязнога ад партызан, уласна кажучы, ад Афінагенава, з якім дамовіўся Васіль Платонаў. Афінагенаў апошнім часам пастаянна знаходзіўся пры атрадзе, які ўзначальваў Дзімка Новікаў. Адсюль хадзіў на спатканні з Крыштафорыкам у Пружанскі і Ружанскі раёны, ладзіў работу па лініі Антыфашысцкага камітэта. Акружэнцы пра ўсё гэта, вядома, не ведалі, ды і Васіля Платонава ведаў толькі Сашка, які меў з ім справу.

У негустой цемнаце ночы сціпла серабрыўся месяц, пазначаючы абліччы прысутных. Яны напружана ўслухоўваліся ў цішыню, якая стаяла навокал, як бы тоячы тое, што недзе страляюць, бухаюць снарады, ідзе вайна. Толькі недзе за могліцамі, у пойме Лосьны, надрыўна і жаласна, нібы ў апошні раз, драў горла драч. Адсюль, на фоне светлага неба, відаць былі начныя абрысы Прускі — дахі хат і хлявоў, дрэвы. Подых ветру данёс віскліўы голас старой Аляксейчыхі — маці Мікіты Галёнкі: «Мікі-іта! Зноў вароты ў клуні не зачыніў! Што гэта такое! Што ты за гаспада-ар!» — звягліва крычала яна.

Сувязны — гэта быў Мурашка — падышоў з боку поля. Спачатку ціха свіснуў тры разы, быццам прачнулася нейкая птушка. Акружэнцы свіснулі ў адказ. Так было дамоўлена. Пачуўся лёгкі шолах ад прымятай пожні. Усе ўзняліся на ногі.

— Стой! Хто ідзе? — ціха аклікнуў Санька.

— Свой.

— Пароль?

— Вінтоўка.

— Граната, — адказаў сібірак.

Мурашка павітаўся. Апрануты ён быў у цывільнае паліто, сцягнутае ў поясе рамянём, на якім была кабура з пісталетам: зброя прыдавала Мурашку важнасці і самаўпэўненасці. Пры ім быў Барыс Смаляк — партызан з нядаўна залічаных, ён маўчаў. «На дарожку», па прапанове Мурашкі, яны зноў прыселі на зямлю, акіданую звялым лісцем. Услухаліся ў навакольную цішыню, але нічога падазронага не ўчулі. Трывожная напружанасць, аднак, ізноў узрасла.

— Ну, як настрой? — спытаў Мурашка.

— Ад перажыванняў аж зубы ляскаюць, — прызнаўся Пятро.

Сувязны на гэта нічога не адказаў, сябры таксама маўчалі, відаць, чакалі, можа што скажа Мурашка.

— А як фронт? — спытаў Віцька. Гэта цікавіла ўсіх. — Як там нашы?

— Наступаюць.

— А дзе, у якім месцы?

— Адбілі Ржэў.

— Гэта на захад ад Масквы. Ржэў я знаю! — пажвавеў Віцька. І ўсім траім зрабілася крыху ніякавата, нават сорамна, што таварышы ваююць, наступаюць, узялі Ржэў, а яны сядзяць тут без справы, можна сказаць, хаваюцца, чакаюць, калі іх вызваляць.

— Нічога, будзе яшчэ і на нашай вуліцы свята! — падбадзёрыў і сябе, і сяброў Санька.

— А куснуць у вас чаго-небудзь знойдзецца? — нібы папрасіў, ці напомніў Смаляк. — Ад раніцы нічога не еў.

Яго пачаставалі хлебам і салам. Пятро прапанаваў цыбуліну. Згаладнелы Мурашка еў спяшаючыся. Цыбуліну абабраў ад лушпіння і кусаў, як яблык.

— Смачны хлеб, — адзначыў звычайна маўклівы і скупы на пахвалу Смаляк, — не ад’есціся.

У кагосьці ў вёсцы закукарэкаў певень, яму азваліся іншыя. Падмацаваўшыся, сувязны ці то прапанаваў, ці то скамандаваў:

— Ну, пайшлі!

Уражанне было такое, нібы ён пачуў іх думкі. Пачынаўся новы круг іхняга лёсу.

Ішлі полем па ржышчы, потым праз лес — Бярэзіну. Неба завалаклі хмары. У лесе было так цёмна, што дарога ўгадвалася толькі па слабым прасвеце паміж дрэвамі. Крочылі ціха, без размоў. На другую ноч яны былі ўжо ў атрадзе. Атрад з іх прыходам павялічыўся да 34 чалавек.

* * *

— А дзе ж ваш прымак? — дапытваўся Хрысан, пасля таго як па вёсцы пайшла чутка, што некуды прапаў у Кужалёў Санька.

Лявон адказваў так, як перад сваім адыходам параіў Санька. Іншага тлумачэння ў яго не было:

— Пайшоў у Ратайчыцы мельдавацца ды так і не вярнуўся. Хто яго ведае, дзе ён. Можа, забралі… — Лявон пацiскаў плячыма: — Не ведаю.

Дні праз тры прыехаў дзядзька Хведар і адразу папытаўся: «А дзе ваш прыпіснік?»

— Ужо няма, — адказаў Лявон.

— Відаць, у лес падаўся! — хмыкнуў у вусы дзядзька.

— Відаць.

— І мой таксама. — Хведар занепакоена ўздыхнуў. — Ну, будзе цяпер ад немцаў. Бяды не абярэшся.

— А як ты яго ўтрымаеш? Да шула прывяжаш?

— Гэта праўда.

Потым прыязджала паліцыя на чале з Феліксам Пырам, абшукалі ўсё, заглядалі ў клуню і ў хлявы, злазілі нават у склеп з бульбай, але нічога не знайшлі. Учынілі допыт гаспадарам, але Лявон стаяў на сваім, а Фёкла пацвярджала: «Пайшоў, як звычайна, у Ратайчыцы мельдавацца».

— Вы ўпэўнены? — грозна падступаў Пыр, пад самы нос закапыліўшы верхнюю губу. — За няпраўдзівую інфармацыю ўлада строга карае! Вы мяне не ведаеце. Я вас абоіх у канцлагер запратору! А гаспадарку, маёмасць — у карысць рэйху! — грымеў ён і пеніўся.

Знайшліся аднак сведкі: Павал Гальяш, сусед Апанас, каваль Цішка Пахолак, Лаўр Яўсеевіч. Пацвердзілі, што ўсё было так, як распавёў Лявон Кужаль.

Урэшце адчапіліся. Пашанцавала, што дапытваў Пыр, а не сам Люльке. Люльке не ведаў ні літасці, ні спачування.

Той жа восенню, 20 кастрычніка, Прося нарадзіла трэцяга хлопчыка. Гэтыя роды прайшлі куды хутчэй і лягчэй, чым першыя, калі з'явіўся на свет першынец — Валодзік. За Валодзікам быў Віталік. На гэты раз сына назвалі Леанідам…

## XVIII

Восень 1942 года выдалася сухой і празрыстай. Лес вакол Грудца, дзе размясціўся атрад Дзімкі Новікава, рана стаў голым і бязлістым. Разам з лісцем пакінулі яго і птушкі. Паміж дрэваў па ссохлай траве ляніва слаўся туман. Сам лагер знаходзіўся ў густым ельніку, які з усіх бакоў абступаў стары лес — сосны, елкі, бярозы. Над абкладзенымі дзёрнам і абсыпанымі парудзелым бярозавым лісцем скатамі зямлянак чуўся гулкі посвіст ветру. Вецер разганяў туман і спяваў сваю аднастайную песню, навяваючы сум і гаркоту. Даўжэйшымі сталі ночы. Ранішнія замаразкі выцягвалі з зямлі апошнюю вільгаць. Днём зрэдку паказвалася далёкае сонца, і пад яго цяплом ранішні лядок раставаў, а вада зноў пакрысе вярталася ў зямлю.

— У лесе, я табе скажу, — дзяліўся сваімі першымі партызанскімі ўражаннямі Віцька-масквіч, — надта есці хочацца.

Атрад трымаўся на прызапашаных прадуктах, расходвалі іх эканомна. Часам неслі з поля бульбу, дзе яе яшчэ не паспелі выкапаць гаспадары. Мінулы раз Бонк з Зіпуновым прывалаклі авечку, але што гэта на трыццаць з нечым чалавек.

— На дабаўку не расстараешся, — развёў рукамі Пятро, — трэба прывыкаць.

— Да голаду і да холаду, — дадаў Санька.

Такія ж скаргі чуліся каля сціплага цяпельца, якое раскладалі пад магутнай, разложыстай сасной.

— Слабыя харчы! — бурчэў вечна галодны Калода. — Хлеб ды цыбуля — што гэта за страва…

— Эх, дарагі, — ушчуваў яго Дзімка, — каб мама так мяне ў дзяцінстве карміла, як мы цяпер ядзім, дык я б ад радасці песні спяваў!

Там, адкуль Дзімка быў родам, у Курскай вобласці, у трыццатыя гады, адразу пасля калектывізацыі, быў голад, і ён пра гэта добра помніў.

— Аб справе трэба думаць, а не аб страве, — напамінаў камісар, знайшоўшы нават дасціпную рыфму.

Але дбалі і аб «страве». Рыхтуючыся да зімы, стваралі лясныя тайнікі з запасам прадуктаў (збожжа, крупы, мяса), беручы іх з найбольш прыдатных крыніц, якімі можна было пакарыстацца. Харчы, каб не давялося зімой сядзець галоднымі, бралі найбольш у каморах тых людзей, якія так ці інакш блізкія былі да немцаў. Ведалі пра іх ад сваіх сувязных. Пару-другую авечак — каля лесу пасвіліся — прыхапілі. У млыны заглянулі. Пад Высокім, таксама праз сувязных, магазін са збожжам наведалі. Частку забралі з сабой, астатняе спалілі.

Некаторыя з мясцовых шкадавалі. Шкада было, бо людзі ж хлеб сеялі.

— Дык што, немцам пакідаць? — абураўся Кубартаеў. — Так?

Патыка, з мясцовых, запярэчыў, тулячыся за сасной:

— Але немцы яго зноў з людзей спагоняць, — сказаў ён, маючы на ўвазе збожжа.

— У цябе, брацішка, пагубныя для ваеннага часу настроі, — адказаў яму Кубартаеў. — Тут — хто каго!

Была яшчэ адна небяспека: усе ведалі, што за імі сочыць ляснічы, таму стараліся дзейнічаць асцярожна. Прыхоўвалі харчовыя прыпасы па розных чашчобах-макаўнях, на далёкай адлегласці сховішча ад сховішча. Найбольшы склад абсталявалі каля Бабровага Мосту.

Наперадзе чакала зіма. Калі заваліць дарогі снегам, цяжка будзе наладзіць вылазку ў вёску, тады сховішча ой як спатрэбіцца. Месцы сховішчаў пазначылі высока спіленымі соснамі, каб лягчэй было адшукаць.

Познія асеннія прымаразкі, асабліва на досвітку, дасталі праз кажушкі і шыняльці, студзілі цела, глыбока ўпіваючыся ў яго тонкімі халоднымі іголкамі.

У атрадзе прыжыліся ўсе трое — Санька, Пятро і Віцька-масквіч. Разам хадзілі на заданні. Нядаўна вызвалілі моладзь, якую везлі ў Германію. Машыну з юнакамі і дзяўчатамі перастрэлі на шашы ў Высокае. Ударылі з засады па маторы, і яна спынілася. З кузава выскаквалі хлопцы і дзяўчаты і, узрадаваныя, разбягаліся, хто куды. Разам з імі ў агульнай масе ўцяклі і канваіры — не будзеш жа страляць па сваіх.

Санька вельмі сумаваў па сваёй Маняшы, але, вядома, нікому пра гэта не казаў, нават сябруку Пятру Мачалаву. Сябра — сябрам, а чым ён у такой сітуацыі дапамагчы можа?

Успомнілі пра Пруску, калі ўбачыліся з Косцем Хлябічам. Камісар распытваў і пра дзядзьку Цімошу, і пра бабулю Васіліху, і пра Лявона. Санька расказваў, што ведаў. Трымаліся з Косцем як старыя знаёмыя.

А народ у атрад прыбываў. Пазарасталі за лета лясныя сцежкі, але людзі ішлі. Камандзір Дзімка Новікаў па дабраце душэўнай не адмаўляў, здаецца, нікому. Аднойчы разведчыкі прывялі палоннага чырвонаармейца. У гаспадароў на хутары жыў, упрасіўся, каб з сабой узялі. Хударлявы, смуглы з твару, апрануты ў паношанае сялянскае адзенне і выгарэлы на сонцы вайсковы бушлат.

— Мандрыкін я. Мандрыкін Мікалай, — назваў ён сябе. — З Разані я.

Пра падрабязнасці ваеннага лёсу ніхто яго надта не распытваў, таму што лёс гэты быў у многім агульны. Любілі слухаць, як Мандрыкін, часам у зямлянцы, а часам каля вогнішча, іграў на гітары і ціха спяваў. Жыццё не лёгкае, а песню любілі. Гітару прынёс у атрад Калеснікаў, вярнуўшыся пасля аднаго са сваіх «рэйдаў», адняў у нейкага афіцэра.

Аднойчы лістападаўскім вечарам партызаны сабраліся ля слабага цяпельца з сухіх шышак у чаканні печанай бульбы. Бульбу даставалі з сялянскіх капцоў, што на полі. Рабілі гэта ахайна, не пакідаючы капцы адкрытымі, акуратна ўцяпляючы іх, каб зімою не дастаў мароз. Гаварылі ціха, нешматслоўна. Некаторыя з прысутных прыпальвалі ад цяпельца цыгаркі і курылі. Тытунём забяспечвалі мясцовыя, — у вёсках ён ужо даспеў і паспеў нават правяліцца на сялянскіх гарышчах. Хлопцы курылі са смакам, хаваючы на ўсякі выпадак самакруткі ў рукавах, каб не заўважыла чужое вока. Добра было б падкінуць у прытухлы прысак смалістых паленаў яліны ці бярозы, або густы корч ядлоўцу кінуць, каб полымя ўзнялося пад кроны старых дрэў ды хоць крыху падняло настрой. Але яны ведалі, што непрыязныя вочы ляснічага пільна сочаць за кожным дымком, за кожным зарывам, што з'яўляюцца ў гэтым лясным закутку. Ведалі і вымушаны былі цярпець. Нават камандзіра з камісарам ўгаварвалі:

— Хай жыве гэны гад! Не будзем пакуль што чапаць, пачакаем… Будзе час!..

Камандзір з камісарам знаходзіліся разам з усімі каля цяпельца. Камісар — Косця ведаў — пасада не папяровая, не кабінетная, і ён увесь час імкнуўся быць з людзьмі, паказваць прыклад, падбадзёрыць, калі трэба.

Як толькі падышоў Мандрыкін, яго папрасілі, каб нешта праспяваў, прынеслі з зямлянкі гітару. Пасыпаліся прапановы.

— Тую заспявай, пра жураўлёў! — падказаў Віцька-масквіч, які паспеў ужо асвоіцца ў атрадзе і пасябраваць з гітарыстам.

Мандрыкін моўчкі ўзяў інструмент і прысеў на пянёк, крануў струны, прапусціў некалькі тактаў музыкі і нягучна, працягла заспяваў:

Здесь, под небом чужим,
Я, как гость нежеланный,
Слышу крик журавлей,
Улетающих вдаль…

Гэтая песня звычайна кранала ўсіх, хто яе слухаў, бо надта пра тое адпавядала пачуццям і перажыванням. Кожны думаў пра свой лёс, адзіноту, пра тое, што знаходзіцца далёка ад радзімы, успамінаў яе. У некаторых вільгатнелі вочы і каціласа па шчацэ слязіна.

— Талант! — прызнаў сам Новікаў, якому таксама было што ўспомніць. Родам ён быў з Курскай вобласці, там, у вёсцы, засталіся маці і сястрычка.

— І дзе гэта ты толькі навучыўся? — пацікавіўся Косця.

На твары ў Мандрыкіна адлюстравалася сумная ўсмешка.

— Навучыўся, таварыш камісар. Быў у мяне ў лагеры друг, вось ён і навучыў. Жэнька Сокал…

— Ну-ну, раскажы! — пачуліся галасы.

— Я вам такое раскажу — не паверыце!

— Не хваліся! — прыструніў яго Зіпуноў, які лічыў сябе надта дасведчаным і сталым. — Нас, братка, здзівіць цяжка.

— Не перабівай! — зірнуў на Зіпунова Бераэжняк. — А дзе служылі?

— Служыў у сапёрным батальёне, — пачаў Мандрыкін свой аповед пра перажытае. — Пачалося ўсё, канешна, нечакана, я на дзяжурстве быў, днявальным. Сталі адхадзіць. Ён нас абагнаў, у клешчы схапіў, і я папаў у плен пад Высокім. Патом, як у многіх, лагер. Папаў у лагер у Сухазебрах. Храновае, скажу вам, месца. Не зямля, а ток, як у гумне. Усё вытаптана. Ніводнай раслінкі — пясок, як у пустыні. У дождж і ў спёку пад адкрытым небам. Кругом кулямёты нацэленыя. Адносіны, як да жывёлы. Рабяты паміралі як мухі. Ні кацялкоў у нас, ні місак. Баланду лілі проста ў раскрытыя далоні. Што ўтрымаў у далонях — тое тваё, і не затрымлівайся. Ззаду нехта другі працягвае далоні, напірае.

— Ведаем! — сумна адгукнуўся хтосьці са слухачоў, здаецца Санька Растатуеў. — Таксама ўсё гэта, у сушнасці, прахадзілі.

Мачалаў кінуў у касцёр жменю сухога голля, і яно тут жа абвілося трапяткім полымем.

— Пасля Сухазебраў павезлі нас далей, і апынуліся мы ў Васточнай Прусіі. Вот дзе гора было! Працавалі — торф загатаўлялі. Па пояс у вадзе. Лагер называўся Нордхоф. Баракі з дошак, бетонныя слупы. Зроблена ўсё трывала, на вякі. Кругом дрот, ахова з аўчаркамі. Няволя, я вам скажу, з’ядае і цела, і душу, і падзецца няма куды. Вось тут і здружыўся я з Жэнькам. У мінулым ён артыстам быў, голас меў адменны. Бывае, стаіць па пояс у вадзе і раптам заспявае сваё «Журавли». Сумна так, сумна. Ці ў бараку прыслоніцца спіной да сцяны і спявае:

Ночь светла, над рекой
Тихо светит луна…

І вось, значыць, такая справа: спадабаліся яго песні каменданту. Гестапавец. Жорсткі і бязлітасны. Пуза ў яго як ночвы, і на пузе кабура целяпаецца. Чуць што — пісталет дастае. Страляў у палонных дзеля забавы, каб забіць. Заб'е і рагоча. Такі вось быў, і любіла гэтая пачвара музыку. Вязні яго Моцартам празвалі. Поўны крэцін. Яго баяліся як агню. Пачаў Моцарт выклікаць Жэньку да сябе, загадваў спяваць. Той, што рабіць, спяваў. Фашысты шнапс п'юць, а ён спявае. І «Волга-Волга», і «Орлёнок», і «На позиции девушка…», і «Полюшко-поле»… Але найбольш «Журавли». Часам буханку хлеба адтуль прынясе, якую яму камендант дасць. За спевы.

Прысутныя моўчкі слухалі.

— А палажэніе наша ціжолае, ахаўскае, можна сказаць. Падаем, як мухі. Разгаворы пайшлі: што рабіць? Сталі рассуждаць. Халада пачаліся, прымаразкі.

— А да сваіх прабірацца не спрабавалі? — запытаў нехта з мясцовых, не надта ўяўляючы, пэўна, як гэта ўсё магло выглядаць — прабірацца да сваіх.

— А дзе яны — свае? Паспрабуй адшукай, калі ты такі мудры.

— Панятна! — пагадзілася грамада.

— Дык вот паслухайце! Так! Рашылі дачакацца мамента і ўцякаць. Батальённы камісар распрацаваў план. Заставалася прызначыць тэрмін. Аднак усякае случаецца, двое не выдзержалі, рванулі раней. Уцяклі з месца работы, далі лататы, калі звечарэла. — Тут расказчык пасміхнуўся нейкім сваім думкам і нават пакруціў галавой. — Скажаш каму — не паверацъ! Гэта былі Жэнька і я.

— А што ж тут дзіўнага? Ці мала ўцякала? — развёў рукамі Кубартаеў. — Пленны толькі і думае пра пабег. Я па сабе ведаю.

— Так-то яно так, — згадзіўся Ціхаміраў, — але што было далей!

Такі паварот ціхаміраўскага аповеда яшчэ болей заінтрыгаваў слухачоў.

— Ініцыятыва была яго, Жэнькі: «Давай, Мандрыкін! Сілы няма, каб чакаць. Там, каля торфараспрацовак, лес. Варта слабая. Матанём у лес і скроемся…» Так і зрабілі. Ахоўнікі каля кастра сабраліся рукі грэць, а мы ў лес.

Некаторыя з партызанаў, слухаючы, уздыхалі, магчыма, успаміналі сваё, тое, што здарылася з імі.

— А далей было вось што. Нас, канешна, шукалі, з сабакамі, але не знайшлі. Ноч дапамагла. Зрэшты, не доўга і шукалі, а так, дзеля прыліку. Уцяклі, маўляў, дык уцякайце. Мы, каб заблытаць пагоню, спачатку на захад пайшлі. Па вадзе стараліся ісці, рачулка, балотца — мы туды. Або на дрэва залезем і сядзім, калоцімся ад страху, а яны там унізе бегаюць, нас шукаюць. Разгадалі наш манеўр рухацца на пачатку на захад. Але нарэшце ўсё супакоілася. Ну, думаем, пранясло, уцяклі ўдала, пашанцавала. Сталі прабірацца на ўсход. Начамі, канешна. Шкада было, што астальных рабят падвялі, бо ахова лагера, напэўна, узмацніла рэжым і пільнасць. Але што ўжо адбылося, тое адбылося. Прабіраемся на ўсход. Так бы паціхоньку і ішлі, каб не голад. Ягаду ў лесу елі, аднак якая ад яе карысць! Толькі відзімасць.

— Ягада жалудак разбурае, — зазначыў нехта з неблагім, відаць, веданнем справы.

— Разбурае, — пацвердзілі іншыя.

— Небяспечна было, аднак нічога не зробіш, сталі мы да хазяёў заходзіць, прасіць сталі паесці чаго. Просім: «Бітэ, бітэ!» Паверыце, ніхто нават кавалка

хлеба не даў, шклянкі вады ніхто не вынес! Ну і народ! Па адзенні бачаць, хто мы, і ніякай размовы! Дзверы на замок — і ў паліцыю. Ну, нас і ловяць…

— Дык гэта ж Прусія! — сказаў Дзімка. — Ім загадана не дапамагаць, а ў паліцыю паведамляць, гэтыя загад не парушаць, выканаюць!

— Так скіталіся мы тыдні два. Так, роўна два тыдні. Знясілелі ўканец, ледзь ногі валачэм. Забіліся на днёўку ў нейкае кустоўе і думаем. Як быць? Палажэніе, можна сказаць, бязвыхаднае. І тут Жэнька мой кажа: «Давай, кораш, назад вяртацца, к Моцарту». Для мяне гэта было вельмі нечакана. Дык гэта, кажу, смерць. Гэта ўсё адно як самому ў пяцельку галаву сунуць. Ён, ні пра што не пытаючыся, дастане пісталет — і цябе няма. Ці сабакамі зацкуюць. «Нічога, — Жэнька кажа, — з павіннай вернемся. Гэта ж нешта значыць. А потым я Моцарту “Журавлей” спаю, ён і аціхне. А адносна рабят не хвалюйся — іх бы тое ж самае чакала, што і нас. Мы як разведчыкі…»

У гэтым месцы апавядальнік спыніўся, змоўк і ўздыхнуў, відаць, успаміны абуджалі забытае, вярэдзілі старыя раны.

— Ну што б вы зрабілі на маім месцы? — спытаў ён нарэшце, правёўшы тыльным бокам далоні па вачах.

Адказу на гэтае пытанне ні ў кога не было, усе маўчалі.

— Кумекалі мы і так і сяк, і вырашылі вяртацца. А што рабіць? Да лагера ўжо еле дапаўзлі. Варта адчыніла нам, страшэнна стомленым, вароты…

Тут партызаны шумна, не ў лад, загаманілі, ніхто не хацеў верыць, што гэтак магло быць.

— Ну ты даеш! — падзівіўся Пятро Мачалаў.

— Ну і сачыняеш ты, Мікалай Бацькавіч! — не паверыў, пакруціў галавой нават Калеснікаў, які паспеў ужо запомніць, што Мандрыкіна завуць Мікалаем.

— Яй-богу! Каб я з гэтага месца не ўстаў! — пабажыўся Мандрыкін.

— Такое не сачыніш, — падтрымаў яго Санька, уражаны тым, што пачуў.

Расказчыку прапанавалі закурыць. Пачаставалі тытунём. Ён згарнуў цыгарку. Сунуў у рот. Затым узяў з прысаку галавешку, раздзьмухаў яе і паднёс да цыгаркі, закурыў, кінуў галавешку назад у прысак.

— Фартуна дапамагла, — азваўся Бонк.

— Ну і што? Што далей было? — нецярпліва і шумна загаманілі навокал. — Расстралялі? Жэньку твайго — расстралялі?

Расказчык вытрымаў паўзу і, калі ўсталявалася цішыня, сказаў:

— І што вы думаеце? Не! Апрадзялілі нас у той самы барак, у якім мы былі да гэтага, і ўсё стала па-ранейшаму.

— Не можа быць! — не паверыў Кубартаеў. — Не можа быць.

— Ну і фартэль выкінулі! — здзівіўся Бонк.

— Няўжо памілавалі? — усумніўся Зіпуноў.

— Сачыніў, — пасміхнуўся Бокша. — Не верыцца нешта.

Азваўся Санька Растатуеў:

— Змысліў ты гэта, дарагі. Каб ажно так было? — Санька пахітаў галавой. — Маніш. Нешта не верыцца…

— Цяжка паверыць, — далучыўся да іх Косця і сказаў: — А можа гэта ў назіданне для астатніх. Вось, маўляў, чым заканчваюцца ўцёкі, усё адно вернецеся. Няма вам куды дзецца. Кранты!

— Была там у нас яшчэ клетка галоднай смерці, — не звяртаючы ўвагі на пярэчанні, працягваў свой аповед Ціхаміраў. — За малую правіннасць — туды. А там ні яды, ні вады. Глядзіш — дні праз два-тры няма чалавека,

сканаў, памёр. Ну, думаю, напэўна, у гэтую клетку пасадзяць, і тады ўсё. Не пасадзілі! Усё, як і да гэтага, нічога ў адносінах да нас з Жэнькам не памянялася. Што ўсім, тое і нам. Рабята, канешна, на нас накінуліся: як гэта вы самавольна пабег прадпрынялі, нас, панімаеш, бросілі? Цяпер ахова такая, што не ўбяжыш. І патом — чаму вярнуліся?

— А там, расказваем, яшчэ горш, чым у лагеры, яшчэ большая няволя. Ніхто ні кавалка хлеба не даў, ні прытулку. Не вытрымалі. Ноччу зойдзеш да каго, папросіш паесці, а гаспадары дзверы зачыняюць і тут жа ў паліцыю паведамляюць. Прусія!

— Вось табе і свабода! — па-жарабячы зарагатаў Грышка.

— Да-а-а! — крутнуў галавой Кубартаеў.

— Але гэта яшчэ не ўсё, не ўсё… — Мандрыкін зноў зрабіў паўзу, апусціў вочы і пазіраў у дол. — Зноў пацягнулася наша лагернае існаванне, дзень і ноч паміж жыццём і смерцю. Як і раней, Моцарт непрадказальна хапаўся за кабуру і — бах! — клаў нашага брата-палоннага. Жэньку болей да сябе не выклікаў, і ніхто яго не чапаў, ні яго, ні мяне. А лагер увесь наструнены: што ж будзе? Ведалі: Моцарт нічога не забывае і нічога не даруе. Аднойчы Жэнька кажа: «Камендант загадаў мне з канцэртам выступіць перад аховай і вязнямі, паспяваць для ўсіх». Паказвае буханку хлеба і банку кансерваў, Моцарт даў для падтрымання сіл. І сапраўды, назаўтра пасярод лагера, дзе знаходзіўся appelplatz[1], вязні пачалі будаваць памост, з якога павінен быў выступаць Жэнька. Ён, бедны, і рыхтаваўся, настрайваў голас, рэпеціраваў, абдумваў рэпертуар. Моцарт паставіў умову, каб апошнім нумарам былі «Журавли». «Што ж гэта можа быць?» — думалі мы ўсе.

Памост той, высокі і шчыльны, збілі за пару дзён, правялі святло, павесілі электралямпачку. Потым абладжвалі самі немцы, нешта рабілі, паставілі мікрафон.

— Ого! — здзівіліся навокал.

— І вось, — тут Мандрыкін набраў у лёгкія паветра, глыбока ўздыхнуў, — той дзень ці, дакладней, вечар наступіў. Сагналі нас на плошчы, перад памостам, за спіной куляметы паставілі. За кулямётчыкамі — ахова. Камендант са сваёй світай назіраў здаля, пра нешта перамаўляліся. Жэньку ў чорны канцэртны касцюм апранулі, паголены, пры гальштуку, бабачку на шыю павесілі, не пазнаць! І вось пры поўнай цішыні з дынамікаў палілася песня. Адна за другой, ён рабіў толькі кароткія перадышкі. Увесь Жэнькаў рэпертуар: «Катюша», «На позиции девушка…», «Орлёнок», «Утомленное солнце», «Полюшко-поле», «Винтовочка», «Чубчик», «Ночь светла», і яшчэ, і яшчэ. І голас выдатны, і паветра такое, што добра чуваць. Слухаць — адна раскоша. Пра ўсё забудзеш! Нарэшце пачаў «Журавли», — і тут выбух! Ніхто не чакаў, толькі доскі разляцеліся і чорны дым паваліў. Патанула ў тым дыме і Жэнькава песня. Недзе высока азваўся ў апошні момант голас. Вось так. Мы зашумелі, закрычалі, а яны з кулямётаў секанулі. Вось так усё і скончылася. — Ціхаміраў зноў уздыхнуў і ціха прастагнаў. — А голас быў выдатны…

Нейкі час усе маўчалі, нібы спыніўшы дыханне.

— А ты як выжыў? — запытаў Новікаў.

— Пашанцавала. Адсарціравалі нас і назад, у Сухазебры, павезлі. Ці, можа, яшчэ куды. Пры пад’ездзе да Беластока я выскачыў з вагона, у хазяінабеларуса жыў…

---

[1] Пляцоўка, на якой збіралі вязняў для праверак.

Мандрыкін дакурыў, кінуў акурак у прысак. Касцёр ужо амаль дагарэў, трэба было разыходзіцца, але партызаны доўга яшчэ ўспаміналі ціхаміраўскі аповед, ён умацоўваў думку, што з фашызмам трэба змагацца да канца.

1942 год ішоў і заканчваўся марудна, дні ледзь-ледзь цягнуліся. Немцы на ўвесь свет — праз газеты, радыё — крычалі пра свае поспехі, запэўнівалі, што вайна хутка скончыцца, само сабой зразумела, на іх карысць. Новікаўцы, па сутнасці, жылі ў невядомасці адносна таго, што сапраўды рабілася ў свеце, што адбывалася на фронце, як і куды ён перамяшчаўся. Даходзілі чуткі, што немцы рваліся ў Сталінград, ледзь ужо не ўзялі і святкуюць перамогу, але штосьці пэўнае не мог сказаць ніхто. Таму была вострая патрэба мець радыёпрыёмнік. Нават тая інфармацыя, якая зрэдзь ішла ад Афінагенава, не надта задавальняла, бо была звычайна даволі-такі ўстарэлая.

Партызаны з мясцовых казалі, што радыё, пры жаданні, можна было б дастаць. Не ўсе ж, хто меў, паздавалі немцам, некаторыя прыхавалі. Косця ўспомніў, што калісьці, да вайны, радыёпрыёмнік меў Мікола Шпронька, які трымаў у Прусцы лаўку, а жыў у суседняй з Прускай Выгнанцы. Варта было б яшчэ раней паслаць да яго хлопцаў, каб пацікавіліся тым прыёмнікам і рэквізавалі яго, але ўсё неяк рукі не даходзілі.

Радыёпрыёмнік забралі. Шпронька хаваў яго ў клуні, у застаронку з сенам. Гэта быў лямпавы радыёпрыёмнік, які працаваў на электрабатарэях. Рэквізіраваў Мурашка з Кубартаевым, якіх паслаў Косця. Мурашку Шпронька ведаў: былы ўчастковы міліцыянер, калісьці, да вайны, пілі нават разам гарэлку. Аддаў свой набытак Мікалай Фаміч без прынукі, нават ахвотна. Можа таму, што «набытак» маўчаў — батарэі даўно селі, скончылася зарадка, ды і трымаць пры сабе такую рэч было досыць рызыкоўна. Немцы, калі б (па чыёй-небудзь наводцы) знайшлі, дык, вядома, не пахвалілі б, за радыёпрыёмнік грازіў расстрэл.

## XIX

Паступова восень пераходзіла ў зіму. Дзень карацеў, набракалі цемennю ночы, больш-менш цёплая пара змянілася націскам халадоў, золкім зазімкам. Выпаў снег, але хутка растаў, зямля зноў агалілася і пачарнела. Дуў рэзкі паўночны вецер, гнаў цяжкія, нізкія хмары і хвалі падмарожанага паветра, прабіраў да касцей. Калоў у шчокі ранішні марозік.

Свісціян з Маркелам працягвалі пакрысе сваю дзейнасць, але з прыкметна меншым поспехам, чым раней. Асцерагаліся. Мінулася аблава, пасля якой цудам засталіся жывымі. Аблажыла іх ратайчыцкая жандармерыя, даведаўшыся, дзе знаходзіцца Свісціянава лагва. Вінаваты, уласна кажучы, быў Маркел, які, вяртаючыся на раніцу ў тую іх нару, неасцярожна пакінуў пасля сябе свежы расяны след. Ім удалося выскачыць з гэтай нары і, прыхапіўшы тое-сёе з харчоў, зашыцца ў лазовыя карчы ля самага берага Лосьны і, калоцячыся ад страху, перачакаць там аблаву. Жандары з паліцаямі стралялі і па карчах, і па сітнягах на рацэ, але Свісціяна з Маркелам кулі не дасталі. Вечар, ноч і да раніцы сядзелі ў тых самых асенніх сітнягах, па бараду ў вадзе, трымаючыся за водарасці, за асклізлае карэнне. Потым перабраліся ў самую глухмень — у Макаўню, якая лічылася гіблым месцам, і атабарыліся там. Паставілі такую-сякую буду, каля якой зрэдзь запальвалі невялічкі вогнік. Слабае цяпельца, на якім яны гатавалі сабе посную страву, скупа грэла настуджаныя косці. У душу аднаму і другому запаўзала трывога. Забыліся нават пра свае начныя «ходкі» ў каморы заможных гаспадароў.

Праз месяц ці болей, калі ўсё аціхла, надта захацелася наведаць сваё лагво, паглядзець, што з ім. Паціху выпаўзлі з карчоў і, апасаючыся засады, асцярожна прабраліся да таго месца, дзе яно было. Тут яны ўбачылі, што сховішча зруйнавана дашчэнту. Пастаялі і, не змаўляючыся, адышлі, неяк нават паспешліва, убок і, быццам якія пагарэльцы, спыніліся пад сасной, нібы прыслухоўваючыся, як уверсе свішча вецер. Неяк адразу замітусіліся ў паветры белыя мухі, асядаючы на дрэвы і на зямлю.

Свісціян выняў кішэнны гадзіннік, зірнуў на стрэлкі.

— Ужо дванаццаць!

— А мне гадзіннік так і не прыдбалі, — паскардзіўся Маркел.

— Яшчэ прыдбаем.

Яны прыселі каля сасновага камля на сухую ігліцу, паклалі каля сябе зброю. Цяпер і ў Маркела была свая вінтоўка. Праўда, нейкая дзіўная, надта доўгая і без магазіна. Зрэшты, магазін быў, але месціўся не звонку, а ў самой ложы і заражаўся патронамі, якія ляжалі ўздоўж ствала па адным у рад. Свісціян сцвярджаў, што гэтая вінтоўка быццам бы галандская і што яна далёка б'е. Маркел аднойчы стрэліў, бухнула, як з гарматы, прыклад моцна штурхнуў у плячо, але, як далёка паляцела куля, ніхто не ведаў. Вінтоўка дасталася Маркелу ад аднаго ратайчыцкага паліцая, якога яны, выйшаўшы з лесу, перастрэлі на дарозе. Свісціян здалёк наставіў на яго сваю СВТ, і напалоханы паліцай пусціўся наўцёкі, кінуўшы гэтую прычандаліну. Так Маркел займеў зброю. Малавата было патронаў, усяго чатыры — тыя, што знаходзіліся ў вінтоўцы.

Яны закурылі. Маркел з першай зацяжкі раптам закашляўся, моцна «трубануў» носам, прыклаўшы да наздры палец. Па лесе пайшло глухое рэха.

— Ты што? Немцаў склікаеш? — накінуўся на яго Свісціян.

— Прастыў.

— Не кашляй! Кашляеш тут мне!

Пагроза небяспекі трымала ў пастаяннай напружанасці. Адзін і другі надта баяліся трапіць у рукі да немцаў.

— Давай памаракуем, — дыхнуўшы дымам, прапанаваў Свісціян. — Трэба нам з табой планы спланаваць. Немцы, халера на іх, ад нас не адчэпяцца. Гэта ж мы жыццём рызыкуем. Зноў абкружаць, і — каюк.

Навокал ціха, у тон невясёлым Свісціянавым развагам, шумеў халодны лес. Плылі шызыя дымкі ад самакрутак.

— Свет, браце, такі, ліха яго матары, — працягваў ён, — што або цябе хто растопча, або ты каму ў рыла дасі ці мазгаўню пашчапаеш. Іншага варыянта няма, бо так ужо яно спрадвеку вядзецца.

— Мудры ты чалавек, Свісціян!

— Жыццё навучыць, — прагучала ў адказ, — літасці яно не мае. Я літасць меў, а да сябе літасці не бачыў. З Палагай маёй яны вунь што ўтварылі!

— Упалююць яны нас, — зноў заныў Маркел і сумна прыцмокнуў тоўстымі вуснамі, — трэба нейкага іншага схова шукаць. Можа, на якім хутары схавацца ці ў вёсцы? На гарышча да каго-небудзь? Зіма — доўгая, а на гарышчы перакантуемся. А вясною зноў дыхнем лясным паветрам.

— Гэта ненадзейна, — Свісціян адмоўна пахітаў галавой. — Убачыць хто і данясе. Прыйдуць і цёплага цябе з саломы дастануць. На гарышчы — не. — Ён падчапіў нагой галінку і адкінуў далёка ад сябе.

— У клуні ў каго-небудзь ці ў хляве? Нару нейкую пракапаць? А што?

— Выйдзеш ноччу пасцаць, і хто-небудзь заўважыць! Убачыць і здасць! Датумкаў?

— Датумкаў. Але калі шчасце, дык і з мяшка вылезеш.

Свіцціян, аднак, не звярнуў увагі на сябраў досціп, у яго галаве шкраблася нейкая свая думка.

— Ёсць у мяне адна, як калісьці капэзэбоўцы казалі, ідэя! — прамовіў нарэшце ён. — Абмазгаваць трэба. Можа што і атрымаецца…

— Ну, і што такое? Якая ідэя? Прыдумаў што?

— А каб да тых падацца? Гэта ж хоць нейкае прыкрыццё будзе.

— Да каго — да тых? — не зразумеў Маркел.

— Ну, да гэтых, да партызанаў. Іх лагво — у Грудцы. Там яны, і ніхто да іх не чапляецца.

— Дык мы самі партызаны, у лесе хаваемся…

— Ну, так, але… Нас двое з табой, а яны сіла.

На пачатку Свіцціян пазбягаў сустрэчы з партызанамі, ухіляўся, нават думкі не дапускаў, але часы, відаць, памяняліся, і ён пачаў разважаць інакш.

— Ты ж казаў, што волі хочаш?

— Не капай на мазгі! Ты мне ўжо ўсе вантробы пераеў. Волю мы не страцім, а нейкі прытулак будзем мець. Ну што ты вылупіў вочы, як кот серучы!

— Не гарачыся!

— А нашто мне гарачыцца?

— Але што загадаюць, тое і трэба будзе рабіць, і на заданні трэба будзе хадзіць. І не марудна, а бягом! Што скажуць, тое і выконвай!

Свіцціян дакурыў цыгарэту, кінуў пад ногі акурак, затаптаў. Напарніка, па ўсім відаць, адольвалі сумненні, ён узважваў «за» і «супраць».

— Але ж можа і забіць, — сцепануў ён плячыма.

Сябар не зразумеў:

— Што значыць — забіць? Як так?

— А так. Трапіць куля ці асколак — і ўсё.

— Пудлівы ты.

Насупіўшыся, Свіцціян змоўк, а Маркел гнуў сваё:

— Паглядзім, — Свіцціян цыркнуў праз зубы слінаю. — Не так страшны чорт, як яго малююць. Калі што, ліха яго матары, развітаемся, зноў на сваю дарогу збочым. Там відаць будзе. Гэта — раз. А па-другое, Саветы вяртаюцца. Пад Сталінградам яны яго, кажуць, злавілі і мяшок завязваюць! Хвядзюшка Шпунт казаў.

— І пад Масквой! — дадаў Маркел.

— Так што хутка немцам хана будзе.

Маркел нічога не адказаў, а толькі зірнуў на тоўсты жоўты пярсцёнак на Свіцціянавым пальцы.

— Што? — не зразумеў той.

— Здымі, бо яны гэтага не любяць.

— Чаго не любяць?

— Ну, гэтых аздобаў.

— А гэта не аздоба, гэта калі каму ў лыч заехаць, дык з гэтай аздобай ямчэй. Гэта — кастэт, калі ты хочаш ведаць.

Свіцціян падумаў і ўсё ж такі сцягнуў пярсцёнак з пальца і паклаў у кішэнь.

Пра месцазнаходжанне партызанаў — тых, што атабарыліся сярод балота ва ўрочышчы Грудзец, — яны, Свіцціян з Маркелам, пранюхалі ўжо даўно. Знайсці іх стойбішча было нескладана — складаней увайсці ў кантакт. Гэта — справа рызыкоўная, бо невядома, як яны да іх, няпрошаных гасцей, паставяцца. Але выбар быў зроблены, і яны, дачакаўшы вечара, рушылі ў дарогу.

Патрэбен час, каб дабрацца да Грудца. Дамовіліся ў выпадку якой-небудзь небяспекі хавацца так, каб не згубіць адзін аднаго. Закінулі за плечы рэчмяшкі з харчам. Напрамак узялі на поўнач. Лосьну пераплылі на чоўне, які «пазычылі» ў хутаранца Пецькі Тысянчука, што жыў насупраць Зінькоў, на другім беразе ракі. Лосьна амаль ужо стала, пакрыўшыся ля берагоў шкляной скарынкай лёду, які ціха шархацеў пад чоўнам. Ад Зінькоў падняліся на ўзгорак і перайшлі Камянецкі гасцінец. Рухаліся не шпарка, як бы не развітаўшыся з думкай аб вяртанні назад.

— А можа вернемся? — не вытрымаў Маркел.

— Ну, раз вырашылі…

— А калі за шпіёнаў палічаць?

— Дык там Мурашка, а Мурашка, ядрона вош, мяне ведае. Мяне ведаюць.

Ішлі начамі. Скрозь кроны дрэўміргалі зоркі, дапамагаючы арыентавацца на мясцовасці. Калі бралася на світанне, зашываліся ў гушчар, падмацоўваліся назапашаным харчам, драмалі, чакаючы надыходу вечара.

— Гэта дзе ты, Свісціянка, такіх слоў набраўся? — звярнуўся да сябра Маркел.

— Якіх слоў?

— Ну вось як, напрыклад, «ядрона вош»?

— А яны самі да языка чапляюцца. Для построху гэта добра. Дурня трэба асадзіць і на месца паставіць. А што?

— Ды нічога. Гэта я так.

На чацвёртую ноч дасягнулі Грудца і доўга калясілі вакол лагера, пакуль іх не аклікнуў вартавы: «Стой! Хто ідзе?» — «Свае!» — адказаў Свісціян, адчуваючы, як па целе прабег вецярок страху. Вартавы — гэта быў Калода — загадаў пакласці зброю на дол і адысціся. Падышоў другі вартавы — Зіпуноў. Незнаёмыя пачалі тлумачыць мэту свайго прыходу.

— Камандзір рашае, — сказаў Зіпуноў. Калода застаўся на варце, а Зіпуноў павёў іх, абяззброеных і з паднятымі рукамі, у атрад, да начальства.

* * *

Радыёпрыёмнік быў спраўны. Падключыць батарэйкі не цяжка — іх, праз сувязных, дасталі ў Высокім. За справу ўзяўся былы радыст Віцька-масквіч. Ён падключыў батарэйкі, настроіў, доўга шукаў патрэбную хвалю і нарэшце, зняўшы з галавы навушнікі, запрасіў паслухаць. У камандзірскай зямлянцы сабраўся народ, тыя, хто не быў на заданні. Напружана чакалі. Тут было мала святлей, чым у агульнай. На стале стаяла лямпа з укручаным кнотам — каб менш было святла. Побач ляжала камандзірская планшэтка. Над абмежаваным памяшканнем навісала нізкая столь. Нарэшце чыйсьці хрыплаваты голас мякка і надта ціха расплыўся па памяшканні. Людзі стаілі дыханне, баючыся, каб якое слова выпадкова не вылецела ў дзверы і засталося непачутым. Нехта здагадаўся пакласці навушнікі ў шырокі бляшаны талерак — дыктар загаманіў грамчэй, раскацісцей.

«Говорит Москва! Передаём сводку Совинформбюро. …Успешное наступление наших войск в районе города Сталинграда… Наступление началось 27 ноября в двух направлениях: с северо-запада и с юга от Сталинграда. Прорвав оборонительную линию противника протяжением тридцать километров на северо-западе в районе Серафимович, а на юге от Сталинграда — протяжением двадцать километров, наши войска за три дня напряжённых боёв, пре-

одолевая сопротивление противника, продвинулись на шестьдесят-семьдесят километров, нашими войсками занят город Калач на восточном берегу Дона. Таким образом, обе железные дороги, снабжающие войска противника, расположенные восточнее Дона, оказались перерезанными.

В ходе наступательных боёв наших войск полностью разгромлено шесть пехотных и одна танковая дивизия противника. Нанесены большие потери семи пехотным, двум танковым и двум моторизованным дивизиям противника.

В боях отличились войска генерал-лейтенанта Романенко, генерал-майора Чистякова, генерал-майора Толбухина, генерал-майора Труфанова, генерал-лейтенанта Батова. Совинформбюро».

Голас маскоўскага дыктара гучаў упэўнена, усяляў надзею, дадаваў бадзёрасці. Здавалася нават, што гэта быў не дыктар, а гучала само паветра, распаўсюджваючы радасную навіну.

— Ну вось! А я што казаў!? — не стрымаўся, радасна выгукнуў начальнік штаба Беражняк. — Наступаюць!

— Наступаюць, — паўтарыў за ім Непагодзін.

— Далі жару! — здзіўлена крутнуў галавою Бонк.

Санька з Пятром сядзелі побач і бачылі, як ажылі і пасвятлелі твары сяброў.

— Вось што значыць мец радыё! — дадаў Калеснікаў. — А я тыя мясціны ведаю: Калач, Абганерава, Крывамузгінская… Выходзіць, што яны абкружаюць яго! Іх жа аружжам — у кацёл бяруць! Малайцы!

Косця абвёў поглядам прысутных, паўзіраўся ў іх абліччы і, як камісар, палічыў патрэбным сказаць колькі слоў:

— Так, таварышы, дзякуючы радыёпрыёмніку мы пачулі словы праўды. А праўда такая, што нямецка-фашысцкія гады ўжо задыхнуліся на бяскрайніх прасторах Расіі, ужо не могуць пахваліцца сваімі маланкавымі перамогамі. Ад Масквы іх адкінулі, у Сталінградзе акружана цэлая армія. Ленінград геройскі абараняецца! Значыць, вораг падавіўся ўжо нашай зямлёю, захлынуўся нашай крывёй. Аб усім гэтым трэба расказаць людзям. Хай ведаюць праўду! Праўда — гэта другі хлеб!

Партызаны, быццам апраўдваючыся, сталі казаць, што яны не маўчаць, праводзяць тлумачальную работу, размаўляюць з даверанымі людзьмі.

Камісар даводзіў сваё:

— А цяпер пра наступленне пад Сталінградам трэба расказаць! Гэта — адно. А па-другое, і нам варта было б напомніць фашыстам пра наша існаванне…

Такой жа думкі быў і камандзір:

— На жалезку нада. Гэта — сур'ёзна. Каб толькі ўдалося.

— Калі добра падрыхтавацца, — адзначыў начальнік штаба.

У гэты момант аднекуль знадворку, з-за лаза, данёсся прыглушаны голас вартавога:

— Тут двое, просяцца!..

У зямлянцы насцярожыліся, раздаліся галасы:

— Нехта там ёсць! Трэба глянуць!

Першым у адхілены лаз пралез Зіпуноў, за ім яшчэ двое, з паднятымі рукамі.

Незнаёмыя мелі выгляд мясцовых людзей, апранутыя, адзін і другі, у дабрэнныя кажухі, перахопленыя ў поясе сырамятнымі рамянямі, на нагах боты. Адзін і другі мелі за плячыма рэчмяшкі. Твары даўно не голеныя,

пазначаныя густым шчаціннем. Пазіралі насцярожана. З кішэняў у Свісціяна тырчэлі запасныя магазіны да дзесяцізарадкі. Прысутныя ў зямлянцы не без зайздрасці пазіралі на яго кажух і тоўстыя падкаваныя боты.

На плячы ў Зіпунова віселі дзве вінтоўкі, якія ён, відаць, адабраў у затрыманых.

— Свісціян? — спытаў Мурашка, які знаходзіўся тут, паміж таварышамі.

— А ты — Мурашка? — пытаннем на пытанне адказаў Свісціян і крыху павесялеў, паспрабаваў апусціць рукі, але Зіпуноў гучна напомніў:

— Рукі!

Новікаў уважліва агледзеў затрыманых, спыніў увагу на Свісціянавай мядзведжай постаці і доўгіх валасатых руках, узнятых над галавой. Свісціян абвёў вачыма пакой, абмацаў поглядам тых, хто ў ім знаходзіўся, спрабуючы вызначыць, хто тут галоўны. Новікаў працягваў за ім назіраць. Свісціян не ведаў, хто ён, але адчуў вострае лязо камандзірскага позірку. «Погляд як свярдло», — адзначыў ён у думках, шморгнуўшы прыплюснутым носам. Побач з камандзірам сядзеў Косця. Свісціян зірнуў і на яго. Зірнуў і падумаў: «Пэўна, Хлябіч. Капэзэбовец…»

— Хто вы? — Новікаў па-ранейшаму падазрона глядзеў на незнаёмых, нават памацаў пісталет, які ляжаў у кішэні. — Куды ішлі? Я папярэджваю, гаварыць толькі праўду!

Свісціян, калоцячыся ад страху, вытрымаў, аднак, яго позірк і ціха прамовіў:

— Свае мы, мясцовыя. Не ведалі, куды падацца. Да вас прыйшлі. Акружэнцы да вас ідуць, а мы што — горшыя? У мяне, таварыш, душа наросхрыст! — Каб паказаць, што гэта і сапраўды так, Свісціян так ірвануў на грудзях кажух, што адляцеў гузік. Потым зноў падняў уверх рукі.

«Гэта, па ўсім відаць, чалавек з крымінальнай псіхікай, — падумаў Косця, пазіраючы на Свісціяна, — але нешта ў ім ёсць, можа спатрэбіцца…»

— Хаваемся ад немцаў, — дадаў Маркел зрушаным голасам, і ў зямлянцы засмяяліся.

«Як бы вы не хаваецеся…», — скрывіў вусны Свісціян, але змоўчаў.

І адзін, і другі назвалі свае прозвішчы. Угнуўшы галовы, чакалі вырашэння свайго лёсу. Хваляваліся. Асабліва Маркел. Вочы ў яго загнаіліся і часта міргалі. На твары выступілі буйныя кроплі поту, і ён стаў аціраць іх тыльным бокам далоні. Шрам на Свісціянавым ілбе таксама пачырванеў.

— Апусціце рукі! — дазволіў Дзімка.

Адзін і другі паслухмяна апусцілі рукі.

— Хавацца — гэта мала, — сказаў Косця, — нада ваяваць. Ваяваць умееце?

— А чаму ж не? Што мы — горш за іншых? — азваўся Свісціян, шморгнуўшы носам. — Мы не з пустымі рукамі. Гэта вашы ад нас вінтоўкі пазабіралі. Але я, калі таго немца ўбачу, дык проста рукамі задушу. Яй-богу! Апроч таго, мы мясцовыя. На пяцьдзясят кіламетраў вакол мне ўсё вядома. Вядома, хто наш вораг. Ён у нас з савецкай уладай агульны. Я кажу: убачу, дык уласнымі рукамі задушу!

Гаворачы, Свісціян прыглядаўся да Косці і, выбраўшы момант, спытаў:

— А вы, часам, ці не таварыш Хлябіч будзеце?

— Так, Хлябіч.

— Трахімаў сын? Ну дык мы землякі! Я з Алешкавіч, Маркел, — Свісціян паказаў на напарніка, — з Шаліч, а вы з Прускі! Гэта ж добра, што мы сустрэліся! Разам будзем.

Задаў пытанне Дзімка:

— Сем'і імеюцца?

— Няма, — за сябе і за Маркела адказаў Свісціян, перамінаючыся з нагі на нагу. — Я пралетар, у мяне, апроч вінтоўкі, нічога няма, ды і тую адабралі. Вашым людзям аддаў.

— А да вайны што рабіў, дзе працаваў? — пацікавіўся Калеснікаў.

— Пры паляках у турме сядзеў, за палітыку. Апартуністам я не быў і не буду. — Гэта Свісціян успомніў турэмную палітграмату і дадаў: — Я супраць ухілаў — і левага, і правага, і аднаго, і другога.

Абое насцярожыліся: «Ну, пра што вы яшчэ спытаеце?» — гаварыў іх выгляд.

— І я сядзеў за палітыку! — паспяшаўся паведаміць Маркел, баючыся, каб пра яго не падумалі чаго благога. — Паспытаў баланды…

— Мы паважаем кіруючых таварышаў, — на ўсякі выпадак запэўніў Свісціян, пацвярджаючы свае словы выразнымі жэстамі: паказваў рукой на камандзіра і камісара.

Маркел моўчкі, як конь, у знак згоды махнуў галавой.

— Ну, я думаю, хопіць іх шчупаць, людзі неблагія, — азваўся Беражняк.

— Не трэба нерваваца, таварыш начштаба! — зрабіў заўвагу камандзір. — Часам трэба добра памацаць, каб зразумець, чым чалавек дыша. Правільна я гавару?

— Правільна! — загаманіла грамада. Усе ажылі і пажвавелі.

Пажвавелі і Свісціян з Маркелам, адчуўшы прыхільнасць з боку гаспадароў.

Косця перавёў позірк на Новікава:

— Ну што, камандзір, паверым ім? Рашай! Ці можа ў Маскву адашлём, каб там прашчупалі як трэба, а потым ужо…

Упамінанне пра Маскву было Косцінай прыдумкай, але многія прысутныя ўспрынялі яе ўсур'ёз.

— Давайце возьмем. Мясцовыя. Могуць спатрэбіцца. Без рэквізіцый мы не абыдземся, — сказаў Дзімка. — Як вы думаеце? — павярнуўся ён да грамады.

— Без мясцовых не атрымаецца, — азваўся хтосьці з партызанаў. — Гэта каштоўныя для нас людзі.

Свісціян шырока вылупіў вочы. Ён не ведаў, што такое «рэквізіцыі», але нутром адчуў нейкія новыя магчымасці, якія вынікалі з гэтага паняцця.

— Калі каго трэба памацаць, дык гэта можна, — на ўсякі выпадак сказаў ён.

— Прызначце іх, аднаго і другога, у гаспадарчы ўзвод! — не павышаючы голасу, загадаў Новікаў Беражняку. — Зброю даверым патом. І каб дысцыпліна была. Паглядзім.

— Ну, цяпер дзяржыся, ядрона вош! — Свісціян пагразіў камусьці кулаком і падціснуў вусны.

Камандзір яшчэ раз затрымаў погляд на Маркеле:

— Кацялкі будзеш чысціць?

— Буду, — адказаў той.

Асвоіліся яны на новым месцы даволі хутка. На кухні Свісціян гаварыў повару:

— Мне гусцей чэрпай! І мяса больш кладзі, не шкадуй! А то крыўдзіш партызана…

## XX

На жалезку, каб не правакаваць фашыстаў на помслівасць, вырашылі пайсці далей ад месца дыслакацыі — зрабіць вылазку на лініі Беласток—Чаромха. Міна для гэтай мэты ўжо была падрыхтаваная.

Досвед, навука — каштоўная рэч, бо нездарма кажуць, што за аднаго вучонага дзесяць невучоных даюць. Пасля таго выпадку тол сталі выплаўляць ізноў, але больш асцярожліва, і абыходзілася, дзякуй богу, без «чэпэ». Памянялі тэхналогію. Цяпер снарады з выкручанымі ўзрывальнікамі грэлі не на жароўні, а ставілі ў жалезную бочку з вадой, пад якой распальвалі агонь. На дно бочкі, апроч таго, клалі драўляныя падкладкі. Пустыя гнёзды ад выкручаных узрывальнікаў крыху ўзвышаліся над узроўнем вады, і кожны снарад быў абкручаны жалезным дротам, канец якога, загнуты кручком, быў накінуты на край бочкі. Тэмпература плаўлення тола на дваццаць градусаў ніжэй кіпення вады, пагэтаму тол у снарадах плавіўся раней, чым закіпала вада. Падрыўнік за дрот выцягваў снарад з бочкі і выліваў узрыўчатку ў падрыхтаваную земляную форму. Толавая міна, прызначаная для падрыву цягніка, выраблялася вагою ў 15—20 кілаграмаў. Для гэтага ў зямлі выкопвалася акуратная прамавугольная ямачка з бакамі прыблізна ў 17—20 сантыметраў і такой жа прыкладна глыбіні. На дне ямачкі падрыўнік выціскаў у люстраной выяве свае ініцыялы. Негустым, вадкім толам форма залівалася да палавіны, затым з краю ўкладаўся драўляны аскабалак, які памерамі і формай адпавядаў стандартнай падрыўной шашцы, і толькі пасля гэтага форма запаўнялася толам да патрэбнага ўзроўню. Тол застываў хутка. Атрымліваўся дабрэнны куб жоўтага колеру з акуратным гняздом для падрыўной шашкі, якая будзе ўстаноўлена ў патрэбны момант і спрацуе як дэтанатар для ўсяго смертаноснага аб’ёму міны.

Камандаваў падрыўнікамі Герасім Непагодзін, але на гэты раз адправіліся, як раіў калісьці Афінагенаў, большай групай, на чале з камандзірам. Засталося толькі некалькі чалавек — вартавыя на заставах і дзяжурныя па лагеры. Старшым над імі пакінулі разважлівага Задору. Пайшлі разам з усімі ў агульны рэйд і неабстраляныя Свісціян з Маркелам, у якіх пачынаўся новы этап у жыцці. Выйшлі ўначы, потым дзень чакалі, стаіўшыся ў лясной глухамані, і зноў ішлі. І так некалькі разоў, пакуль дабраліся да месца прызначэння, ажно за Кляшчэле. Тут быў густы лес і мала вёсак навокал — гэта каб гітлераўцы за партызанскую дыверсію не помсцілі мясцоваму насельніцтву. Міна цяжкая — дваццаць кілаграмаў, яе, замаскіраваную сасновымі лапкамі, неслі на змену. Людзі ўсе выглядалі засяроджанымі і суровымі. У дарозе, якая заняла не адну ноч, адпачывалі, спалі, падаслаўшы пад бокі сасновае галлё і шчыльна тулячыся адзін да аднаго. Праз гадзіну паднімаліся і рухаліся далей.

Пахаладала. Дождж змяніўся снегам, а снег, падаючы на раскіслую зямлю, ператвараў яе ў бруднае, гразкае месіва. Нарэшце выйшлі з лесу і ўбачылі тэлеграфныя слупы. За слупамі, скрозь снег, зелянела жытнёвае поле. Віднеўся чыгуначны насып, далей — мост праз рачулку. Лес паабапал чыгункі нізка ссечаны на шырыню ста метраў. Ніводнага, нават малога, кусціка. Гэта была зона аховы. Халодны краявід палохаў сваёй прасторай, невядомасцю і прыхаванай недзе пагрозай. Чутно было, як хадзілі, мерна стукаючы каванымі ботамі па шпалах, вартавыя. Рыпеў жвір пад падэшвамі, калі сыходзілі на броўку. Час ад часу на ўсход, асцярожна, нібы вобмацкам, рухаліся варожыя эшалоны, набітыя ваеннымі грузамі. Партызаны заляглі і сталі сачыць.

— Зручней гэтага месца і не знойдзеш, — ціха сказаў Кубартаеў.

Дзімка паглядзеў на сяброў:

— Ну што, рызыкнём?

Усе моўчкі згадзіліся. Калеснікаў прапанаваў узяць «языка», але камандзір на гэта не рашыўся, асцерагаючыся шуму. Працягвалі сачыць. Варта з'яўлялася на гэтае месца праз кожныя васямнаццаць-дваццаць мінут. Потым вартавыя нейкі час адседжваліся ў бетонным бункеры, што стаяў у баку, воддаль ад чыгункі. Доўгі час ляжаць нерухома нельга, бо на холадзе могуць адубець суставы, але і варушыцца нельга — заўважаць! Косця параіў варушыць пальцамі — рук і ног. Тады не змерзнеш.

У чарговы раз, не дайшоўшы да моста метраў пяцьдзясят, немцы спыніліся, закурылі, пастаялі мінут пяць на месцы і рушылі назад. Месяцавае святло адлюстроўвалася на іх касках і аўтаматах, якія яны трымалі каля грудзей.

— Каб колькі пляшак самагонкі ды падпаіць гэту варту, — зашаптаў Свісціян.

— Перастаньце ярунду гарадзіць! — абсек яго камандзір. Свісціян прымоўк і, відаць, пакрыўдзіўся.

Нейкі час яны зноў ляжалі моўчкі. Нарэшце, калі крыху сцямнела, пачулася:

— Давайце мініраваць!

Улучыўшы зручны момант, падрыўнікі і Новікаў з людзьмі подбегам рушылі да насыпу. Месца выбралі пад стыкам рэек, нажом і рукамі выкапалі ямку, ссыпаўшы пясок у рэчавы мяшок. Падрыхтавалі міну. Непагодзін уставіў узрывальнік. Міну прасунулі ў ямку. Да ўзрывальніка Непагодзін прымацаваў канец доўгага шнурка і зняў засцерагальнік. Шнурок замаскіравалі ў зямлі. Аўтаматычных узрывальнікаў не было — карысталіся доўгім шнурком. Аднак які бы доўгім шнурок ні быў, ён не даваў магчымасці далёка адысці ад чыгункі, але ўсё ж такі метраў на сорак адышлі і заляглі за невялічкай пясчанай выспачкай. Усе бачылі, як Непагодзін спакойна наматаў на руку канец шнурка, зацiснуў у кулаку і чакаў. Беражняк непрыкметна падбадзёрыў, паціснуў яму руку, на якую быў накручаны шнурок. І яны сталі чакаць.

— А калі вяроўка парвецца? — дрыжачым голасам прамармытаў Маркел, які баяўся, здаецца, больш за ўсіх.

— Не хвалюйся! — супакоіў яго Свісціян. — Не парвецца, бо канапляная, сам сукаў.

Недзе за лесам забрахаў сабака, замычэла чыясьці карова. Камандзір нервова пашкроб патыліцу і зірнуў на Калеснікава:

— Ты вось што, Якаў Гур'евіч, ты ідзі сустрэнь яго, — ён паказаў рукой у той бок, адкуль меўся ісці цягнік, — і калі ён падыдзе, дай па паравозе, дзе машыніст! Папалохай! Тады ён хуткасць прыбавіць, а мы яго і сустрэнем, на хуткасці і возьмем…

Калеснікаў, прыгінаючыся, пабег.

— Маладэц! — сказаў Кубартаеў.

Падышоў нямецкі патруль і спыніўся якраз насупраць іх. Немцы пастаялі, пагаманілі, вышэй паднялі каўняры шынялёў і патупалі далей.

Чакаць давялося доўга, у першую ноч нічога не атрымалася. Днём эшалоны праходзілі, а ноччу рух спыняўся, нібы заміраў. Ніводнага цягніка!

— Але ж і цярпення трэба! — незадаволена буркнуў Бокша.

Безвынікова прайшла і другая ноч, дачакаліся трэцяй, але эшалоны як згаварыліся — ні гуку.

Ляжалі на ўскраіне лесу і сачылі за нямецкім патрулём. Даймаў холад, да якога далучыўся і голад. Сухі паёк, які ўзялі ў дарогу, скончыўся і ўжо като-

ры час абыходзіліся аднымі сухарамі. Няўжо прыйдзецца вяртацца ні з чым? Гэта — ганьба. Людзі пачалі нервавацца. Калеснікаў хадзіў «напярэймы», але кожны раз вяртаўся незадаволены і злы.

— Дык што? — захваляваўся Новікаў. — З пустымі рукамі ў лагер вернемся? Не, такога я не дапушчу.

Нарэшце, нібы злітаваўшыся над іхнім чаканнем, пратарахцела патрульная дрэзіна, за якой, чуваць было, сунуўся цягнік. Сунуўся памалу, няўпэўнена, гатовы ў кожны момант, пачуўшы небяспеку, спыніцца. У паветры расплываўся ціхі, але важкі грукат. Поезд набліжаўся. Калеснікаў, прыгінаючыся, кустамі, кінуўся яго сустрэць.

— Вось прыклад нам, баязліўцам! — кінуў Дзімка ў бок Калеснікава. — Смелы!

З’явіўся нямецкі патруль. Немцы ішлі па абочыне, і адзін спыніўся якраз каля таго месца, дзе ляжала закопаная міна.

— Няўжо заўважыў? — у трывозе прашаптаў Непагодзін і затаіў дыханне.

Немец між тым адвярнуўся ад ветру, закінуў вінтоўку за спіну і аберуч стаў корпацца ў штанах.

— Рэйкі абмывае, — хіхікнуў Віцька-масквіч.

— Я б яго зараз пачаставаў гарачым волавам! — злосна прамовіў Свісціян, хапіўшыся за сваю СВТ.

— Спакойна! — цыкнуў на яго Дзімка. — Не рабі шуму!

— У цябе стальныя нервы, камандзір! — ці то здзівіўся, ці то проста падтрымаў камандзіра Мурашка.

Зрабіўшы сваю справу, немец, валюхаючыся, пайшоў даганяць таварышаў. У Непагодзіна па твары — пры месячным святле гэта было відаць — градам струменіўся пот. Напружанне расло. Раздаўся стрэл — кароткая чарга. Усе зразумелі, што гэта па паравозе страляў Калеснікаў з свайго «дзегцяра». Цягнік рэзка прыбавіў хуткасці — па рэйках застукалі колы. Дрыготкімі штуршкамі азвалася зямля. «Маладзец!» — пахваліў камандзір, хоць невядома было, каго: Калеснікава ці машыніста. Хвіліна, яшчэ хвіліна, і цягнік, усё прыбаўляючы ходу, апынуўся на тым месцы, дзе знаходзілася міна.

— Давай! — устрапянуўся камандзір.

Непагодзін, не марудзячы, ірвануў шнурок. Выбух пачулі не адразу — спачатку ўбачылі полымя пад коламі паравоза, нібы пад іх ударыла маланка. Навокал на імгненне стала светла, як днём, і пачуўся выбух. Паравоз марудна, спакваля, прыўзняўся, потым пахіснуўся набок і, куляючыся, павольна зваліўся з высокага насыпу. Платформы наляталі адна на другую, станавіліся, як коні, на дыбы і затым валіліся ў прыдарожную канаву. Туды ж разам з імі падалі танкі, гарматы, машыны, кантэйнеры з нейкім грузам. Уражанне было такое, нібы цягнік правальваецца кудысьці ў апраметную. Пачуліся выбухі ў вагонах — у тых, дзе, відаць, знаходзіліся боепрыпасы. Зямля дрыжэла, як у ліхаманцы. Тоны металу, пяску, гравію, камення ўзняліся ў паветра. Дзімка нечакана злавіў сябе на думцы, што ёсць у гэтым відовішчы і нейкая прыгажосць. Выбухі сляпілі сваім бляскам. Шквал агню. У паветры стаяў суцэльны гул, у якім яму выразна пачулася бравурная, радасная, заліхвацкі-бадзёрая музыка. Падрыўнікі ў дадатак паласнулі па вагонах са сваёй зброі. Стрэліў са сваёй СВТ і Свісціян. «Гэта за Палагу! — успомніў ён пакутніцу-жонку. — Эх, каб яна ўсё гэта бачыла!»

Па лесе разлягаўся стогн і трэск. Зверху, як град, пасыпаліся ўсякія шрубкі, балты ды вінцікі, розныя іншыя асколкі, ад якіх даводзілася хавацца пад

дрэвамі. Эшалон палаў ад галавы да хваста. На месцы выбуху ўтварылася воблака з дыму і пылу.

З бункера застукаў буйнакаліберны кулямёт.

— Адкатвайся! Адкатвайся! — крычаў камандзір.

Партызаны кінуліся наўцёкі. Апошнім — Калеснікаў.

— Пачакай! — крыкнуў ён камусьці, хто бег паперадзе. — Цікавы ж момант!

Але той не спыніўся, і Калеснікаў пабег разам з усімі, але ўсё ж азірнуўся, калі ў неба адна за другой узняліся ракеты і завіслі, апісаўшы глыбокія дугі. Падаючы, рассыпаліся на некалькі дробных агнёў. Ён не ўтрымаўся, даў у бок чыгункі чаргу з свайго ручніка. Чуваць было, як доўга пацілася па лесе рэха. Усе беглі, не азіраючыся і не разбіраючы дарогі, але трымаліся разам і апамяталіся толькі на нейкім хутары, дзе вырашылі крыху адпачыць. Прабеглі на адным дыханні некалькі кіламетраў. Вецер паласаваў твары колкімі марознымі крупінкамі. Бегчы далей не было ўжо сіл. Ды і магчымасці не было: на ўсходзе з-за лесу ўжо вытыркаліся ружовыя промні ранішняга сонца. Ад холаду, а больш ад перажытага ляскаталі зубы.

— Армагедон! — гучна дыхаючы, устрапянуўся Віцька-масквіч. Значэнне гэтага слова ніхто з партызанаў не ведаў, ды і сам Віцька таксама. Проста недзе пачуў і запомніў. Але ўсе зразумелі, што гэта нешта незвычайнае і страшнае.

— Гоцаць! — раптам гукнуў Мурашка.

— На ўра! — падтрымалі іншыя.

Спачатку падхапілі і падкінулі «на ўра» Дзімку, а потым Непагодзіна, які гэтак удала паставіў міну.

— Ну вось, не так чорт страшны, як яго малююць, — сказаў Дзімка.

Хутар, на якім яны апынуліся, стаяў на ўзлессі, на шырокай палянцы. Выглядаў вельмі ж бедна: старая, абшарпаная хата з клуняй і хляўчуком. З дрэў — некалькі старых напаўзасохлых вішань. Заходзілі з боку агарода і гаспадарчых пабудоў. Рыпеў пад нагамі снег. Ля клуні перавялі дых і накіраваліся ў хату. Вокны ў хаце маленькія, кожнае па чатыры шыбінкі. Забрахаў сабака, але з хаты выйшаў гаспадар і хутка яго супакоіў.

— Немцы ёсць? — спытаў Беражняк.

Перапалоханыя гаспадар і гаспадыня адмоўна пахіталі галовамі, і нечаканыя госці пераступілі парог. Падрыхтавалі былі на ўсякі выпадак зброю, але яна не спатрэбілася. У сенях пахла паранкай. Дол у хаце гліняны, з мэблі — стол і лаўкі ўздоўж сцен. У кутку месцілася ступа. На печы туліліся, таксама напалоханыя, але цікаўныя дзеці.

— Мы вас трогаць не будзем, — звярнуўся да гаспадароў Беражняк, зірнуўшы на вокны, што заплылі белымі марознымі карункамі. — Мы свае.

Гаспадар — мужчына пажылога ўзросту — маўчаў. Зашмальцаваны і не па росту вялікі кажух, у які ён быў апрануты, тапырыўся і спераду, і ззаду, але і праз гэты шырокі кажух відаць было, як чалавека працінала дрыготка.

Гаспадыня — яшчэ не старая жанчына ў шэрай світцы і падранай хустцы на галаве — прасіла і маліла, каб пайшлі з хаты, бо хутар стаяў блізка ад чыгункі і ў кожную хвіліну маглі наведацца немцы, асабліва пасля выбуху. Тады ўсіх, усю сям'ю, расстраляюць.

— Ну, пагавары ты яшчэ ў мяне! — ускіпеў Свісціян, шумна, шырокімі ноздрамі ўбіраючы ў сябе паветра і адчуваючы пах печанай бульбы.

Жанчына мела нездаровы выгляд, увесь час кашляла і даводзіла сваё:

— Тут, каля пушчы, немцы ў кожнай вёсцы!

— Вары, цётка, снеданне і маўчы! — сказаў Маркел. — Капусты гарачай і бульбы. Паснедаем і пойдзем. І ніхто ведаць не будзе.

Лямпы не запальвалі. Гаспадар захацеў на двор, і разам з ім выйшаў Свісціян. Доўга не вярталіся. «Каб не прыкончыў!» — падумаў пра Свісціяна Дзімка, лічачы, што той здольны на ўсякае, але праз нейкі час яны вярнуліся.

Партызаны, не распранаючыся, стомлена паваліліся на гліняны дол, на прынесеную гаспадаром салому. Саньку Растатуева паслалі вартаваць. Недзе па кутках аднастайна шамацелі тараканы. Пятро з Віцькам-масквічом і іншыя захраплі на ўсе застаўкі, перакрыўшы гэтае шамаценне. Косця таксама задрамаў, чуючы, як ад стомленасці ные ўсё цела.

Не спаў Дзімка. Камандзір перажываў пачуццё нястрымнай радасці ад таго, якая вялікая справа зроблена. Вылазка ўдалася! Яшчэ адзін гітлераўскі транспарт не даехаў, не трапіў на фронт. Можа, якраз пад Сталінград. І рух на лініі хоць на некалькі гадзін спынены. А найважней тое, што абышлося без страт, што ўсе засталіся жывыя. Вось толькі ў спешцы, уцякаючы, не зарыентаваліся на мясцовасці: беглі не азіраючыся і, аказваецца, не столькі ад чыгункі, колькі паралельна ёй, амаль удоўж. Але неяк можа абыдзецца і гэта.

Гаспадыня між тым завіхалася ля пліты, варыла ў вялікім сагане бульбу ў мундзірах і гатавала капусту, якая надзвычай прыемна пахла. Праз нейкі час сняданак стаяў на стале, ад гарачай стравы вілася пара. Дзімка пабудзіў сяброў, і неўзабаве ўсе паселі вакол стала, дружна ўзяліся за лыжкі. Каму не хапіла месца за сталом, селі на падлозе, чакалі сваёй чаргі. Елі без прысмакаў, у нішчымніцу, але на адсутнасць апетыту ніхто не скардзіўся.

— Уцяклі! А можа ў тым эшалоне французскі каньяк быў? — усміхаючыся, пажартаваў камандзір.

Усе задаволена зарагаталі, а Маркел, які ніколі не смяяўся, ад рогату ажно закашляўся. Радаваўся, бо застаўся жывы і цэлы.

Змяніўся на варце Растатуеў, падсеў да стала.

— Хутка ты бегаеш, Растатуеў! — падкалоў сябра Пятро Мачалаў.

— А табе што, у сушнасці, не страшна было?

Пятро нічога не адказаў.

Доўга затрымлівацца на хутары было небяспечна. Калі пакідалі хату, Свісціян, замест таго каб падзякаваць гаспадарам, прыгразіў:

— Не давядзі бог, калі скажаце каму, што былі ў вас!

— Не трэба напамінаць, ведаем, — паныла адказаў гаспадар.

— А то мы таго! — буркнуў Маркел.

Гаспадыня якраз зняла з вяроўкі высахлую бялізну і прынесла яе ў хату. Дзімка хацеў папрасіць памяняць сабе — свежую, чыстую, на тую, якую ён не знімаў ужо працяглы час, але не пасмеў. Мяняць — дык усім, а на ўсіх бялізны ўсё адно не хапіла б.

— Прабачце нас, — завінаваціўся ён, бо чамусьці надта шкада стала гэтых хутаранцаў і словы Свісціяна здаліся грубымі.

Гаспадары нічога не адказалі, моўчкі праводзілі нечаканых гасцей.

Косця зірнуў на камандзіра: ён хоць і трымаўся бадзёра, але на абліччы з'явіўся неўласцівы жыццярадаснаму Дзімку выраз адчужанасці, як бы ён заглыбіўся ў нейкія свае асабістыя думкі, у свой свет. Можа, каго ўспамінаў? Родных, бацькоў? Потым раптам нібы выйшаў з гэтага стану, нібы абудзіўся, махнуў сваім думкам рукой.

З хаты выйшлі ўсе за адным скрыпам. Не хацелася пакідаць цёплага памяшкання, але нічога не паробіш, трэба.

Вярталіся на базу змораныя, але бадзёрыя, нават вясёлыя. Насустрач ляцеў колкі снег. Заставалася яшчэ якіх два начных пераходы. Ззаду засталася ўжо вёска Голя. Яшчэ колькі гадзін ходу — і яны дома, у сваім Грудцы, але Дзімка, які ішоў паперадзе, нешта ўгледзеўшы, спыніў атрад. Сярод ельніку ўбачылі прысыпаную снегам нешырокую дарогу. Пайшлі па ёй. Лясная дарога прывяла да прасёлачнага гасцінца.

— Ану, хлопцы, давайце засядзем яшчэ ля гэтай шашы! — ці то прапанаваў, ці то загадаў камандзір і павёў вачыма ў адзін і другі бок гасцінца. Потым паглядзеў на людзей, як бы хацеў праверыць, як успрынялі яны яго прапанову.

— Яшчэ разок дадзім немцу прыкурыць! — дадаў ён. — Рызыкнём?

Большасць — паморшчыліся ад гэтай камандзіравай прапановы. Надта ўжо хацелася на базу — распрастаць на нарах настылыя косці, хоць крыху адагрэцца. Ныла ўсё цела, балелі спіны, ногі сталі як чужыя, вінтоўка важыла пяць пудоў. А з другога боку, не лішнім было б падбіць якую машыну, бо патрэбен быў і акумулятар, і зброя, і боезапас…

— Хапіла б і таго, — тулячы галаву ў каўнер, адгукнуўся Свісціян.

— Адставіць! — па-армейску скамандаваў Дзімка. Вецер сутаргава матляў поламі яго кароткага кажушка. — Дзвюм смерцям не бываць, а адной не мінаваць! — Дзімка паправіў на галаве кубанку. — Што будзе, тое будзе, а дзве смерці не будзе!

З гэтым усе згадзіліся. Косця падумаў, што гэткае рашэнне камандзіра будзе не лішнім для яго самасцвярджэння.

Знайшлі паблізу таўсматую калоду, перагарадзілі дарогу, а самі заляглі на ўзгорку і сталі чакаць. Навокал царавалі цемень, холад і цішыня.

— Была б міна, замініравалі б, — загаманіў Непагодзін, — але няма.

— Разгаворы! — абарваў яго камандзір.

Чорны морак ночы пастунова пасунуўся на захад, з-за хмар высунуўся тупы рог ветаха і заззяў бледным свячэннем. Залёгшы, яны знерухомелі. Даймаў холад, але ім пашанцавала. Прайшло з паўгадзіны, не болей, і з боку Голі пачуўся гул матора, які ўсё нарастаў. А яшчэ праз нейкі час паказалася і сама машына: цягач з кузавам, а за ім два прычэпы, якія ён цягнуў. У гэтых прычэпах — відаць было здалёк — стаялі легкавыя аўтамабілі. Хлопцы ажылі, пажвавелі, цяпер ужо ніхто не шкадаваў, што давялося зрабіць прыпынак: не малую шкоду можна было зрабіць ворагу, калі ўся гэтая аграмадзіна — цягач з прычэпамі, нагружанымі аўтамабілямі, — наскочыць на калоду і сходу паваліцца ў роў. Аднак усё сталася па-іншаму. Шафёр ўгледзеў перашкоду і своечасова спыніўся. Цягач стаў як укопаны, ні туды, ні сюды. Партызаны занерваваліся, асабліва камандзір. І тут здарылася тое, чаго ніхто не чакаў. Дзімка не вытрымаў: кінуў гранату пад колы цягача і, мацюкнуўшыся, сам выскачыў на дарогу, ускінуўшы аўтамат. «Смелы, нічога не баіцца!» — паспеў падумаць пра яго Косця. Але чаргі не атрымалася. Трэба ж было гэтак здарыцца, што з Дзімкавага аўтамата, з зацаплення, выпаў дыск. Усе бачылі, як ён пакаціўся ў снег. Бязладна застрачылі немцы, што знаходзіліся ў кузаве цягача. Дзімкава постаць выразна праглядалася на фоне белага снегу, і яго зрэзалі першай чаргой. Перасеклі кулямі, і ён упаў як падкошаны. Хлопцы тут жа азваліся сваёй зброяй, але не так гучна, як немцы, якія безупынку секлі з аўтаматаў. Давялося адскочыць у лес, але недалёка, бо ведалі, што немцы гнацца за імі не будуць. Яны адно шалёна стралялі. Град куль рваў у клочча галінкі дрэў і кустоў, калечыў ствалы, ад якіх далёка адляталі белыя трэскі. Пастраляўшы, немцы заняліся бервяном, з крэктам ссунулі яго на абочыну. Яшчэ нейкі час чуліся іх напалоханыя галасы і каманды. Потым зароў матор, і неўзабаве ўсё аціхла.

Калі немцы ад’ехалі, партызаны вярнуліся на шашу, забралі цела свайго камандзіра. Ён быў ужо без прыкмет жыцця. З белага, як палатно, твару ў шэрае неба раўнадушна глядзелі звільгатнелыя ад расталага снегу вочы. Калеснікаў усё ж схіліўся над камандзірам, прыклаў вуха да грудзей і нейкі час прыслухоўваўся:

— Усё! Не жывы.

Пятро Мачалаў, са згоды Косці, забраў аўтамат і патроны, падзяліўшыся з сябрамі — Санькам і Віцькам-масквічом.

Пахавалі Дзімку ў выкапанай штыкамі ды шырокімі армейскімі нажамі магіле, у скаванай марозам зямлі недалёка ад таго месца, дзе ён загінуў. Акрылі нябожчыка шынялём, кінулі па жмені жвіру і закапалі.

«Стаміўся чалавек, ад вайны стаміўся, — думаў пра Дзімку Косця, — сам сабе шукаў смерць. Шукаў і знайшоў...»

— Добра, што нежанаты, — прамовіў, нібы спадзеючыся кагосьці ўсцешыць, Калода. Сам пусціў слязіну і колькі разоў шморгнуў носам.

Усё навокал яшчэ болей аціхла, не шумеў нават лес. Зоркі і месяц церусілі на зямлю сваё халоднае святло і раўнадушна маўчалі, абыякавыя да чалавечага існавання.

— Пагарачыліся мы, — сказаў пасля таго, як пахавалі Дзімку, Беражняк, — трэба было пачакаць, калі немцы злезуць з таго цягача ды пачнуць расчышчаць дарогу. Вось тады шпурнулі б колькі гранат, і па ўсіх! А так — камандзіра не ўберaглі, страцілі. Шкада, вельмі шкада!.. Але жывым пра жывое трэба думаць. Год канчаецца, зіма толькі пачынаецца, — напомніў начальнік штаба.

З ім усе былі згодныя, сапраўды, ужо не вернеш, не перайначыш таго, што здарылася, жывым трэба было думаць пра жывое. Нельга было марудзіць. Яны ведалі, што камандаванне гэтай нямецкай аўтакалоны паведаміць аб сутычцы з «бандытамі» ў першы жандармскі ўчастак, які сустрэнецца па дарозе. А тады чакай аблавы.

Рушылі далей, у свой Грудзец. Начны вецер, які раптам усчаўся, выдуваў апошнія сілы, вочы стаміліся ад перанапружання…

Вярнуліся ў свой лагер пасля начнога пераходу раніцай наступнага дня. Плечы да болю адцягвала зброя і рэчмяшкі з харчам, які ўдалося прыдбаць па дарозе. Трэба было абраць камандзіра, але ўсе былі настолькі стомленыя, што спачатку вырашылі крыху адпачыць. Загінуў камандзір. Шкада, надта шкада было Дзімку — смелы, рашучы, малады. Людскі быў камандзір. Як цяпер без яго? І толькі адно добра, што выхад на чыгунку прайшоў паспяхова, што варожы цягнік зваліўся ў адхон і цяпер не хутка паспее на фронт, — толькі гэта трымала іх на нагах.

А цяпер — спаць, спаць, спаць. Хоць гадзіну-другую. Зваліцца абы-куды і спаць.

## Частка трэцяя

### I

Падрыхтоўку да аблавы немцы распачалі адразу ж. Пра тое, што партызаны размясціліся ў Грудцы, яны ведалі ад ляснічага. Аблава мела пачацца адначасова з некалькіх навакольных вёсак. У Пруску жандары і паліцаі (паліцэйскі батальён 322) заявіліся на некалькіх фурманках, добра ўзброеныя. Прыхапілі з сабой апроч усяго пару мінамётаў. Нанач размясціліся на ўскраіне вёскі, у

школе, напоўніўшы пустое памяшканне шумам і гоманам. Бліжэй к ночы сталі размаўляць яшчэ гучней, нават крычаць, — самі сябе падбадзёрвалі. Пазней прыехалі амтскамісар Люльке і оберперакладчык Мандрашчак. Цяпер ён быў не толькі перакладчыкам, але і прадстаўніком апарата ўлады, меў сваю агентуру, дапытваў затрыманых, выязджаў на аблавы.

Прускаўцы, адчуўшы, што немцы нешта задумалі, насцярожыліся. Мужчыны сабраліся ў хаце Мікіты Галёнкі. Прыйшоў Хвядзюшка Шпунт і прынёс разгадку.

— Гэта яны на партызанаў аблаву ладзяць.

Хвядзюшка пачуў гэту навіну ад солтыса.

«Трэба папярэдзіць партызанаў!» — першае, што падумаў Васіль, але як гэта зрабіць? Афінагенаў чамусьці ўжо даўно не выходзіў на сувязь, і невядома было, дзе ён і што з ім.

Між тым карнікі не марудзілі, і на раніцу аблава пачалася. Жандары і паліцаі прачэсвалі ўсю лясную мясцовасць на поўнач ад Прускі да Селяхавіч і Малаеленкі і далей у напрамку пушчы. На гэты раз карнай экспедыцыяй кіраваў сам амтскамісар Люльке.

Асноўнай паліцэйскай сілай у гэтых мясцінах была жандармерыя. Амтскамісару Люльке быў падначалены мясцовы гарнізон жандармерыі, што знаходзіўся ў Ратайчыцах. Налічваў ён каля пяцідзесяці чалавек, а цяпер, у сувязі з аблавай, павялічыўся амаль да сотні. Прыгналі сюды нават грэкаў, што стаялі ў Кляшчэлях. Прыцягнулі, вядома, і мясцовых паліцаяў.

Апошнім часам амтскамісар часта знаходзіўся ў одуме, не мог зразумець: «Мы ж пакарылі гэты народ, — разважаў ён, — чаму ж ён да гэтага часу супраціўляецца, не даецца, каб мы, па праве пераможцаў, уладарылі? Да славян не можа быць літасці! Гэтыя людзі непрадказальныя. Невядома, чаго можна ад іх чакаць…»

Супроць «лясных бандытаў», як Люльке называў партызанаў, ён дзейнічаў упарта, настойліва і часам вельмі смела. Так было і цяпер. Адразу за школай карнікі сталі ў густы ланцуг і пайшлі ў напрамку лесу. Наступалі ўсімі наяўнымі сіламі. Ззаду, пад аховаю, ішоў у плашчы з цыраваты і скураных пальчатках на руках сам Люльке. Фуражка насунута на лоб, на носе блішчэла шкельцамі пенснэ.

— Упярод! Упярод! — прыспешваў ён, не адстаючы ад падначаленых.

Пярэднія шыхты дасягнулі ўжо нізіннай мясцовасці — Выгнанскага луга. Ішлі, чэрпаючы ботамі тлустую балотную твань, што не паспела яшчэ замерзнуць і патыхала вільгаццю. Міналі, падазрона аглядаючы, дрэўцы і карчы, што трапляліся на шляху. На купінах чарнелі нікім не сарваныя журавіны. Хмызняк паступова пераходзіў у падлесак, далей быў лес, Бярэзіна, якая цягнулася ў бок Пушчы.

Ішлі, потым з нямецкай дакладнасцю па часе рабілі прывал. За імі ляснымі дарогамі рухаліся фурманкі з боепрыпасамі і правіянтам. Не маўчаў, гаманіў пра нешта насцярожаны лес.

Але партызанаў пакуль што не сустрэлі.

Назаўтра аблава працягвалася. Нарэшце дасягнулі Грудца. Цяпер пасоўваліся яшчэ больш асцярожна, і ім удалося наблізіцца амаль упрытык да лагера і ўдарыць нечакана.

Партызаны ўсё яшчэ адпачывалі пасля таго знакамітага паходу. Выставіліварту. Вартавыя пачулі, як дзесьці зусім побач, парушыўшы лясную ціш, раптам прарэзліва затрашчала сарока. Следам за ёй аднекуль раздаліся аўта-

матныя чэргі, білі карабіны, захліпаючыся, ударыў кулямёт, ды не адзін, а некалькі. Нібыта гэтая сарока і падала каманду.

Грышка Пішчык, які стаяў на варце, на заставе, кінуўся ў лагер, каб папярэдзіць пра небяспеку. Страляніна даносілася з усіх бакоў. Пачаўся мінамётны абстрэл. Міны падалі зверху, вертыкальна, нібы з неба. Грышку здалося, што лагер акружаны. Рваліся міны і гранаты, асколкі ляцелі ва ўсе бакі, падалі верхавіны дрэў і кавалкі галін, падрэзаныя кулямётнымі чэргамі.

— А во-о-ой! — закрычаў ён убачыўшы, як партызаны, пахапаўшы зброю, спешна выбягалі з зямлянак, мітусіліся між кустоў, кідаліся на зямлю, залягалі, потым ізноў падніmаліся і зноў залягалі. «Ну, заварваецца каша! — падумаў ён. — Дапартызаніліся!» Пачуўся брэх аўчарак і громкія галасы афіцэраў, якія падганялі сваіх салдат, каб смялей наступалі на партызанскі лагер. Партызаны, не змаўляючыся, кінуліся ў ельнік.

«Ну ўсё, гэта — канец!» — паспеў падумаць Маркел, які яшчэ да гэтага выйшаў з зямлянкі і стаў сведкам таго, што пачалося. Згледзеў, як уцякаў сябра Свісціян. За ім, праз хвіліну, Бераженяк з рэчмяшком за плячыма. Адзін і другі — са зброяй. Разам з іншымі, не вяртаючыся ў зямлянку за вінтоўкай, бегма падаўся ў ельнік і Маркел. Туды ж кінуўся і Грышка.

Патронаў карнікі не шкадавалі. Апошнім выбег з зямлянкі Задора і, не паспеўшы агледзецца, паваліўся непадалёку ад уваходу, падкошаны куляй. Лес трашчаў і стагнаў ад страляніны. На шчасце, партызанаў прыкрываў густы ельнік, у якім знаходзіўся лагер, і яны кінуліся ў самую гушчыню, у зараслі хвоек і ядлоўцу, каб знайсці там шлях да выратавання. Тут былі ўжо і камісар, і камандзір падрыўнікоў Непагодзін, і начштаба Беражняк, і Кубартаеў, Калеснікаў, Мурашка, Санька з Мачалавым і Віцькам-масквічом, Бокша, Бонк, Зіпуноў, Мандрыкін… Стралялі на хаду — хто з чаго меў і мог. Бездапаможна валіліся целы. І ў карнікаў, і ў партызанаў. Упаў Патыка, за ім яшчэ нехта. Чулася, як хтосьці з партызанаў шаптаў: «Спасі, Госпадзі! Спасі, Госпадзі!..» Грымеў, біўся, быццам у смяротных сутаргах, лес. Дзікімі, прарэзлівымі галасамі крычалі раненыя, што засталіся каля зямлянак, клікалі на дапамогу, але ў лагеры былі ўжо карнікі.

Косця апынуўся побач з Калеснікавым. Моцна калацілася сэрца.

— Як жа вырвацца з гэтага пекла? — задыханы, павярнуўся ён да таварыша.

— Адыходзьце! — загадным тонам адказаў Калеснікаў. — Я іх затрымаю, а потым даганю вас.

Можа, гэта і было адзінае выйсце, бо іншага ў той сітуацыі не бачылася. Разважаць не было калі.

— За мной! — гучна, на ўсю сілу лёгкіх, скамандаваў камісар, і ўсе, пачуўшы, кінуліся за ім.

Беглі як ашалелыя. Побач з Кубартаевым, крыху адстаўшы, бег Віцька-масквіч, але нечакана спаткнуўся, быццам на момант прыпыніўся, і абрынуўся на дол, бязладна ўзмахнуўшы рукамі. Па пахі грузнучы ў незамерзлым балоце, хто ацалеў, разам з камісарам прабіраліся туды, дзе можна было спадзявацца на выратаванне. Ускочылі ў нейкую яміну і занялі абарону. Прыбег Калеснікаў са сваім «дзегцяром». З абодвух бакоў гучалі стрэлы і аўтаматныя чэргі. З боку наступаючых чулася:

— Ванька! А, Ванька! Выходзі — свае!

— Рус, ідзі к нам піць кофе!

— Га-га-га! — рагаталі карнікі. Рагаталі і кідалі гранаты на доўгіх драўляных тронках. Шмякнецца граната аб зямлю і марудзіць, нібы думае, узры-

ваццa ёй або не ўзрываццa. Партызаны паспявалі некаторыя з тых гранат адкідваць назад. Тады рогат сціхаў.

Па лесе распаўзаўся густы буры дым, пяршыў у горле і забіваў дыханне.

— Мы вам пакажам, сталінскія вырадкі! — крычаў нехта, магчыма з мясцовых паліцаяў.

Партызаны цярпелі, не адгукаліся.

— Патронаў мала! — азваўся Беражняк. — Эканомце патроны!

— Патроны! Патроны! — загаманілі іншыя.

Канчаліся патроны, нельга было марудзіць. Вырашылі прарываццa далей, баяліся, што іх могуць акружыць.

— Збор, калі хто адстане, каля вёскі Дуброва! За мной! — загадаў камісар, параіўшыся з Калеснікавым і Беражняком.

Дружна ўдарылі ў адно месца і прарваліся. Беглі так, быццам іх несла нейкая нечалавечая сіла. Выратаваў лясны гушчар. Прабіліся. Страляніна адступіла некуды ўбок.

— Б'юць наўздагад! Лес прачэсваюць! — узрадавана адзначыў Грышка Пішчык.

Вырашылі не спыняцца, рухацца далей. Замільгалі нарэшце прасветы паміж зялёных галін і карычневых хваёвых ствалоў. Поле! Першым на ўзлессі спыніўся Беражняк.

— Ну што, жывыя? — дагнаўшы яго, загаманіў Косця.

— Не ўсе.

— А сам ты хоць цэлы?

— Здаецца, цэлы.

Падышло яшчэ некалькі чалавек — Калеснікаў, Кубартаеў, Мурашка, Санька з Мачалавым, Грышка Пішчык, Бонк, Мандрыкін… Мандрыкін без гітары, але з вінтоўкай. Прысунуўся Калода. У нагах адчуваўся цяжар тых дзясяткаў кіламетраў, якія яны адолелі па лясным бездарожжы. Нервы былі напружаныя да крайнасці, бо даводзілася з усіх сіл услухоўвацца і ўглядацца ў наваколле, каб апярэдзіць небяспеку. Мачалава параніла ў руку і шыю, але раны аказаліся неглыбокія. Санька адарваў прыптол у кашулі і перавязаў.

Падышло яшчэ некалькі чалавек з тых, хто адстаў. Валіліся ад стомленасці і нервовага ўзрушэння, але мелі выгляд людзей, якім пашанцавала, выскачылі з вады сухімі.

— Астатнія дзе? Хто загінуў? — дапытваўся камісар.

— Сам бачыў, як Патыка ўпаў, — сказаў Мурашка.

— Задору забілі, — сумна азваўся Бонк.

— І Зіпунову не пашанцавала, калі з той яміны выбіраліся, — дадаў Пішчык. — Ён назад скаціўся. Відаць, куля.

— А можа зноў схавацца хацеў? — Косця прыпомніў выпадак з Зіпуновым у той засадзе, калі загінуў Ваня-ёжык.

— Не, куля, — пацвердзіў Грышка і дадаў: — Смаляка, здаецца, таксама…

— Віцьку забілі, — паведаміў Кубартаеў.

— Якога Віцьку? — перапытаў Санька.

— Віцьку-масквіча. Сам бачыў.

Санька і Пятро пераглянуліся і моўчкі апусцілі галовы.

Страты былі, і не малыя. Чалавек пяць, а можа нават і больш (цяжка было пакуль што падлічыць) так і засталіся ў тым ельніку, які першы іх прыкрыў ад карнікаў. Падалі, падсечаныя кулямі, і калі ўцякалі.

— А можа хто да іх трапіў? — зноў спытаў камісар, паглядзеўшы на Беражняка.

— Гэтага не можа быць, — залішне ўпэўнена заявіў гарачы Кубартаеў, але падтрымкі прысутных не атрымаў. Цяжка было на гэты конт сцвярджаць нешта пэўнае.

Было б горай і страт нашмат болей, каб не кулямёт Калеснікава, які не згубіў галавы, спыніўся і залёг спачатку ў ядлаўцу, а потым яшчэ некалькі разоў мяняў пазіцыю, прыкрываючы адыход групы, і толькі пасля ўсяго дагнаў астатніх.

Вялікі групавы бой звычайна распадаецца на шэраг дробных баёў, непрадбачаных здарэнняў, выпадкаў. Так было і на гэты раз. Над брывом у Калоды сінеў вялікі гузак, чырванела садраная скура.

— А я ілбом у сасну далбануўся! — аддыхаўшыся, паскардзіўся ён.

На гэта ніхто не адрэагаваў, бо такое здарылася ці магло здарыцца напэўна не з адным Калодаю.

— Ну, нічога, — сказаў Калода, каб падтрымаць сябе і іншых, — за аднаго бітага двух нябітых даюць.

— Хлопцы, хто выцягне асколак? — звярнуўся да сяброў Мандрыкін. Ён не адразу адчуў, што паранены, а толькі праз час, калі няўдала прысеў на стары пень. Мандрыкіна раптам працяў рэзкі боль, і ён на момант страціў свядомасць, упаў, але прахапіўся. Балела ў левым баку, ён памацаў і адчуў кончык асколка, які ўпіўся ў цела. Асколак выцягваў Калеснікаў. Ён гэта зрабіў у адно імгненне — намацаў кончык і выцягнуў. Бінтоў не было. Разарвалі на параненым ільняную кашулю і, стачыўшы некалькі палос, перавязалі рану.

— Дзе мы? У якім месцы? — спытаў Косця. Ён помніў пра сваю адказнасць, бо быў цяпер і за камандзіра.

— Кіламетраў з пятнаццаць адмахалі, — прыкінуў Калеснікаў. — Недзе ўжо каля Камянца.

— У Дуброву трэба, — напомніў Беражняк. — Там збор прызначаны, і астатнія падцягнуцца.

Дуброва — вёска на мяжы з Ружанскім раёнам, і ўся мясціна гэтак жа называлася — Дуброва.

Крыху ачуўшыся, не затрымліваючыся, падаліся туды. Пачаў падаць сняжок, мяккі, як пух, прыхоўваючы партызанскі след. Часам, каб не збіцца з кірунку, прыпыняліся, абмацвалі вачыма старыя дрэвы, на якіх, на ствалах, з паўночнага боку чарнеў мох. Ён быў добра прыкметны пры месячным святле. Упэўніўшыся, што кірунак правільны, ішлі далей. Абмінулі балацявіну, на якой стаялі запарушаныя снегам прысадзістыя стажкі сена. Па лёдзе перайшлі рэчку — адзін з вытокаў Лосьны. За рэчкай вёска Пашукі, але туды не заходзілі. У зімовым небе адзінока вісеў жоўты блін поўні. Недзе тужліва завыў воўк. Ішлі моўчкі, адзін за адным, паскоранай хадой.

Санька з Пятром крочылі побач. Першым азваўся Санька:

— Ну што, Пеця?

— Што?

— Чуў, што з Віцькам прыключылася?

— Няма ўжо кораша, — уздыхнуў сябар. — На гэта яна і вайна, з кожным можа тое быць.

— Слухай, Пятро, у мяне да цябе ёсць адна просьба. Абяцай, што выканаеш!

— Якая такая просьба?

— Абяцаеш выканаць?

— Ну, дапусцім. Гавары!

— Калі я загіну, абяцай мне на Маняшы ажаніцца.

Мачалаў ад нечаканасці ажно прыпыніўся.

— Ты што?

— Харошая яна дзяўчына. Жалка мне яе.

— Ну, ты даёш! Яшчэ ж жывыя мы з табой, Санёк, — і ты, і я. Нашто пра гэта? Яшчэ на вяселлі тваім пагуляем!

Санька нічога не адказаў, і далей яны ішлі моўчкі. Санька вельмі стаміўся і з цяжкасцю трымаўся на нагах. Ішоў і баяўся, што настане такі момант, калі ён не зможа зрабіць далей ніводнага кроку. У Дуброву дабраліся пад раніцу, спыніліся на ўзлессі. Ад стомленасці валіліся з ног. Ад хуткай хады ўсім было надта горача, хацелася піць. Калеснікаў згроб рукою снег і сунуў у рот.

— Не глытай снег, а то горла прастудзіш! — папярэдзіў яго Мурашка.

— А яно ў мяне лужонае, — самаўпэўнена адказаў той.

«Трывушчым робіць чалавека вайна, — адзначыў у думках Косця, пачуўшы гэты кароткі дыялог, — трывушчым і вынослівым».

Яны закурылі. Курылі моўчкі. Сталі чакаць, што нехта з'явіцца яшчэ. Падыходзілі тыя, хто адстаў, аслабеўшы. Становішча было не з лёгкіх. Харчы, вядома, пакінулі ў лагеры — не было калі пра іх думаць. Толькі абачлівы Бражняк паспеў прыхапіць паўмяшка сухароў, астатняе засталося карнікам на змарнаванне. Абышліся Бражняковымі сухарамі.

Калі паўстала пытанне аб камандзіры, замест Дзімкі, выбралі Косцю. Камісарам — Пятра Мачалава.

— Які з мяне камандзір, — сказаў пра сябе Косця, — я наскрозь цывільны ды і ваты ў мяне шмат…

— Нічога, дапаможам! — падбадзёрыў Калода.

— Вата ў кожнага ёсць, у характары, — дадаў Непагодзін. — Не ўсе ж сталёвыя.

— У такім выпадку хай начальнікам штаба ў нас будзе Бражняк, — паставіў умову Косця. — Ён для гэтай пасады падыходзіць.

Бражняк згадзіўся.

Пад вечар наступнага дня далучыліся Свісціян з Маркелам. Ад стомленасці Косця стаў горш бачыць, але іх пазнаў здалёк. Здарожаныя, але ў добрым настроі, нават быццам і на падпітку. Узрадаваліся, што знайшлі нарэшце таварышаў. У аднаго і другога вочы чырвоныя, як цыбуля. Косця строга на іх паглядзеў, але нічога не сказаў.

— А ў мяне вінтоўку заклініла, — сказаў Свісціян, быццам нехта з прысутных быў у гэтым вінаваты.

— А мы думалі, што можа ўжо і ў жывых няма, — паспачуваў Кубартаеў.

— Мяне, брат, куля, ліха яе матары, не возьме! — адказаў яму Свісціян. — Я такі. Я з дзяцінства загавораны.

— Гэта як фартуна захоча, — зазначыў Бонк.

— А я ў дупло схаваўся! — прызнаўся Маркел.

У іншым выпадку гэта магло б мець нейкія наступствы, а цяпер ніхто нават не зарагатаў, і толькі Бонк папытаў:

— А якое гэта было дрэва?

— Дуб, — адказаў Маркел.

І яшчэ адна добрая неспадзеўка — з'явіўся Віцька-масквіч. Без зброі (без яе аказаўся не адзін ён), але прышкандыбаў. Спрабаваў нават жартаваць:

— Рана вы мяне на той свет спісалі.

Болей за ўсіх узрадаваліся сябры — Санька з Пятром:

— Здароў!

— Жывы?

— Як бачыце. Абдурыў я іх, забітым прытварыўся. Адзін нават нагой падбіў. Так штурхнуў ботам, што ў баку заныла. А калі аціхла, я за вамі, у Дуброву вырашыў прабірацца, на збор. Па дарозе ў людзей пытаўся, дзе тая Дуброва. Вось і дашкандыбаў. Людзі мне і хлеба далі. Вось! — ён дастаў з кішэні абгрызены кавалак.

Іх стала крыху больш.

— А Бокша? — успомніў Косця. — Бокша дзе?

Ніхто нічога пэўнага сказаць не мог. У гэтай мітусні хто хочаш мог згубіцца. Можа яшчэ знойдзецца.

Бокша адшукаўся толькі праз некалькі дзён. Натрапіў на хутар, дзе яго прытулілі добрыя людзі. Ачуняў і з'явіўся на дамоўленае месца.

Паўстала пытанне, куды цяпер падзецца. Снегу — белага, пушыстага — нападала шмат, ззаду заставаўся відочны след. Не было сумненняў, што карнікі будуць праследаваць. Пра вяртанне на ранейшае месца не магло быць і размовы. Гэта ўсё адно, што ісці на самазабойства. Стаянка разбурана, і там карнікі. Але і Дуброва, дзе яны знаходзіліся, была месцам вельмі ненадзейным.

Расклалі цяпельца, але яно было, з прычыны асцярожнасці, такое слабое, што не магло ні сагрэць, ні рассунуць морак ночы. Прыспешваў час. Косця з Бярэжняком і Калеснікавым пачалі думаць, да іх падсаджваўся Мурашка. Куды ісці? Далей, на поўнач, у бок пушчы? Там варожыя гарнізоны, умацаваныя і добра ўзброеныя. Што для іх якіх-небудзь пятнаццаць-дваццаць чалавек! Знішчаць у адзін міг.

— У балота трэба падавацца! — параіў, зябка пацепваючы плячыма (світка грэла дрэнна) Мурашка. — Там ён не дастане.

— Дык яно цяпер замерзла! — запярэчыў яму Косця. — Давайце ў бок Лескаў! — прапанаваў ён, успомніўшы гэтую знакамітую вёску, здаўна вядомую сваімі традыцыямі барацьбы і моцную духам. — Гэта тры кіламетры на поўдзень ад пушчы. Там не блага ставяцца да нашага брата, — дадаў ён, — там і вырашым, што рабіць далей.

Бяражняк і Калеснікаў згадзіліся. Сабралі людзей, растлумачылі сітуацыю. Найперш прапанову падтрымалі мясцовыя, а затым і ўсе астатнія. Ізноў сабраліся з сіламі, усталі і пайшлі. Бесперапынны рух, практычна без харчавання і адпачынку, забіраў усе сілы. Марылі хоць крыху паспаць і наталіць голад, але трэба было ісці, хоць дарозе, здавалася, ніколі не будзе канца. Ішлі, як звычайна, сваім расстаўным, як яны казалі, маршам, стараючыся трапіць след у след, каб не даць праціўніку ўяўлення пра сваю колькасць. Але па часе гэтая неабходнасць адпала: сыпануў густы, спорны снег, у якім яны сталі падобныя на белыя здані. Спачатку трымаліся ўсходняга напрамку, потым — кіраваў Мурашка, які ведаў мясціны, — адвярнулі на поўдзень, выбраўшы адно месца ў лесе каля вёскі Лескі. Гэта была тая самая вёска, якую меў на ўвазе Косця. Яшчэ калісьці, у 20-я і 30-я гады гэтая вёска дапамагала падпольшчыкам-капээзэбоўцам, а цяпер была на баку партызанаў. У вёску яны не пайшлі, а забрылі глыбей у лес. Снег перастаў, і трэба было знішчыць за сабой след. Для гэтага існаваў выпрабаваны спосаб. Хтосьці з партызанаў, па чарзе, ішоў ззаду, у канцы групы, валок за сабой густы ядлаўцовы корч і з вядра церусіў на яго снег. Рабілі гэта дбайна, стараліся так, што ніякіх прыкмет слядоў не заставалася. Работа патрабавала не абы-якога ўмельства і была надта марудная, але ўсяму навучышся і ўсё зробіш, каб выратаваць жыццё.

Такім чынам яны замялі за сабой след і спыніліся ў лясной глухамані пад гэтымі Лескамі. Тут разлічвалі перабыць нейкі час, пакуль усё не аціхне. Хутка гусцеў лясны змрок. На пачатку клаліся начач проста на дол, змёўшы снег, які шчодра валіўся з неба. Пад раніцу падымалі з-пад снегу галовы, страсалі з сябе гэты белы пух, які набіваўся за каўняры і ў вушы. У такой сітуацыі адзінае, што дапамагала, — гэта кажух. Добры сялянскія кажух ратаваў ад холаду, але не кожны меў гэтую вопратку, а калі і меў, то часцей за ўсё старую, пацёртую. Нейкі зацішак ствараў густы асіннік, у якім яны размясціліся, але каб грэць — не грэў. Асабліва даймаў і назаляў холад на золаку — у гэтую пару ён станавіўся нясцерпным. Людзі ўставалі, махалі наапашкі рукамі, прысядалі, разміналіся. Тады схадзілі ў Лескі і «пазычылі» сякеру і пілку. Паставілі тры буданы, наслаўшы на спод сухога вецця ды сасновых галінак. Спалі, збіўшыся ў цесную кучу. Прыкрываліся світкамі, плашчамі і кажухамі, у каго яны былі, ды так, каб і носа не відаць было. Грэлі адзін аднаго, згарнуўшыся клубочкамі, зверху ўкрытыя белым інеем. Пра цёплы хатні куток і свежую сарочку ўжо нават і не марылі. Мурашка, крыху адасобіўшыся, сказаў: «Цецерукі ў снег зарываюцца, а я чым горшы?» — і, падумаўшы, зарыўся пад ядлаўцовы корч, прысыпаў сябе снегам. Толькі адтуль, дзе быў нос, віўся струменьчык пары.

Адзін чалавек стаяў на варце, другі рыхтаваўся яму на змену і сачыў аднačасова за агеньчыкам, каб не пагас. Агеньчык хоць і не саграваў, але ўсё ж неяк вяртаў да жыцця. Ноччу, калі дыму здалёк не відаць, спрабавалі распальваць вогнішча, дакладней, некалькі дробных агеньчыкаў, каб было менш дыму і каб хоць крыху абагрэцца. Удзень — нельга, бо дым заўважаць.

— І складамі пакарыстацца не можам, — бедаваў Косця, — тымі, што восенню рабілі, стараліся. Далёка!

Два тыдні харчаваліся сухарамі, якіх было поўмеха, запівалі падкопчаны і ўсохлы хлеб вадой са снегу. Да голаду далучыліся яшчэ і маразы да дваццаці градусаў. Ад марозу трашчалі, нібы просячы дапамогі, сухадрэвіны. Па начах тапілі ў кацялках снег, мачылі ў гарачай натопленай вадзе сухары ды ў дадатак жавалі бярозавую кару ці пупышкі маладой сасны.

— Такім хлебам кішкі параспорваем, — бубнеў сабе пад нос Непагодзін.

— Не параспорваеш! Жыў будзеш! — суцяшаў яго і сябе трывалы Пятро Мачалаў.

Санька ўспомніў тайгу, у якой здабываў (як даўно гэта было!) кедравыя арэхі. Тут кедры не раслі, але ён пад ялінай выкапаў з-пад снегу некалькі пачарнелых шышак і паспрабаваў выбіваць з іх семкі. Некалькі семак высыпалася на далонь, і Санька кінуў іх у рот, пажаваў і выплюнуў. Не, гэта былі не кедравыя арэшкі, а нешта зусім сухое і неспажыўнае.

Прымаўка кажа, што з цягам часу і голад праходзіць. Але ў іх, маладых і дужых, не праходзіў. Дзеля разнастайнасці — параіў Мурашка — спрабавалі запарваць дубовую кару з жалудамі, якія адкопвалі з-пад снегу. Пілі адвар, каштавалі жалуды, але і гэта мала што давала. Распараныя жалуды былі такія ж цвёрдыя і неядомыя, як і нераспараныя. Пятро Мачалаў, Бераzhняк, Мурашка, Калеснікаў, Грышка, Віцька-масквіч, некаторыя іншыя ды і сам Косця — усе хударлявыя і жылістыя — неяк яшчэ трымаліся, а паўнацелыя Бонк, Бокша, Непагодзін і асабліва Свісціян з Маркелам так абяссілелі, што літаральна валіліся з ног.

Косці чамусьці прыгадаўся колішні, яшчэ за польскіх часоў падпольшчык Кляновік, пра якога ў КПЗБ хадзілі легенды як пра чалавека надзвычай вынаходлівага і нязломнага. «А што б ён у гэтай сітуацыі зрабіў?» І не мог адказаць

на гэтае пытанне. Ясна адно, што перш за ўсё трэба было людзей накарміць. У страўніках ва ўсіх бурчэла, станавілася млосна і муціла. А мароз і снег такія, што і носа з будана не высунеш. Марознае паветра забівала дых. Найгорш было раніцай, калі ногі і рукі так адубянеюць, што нельга іх распрастаць, а трэба ўстаць і пагасіць агонь. У касцёр кідалі снег, прытоптвалі нагамі, у неба, страляючы, сыпаліся іскры.

Не было як пагаліцца, і хлопцы паадпускалі бароды. Казалі, што барада грэе, але цяпла ніхто не адчуваў. Хутчэй наадварот: у Косці, калі будзіўся ад сну, барада і вусы ператвараліся ў суцэльны цвёрды злітак лёду, і ён ледзь варушыў вуснамі. Ад холаду заходзіліся ногі. Амаль усіх даймаў назойлівы кашаль.

Ад голаду і бяздзейнасці ды яшчэ ад такога жорсткага холаду чалавек траціць розум і перастае сябе кантраляваць. Патрэбны былі моцныя нервы, каб усё гэта вытрымаць. Ад голаду ў горле і ў страўніках пачаліся спазмы.

Маркел не выцерпеў і паціху, каб ніхто не чуў, пачаў дакараць Свісціяна:

— А я што казаў? Каб засталіся ды сядзелі ў каго-небудзь у клуні, дык таго б не ведалі. Дурань я, дурань…

Свісціян маўчаў, але калі гэта яму надакучыла, прыгразіў:

— Маркел, ядрона вош, не даводзь да граха.

— Жывём, як зайцы, — плакаўся Маркел, — за зайцамі то лісіца гоніцца, то рысь з дрэва скочыць і кіпцюрамі схопіцца, то воўк паўдня спакою не дасць. Гэтак і нам, бедным, даводзіцца.

## II

Жыццё, здавалася, ужо нічога не каштавала, хацелася аднаго: абрынуцца на зямлю і не ўставаць. Але ёсць, відаць, у чалавеку нешта мацней за яго самога. Магчыма, што яно і дазваляе трываць. Што гэта такое? Бог, прырода, памяць, гены? Цяжка сказаць, аднак выходзіць, што чалавек — істота моцная, трывушчая, і ён церпіць, жыве, нават у самых неверагодных умовах. У такіх якраз умовах яны і апынуліся ў тым лесе, седзячы ў прамерзлым наскрозь будане, аброслыя, брудныя, з чырвонымі ад запалення вачыма. Раніцай, адкрыўшы ўваход, мігатліва, з пострахам узіраліся праз яго ў навакольны свет, у снег, у акрытыя снежнай навіссю дрэвы.

У зімовым лесе — свой свет. Тырчэлі з-пад снегу пні. У вяршалінах гудзеў і скавытаў вецер. Падавалі прастуджаныя галасы рэдкія птушкі. Непадалёк, ламаючы сушняк, з шумам прабег лось. Убачылі яго, калі лось ускочыў на прагаліну, а потым ізноў імкліва павярнуў у лес. Звяры ўжо, відаць, пачалі прывыкаць да іх прысутнасці. Здаралася, на паляну выбягаў заяц. Спыняўся, сядаў у снег і, наструніўшы доўгія вушы, з цікаўнасцю пазіраў на людзей. Можна было ўпаляваць, але баяліся рассакрэціць сваё месцазнаходжанне.

Кароткія дні змяняліся густымі цёмнымі начамі. Зрэдку з'яўляўся пахмурны прывід месяца. Па начах, дадаючы адчаю, вылі ваўкі. Прастуджаным і знямажаным людзям з роспачы таксама хацелася завыць.

Свісціян на пачатку стрымліваў Маркела, а неўзабаве і сам стаў бурчэць:

— Ну, не думаў, што ажно гэтак давядзецца. — Спачатку скардзіўся быццам сам сабе, а потым і ўголас. Было нямала наракканняў і ад іншых, галасы незадаволенасці гучалі ўсё грамчэй.

Настрой дасягнуў, як кажуць у такіх выпадках, крытычнай адзнакі, і ўрэшце людзі ўзбунтаваліся.

— Не, таварышы, — аднойчы раніцай сказаў, выйшаўшы з будана, Калеснікаў, кашляючы і пазіраючы сабе пад ногі. Вейкі і бровы яго пакрыліся марознай шэранню. — Лепш памерці ад варожай кулі, чымсьці ад голаду і холаду. Хай яно здохне — такое жыццё!

— Я таксама думаю, што нешта трэба рабіць, — падтрымаў яго Беражняк, адчуваючы ў каторы ўжо раз, як плечы праняла дрыжачай халаднечай.

Згодзен з гэтым быў і Косця, які трымаўся з усіх сіл, бо камандзіру нельга быць слабым і стомленым.

— Трэба нам, хлопцы, сталае месца шукаць, зіма яшчэ доўга будзе стаяць, — сказаў ён. — Давайце памяркуем, дзе лепш спыніцца.

Але трэба было нешта рабіць, прымаць нейкае рашэнне, бо людзі далей маглі не вытрымаць і разбегчыся куды вочы глядзяць.

Мясцовыя Мурашка з Грышкам падалі думку пра стары лес каля адзінокай ціхай вёсачкі Міжбор’е.

— Гэта на захад сонца, за Каленкавічы, — патлумачыў Мурашка, міргнуўшы сваімі крыху загноенымі вачыма. — Да вайны я не раз туды наведваўся па справах. Людзі там свойскія.

— Месца прыдатнае для нас, — дадаў Грышка. — Там і лес падхадзяшчы, зямлянку абладзіць можна.

— Там жа паблізу і нашы харчовыя склады, — напомніў камандзір. — Гэта таксама трэба браць у разлік. Будзем абапірацца на тое, што назапасілі.

Ніхто не пярэчыў, згадзіліся аднагалосна.

— Папярэдне трэба ў нейкую вёску наведацца, — сказаў Беражняк. — Прадуктаў возьмем, пару падвод арганізуем.

Прапанову начальніка штаба палічылі правільнай. Уласна кажучы, гэтую думку выношвалі даўно. Цяпер трэба было яе рэалізаваць.

Паспрыяла ім і надвор’е, бо крыху пацяплела, паветра дыхнула адлігай, закружыліся рэдкія сняжынкі. Усё адбылося згодна з прымаўкай: калі ўжо горш не бывае, наступаюць змены да лепшага.

На здабычу рушылі ноччу. Спяшаліся. Ногі грузлі ў падталым снезе. Зырка, хоць збірай іголкі, свяціў месяц. Абмінулі Лескі і наляцелі на суседнюю вёску, што бялела пад месяцам аснежанымі дахамі хат. Ніхто не ведаў, як яна называецца. Пастукалі ў крайнюю хату. Адчыніў чалавек у падштанніках і накінутым на плечы кажушку. У разрэзе кашулі віднелася валасатая грудзіна.

— Немцы ў вёсцы ёсць?

Чалавек зняякавеў, адразу зразумеўшы, з кім мае справу.

— Паліцыя вунь у тым доме, — тыцнуў ён пальцам у супрацьлеглы бок вуліцы, — але яны п’яныя, спяць як пшаніцу прадаўшы.

— А солтыс?

— Я солтыс, — прызнаўся чалавек, калоцячыся ад страху. — Абралі…

— Нам трэба прадукты!

Яны пераступілі парог. Санька-сібірак чмыхнуў носам, прынюхаўся:

— Хлебам пахне і яблыкамі, — вызначыў ён, успомніўшы Лявона і Фёклу.

— Жонка пякла, — патлумачыў солтыс, — і яблыкі ёсць, на гарышчы, у саломе ляжаць.

— Быстра сабраць — сала, хлеба! — загадаў Косця.

— Сала, хлеб? — перапытаў солтыс.

— Хутчэй! — закрычаў Свісціян. — А то спалім! Усіх спалім і пачнем з цябе, ядрона вош! А ён яшчэ думае, ліха яго матары!

Па ўчарнелых бярвеннях сценаў шустра забегалі, зашасталі рудыя прусакі.

— Я зараз! — пажвавеў солтыс, глыбока ўцягваючы ў сябе паветра. — Я зараз!

Тут жа апрануўшыся, ён павёў начных гасцей па вёсцы. Паказаў на некаторыя хаты, дзе жылі, відаць, больш заможныя гаспадары.

Узялі кормніка, якога гаспадары павінны былі здаць у лік кантынгенту, пудоў пятнаццаць мукі, з дзесяць пудоў гароху, круп, саланіны ды хлеба. Свісціян з Непагодзіным дасталі некалькі пляшак самагонкі, рассоваўшы іх па кішэнях. Маркел прывалок аднекуль пару сыроў і кошык яек. Браць яблыкі не было часу.

— А соль? — напомніў Калода.

Патрэбна была соль. Яе недахоп адчуваўся асабліва востра. Солі ўзялі ў солтыса. Прыхапілі таксама прылады, каб выкапаць і абсталяваць зямлянку. Дапамагаў солтыс, якому Косця загадаў:

— Праз паўгадзіны, пакуль мы тут крыху падсілкуемся, каб на тваім панадворку стаялі дзве падводы і чалавек, які паедзе з намі, а потым з коньмі вернецца назад! Вернецца, чапаць яго не будзем.

Напалоханы солтыс пабег выконваць загад. Сядаць есці не было часу, елі на хаду. Хлеб з саланінай здаліся такімі смачнымі, што не адарваць было ад рота. Загаманіў, уплятаючы сала з хлебам Кубартаеў:

— Цяпер бобікаў[1] трэба патрывожыць — хай падмогу выклікаюць! А мы к таму часу ўжо далёка будзем!

— Правільна! — ухваліў павесялелы Свісціян, здымаючы з-за спіны сваю СВТ.

Падступілі да дома, у якім знаходзіліся паліцаі.

— Кожнаму — па тры выстралы, і чаргу з кулямёта! — распарадзіўся Косця.

Загучалі стрэлы. Калеснікаў даў чаргу з свайго «дзегцяра».

Паліцаі выскаквалі з вокан у адной бялізне і, спатыкаючыся ў снезе, кідаліся хавацца за бліжэйшыя будынкі і ў карчы.

— Рукі ўгору! Вёска акружана! — крычалі партызаны, але даганяць не сталі, не было часу.

— Хэндэ хох! — блазнаваў Свісціян.

Узахлёб брахалі і вылі сабакі, рвалі ланцугі, дадаючы галасу і неразбярыхі. Людзі не выходзілі, хаваліся па хатах. Раптам з акна ці яшчэ аднекуль выскачыў паліцай без шапкі, з вытарашчанымі вачыма і кінуўся напрамкі, па снезе, на партызан, ухапіўшы вінтоўку за ствол і падняўшы яе, як дубіну, прыкладам уверх. Нібы хацеў сакрушыць усё, што было перад ім. Грымнулі стрэлы, паліцай упаў.

— Дурань! — пракаменціраваў Свісціян.

Каля солтысавай хаты ўжо чакаў чалавек і двое саней, у якія былі запрэжаны коні. Пагрузілі прадукты. Усё рабілася вельмі хутка, «па-скораму», як казаў Бонк.

З вёскі, каб заблытаць сляды, выехалі ў супрацьлеглы бок, потым яшчэ раз павярнулі і заглыбіліся ў лес. Затым узялі напрамак на паўночны захад.

— І сачыць ва ўсе бакі! — настаўляў вопытны Калеснікаў. — Можна чакаць засады…

— Хай Бог крые! — жахаўся Маркел, пачуўшы пра засаду.

Бралася на раніцу. За Галоўчыцамі завярнулі ў Старавольскі сервітут — ціхае месца — і там спыніліся, каб крыху ахалонуць і аддыхацца. Разгрузілі правізію. Селяніна з коньмі адпусцілі. Строга наказалі, каб маўчаў.

---

[1] Гэтак называлі паліцаяў.

Была магчымасць больш грунтоўна наталіць голад і падумаць, што рабіць далей. Але ежай — ведалі — захапляцца не варта, каб не прабраў «шыдкі Іван». Тады бяда, не паспявае чалавек за куст бегаць.

Добра, што ў вёсцы прыдбалі колькі пляшак самагонкі. Выпівалі для «дэзынфекцыі». Пасля двухтыднёвай галадоўкі гарэлка ачышчала нутро.

Разумелі аднак, што доўга заседжвацца ім на гэтым месцы нельга. Селянін, якога яны адпусцілі дадому, да дзяцей, на допыце ў жандармерыі пад страхам расстрэлу вымушаны будзе ва ўсім прызнацца, і карнікі не прапусцяць выпадку, каб не зрабіць на партызанаў чарговую аблаву. Толькі дзеля гэтага давядзецца сабраць ім большую сілу. Значыць, раней наступнага дня чакаць іх не трэба. Быў яшчэ нейкі час, каб дзе падзець частку набытых прадуктаў. Іх прыхавалі ў яме, выслаўшы дол ядлоўцам і яловымі лапкамі. Старанна замаскіравалі. Атрымаўся неблагі тайнік, пра які можна было ўспомніць у патрэбны момант. Цяпер можна было кіравацца ў тое Міжбор'е, балазе яно знаходзілася ўжо недалёка. Але спатрэбілася яшчэ цэлая ноч, каб дабрацца да гэтага месца. Прывалакліся толькі на другі дзень пад абед. Нейкі час кружылі вакол і нарэшце спыніліся, дзе лес быў гусцей, ля падножжа невялікай выспы. Змарыліся, але адпачываць не было калі. Трэба было схаваць людзей ад зімовай сцюжы, хоць збольшага наладзіць штодзённае існаванне.

— Таварышы, наша месца тут, — звярнуўся камандзір да грамады. — Трэба прыкінуць, дзе і як абсталявацца. Мяркую, што з таго, паўночнага, боку выспы — ён менш кідаецца ў вочы — можна было б выкапаць добрую зямлянку і падцягнуць прадуктаў з нашых складоў.

— І крынічка там ёсць, — дадаў Бережняк, — за выспай.

Так і вырашылі. Прылады, каб выкапаць і абсталяваць зямлянку, у дадатак да тых, што ўзялі ў той вёсцы, куды наведаліся, пазычылі яшчэ і ў Міжбор'і, у каваля, з якім быў знаёмы Мурашка. Дастаўшы прылады, тут жа пачалі капаць яму пад партызанскую «хату». Папярэдне ўсё спланавалі і ўзяліся за работу. Адны капалі мёрзлы дол, штурмуючы яго кіркамі і лапатамі. Іншыя пілавалі сосны на абладжванне сцен і столі. Зацята вухкалі сякеры. Выдзіралі з-пад снегу мох і дзеразу і перакладалі імі бярвенні. Працавалі дружна, ад цямна да цямна, і на спачын леглі ў сваім доме, выставіўшы варту. Маскіроўку новага жытла пакінулі на заўтра.

У жыхароў Міжбор'я знайшлася і цэгла, з якой склалі печку. Добрая атрымалася печка — і грэла, і хлеб пякла, і іншую якую страву варыла, і не дыміла. Збілі, козламі, стол. Пад ножкі паклалі таўставатыя сасновыя трэскі — для ўстойлівасці. Паставілі нары ў два паверхі, каб усім хапіла месца прылегчы.

Хутка ўсчаліся завеі і зямлянку да верху завалілі снежнымі гурбамі, так што не спатрэбілася і маскіроўка. Але варту выставілі.

У такіх умовах можна было і зімаваць. 1942 год цягнуўся марудна і доўга, але нарэшце тэрмін яго завяршыўся. Наступіў новы, 1943-ці. Невядомы, неразгаданы і таямнічы. Новы год — які ён будзе? Гэтага не ведаў ніхто, заставалася толькі гадаць і на нешта спадзявацца.

Спадзяванні, трэба сказаць, былі, і моцныя. Пад Сталінградам у палон трапіла цэлая армія пад камандаваннем фельдмаршала Паўлюса. Сам фельдмаршал таксама палічыў за лепшае здацца. Савецкае наступленне не слабела, яно развівалася далей, але немцы яшчэ трымалі ў сваіх руках аграмадныя тэрыторыі. І ледзь заўважнай кропкай на гэтых тэрыторыях была акрытая тоўстымі снежнымі сумётамі іхняя лясная зямлянка каля невялічкай вёскі Міжбор'е…

Каб забяспечыць жыццядзейнасць атрада, трэба было перш за ўсё даставіць сюды правізію з тых складоў, якія абсталявалі яшчэ восенню.

— Хто ў нас рабіў закладку каля Бабровага Мосту? — спытаў Косця. — Пачнём з яе. Потым праверым астатнія.

— Мы! — адгукнуўся Грышка. — Мы з Калодай і Зіпуновым. Зіпунова ўжо няма.

— Няма, — уздыхнуў той-сёй з прысутных.

— Бонк яшчэ дапамагаў.

— Дык вось вам заданне. Бярыце людзей і ідзіце ў Бабровы Мост за прадуктамі. Колькі людзей вам спатрэбіцца?

— Чалавек дзесяць, думаю, дастаткова, — падказаў Бражняк, які стаяў побач з камандзірам.

— Дванаццаць, — удакладніў Грышка. — Цяжка будзе несці, вага немалая.

— Хай дванаццаць, — згадзіўся камандзір. — Праз тры дні даложыце аб выкананні задання!

Група з Грышкам на чале накіравалася ў Бабровы Мост.

Сталі чакаць, але вярнулася яна раней, чым меркавалі. Грышка і яго людзі выглядалі хмурымі і злымі. Лясныя склады аказаліся пустымі. І не толькі пустымі, але і разбуранымі. Атрад спадзяваўся, што таварышы прынясуць харчоў, а можа і самагонкі, каб хаця б збольшага разагрэць застылае нутро і ўзняць настрой, а тут, маеш: дуля пад нос! Значыць, нехта апярэдзіў і сам пакарыстаўся партызанскімі запасамі або выдаў іх ворагу. Але хто? Ляснічы? Склад каля Бабровага Мосту, напэўна, мог знайсці ён. Тады партызаны надта спяшаліся і дрэнна яго замаскіравалі, засталася неасцярожна пратаптаная сцежка, спіленыя дрэвы, якімі яны пазначылі месца схову. Тоўстыя камлі так і засталіся ляжаць каля пнёў — не хапіла ўжо сіл, каб адцягнуць іх кудынебудзь у іншае месца. Гэта каля Бабровага Мосту. Але ж іншыя харчовыя запаснікі, раскінутыя на адлегласці дваццаці і болей кіламетраў па лясной гушчэчы, — хто іх мог знайсці?

Паслалі Свісціяна з Маркелам і людзей з імі ў Старавольскі сервітут, дзе тайнік абладавалі зусім нядаўна. І там той жа вынік — пуста і разбурана.

Ноччу Косця не мог заснуць. Людзі спалі, а ён ляжаў разам з усімі на нарах і, падпёршы шчаку кулаком, думаў пра тое, што здарылася. У зямлянцы было парна ад сырой адзежыны і гарачага чалавечага дыхання. Памяшканне прапахла тытунёвым дымам, але па звычцы гэта ўжо не заўважалася. Хіба калі зойдзеш са свежага паветра. Слабое святло лямпы пры ўваходзе слаба пазначала аблічча спячых. Неадчэпная думка свідравала свядомасць: «Хто гэта мог быць? Хто так жорстка абышоўся з імі? Не, аднаму такое не пад сілу, нават калі гэта ляснічы, які добра ведае лес па ўсёй акрузе. Тады чыіх гэта рук справа? Значыць, у атрадзе ёсць здраднік? Дажыліся! Мала таго, што ціснуць карнікі, дык яшчэ і сярод сваіх ёсць здраднік! Хто гэта?» Ён усхапіўся, сеў на нары. Падышоў да лямпы і ўзняў яе над галавой, каб лепш бачыць тых, хто спаў. Партызаны моцна спалі, шчыльна прыціснуўшыся адзін да аднаго.

— Каторы? — роспачна шаптаў ён засмяглымі вуснамі, але адказу на гэтае пытанне не знаходзіў.

Раніцай Косця сабраў атрад. Настрой партызанаў быў панылым. Твары ва ўсіх схуднелыя, з запалымі шчокамі. Ужо каторы дзень жылі на адных сухарах і крынічнай вадзе.

— Таварышы, што ж нам рабіць? — звярнуўся камандзір за парадай да падначаленых. — Самі бачыце, якая склалася сітуацыя.

— Найперш трэба правучыць гэтага ляснічага! — падаў прапанову Свісціян, ён быў настроены вельмі рашуча. — Сволач!

— Гад! — падтымалі іншыя.

— Ш-шакал! — кінуў Кубартаеў.

— Правучыць! Паставіць да сасны! — загарачыўся разам з усімі і Маркел.

— Гэта можна, — згадзіўся камандзір, — але ляснічы ад нас не ўцячэ. Цяпер пра іншае трэба думаць. Калі немцы абчысцілі і разбурылі нашы склады, то яны, безумоўна, ведаюць, што мы недзе тут недалёка і знаходзімся. Мяне нават здзіўляе, што нашы — Грышка з таварышамі — не трапілі ў нямецкую засаду. На месцы гестапа я дзень і ноч трымаў бы засаду ля гэтых лясных схованак! Вядома ж, раней ці пазней хтосьці з партызанаў прыйдзе за хлебам і салам. Дык вы, таварыш Пішчык, кажаце, што засады не было і ніхто вас нават адным стрэлам не напалохаў?

— Так точна, таварыш камандзір! — адгукнуўся Грышка. — Ніводнага стрэлу не чулі! Усюды было ціха.

— Усё гэта вельмі дзіўна, — Косця пакруціў галавой і дапытліва паглядзеў на Грышку.

Беражняк прыкінуў яшчэ адну магчымую версію таго, што здарылася:

— А можа, гэта не немцы раскрылі нашы тайнікі, а сяляне з навакольных вёсак? Можа, мужыкі пагаспадарылі?

Усе ведалі, што такога не магло быць. Сяляне, калі б і пакарысталіся прадуктамі, не разбуралі б сховы. А па-другое, нават калі б хто з сялян і адкрыў хоць адзін з гэтых складоў, то ніколі б не адважыўся адбіраць у партызан харчы, асуджаючы іх на голад.

— Значыць, ляснічы з карнікамі, — адназначна вырашыў Косця. — Разведаўшы нашыя сховы, яны могуць дабрацца і да нас! Могуць прыхлопнуць увесь атрад. Значыць, трэба асцерагацца, трэба пра нешта думаць…

— Найперш людзей пакарміць трэба, — сказаў Калеснікаў.

— Бо з галоднага такі ж ваяка, як з вінтоўкі кацюба[1], — дадаў Мурашка.

Іншым разам усе б пасмяяліся з яго дасціпнага параўнання, але цяпер для смеху не ставала сіл.

Косця зірнуў у бок Калеснікава і Мурашкі і хацеў зрабіць строгую заўвагу, каб не перапынялі, калі гаворыць камандзір, але, убачыўшы сум і галодны бляск у вачах падначаленых, не стаў гэтага рабіць.

— Я ж пра тое і кажу, як нам выйсці са становішча, — замест заўвагі сказаў ён.

— Вепрука трэба недзе расстарацца! — падаў думку Грышка. — Кормніка! Тады б хапіла на якіх пару тыдняў.

— Тут хаця б кіпяточку! — азваўся адзін з навенькіх, што былі прынятыя ў атрад у апошні час. Прозвішча яго было Цыбуля. Яшчэ нядаўна ён працаваў у цырульні, у Высокім, галіў і падстрыгаў нямецкіх афіцэраў. Адначасова з'яўляўся партызанскім сувязным. Выдаў правакатар, але Цыбуля паспеў унікнуць небяспекі.

— Кіпяточкам сыт не будзеш, — абсек яго Бонк.

Зноў загаварыў Мурашка:

— Як на мой погляд, можна было б узяць там, дзе радыё бралі. Я тады чуў, як у яго ў хляве свінні рохкалі. А што? Жандараў і паліцаяў у вёсцы няма. Яны ў сельсавеце, у Ратайчыцах, за пяць кіламетраў. Так што, я думаю, гэта не складана: узяць вепрука, там, на месцы закалоць і прывезці на санках.

[1] Кацюба — качарга (мясц.).

Усе маўчалі, чакалі, што скажа камандзір. Косця крыху павесялеў.

— А што? Мне здаецца, што гэта ідэя! — Ён абвёў вачыма падначаленых.

— Ідэя! — згодна азваўся Бонк.

— Солтысам там, здаецца, Даніла Смык. Неблагі чалавек, я яго крыху ведаю, — працягваў Мурашка. — Ён будзе маўчаць. А Шпронька нікуды не дзенецца, аддасць.

Для выканання задання прызначылі людзей. Пайшлі, дачакаўшыся ночы, учатырох: Кубартаеў, Мурашка ды Свісціян з Маркелам. Кубартаева прызначылі старшым па камандзе. Прасіўся ў групу і Санька Растатуеў, хацелася, відаць, убачыць прускаўскую Маняшу. Можа, думаў, пашанцуе. Але камандзір не дазволіў: «Не варта, — сказаў Косця, — каб там ведалі, што ты ў партызанах».

Ішлі ціха, адзін за адным, не размаўляючы. Скрозь туманную імглу бялела марознае неба. Пасля зямлянкі адчуваўся холад, цела праймалі дрыжыкі. Навокал у зімовай шэрані бялелі палі. Мурашка і Свісціян добра ведалі дарогу, выбіралі палявыя сцяжыны, абыходзілі паселішчы. У полі снегу меней, але таксама хапала. Снег правальваўся, па ім цяжка было брысці. Адолелі некалькі яроў і рачулак, засыпаных снегам.

— Падцягнісь! — падаваў голас Кубартаеў.

Надвор’е між тым пачало мяняцца. Цёмныя хмары шчыльна зацягнулі неба, і цяпер яно здавалася нізкім і змрочным, прыціскала да зямлі.

Свісціян дастаў з кішэні гадзіннік, прыгледзеўся пры месячным святле.

— Гадзіна ночы!

Пакуль ішлі, у Мурашкі саспеў план, і ён падзяліўся ім з Кубартаевым і астатнімі таварышамі.

— Да солтыса не заходзіць, а адразу наведацца да Міколы Шпронькі. Гэта заможны гаспадар, хлеў у яго не пусты.

Усе з гэтым згадзіліся.

— Нешта канец носа свярбіць, — сказаў Свісціян і пачасаў нос.

— Значыць, вып’еш, — абнадзеіў Маркел.

## III

Так і зрабілі. У вёску зайшлі з таго канца, дзе жыў Шпронька. Дарэчы, яго хата была самая крайняя, агароджаная высокім плотам. «Ого, абгарадзіўся! Тут і птушка не праляціць», — шморгнуў носам Маркел.

Цераз плот пералезлі ў сад. Усё навокал замецена снегам. У голым веццi садовых дрэваў скуголіў вецер. Праз веснічкі зайшлі на падворак, пастукалі ў шыбу. Раз, другі і трэці, але ніхто не адклікаўся.

— Спіць як пшаніцу прадаўшы! — абурана прамовіў Свісціян і злосна плюнуў. — Ну, зараз ты ў мяне паспіш!

— Чуе, але выгляду не падае, — ціха сказаў Мурашка і пакруціў галавой. — Я яго манеру ведаю. Пранырлівы. Як лінь!

І толькі калі Свісціян грукнуў у дзверы адначасова ботам і кулаком, твар гаспадара асцярожна вызірнуў з-за шыбіны. Убачыўшы ля хаты ўзброеных людзей, Шпронька апрануў на плечы кажух і пайшоў адчыняць. Загрымела завала.

— Хто? — спытаў былы лавачнік і паўглядаўся ў цемень ночы. — А, гэта ты, Мурашка? — пазнаў ён былога міліцыянера. Шпронькаў твар расплыўся ў ветлівай усмешцы.

— Я.

— Дык свае? — Шпронька перавёў погляд на Свісціяна, які вылучаўся з усёй групы сваёй мядзведжай постаццю: — І ты, Свісціянка?

Свісціян паглядзеў на яго з-пад ілба і нічога не адказаў. Пасвістваў вецер, пагражаючы завірухай. Шпронька зябка хутаўся ў доўгі кажух і глыбей насоўваў зімовую шапку.

— Немцаў няма? — спытаў Маркел.

— Быццам і няма.

— Давай кабан! — выступіў наперад Кубартаеў, якому, як і ўсім, не цярпелася хутчэй вырашыць справу.

Шпронька палахліва зірнуў на яго нізкалобы і шыракаскулы твар і зрабіў выгляд, што не разумее, пра што ідзе гаворка.

— Які кабан?

— Той, што ў хляве! — растлумачыў Свісціян і паправіў на плячы сваю СВТ.

— Дык я на мінулым тыдні закалоў. Яй-богу!

— Не бажыся, а то кроў носам пойдзе! — не ўтрымаўся, каб не прыгразіць, Свісціян. — Людзі гібнуць, а ты падсвінка шкадуеш?! Так, ядрона вош?

— Што нам, з голаду здыхаць? — абурана сказаў Маркел, не задаволены працягласцю гаворкі і тым, як паводзіў сябе гаспадар.

— Я думаю, Мікола, што ён у цябе не апошні! — павысіў голас Мурашка.

— Дык, таварыш Мурашка, як так? Той раз вы ў мяне радыё забралі, а цяпер вепручка хочаце. За што ж я ў вас правініўся? Я, можна сказаць, свой.

— Твая многа балтай! — буркнуў Кубартаеў. — Зачэм балтаеш? Нада дзела дзелаць! — ён паляпаў пальцамі па ствале аўтамата. — Немцам кабан даёш?!

Шпронька як чалавек не дурны хутка зарыентаваўся ў абстаноўцы. Вядома, шкада было свайго дабра, бо плаціць ніхто, здаецца, і не збіраўся, але нічога не зробіш, давядзецца аддаваць.

— Ну што ж, раз такая справа, ідзіце ў хлеў, бярыце таго, другога! Толькі каб немцы, крый божа, не даведаліся…

Як і ўсе вяскоўцы, немцаў Шпронька баяўся больш за ўсё. Калі дазнаюцца, могуць быць вялікія непрыемнасці. Сувязь з партызанамі каралася расстрэлам.

— Немцам самім скора крышка! — запэўніў Кубартаеў, разумеючы апасенні гаспадара. — Кабан ім не дапаможа.

Чутно было, як у хляве трывожна рохнула свінчо, нібы ўслухоўваючыся ў іх гаворку і прадчуваючы нешта нядобрае. Свісціян, не марудзячы, скінуў з пляча вінтоўку, шморгнуў носам і накіраваўся ў хлеў, на гэтае рохканне.

— Стой! — спыніў яго Маркел. — Нашто лішні шум? Хочаш, каб у Ратайчыцах пачулі? Гаспадар! — звярнуўся ён да Шпронькі. — Давай швайку! Я яго без шуму пакладу...

Шпронька сходзіў у хату і вярнуўся з доўгай, падобнай на востра натачанае шыла, швайкай, якой звычайна карысталіся ў падобных выпадках. Свісціян ведаў, што сябар надта спрытна ўмеў управіцца з гэтым інструментам, ледзь дакранецца — парсюк брык і ляжыць. І ніякага шуму. Не патрэбен нават мяшок з мукой, які апошнім часам практыкавалі па вёсках.

Маркел узяў швайку і, папрасіўшы Мурашку патрымаць вінтоўку, разам са Шпронькам падаўся да хлява, астатнія — за імі. Гаспадар адчыніў хлеў,

запаліў чорны ад копаці ліхтар. Кормнікі — іх было двое — паднялі галовы і яшчэ грамчэй зарохкалі, заскігіталі.

Маркел выбраў большага, пудоў на дзесяць, пачухаў вепрука за вухам, чым, мабыць, прывабіў жывёліну і як бы загіпнатызаваў. Затым мякка паваліў на бок і амаль непрыкметна ўсадзіў пад лапатку швайку. Кормнік, здзіўлена чмыхнуўшы, асунуўся на салому. Праз колькі хвілін усё было гатова, вяпрук захроп і аціх.

— А як вы яго? Панесяце ці як? — разгублена запытаў Шпронька, чухаючы патыліцу. — Ён жа цяжкі, пудоў з дзесяць.

— На санях! — кінуў у яго бок Мурашка.

— Дык у вас і сані ёсць? — здзівіўся былы лавачнік.

— Не ў вас, а ў цябе! — патлумачыў Свісціян.

— У мяне? А як жа я?

— Хазяін, паедзеш з намі! — распарадзіўся Кубартаеў, наставіўшы на Шпроньку свае раскосыя вочы. — Давай запрагай! Быстра!

Шпронька зусім разгубіўся:

— Я?

— Вернешся! Не бойся! Я табе гавару.

— Не, я стары! Калі так, то хай лепш пленны, прыпіснік! Ён малады. Як бы ў лес па дровы! Давязе, куды трэба, і назад вернецца! Ён чалавек з галавой!

— Ну, ладна! — згадзіўся Кубартаеў. — Давай прыпіснік! Дзе ён?

— Дзе ён у цябе? — паўтарыў Свісціян, грозна наступаючы.

Прыпіснік спаў у клуні, і яны пайшлі туды. Шпронька хутка пабудзіў хлопца, і той у момант апрануўся і спусціўся з адрыны. Гэта быў яшчэ зусім малады хлапчына, гадоў дваццаці, круглатвары і хударлявы ў шэрай саматканай кашулі. Плечы акрываў старэнькі кажушок без гузікаў. Ашклянелымі ад страху вачыма пазіраў на абчапляных зброяй незнаёмых, намагаючыся зразумець, хто яны. Баяўся, відаць, і сваіх, і чужых.

— Ты што? — спытаў Кубартаеў.

Хлапчына замяўся.

— Я пры хазяіне.

— Акружэнец?

— Так точна.

— Паедзеш з намі. З коньмі ўпраўляешся?

— Так точна.

— Запрагай коней у развалы! — загадаў гаспадар, зябка хутаючыся ў кажух. Кажух быў тоўсты і цёплы, са стаячым каўняром. — А след? — раптам спахапіўся ён. — Застанецца след! А вы ж ведаеце!..

Мурашка махнуў рукой:

— Ці мала хто на санях ездзіць… Па дровы. Мала што…

— Здараецца, — шапялява прамовіў Маркел і дадаў: — Завіруха збіраецца, заваліць след.

Сані-развалы хутка былі запрэжаныя параю коней, і акружэнец пад’ехаў пад хлеў. Пагрузілі вепрука і накрылі радном.

— Цяжкі, халера на яго! — вылаяўся Свісціян. — Укарміў!

— Каб не прапаў, не забудзьце тое-сёе пракапціць! — параіў Шпронька. — Каб не сапсавалася! А то шкада будзе.

— Не сапсуецца! — адгукнуўся Свісціян. Ля носа ў яго выразна пазначыліся глыбокія прагныя складкі. Адчуваў ужо, пэўна, смак свежаніны.

— Каб на спажытак! Вайна, відаць, не заўтра скончыца, дык каб было чым падмацавацца. Вепручок — добры! — гаварыў Шпронька, рады, што начныя госці збіраюцца яго пакінуць.

— Хазяін, а чарку не паднясёш? — ціха сказаў Кубартаеў.

Шпронька быццам бы не зразумеў ці не пачуў.

— Самагонка ёсць? — гучна прадубліраваў камандзірскае пытанне Свісціян, дападлівы да гарэлкі.

— Я думаю, што ёсць, — упэўнена азваўся Маркел.

— Ну, можа пляшка якая засталася, — паціскаючы плячыма, прызнаўся былы лавачнік. — Гляну!

— Нясі!

— І закускі! — напомніў Свісціян, калі Шпронька быў ужо на ганку. — А то жывот да спіны прысох! Хутчэй, ліха яго матары!

Самагонка была моцная, пяршак. Спяшаючыся, пілі з гарла. Першым выпіў Кубартаеў. Паморшчыўся.

— Кізілавая настойка смачней, — сказаў ён, перадаўшы бутэльку Свісціяну.

Свісціян выпіў і прытуліў рукаў да носа.

— Нездарма мне кончык носа свярбеў, — успомніў ён. — На, лыгні глыток! — працягнуў бутэльку Мурашку.

Выпіў і Маркел. Закусвалі хлебам і салам, якія вынес гаспадар. Крыху, за кампанію, як ён сказаў, прыгубіў і сам Шпронька. У хату не заходзілі. Стаялі на падворку, каля клуні. Снежныя пушынкі мякка студзілі і песцілі разгарачаныя твары.

У Кубартаева з ватоўкі тырчэла вата.

— Каб як зашыць! — паспачуваў Шпронька.

— Няма часу! — абарваў яго Маркел.

— Хлопцы! — цягнуўся да партызанаў крыху ахмялелы Шпронька, рады ад таго, што ўсё адбылося не самым горшым чынам. — Я ўвесь ваш! Гаспадарка — гэта толькі прыкрыццё…

Ніхто не пытаў, што ён меў на ўвазе, якое такое прыкрыццё. Зрэшты, гэта нікога і не цікавіла, ды і часу не было.

Пачынала шарэць. У санкі паслалі саломы, каб ямчэй было ехаць.

— Усё! — замітусіўся Кубартаеў. — Уходзім!

Яны рушылі да развалаў, на якіх ляжаў укрыты радном і саломай вяпрук і ўжо сядзеў з лейцамі і пугай у руках прыпіснік. Прыладзіліся хто дзе. Прыпіснік, падперазаны па кажуху сырамятным рамянём, цмокнуў, торгнуў лейцамі, развярнуў коней.

— Ну, упярод! — скамандаваў Кубартаеў.

Сані крануліся з месца, зарыпеў снег пад стальнымі палазамі.

— Абсмаліць не забудзьце! — наўздагон гукнуў Шпронька. — Ды нагар абскрэбсці! Каб на спажытак!

На яго словы ніхто нічога не адказаў. Можа нават і не пачулі. Пачалі перамаўляцца паміж сабой.

— На санках лепш, чым пешкі, — адзначыў Маркел і дадаў: — Я дык ушчэнт змарыўся, крыху падрамлю.

— Ты што? На заданні драмаць? — павярнуўся да яго Свісціян. — Я табе падрамлю! Заснеш — з развалаў выкіну! Калі што, дык каб напагатове быў!

— Твая гаворыць правільна! — пахваліў Кубартаеў.

За Шпронькавай клуняй рос цэлы бярозавы гай. За гаем іх сустрэла поле, і яны пакіравалі ў бок Бярэзіны, на поўнач. Тут, на прасторы гаспадарыў вецер. Паводзіў сябе як хацеў: дыхаў у твар калючым холадам, узлахмачваў снег, ціснуў да зямлі хмары. А калі раптам паваліў густы снег, дык усчалася сапраўдная завіруха, падвышаючы і без таго пульхную снежную пасцель.

— Добра! Слядоў не будзе! — радаваўся Мурашка. — Паганяй!

Ехалі па бездарожжы, але коні цягнулі шпарка, і ўсё складвалася як найлепш. Коні былі ў парадку, беглі, разрываючы забітую снегам імглу. Вознік не шкадаваў жывёлін, увесь час круціў над імі пугай. Пасля Шпронькавай пачосткі ўсе адчувалі сябе на добрым падпітку, ад гарэлкі гарачылася кроў, хоць знешне гэта і не заўважалася. Праймаў вецер, студзіў, вяртаў у норму. Хаваючыся ад ветру і вільгаці, паднялі каўняры.

Павесялелы ад гарэлкі Кубартаеў размаўляў з прыпісніком.

— Як фамілія? — спытаў ён.

— Храбрых.

— Як?

— Храбрых.

— Храбрых? — падзівіўся Свісціян. — Лжэш! Не можа такога прозвішча быць! І нешта не паказваеш ты на смелага…

— У хазяіна жыву, — адказаў Храбрых, нібыта гэта магло тлумачыць асаблівасці яго паводзінаў.

— Званне? — зноў спытаў Кубартаеў.

— Радавы.

— А адкудава?

— З Арзамаса.

— Чуў, — пасміхнуўся Кубартаеў. — Там, гавораць, цыбулі шмат.

— Цыбулі шмат, — згадзіўся Храбрых.

— Цыбулі шмат! Гы-гы! — хмыкнуў у вусы Свісціян і зарагатаў: — Цыбулі шмат! Ну, ты даеш!

— А дзе служыў? — умяшаўся ў размову Мурашка.

— Я сувязіст, пры сувязі. Служыў у Брэсце, у Паўночным гарадку. Чуем — выбухі, зямля дрыжыць. Я са сваім напарнікам выскачылі з зямлянкі і давай бегчы, але над намі паявіліся нямецкія самалёты. Адзін з іх развярнуўся, спусціўся нізка і застракатаў па мне з кулямёта. Я з тэлефонам упаў у невялікае паглыбленне на ўзвышшы, самалёт развярнуўся зноў, наляцеў на мяне і зноў сlibanуў. Я скурчыўся, падабраў ногі пад сябе. Сцярвятнік ізноў паўтарыў сваё некалькі разоў, праляцеў нада мною, так што ад куляў у мяне вочы засыпаліся пяском, але ні адна ў мяне не трапіла. Калі самалёт адляцеў, я падняўся, але на нагах не мог стаяць — нейкі курч схапіў, не вытрымалі нервы. Трохі паляжаў, супакоіўся і ўсё ж такі стаў. Недалёка ляжаў мой напарнік. Я падышоў да яго і пераканаўся, што ён ужо не ўстане. Баец быў увесь у крыві. Мяне, ведаеце, агарнуў страх. Выйшаў на дарогу і ўбачыў некалькіх нашых пагранічнікаў. Папрасіў іх, каб яны ўзялі мяне з сабою, не пакідалі. Такім чынам я з пагранічнікамі дабраўся да Відамля. Каля шашы стаяла зялёная чырвонаармейская палутарка. Зусім цэлая. Здавалася, сядай і язджай. Бензін кончыўся! Мы — што дзелаць? Пракалолі пакрышкі, парвалі электраправодку, свечы закідалі пяском і пайшлі далей. Ішлі лясамі, хаваліся. Патом — плен. Ужо за Жабінкай акружылі нас на матацыклах. Патом — пабег. Скітаўся. Дружка сустрэў. У адным месцы ўзялі лапаты, быццам з работы вяртаемся, і пайшлі па шашы прама на Кобрын — там у мяне былі знаёмыя. На

паліцаяў натрапілі. У чорным яны, з белымі павязкамі. Ну, агрэлі іх лапатамі, але забіваць не сталі. Адзін мне вінтоўку даў, другі таварышу майму радыё ўступіў. Прыёмнік. Потым мы з таварышам расталіся, пайшлі ў розныя бакі. Цяпер вось Мікалай Фаміч узялі.

— Ну і хмыр твой хазяін! — адзначыў Кубартаеў.

— Чаму?

— Хітры.

— Дык ён жа вам кабана аджалеў… — павярнуўся ў яго бок Храбрых.

— Ага! Паспрабаваў бы не аджалець! — абурыўся Свісціян. — Я б яго самога закалоў.

— Словам, і табе перажыць давялося! — паспачуваў Мурашка вазаку. — І калі ў плен папаў, і калі да Шпронькі трапіў.

— Давялося, ой, давялося! Рознае здаралася, усяго паспытаў. Цяпер кожнага тыдня хаджу ў Ратайчыцы мельдавацца, а ці вярнуся — не ведаю.

— Ну і што ты збіраешся рабіць у далейшым?

— Думаў, як да вас падацца. Сувязі шукаў. Прыходзілі з лесу за радыёпрыёмнікам, але мяне тады дома не было, а так бы папрасіўся.

— Ну што ж, рашэнне правільнае, — ухваліў Мурашка.

Згадзіліся з гэтым і астатнія.

— Не прагадаеш, — сказаў Маркел.

Храбрых азірнуўся, кінуў вокам на сваіх пасажыраў:

— Відаць, не саладка цяпер у зямлянцы?

— Дык вясна скора! — зноў пасміхнуўся Кубартаеў. — Глядзі, каб позна не было.

Ехаць у развалах нязручна: увесь час даводзіцца ляжаць альбо паўляжаць, таму партызаны пастаянна варочаліся, тулілі ў каўняры твары. Завіруха мацнела, перашкаджала размаўляць. Навокал яшчэ больш памутнела. Прапала ўсё — і месяц, і зоркі, і сонца. Невядома нават, у якім баку яно мелася ўзыходзіць. Сцяна снегу стала непрагляднай. Пачалася такая дуйка, што здзірала з галоў вушанкі.

— Наша надвор’е, партызанскае! — азваўся Свісціян. У галаву яму, відаць, болей, чым іншым, ударыў хмель, ён час ад часу беспрычынна рагатаў. Магчыма, з Храбрых і яго прозвішча.

— Глядзі, а то снегам засячэ! — жартаваў Маркел, таўхаючы сябра пад бок.

Вознік прыспешваў коней.

— Неспакойна нешта на душы… — прызнаўся ён, кідаючы погляд то ў адзін, то ў другі бок.

— Плюта такая — не дай бог! Такога яшчэ не было! — занепакоіўся і Мурашка, часта міргаючы вачыма.

— Усё было! — пярэчыў яму Свісціян. — Было і будзе! Паганяй!

— Халадзіна! — паскардзіўся Кубартаеў і, каб сагрэцца, саскочыў у снег, пабег побач, трымаючыся за сані. Потым колькі разоў ударыў сябе наапашкі рукамі. З яго бралі прыклад іншыя, саскоквалі па чарзе, напераменку, і беглі побач, па абодвух баках, пакінуўшы зброю ў санях, разміналі ацёкшыя ногі. Разам з усімі бег і Маркел. Адзін толькі Свісціян нерухома сядзеў, падняўшы каўнер і засунуўшы рукі ў рукавы. Быццам пра нешта думаў.

Праз нейкі час уехалі ў лес. Завіруха тут не галёкала, але сумёты ўзнімаліся высока. Па лесе ехалі марудна. Коням было цяжка. Натужна дыхаючы, яны амаль па самае бруха правальваліся ў снег, насцярожана фыркалі і ўжо ледзьве перастаўлялі ногі. Нібы нешта іх стрымлівала.

— Лес, кругом лес, — нібы паскардзіўся Кубартаеў. — А ў нас стэп. Ні канца, ні краю! Авечкі ходзяць. Коні. А восенню перакаці-поле валіцца. Клубамі! Ха-ра-шо! Кумыс пей! Чай пей! Харашо!..

Але да Кубартаева ўжо ніхто не прыслухоўваўся. Назіралі за дзіўнымі паводзінамі коней: яны спыніліся як укопаныя і ані з месца. Вознік торгаў за лейцы, панукаў, махаў пугай, але коні стаялі, фыркалі, асаджвалі развалы назад. Першым усхапіўся Мурашка:

— Дзе мы?

Навокал стаяў чужы, незнаёмы лес, ахутаны ранішнім моракам. На ўсім непарушна ляжаў снег.

— Тут хутар павінен быць непадалёку. Крымянка! — прыкінуў, ачнуўшыся, Свісціян, які быў ужо добра задрамаў.

— Дзе ж яго цяпер знойдзеш! — падаў голас Маркел. — Не чутно, каб сабакі брахалі.

І тут здарылася неверагоднае, чаго ніхто не чакаў. Шумна фыркнуў конь, запрэжаны злева. Правы адказаў яму іржаннем. Адзін і другі фыркалі і насцярожана вадзілі вачыма і вушамі, як бы прыслухоўваючыся да таго, што адбывалася недзе паблізу. Той, што быў запрэжаны злева, зайшоўся нейкім хрыплым, працяглым кашлем. Па белым сумёце каўзанулася чыясьці прыгорбленая постаць. Вознік прыўзняўся з каленяў, паказаў пугай упярод, на закіданы снегам купчасты ядловец.

— Нешта там свеціцца, аганькі нейкія… — ціха, амаль шэптам, сказаў ён.

Усе паўзіраліся туды, куды ён паказваў. Нешта там было. Спачатку яны падумалі, што гэта сабакі, але хутка зразумелі: дарогу перагарадзілі ваўкі. Шэрыя ў начным мораку, яны сядзелі на задніх лапах, нюхалі паветра і спасцярожліва ўглядаліся ў падводчыкаў. Раз-пораз, задзіраючы галовы ўгору, пачалі на ўсе лады выць. Кінуліся ў вочы іх вострыя вушы, высунутыя з пашчаў языкі і бязлітасна выскаленыя зубы, якія дапаўнялі і ўзмацнялі і без таго жахлівы выгляд лясных драпежнікаў.

— Як карнікі! — прашаптаў Мурашка. Яму ніхто нічога не адказаў, хоць усе адразу працверазелі.

Падводчыкі затаілі дыханне, назіраючы за тым, як ваўкі, седзячы, узняўшы холкі, пачалі перабіраць у паветры пярэднімі лапамі, нібы пачулі нейкую музыку ці дырыжыравалі нябачным аркестрам.

Кубартаеў успомніў, як калісьці ў дзяцінстве вучыў дзед: «Калі на цябе напалі ваўкі, знайдзі паміж іх ваўчыцу і глядзі, не мігаючы і не адварочваючыся, ёй у вочы, не кратайся з месца, ва ўпор глядзі! Тут хто чый пагляд вытрымае. Калі вытрымаеш ты, дык яна адступіць і пойдзе і гайню за сабой павядзе». Коні хрыпелі і ўсё адступалі, адсоўваліся і раптам здалі назад так, што затрашчалі аглоблі.

Ваўчыцу Кубартаеў так і не ўгледзеў. Драпежнікі між тым працягвалі падвываць, насцярожліва блішчэлі ваўчыныя вочы, нібы ацэньваючы сваю здабычу, якую яны напаткалі ў гэтым лесе.

«Вяселле ў іх ці што?» — не мог даўмецца Свісціян. Яшчэ раз агледзеўшы ваўчыную гайню, палахліва загаманіў:

— Вяселле ваўчынае! Вунь і ваўчыха сядзіць, гэта яна ўсіх сабрала. Гайню цэлую! Эх, зараза! — У дадатак ён брыдка мацюкнуўся.

Цяпер і Кубартаеў убачыў ваўчыцу, шырэй адкрыў вочы і паспрабаваў сустрэцца з ёй поглядам, але ваўчыца не звяртала на яго аніякай увагі.

— Свежыну пачулі, няйначай! — дацяміў Маркел. — За вайну іх тут шмат развялося. Галодныя! На кабана нацэліліся…

— На якога кабана?! — не сцярпеў, зашыпеў Свісціян. — Яны на цябе нацэліліся! Не той дарогай паехалі! — Ён павярнуўся да фурмана: — Гэта ты, Храбрых, спецыяльна падстроіў!

— Ды вы што?! — узмаліўся align вознік. — Я тут ні пры чым!

З лесу паважна выйшаў яшчэ адзін мацёры воўк, спыніўся каля ваўчыцы. Кубартаеў дастаў з-за плячэй свой «шмайсер» і, заціснуўшы яго ў руках, кінуў вачыма на падводчыкаў:

— Што будзем рабіць?

— Вяртацца? — разгублена і няўцямна запытаў Храбрых, да Кубартаева.

— Ты што! — ашалела сыкнуў на яго Мурашка. — Ні ў якім разе! Даганяць і парвуць! Нахабнасці ім не пазычаць, асабліва ў гэты час, у лютым…

Коні ўсё больш адступалі, станавіліся на дыбы, стрыглі вушамі. Сітуацыя абвастралася. Ваўчынае выццё перайшло ў скавытанне. Лютыя агеньчыкі мільгалі ў вачах драпежнікаў, яны ўсё больш смялелі. Вочы ваўчыцы ажно гарэлі, яна падняла лапу, пэўна, рыхтавалася кінуцца на здабычу.

— Кубартаеў! — раптам выкрыкнуў Свісціян, быццам ён быў камандзірам. — Шмайсерам іх, гадаў, шмайсерам!

— Давай! — падхапіў Маркел і са страху груба вылаяўся.

Кубартаеў лаянкі не любіў, злосна азірнуўся на яго, але не было часу разбірацца, ён кінуўся наперад, стаў паперадзе коней і даў доўгую чаргу — адну, другую, трэцюю. З другога боку выскачыў Свісціян, спяшаючыся, стрэліў некалькі разоў са сваёй СВТ. Падключыўся і Мурашка. Кепска дасталося ваўкам. Стрэліў, бразгаючы затворам, і Маркел. Пасечаныя кулямі ваўкі круціліся на адным месцы, валтузіліся, не маючы сіл падняцца на заднія лапы, бязладна тапырылася поўсць на хрыбтах. Коні, аднак, па-ранейшаму баяліся, не асмельваліся ісці наперад, пакуль Свісціян з Маркелам канчаткова не дастрэлілі ваўкоў і не пасцягвалі з дарогі ўбок.

Ад’ехаўшы, падводчыкі, каб супакоіцца, закурылі. Курылі моўчкі, уражаныя сустрэчай з ваўкамі. Пасля гэтага рушылі далей.

***Працяг будзе.***

## Міхась БАШЛАКОЎ



### ПЕРШЫ СНЕГ

Першы снег над сонным задуменнем,
Першы снег як ціхае маленне.

Першы снег над полем і над шляхам,
Першы снег крыляе белым птахам.

Першы снег як позірк твой дзівосны,
Першы снег як напамін пра вёсны —

Час, калі сняжыўся квет вішнёвы…
Першы снег — нясказаныя словы.

Першы снег як музыка, як песня,
Першы снег растане і ўваскрэсне.

Першы снег… Навокал бела-бела…
На душы таксама пасвятлела.

---

***Башлакоў Міхаіл Захаравіч*** *нарадзіўся 27 красавіка 1951 года ў пасёлку Станцыя Церуха Гомельскага раёна. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1973). Настаўнічаў на Гомельшчыне і Браншчыне (1973—1985). Працаваў у Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі (1985—1990). З 1991 года — у Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь, займаўся падрыхтоўкай і выданнем гісторыка-дакументальных хронік гарадоў і раёнаў Беларусі «Памяць». У 2006—2011 гг. — у Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар кніг паэзіі «Начны паром» (1987), «Дні мае залатыя» (1993), «Як слёзы горкія Айчыны...» (1999), «Матчыны грыбы перабіраю» (2000), «Пяро зязюлі падніму» (2001), «Нетры» (2004), «Палын. Чарнобыль» (2005), «Віно адзінокіх» (2011) і інш.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (2008), лаўрэат Міжнароднага конкурсу «100 лепшых кніг свету» (Франкфурт-на-Майне, 2005).*

* * *

Праз колькі год сустрэліся ізноў.
Пачуцці, нібы вішні, адцвілі…
Сядзім і п’ём замежнае віно
І згадваем, якімі мы былі.

Расказваем пра сем’і… пра сяброў.
Нам ёсць аб чым сягоння гаварыць.
І толькі слова горкае «любоў»
Баімся мы з табою паўтарыць.

І круціцца размоў верацяно,
Хоць нашым дням ужо не залацець…
«Марціні» ці звычайнае віно —
Ўсё роўна будзе галава балець.

* * *

Яшчэ зялёная трава.
Яшчэ лісцё не пажаўцела.
Мой дзень на сонных паплавах
Яшчэ зусім не пасівелы.

І я зусім шчэ малады,
Такі натхнёны і узнёслы.
Яшчэ цвітуць мае сады,
І свет такі яшчэ дзівосны.

Яшчэ магу я вандраваць
Па неабсяжнай той краіне
І вершы светлыя складаць,
Іх прысвячаючы Айчыне.

Яшчэ не здрадзілі сябры.
Яшчэ Радзіма не хварэе.
І на світальнае зары
Яшчэ зіхціць мая лілея…

Жыцця рака ў нябыт цячэ…
Усё цячэ, усё мінае.
І ці было калі «яшчэ»?..
Як сон забыты… ўспамінаю.

* * *

Пахне скошанай травою,
Пахне песняй лугавою,
Пахне ліпай хмельны ліпень.

Ружавее вабна скрыпень
На узлесках і выгарах,
Затрапечацца пажарам,
Палыхне нясцерпнай спёкай.
Як цвітуць баркун, дуброўка,
Цвінтарэй і канюшына!
За кустоўямі крушыны
Ад світання да змяркання
Зырыць вокам святаяннік.
Разнатраўе, разнаквецце.
Уздыхне лагодны вецер,
Прабяжыць па лузе хваляй,
Кветкі пахкія пахваліць.
І ад водару такога,
Як п’яны́, засне ля стога…
Ах ты, ліпень, спелы ліпень,
Я таксама сёння выпіў
Гэтай хмельнасці мядовай.
А над поймай вечаровай,
Быццам некага ўсё кліча,
Так разгублена кігіча,
З плачам лётае ў тумане,
Жаліцца камусьці каня…

* * *

Яшчэ ў кустоўі птушак гоман,
І пераклік, і перасвіст…
Яшчэ над жнівеньскаю стомай
Не закружыўся жоўты ліст.

Яшчэ пакуль здзіўляе лета
Сваёй зялёнаю красой,
Але ўжо восені прыкметы
Прайшлі, як дожджык, паласой.

І ахіне душу самота,
І застаецца шкадаваць,
Што ўжо рыхтуецца прырода
Свае уборы памяняць.

* * *

***Міколу Шабовічу***

Залатыя сосны,
Сосны залатыя…
Дзе ж вы, мае вёсны,
Вёсны маладыя?

Што ж вы адшумелі,
Адбуялі кветам,
Нібы сны-арэлі
Залатога лета?

Зноў стаю, ссівелы,
Ля знаёмых сосен.
Лісцем пажаўцелым
Асыпае восень.

Што згубіў — не знойдзеш.
Што шукаць-знаходзіць?..
Гэты дожджык пройдзе,
Як і ўсё праходзіць.

* * *

***Галіне***

Прагрукоча электрычка
У цішы лугоў асенніх.
І душа зноў закурлыча,
Затрапеча ў летуценнях…

Што знайшлі і што згубілі,
Мы згадаць ужо не можам…
А ці помніш, як хадзілі
Над вячэрнім ціхім Сожам?

І стагі ў лугах цямнелі,
І плыла над поймай поўня.
Помніш сосны і арэлі,
Што рыпелі ўсё ў сутонні?

Нашы леты праляцелі,
Быццам гэта электрычка…
О, як многа мы хацелі…
Нашы мары, нібы знічкі…

Што хацець, калі не можаш?
Што чакаць, калі запозна?
Там, за мілым сінім Сожам,
Апусцела наша пожня…

І хаця ў лугах бялеюць
Сілуэты срэбных коней,
Вечарэе, вечарэе,
І душа ўжо як сутонне…

Тыя дні даўно ў далéчы…
Што ж маркоціцца дарэмна?
На плячы стажка над рэчкай
Месячык самотны дрэмле…

* * *

***Юрыю Фатневу***

Коцяцца дні нястомна,
Месяцы і гады…
Многае ўжо не помню…
Горыч сівой вады…

Помню… складаў я вершы…
Помню… трымцеў радок…
Як я хацеў быць першым,
Ношу сваю валок…

Толькі дарэмна цёгся —
Некаму нас чытаць…
Божа, як я знямогся,
Словамі не сказаць…

Зноўку на схіле лета,
Восень, затым зіма…
Помню… былі Паэты…
Помню… цяпер няма…

* * *

Мая дарога між бяроз
Абрусам выткана,
Мая дарога, як мой лёс, —
Чырвонай ніткаю…

Бяжыць за поле, за лугі,
У далеч сінюю.
Усё шчыльней жыцця кругі —
Бліжэй да інею…

Гады ідуць… І я іду
Дарогай гэтаю…
Каго сустрэну? Што знайду?
І сам не ведаю…

Хвалюе сэрца мне да слёз,
Як песня спетая,
Мая дарога між бяроз,
Найзапаветная…

* * *

Шукаю Сож, блукаю між затокаў.
Іду, іду — да пояса трава.
І гарачэе ліпеньская спёка
На заліўных і шчодрых паплавах.

Падумалася: гэтак жа шукаю
Для песні словы, лепшыя ў жыцці…
Знайду ці не — я гэтага не знаю,
Але іду, бо нельга неісці.

* * *

Як добра,
Што ёсць лес
І гэтая зязюля,
Якая не шкадуе
Ні шчасця, ні гадоў.
Як добра,
Што ёсць шлях —
Не клунак,
Плеч не муляе,
Бяжыць у далеч вабную
Да песенных лугоў.

Як добра
Што ёсць дзень
Прасветлена-узнёслы
І гэты небасхіл
З бязмежнай сінізной.
Як добра,
Што ёсць ты,
І гэты дом, і сосны,
Што сцішана шумяць
Над нашай сівізной.

Жыццё,
Як шлях, бяжыць —
Нізіны і пагоркі.
Нямала дзён мінула,
Травою парасло…
Прахопішся ўначы —
І так нясцерпна-горка,
Ды знаеш:
Трэба жыць,
Як цяжка б
Ні было…



Іван КАПЫЛОВІЧ

# АПАВЯДАННІ

## ІНАКШ НЕЛЬГА

Дарма, што сярэдзіна лета, але на дварэ золка, і Засінец, расчыніўшы дзверы калідора, здрыгануўся, сцепануў плячыма, зрабіў колькі крокаў да лавачкі, што ля сцяны калідора, прысеў, закурыў.

Ён бачыць падворак, хлеў, калодзеж, матаблок з прычэпам, блакітную «Мазду», сабаку на ланцугу, курэй, індыкоў. Вароты ў хлеў адчыненыя, карову Засінец другі год не трымае — надта ж клопату з ёю шмат, а ці многа яму з жонкай ды цешчай трэба? Куры нясуць яйкі, засячэ іншы раз пеўня ці індыка, заколе парсюка... А ў сельпоўскай лаўцы ёсць хлеб, мука, малако, тварог...

Ён дастае з кішэні штаноў ліст ад сына, перачытвае. Учора вясковая паштарка, Таня Каляда, прынесла яго, і яны ўдвух з жонкай адразу ўзяліся чытаць...

— Паеду я, — прачытаўшы, сказаў Засінец. — «Мазда» на хаду, збірай мяне, Зоя, у дарогу — паеду. Завязу дзецям гасцінца, пагавару з сынам, пабачу ўсё сваімі вачыма.

— Лёгка сказаць, — не пагаджаецца з ім жонка. — Дарога няблізкая — пад польскую мяжу, а Польшча ад нас дзеўчорта. Дый... Унучка ўсё адно ўжо ў тым цэнтры, не ўдома...

Засінец чытае ліст больш уважліва — мо ён учора не так што зразумеў, таму што чытаў і хваляваўся, не разумеючы, куды гэта сын з нявесткай адправілі на лячэнне дачку? Недзе аж у іншую вобласць, у нейкі лячэбна-рэабілітацыйны цэнтр.

«Мо не да сына трэба мне, а перш да ўнучкі? — пытаецца ён сам сябе. — Паеду, пагляджу, пагаманю з ёю, супакоюся, а то...»

---

*__Капыловіч Іван Іванавіч__ нарадзіўся 2 лютага 1944 года ў вёсцы Забалацце Мазырскага раёна Гомельскай вобласці. У 1962 годзе паступіў на аддзяленне журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Служыў у Савецкай Арміі. Пасля службы ў войску і заканчэння вучобы ва ўніверсітэце працаваў у газеце «Чырвоная змена». У адной з камандзіровак трапіў у аўтамабільную аварыю, доўгі час быў прыкуты да бальнічнага ложка. Аўтар кніг прозы «Сонца садзіцца ў травы» (1978), «Два дні ў лютым» (1981), «Асенні гром» (1985), «Сны не вяртаюцца» (1988), «Імянны гадзіннік» (1991), «Пасынак» (1993), «Крумкач» (1997), «Лісты з далёкай чужыны» (2000), «Калі трэба жыць» (2003).*

Ён падымаецца, выходзіць на вуліцу. Вуліца шырокая, заасфальтаваная і тлумная. Па ёй у абодва бакі коцяцца легкавікі, грузавікі. І свае, і чужыя. Хто прыязджае паглядзець на ўласныя пакінутыя харомы, хто спяшаецца ў райцэнтр, вобласць, хто транзітам на Украіну. Да Украіны адсюль рукой падаць. У ранейшыя часы, бывала, на базар ездзілі ў Оўруч, а цяпер гэта замежжа, так проста не паедзеш...

Ранак. У вёсцы гэтым часам ціха-ціха, людзей амаль не чутна і не бачна. Хіба што ў тым баку, дзе ферма, чуваць галасы. Гэта даглядчыкі, даяркі, пастухі. У іх дзень пачынаецца ні свет ні зара і канчаецца поначы. Яшчэ нядаўна Засінцова жонка была загадчыцай фермы, то дома амаль не стыкалася. Дый Засінец, пакуль не выйшаў на пенсію, спяшаўся на цэнтральную сядзібу во такой самай, як зараз, ранічкай. Брыгадзірам механізатараў да нядаўняга быў ён, і, каб тэхніка не прастойвала, яму трэба было даць разнарадку кожнаму трактарысту, камбайнеру, шафёру...

Вёска невялікая, і Засінец хутка ўжо ў канцы яе, у тым баку, дзе як сягнуць вокам, луг. Трава ўжо скошана трактарнай касілкай, падсыхае, учора, бачыў тое Засінец на свае вочы, васільковага колеру «Беларус» варушыў рады, каб хутчэй сохлі, і з луга ў вёску плыў духмяны водар волкага сена. Той водар не выветрыўся і за ноч, і Засінец удыхае на поўныя грудзі пахі лета — гэтакія гаючыя, заўсёды чаканыя ды жаданыя.

На самым ускрайку вёскі — бела-цагляны дом, накрыты шыферам. Сядзіба вакол дома агароджана сеткай-рабіцай, вароты ў двор зачынены. Зачынены і веснічкі.

Засінец адчыняе веснічкі, праступе ў двор, садзіцца на сходцы перад уваходам у дом, закурвае.

У гэтым доме раней жыў яго сын — Алег. Засінец высільваўся як мог, каб пабудаваць сыну гэты дом. Ажаніўшыся, Алег не захацеў жыць з бацькамі, захацеў быць незалежным. Грошай у Засінца на будоўлю не было, то ён палез у пазыку і да дзяржавы, і да суседзяў. Аказаўся ў даўгах як у шаўках. Гадаваў цялят, авечак, індыкоў і прадаваў што жывой вагой, а што мясам. Паціху ды памалу разлічыўся з даўгамі, сын аддзяліўся ад яго, перабраўся во ў гэтыя харомы. Ужо адсюль, з гэтага дома, яго прызвалі ў армію. Адслужыўшы, сын паступіў у сярэднюю школу МУС, дзе рыхтуюць следчых, участковых... Працаваў у райцэнтры, што ад вёскі не так і далёка, у міліцыі. І кожны дзень на матацыкле гойсаў то туды, то сюды, дадому. Зарабляў, праўда, няблага. Спачатку быў лейтэнантам, а неўзабаве і капітанам. Цяпер на ім пагоны маёра...

Вяскоўцы сына паважалі, звярталіся да яго з рознымі просьбамі-кансультацыямі, бо Алег добра разбіраецца ў законах, а ў кожнага заўсёды нейкія пытанні то па раздзеле маёмасці, то па пенсіі ці па аліментах... Сын заўсёды хадзіў і ходзіць у міліцэйскай форме. Але ўсё адно гэтай формы яму хапае, ён яе не паспявае зношваць, аддае тое-сёе, больш-менш прыдатнае, яму, бацьку. Вось і зараз Засінец у міліцэйскіх, зялёных з белымі плямамі, нібы скура ў плямістага аленя, штанах, у летняй міліцэйскай шапцы такога ж колеру-адцення, як і штаны, з шырокім, каб не біла сонца ў вочы, брылём.

Засінцу раптам закарцела зазірнуць у дом, прайсціся ў сенечкі, затым у пярэднюю, у залу. Але ўваходныя дзверы на замку, а ключы Засінец з сабою не ўзяў — дома яны, вісяць у калідоры на цвіку, што ўбіты ў аконную каробку.

Ён часцяком бярэ ключы ад гэтага дома, прыйдзе, парасчыняе нахлашч дзверы ў калідоры, у пярэднюю, у залу. Парасчыняе і вокны, каб пагуляў трохі скразняк, каб выветрылася спёртае, застаялае паветра. Мэблі ў доме амаль няма. Хіба што на кухні два расхістаныя стульчакі ды абедзенны стол, а ў зале

абшарпаная канапа, якую Засінец перацягнуў на прычэпе са сваёй хаты сюды, каб іншы раз было дзе прысесці, прылегчы, падумаць ды прыгадаць. Усю неабходную мэблю сын перавёз туды, дзе цяпер жыве і працуе.

Борздзенька вяртаецца да сваёй хаты, каб узяць ключы, бачыць, што жонка ўжо на нагах, кліча курэй, сыпле ім на дол проса. Яна паспела ўжо насячы секачом бурачнага бацвіння і кінула ў карыта, каб елі індыкі, запаліла тым часам і ў печы, і з коміна над дахам віецца, падымаецца ўгору шызы дымок. У калідоры ў іх балонны газ, але жонка прывыкла гатаваць і сабе, і дамашнім птушкам ды свінням у печы. Балазе, дроў Засінец навазіў матаблокам ды нарэзаў-накалоў столькі, што хопіць не на адзін год. Вунь які штабель-паленніца пад хлявом — на ўсю шырыню сцяны ад зямлі да самага даху.

— Дзе цябе носіць? — пытае Зоя.

Жонка ў чырвоных з кароткімі халяўкамі гумовіках, у цёмна-зялёнай спадніцы, чорнай у белы дробны гарошак кофце, блакітнай касынцы. Яна гэтакая ж высокая, як і Засінец, дарэмна што выйшла на пенсію, але не распаўнела, хуткая. Каля дома і ў доме заўсёды ёй хапае работы, і Зоя пакуль з усімі сваімі абавязкамі спраўляецца. І гарод яшчэ яны садзяць, а ў гародзе бульба, буракі, капуста, морква, агуркі, таматы... Нарасце, наспее столькі ўсяго, што хапае і сабе, і сыну Засінец затарабаніць за восень «Маздаю» вырашчанага дабра колькі ўлезе ў багажнік ды ў салон. Сын з нявесткаю дзеля адчапнога папракаюць яго, што, маўляў, няма яму чаго рабіць: хіба таго, што ён прывёз, не купіш на рынку ці ў агароднінным магазіне? Папракаць папракаюць, але і не адмаўляюцца ад бацькавых гасцінцаў, бяруць і радуюцца: хіба ў іх ёсць лішнія грошы, каб усё купіць, што трэба для стала? А ў сына, што ні кажы, сям'я: ужо тут, на новым месцы работы ў яго нарадзіўся сын, Засінцаў унук. Унук яшчэ толькі вучыцца гаварыць, але ж яму купі то калыску, то дзіцячую прагулачную каламажку, цёплы касцюмчык, пялюшкі-распашонкі... За дзіцячае адзенне, за калыску, каламажку трэба аддаць добрыя грошы? Засінец дапамагаў і дапамагае сыну ўсім, чым можа: і тым, што вырасце на гародзе, і грашыма. Адкуль у яго грошы? Кожнай восенню сельпоўская бартавая машына ездзіць па вёсцы і скупляе ў людзей лішак сельгаспрадукцыі і тут жа разлічваецца жывымі грашыма. Не трэба самому перціся на базар, не трэба днямі стаяць каля вагаў і па кіло, па два прадаваць тую ж капусту, буракі, бульбу... Праўда, гэтакіх гаспадароў, як Засінец, на вёсцы ўсё менш ды менш: старыя людзі паміраюць, а моладзь ці ў гарадах, ці невядома дзе — вунь колькі падворкаў зарастае быльнягом...

Думкі нагортваюцца на Засінца, не адпускаюць, вярэдзяць душу. Ён пазірае на жонку. Яна ўзяла колькі паленцаў з паленніцы, каб падкінуць у печ, бо дзень толькі пачынаецца, трэба зварыць і сняданак, і абед. А потым у напаленай печы на спод паставіць бляху і высушыць грыбы: здаецца, не так даўно адкрасавала жыта, але вось пасля спорных цёплых дожджыкаў там-сям ужо пракідаюцца першыя баравікі-каласавікі. Засінец учора пакружыўся трохі па лесе, назбіраў на добрую сушку баравікоў, абабкаў, краснагаловікаў, лісічак. Засінец — грыбнік з грыбнікоў. Ён дачакацца не можа восені — той пары, калі грыбы пойдуцуь касякамі. Справіцца на рабоце, дасць каманду механізатарам, а сам барзджэй дадому, кашэль на плечы — і ў лес. Ён ведае кожную верасовую паляну, дзе растуць тыя баравікі, у якіх шапкі як рэшаты, а ножкі моцныя, крамяныя, без адзінай чарвяточыны. За дзень сходзіць два-тры разы на баравіны, нацягае грыбоў столькі, што жонка не можа даць ім рады: яны сушацца і на сподзе печы, і на чарэні, на нізках каля цёплага коміна... А пасля таго як выправіўся на пенсію, калі стала болей вольнага часу, ён не сядзіць дома ні

хвіліны, калі пачынаюць расці грыбы. Вось і цяпер, калі пачалі пракідацца каласавікі, яго зноў ахапіў грыбны азарт. Апошнім часам, праўда, баравіны вытапчуць да таго, што на іх нічога не хоча расці. А што ж ты хочаш — у гараджан цяпер як не ў кожнага свае легкавікі, і яны дабіраюцца нават да такіх глухіх і далёкіх мясцін, дзе жыве Засінец. Іншы раз ён забавіцца дома па гаспадарцы, затрымаецца трохі каля дамоўкі, не паспее на досвітку на баравіны, а калі з'явіцца, то бачыць адны карані ад баравікоў ды краснагаловікаў. Але ў яго на гэтакія непрадбачаныя выпадкі ёсць свае месцы, якія гараджанам невядомыя. Далекавата гэта, праўда, ад вёскі, але ж не вяртацца дадому з пустым кашалём...

— Пайду гляну, як там Алегаў дом, — абудзіўшыся ад задуменнасці, адказвае жонцы Засінец. — Трэба праветрыць, каб грыбок не завёўся, парасчыняю вокны-дзверы... Я ўжо не помню, калі апошні раз праветрываў.

— Прадаў бы ты яго, — кажа жонка. — Хіба нам з табою ды з маці мала сваёй хаты? Хата добрая, утульная — на наш век хопіць.

І жонка, і сын яму ўвесь час нагадваюць, каб ён прадаў сынава селішча разам з домам. Многа, канечне, не дадуць, тых грошай, якія калісь уклаў Засінец, каб вырас гэты дом, не вярнуць. Старшыня калгаса ўжо колькі разоў казаў яму, што гаспадарка можа выкупіць гэты ягоны яго дом для маладых спецыялістаў. А чаму б і не? Дом ладны, цёплы, абжыты, з садком, які ўжо разросся, пачаў радзіць. На цэнтральнай сядзібе гэтакіх дамоў не адна вуліца, і ніводзін не пустуе. Маладыя людзі сюды едуць адкуль хочаш: з іншых куткоў Беларусі і нават з Украіны. Чуткі пра тое, што ў калгасе ёсць някепскае жыллё і нядрэнныя заробкі ідуць далёка. Праўда, пасля таго як у Чарнобылі здарылася бяда, шмат хто з вяскоўцаў кінуў-рынуў свае селішчы, і ў вёсцы пустуючых сядзіб хапае. Іншы раз то адзін гаспадар з'явіцца, каб паглядзець на сваё селішча, то другі... Але вяртацца назусім ніхто з іх не збіраецца. Мабыць, уладкаваліся людзі на новым месцы, пусцілі там карані, абжыліся збольшага, а колішнія іх падворкі зарастаюць быльнягом, як кажуць, слепнуць і глухнуць, не адчуваючы чалавечага клопату. Дзіва дый годзе: чужыя людзі на іх землях селяцца, жывуць не гаруюць, а свае недзе ў чужых мясцінах, ім, мабыць, сняцца пакінутыя хаты, падворкі... Калі б гэта было не так, дык чаго б яны час ад часу едуць сюды? Але, паходзяць па ўтравелым падворку, пераначуюць у хаце-сіраціне, зойдуць у садок, з якога яблыкі ды грушы ападаюць на дол, і ніхто іх не збірае, пастаяць, падумаюць, паўздыхаюць, думаючы пра нешта сваё.

Засінцаў сын таксама майнуў далей ад роднага дома ў той час, калі слова «Чарнобыль» гучала як праклянцце і было ў кожнага на языку. У сына тады не надта ладзілася на рабоце, ён моцна пасварыўся са сваім начальнікам, а тут яшчэ як на тое і Чарнобыль выбухнуў. Сын звольніўся і мо месяцы два блукаў бязмэтна па двары каля свайго дома, каля бацькавай хаты...

— Падамся ў Мінск, — нечакана тады вырашыў ён. — Хачу паступіць у міліцэйскую акадэмію.

У школе сын вучыўся сяк-так, і Засінец быў моцна здзіўлены, што Алег некалі проста і лёгка аказаўся сярод курсантаў школы МУС. Мабыць, паспрыяла тое, што ў арміі даслужыўся да сяржанта, ад камандавання меў падзякі і добрую характарыстыку.

— Надта цябе ў акадэміі чакаюць, — засумняваўся Засінец у сур'ёзнасці і абдуманасці сынавага рашэння. — Акадэмія, сынок, не школа, там патрэбны трывалыя веды, а ў цябе... Скажы дзякуй богу, што міліцэйскую школу скончыў, на свой хлеб узбіўся.

— Паспрабую, за спрос не б’юць у нос, — Алег настроіўся стаць курсантам міліцэйскай акадэміі рашуча, адгаварыць яго Засінец не змог. — А раптам паступлю? Я цяпер свабодны, часу хапае, каб падрыхтавацца, пагартаць ды пачытаць падручнікі.

Засінец згадаў, што ў сталіцы, дзе міліцэйская акадэмія, жыве ягоны стрыечны брат — Андрэй. Андрэеў бацька і ягоны — родныя браты. З Андрэем Засінец разам вучыўся ў сярэдняй школе, а пасля школы іхнія дарогі разышліся. Андрэй скончыў універсітэт, потым аспірантуру, мае вучоную ступень кандыдата філалагічных навук, выкладае ва ўніверсітэце, выдае кніжкі, друкуецца ў газетах, часопісах. Андрэй — вядомы ў вучоных колах чалавек. А Засінец перад арміяй скончыў машынабудаўнічы тэхнікум. Адслужыўшы ў войску, вярнуўся дадому, хацеў уладкавацца на работу ў горадзе, балазе, з яго дыпломам работа ў горадзе траплялася. Але тут раптам цяжка захварэў бацька, Засінец у яго адзіны сын, і пакідаць хворага бацьку ён не мог. Стаў брыгадзірам брыгады механізатараў, на службовым УАЗе лётаў па палях, шукаў запчасткі для тэхнікі ў раёне, вобласці, сталіцы... Бацька неўзабаве памёр, нядоўга пасля яго смерці пражыла і маці, і Засінец, ажаніўшыся на Зоі, дзяўчыне з суседняй вёскі, прыкіпеў да сяла навечна, да скону дзён. Бацькава хата, у якую ён прывёў жонку і ў якой нарадзіўся Алег, пастарэла, падваліны падгнілі, хата асела, скасабочылася, уехала ў зямлю, і Засінец усё збіраўся падняць яе дамкратамі, памяняць падваліны, падлогу, вокны, дзверы... Доўга, мабыць, ён збіраўся, і задумка паднавіць хату так і засталася задумкай. Бацькава хата сасновая, смалістая, а Засінец меў нядобрую звычку ў ложку курыць. Аднойчы закурыў і заснуў, папяросіна выпала з яго рук на падлогу... За нейкія хвіліны хата ўспыхнула як порах. Добра, што ён не задыхнуўся ад дыму і паспеў выскачыць на падворак. Жонкі з сынам дома не было — у валоцы яны той дзень былі зранку, збіралі чарніцы. Вярнуліся, калі на селішчы дыміліся галавешкі...

Засінец сказаў жонцы жартам, што яно мо і добра, калі так атрымалася: вакол вёскі бары, гаі, пушчы, дубровы — ёсць з чаго пабудаваць сабе новую хату. Здароўе ў яго ёсць, паставіць ён сабе святліцу, нідзе не дзенецца. Зоя паглядзела на яго заплаканымі вачыма, узяла на рукі маленькага Алега, прамовіла:

— Мой ты сынок! Прападзём мы з такім бацькам. Гэта ж трэба — спапяліў селішча, цяпер хоць у прочкі ідзі.

Зоя нагледзела ў Беражніцы, немалой вёсцы, што ў суседнім раёне, амаль новую хату, якая прадавалася, і распарадзілася, каб Засінец перавозіў яе і складваў рэчы. Хата была прасторная, на некалькі пакояў, з верандаю, дзвюма грубкамі, печчу з даволі-такі ўтульнай чарэнню. Засінец не хацеў згаджацца з жонкай, таму што за гатовую хату давядзецца плаціць добрыя грошы, а яны хіба ў іх ёсць?

Засінец адно цяжка ўздыхае, гаворыць:

— Канечне, Зоя, было б добра тую хату з Беражніцы перавезці ды скласці ў нас на двары. Але ж на гэта трэба мех грошай. Мо не трэба спяшацца? За лета ды зіму я нарэзаў бы лесу, ачасаў, акарыў, перавёз бы... Хіба ў мяне рук няма? Усё-ткі траты былі б куды меншыя.

— Агледзецца не паспеем, як зіма ляжа, і куды мы тады? Да маёй маці? Каб жа сказаў, што ў яе харомы, а то катух катухом, у якім зімой вуглы прамярзаюць.

Жонка ў Засінца з характарам, калі ўжо на што наважылася, то не адступіць. Вось і з хатаю, што ў Беражніцы, тое самае атрымалася. Не стаў ёй пярэчыць Засінец, тым больш што сам ва ўсім вінаваты...

Каб выкупіць хату ў Беражніцы, прадала карову і цешча, і яны з Зояй. Не час быў прадаваць карову — сын яшчэ малы, як яму без малака, без тваражку ды свайго, збітага ў бойцы, маселка? Тады ў сельпоўскім магазіне не было гэтага, яно з'явіцца пазней, пасля Чарнобыля...

Паціху ды памалу пачалі абжывацца ў новай хаце ўсім неабходным дабром, бо ў пажары згарэла ўсё, што было неабходна і без чаго не абысціся ў гаспадарцы. І цешчу забраў да сябе Засінец. Хіба ён мог зрабіць іначай? У цешчы дзве дарослыя дачкі. Адна — ягоная жонка, а другая недзе замужам за трыдзевяць зямель. І хацінка яе гэткая ж самая, што і Засінцовая, якая ў аднначассе ўспыхнула як порах...

А неўзабаве Засінец купіў і карову — як жа без яе? Жывучы ў вёсцы, маючы ўласны падворак, гаспадраку, без каровы хоць прападзі. Карова была добрага заваду — малака давала ўдосталь: і сабе хапала, і здавалі яшчэ малаакаскупшчыку, які на падводзе кожны дзень аб'язджаў вёску і зліваў яго з трохлітровых слоікаў, з даёнак у саракалітровыя алюмініевыя бідоны...

Вось якія згадкі даймалі Засінца, калі Алег загаварыў пра тое, што ён хоча паступаць у міліцэйскую акадэмію.

— Добра, сынок, раз табе так хочацца... Рыхтуйся да ўступных экзаменаў, а я адскочу да Андрэя, пагаманю з ім, мо ён якім-небудзь чынам зможа дапамагчы табе. Усё ж-такі ён чалавек вучоны, мо ў яго з міліцэйскай акадэміяй ёсць сувязь.

Засінец засек індыка, узяў трохлітровы слоік нядаўна выкатанага мёду, адрэзаў ладны кавалак кумпяка, які вісеў у палатнянай торбе на гарышчы, сабраўся — і ў дарогу. Балазе, цяпер аўтобус у сталіцу ходзіць з райцэнтра амаль кожны дзень, а да райцэнтра дабірацца няма чаго. Выйшаў на магістраль, што бяжыць міма яго селішча, падняў руку — і імчы хоць у райцэнтр, хоць куды хочаш.

Даўно ён не бачыўся з Андрэем. І таму ледзь пазнаў таго. Змяніўся ён. Павысачэў, пашырэў у плячах, на яго твары ляжаў глыбокі одум, чаго не заўважалася раней. Засінец уяўляў Андрэя вясёлым, гаманкім, бестурботным, усмешлівым — такім ён запомніў яго з вучнёўскай пары. А тут перад ім салідны, сур'ёзны чалавек з глыбакадумнымі вачыма.

Калі разгаварыліся, Андрэй адразу сказаў:

— Аб чым ты, Пятро, гаворыш? Калі б твой сын паступаў ва ўніверсітэт... Амаль на ўсіх факультэтах у мяне ёсць знаёмыя... Цяпер, праўда, надта строга ўсё, але я знайшоў бы магчымасць падтрымаць земляка, тым больш блізкага родзіча... А тут... Няхай Алег прыязджае, прытулак яму я дам. Можа, ён сам паступіць, чаго ты надта непакоішся?

Вусныя экзамены сын здаў, а на сачыненні праваліўся і тут жа вярнуўся ў вёску.

— Ну вось... — з раздражненнем у голасе сустрэў яго вяртанне Засінец ці то заўвагай, ці то вымовай, што сын не слухаецца яго. — Хіба я не казаў? Каб паступіць туды, дзе конкурс, трэба добрыя веды, а ты ўяўляеш, што ўсё лёгка і проста. Нічога лёгкага ды простага ў жыцці, сынок, не бывае. Запомні гэта.

— Паеду я адсюль, — рашуча заявіў Алег. — Мой сябар не апошні начальнік у ягоным райаддзеле, гэта каля Белавежскай пушчы. Кліча мяне на працу ў тамашні следчы аддзел.

Засінец як пачуў гэтыя сынавы словы, то ледзь не страціў прытомнасць. Дзеля каго і чаго ён будаваў хароміну, у якой жыве сын з сям'ёй? Не спаў, не еў, а ўсё рабіў, каб сынаў дом хутчэй вырас, быў у даўгах як у шаўках... І выходзіць, што тыя ўсе яго турботы і намаганні дарэмныя? Усё як кату пад хвост?

Ён хацеў схапіць сына за каршэнь і трасянуць так, каб з яго чэрці пасыпаліся. Але ж ён у яго адзіны, любімы сын... Малады яшчэ, нявопытны. Дарма, што жанаты, мае сям'ю, але мала яго жыццё біла ды круціла. За бацькам ды маці яму жывецца прыпяваючы. Стрымаўшы ў сабе гнеў, не даўшы яму вырвацца на волю, Засінец спакойна спытаў:

— А міліцэйская акадэмія? Ты ж так хацеў паступіць у яе. Я найму выкладчыкаў, пазаймайся як след адну зіму, паштудзіруй навуку, напішы адно-другое-трэцяе сачыненне... Вынік будзе, я ўпэўнены, на наступны год, паступіш. Нідзе ад цябе гэта не дзенецца. На ўсё трэба воля, жаданне.

Сын было ўжо і згадзіўся з бацькам, але раз за разам пачала хварэць дачка, і раённыя дактары гаварылі, што ў яе раптам павялічылася шчытападобная залоза. Гэта, мауляў, ад Чарнобыля. Міхаліне, так зваць Алегаву дачку, не шкодзіла б змяніць месца жыхарства. А тут яшчэ і Алегаў сябар, той, што нейкім начальнікам у райаддзеле, што каля Белавежскай пушчы, усё кліча сына да сябе. Засінец не хацеў, не мог прымірыцца з тым, што вось гэтая цагляная хароміна, у якую ўкладзена столькі клопату, працы, грошай і надзей, можа аказацца непатрэбнай, без сына, без унучкі, якую Засінец любіць бязмежна. Каму будаваў Засінец гэты дом? Ён яшчэ на штосьці спадзяваўся, думаў, што сын перадумае: памірыцца са сваім ранейшым начальнікам, а ўнучку адправяць у санаторый, падлечаць, і яна абавязкова паправіцца. Тым больш, што з кожным годам тэрыторыя, дзе жыве Засінец, становіцца болей чыстай, радыенуклідаў менш і менш, ужо можна збіраць грыбы, ягады... Міне яшчэ трохі часу, і людзі забудуць пра той Чарнобыль, каб ён спрах...

Але ўсё складвалася не так, як хацелася Засінцу, усё трашчала па швах, рвалася па жывому...

Праветрыўшы дом, пасядзеўшы на канапе, Засінец зачыняе вокны, замыкае дзверы, спускаецца са сходцаў у двор, бачыць, што канюшына і грэчка на гародзе цвітуць сіне-ружовым і белым цветам і пчолы шчыруюць з самай раніцы. Раней на гародзе каля сынавага дома ён саджаў толькі бульбу, капусту, буракі, гуркі, таматы... Але хіба яму з жонкай ды цешчай надта многа трэба? Хапае той зямлі, што каля сваёй хаты, а гэта ж добрага паўгектара. А тут ён пасеяў канюшыну, грэчку ды паставіў з дзясятак рамачных вуллёў. Клопату з гэтымі вуллямі хапае. Пчолы, як і людзі, хварэюць, за імі трэба неаслабны догляд. Было, што завёўся клешч, некалькі сем'яў загінула, пакуль Засінец разабраўся, як пазбавіцца ад той напасці, ад якой гінуць пчолы. За вясну, лета і восень ён выкатвае не адно вядро ліпавага, грачанага, канюшынавага ды верасовага мёду. Хапае і сабе, і сын, іншы раз адведваючы бацьку з маці, не адмаўляецца, калі Засінец кладзе ў кайстру трохлітровы слоік бурштынавага мёду, што пахне лугавымі кветкамі, верасамі, канюшынай ды грэчкай. Ого, мёд ды прапаліс! Сёння гэта найпершыя лекі ад прастуды, ад унутраных хвароб... Даглядаючы пчол, Засінец спакайнее душой, забывае пра ўсё нядобрае, што даймае, вярэдзіць з дня ў дзень...

— Чаго ты тут забавіўся, снеданне стыне, — жонка, мабыць, чакала яго, чакала ды вось і сама ўжо каля сынавага дома.

— Іду, — адказвае Засінец.

Вярнуўшыся ў свой двор, адчыняе дзверцы «Мазды», падымае капот, заглядвае ў маторны адсек, садзіцца ў салон, стартуе, выходзіць з салона, слухае, як працуе матор. Засінец на слых улоўлівае, ці ёсць якія непаладкі, збоі ў яго рабоце, ці няма. Заўсёды, калі раптам нешта выявіцца, ён сам адрамантуе, адладзіць. Не было ніводнага разу, каб у дарозе што-небудзь здарылася і яго валаклі на буксіры.

Нездарма ж ён скончыў машынабудаўнічы тэхнікум і да выхаду на пенсію працаваў брыгадзірам брыгады механізатараў. Не сёння-заўтра давядзецца імчаць да ўнучкі, каб знаць, што там з ёй здарылася. Добрага, канечне, мала ў тым, што яе адправілі ў рэабілітацыйны цэнтр, без дай прычыны не адправілі б. Дарога няблізкая і трэба, каб «Мазда» была спраўная, не падвяла.

На лавачцы, што прыслонена спінкай да сценкі калідора, ужо сядзіць цешча. Ёй неўзабаве споўніцца дзевяноста, але яна яшчэ на сваіх нагах, добра бачыць і чуе. Ходзіць, праўда, з кіёчкам, але ж ходзіць. І да дактароў мала звяртаецца. Ледзь што якое, то яна лечыцца травамі, мёдам, прапалісам. За дачкой ды зяцем ёй добра — дагледжаная, заўсёды ў цяпле.

— Трэба, зяцёк, калодзезя пачысціць — вада памутнела, піць гэтакую ваду ўвесь час нядобра, — кажа цешча.

— Знаю, маці, — адказвае Засінец. Цешчу ён заўсёды называе гэтак — маці. — От скокну да ўнучкі, вярнуся...

— Колькі табе можна гаварыць? — жонка расчыніла дзверы ў калідоры, стаіць у парозе. — Я ўжо ўсё паставіла на стол.

Але перш чым ісці ў хату, ён завёў матаблок, адцягнуў прычэп у дальні кут двара. Учора з лесу прывалок поўны прычэп сасновых целяшоў. У яго свая бензапіла, матаблок на хаду, то ён, калі няма нічога больш пільнага, едзе ў лес, паваліць сухастоіну, распілуе на целяшы і тарабаніць да сябе ў двор. А потым тыя целяшы коле на дровы. Без работы не сядзіць ні мінуты. Жывучы ў вёсцы, інакш нельга.

## СУСЕД ПА ЛОЖКУ

Палата доўгая, вузкая, з адным высокім-высокім акном. У палаце шэсць ложкаў і ніводнага свабоднага — не паспеюць выпісацца адны, а ўжо другія тут як тут. Не могуць людзі без бальніцы: ці самі знаходзяць бяду, ці бяда знаходзіць іх.

Усе, з кім давялося быць у гэтай палаце Валеру, з пераломамі, траўмамі. У аднаго адкрыты пералом нагі, у другога рукі, у трэцяга... У адных строгі пасцельны рэжым, другія пачынаюць скакаць на мыліцах.

Грышку прывезлі ў бальніцу ноччу. Ён трапіў пад цягнік, яму адрэзала правую руку і нагу. Ён яшчэ як след не апрытомнеў пасля наркозу, пасля таго, як дактары зашывалі яму кульцю, зашывалі тое месца, дзе раней была правая рука. Усю ноч ён трызніў, некага зваў, на колькі хвілін засынаў і ў сне мармытаў, гаварыў нешта бессэнсоўнае, плакаў, а калі прачынаўся, клікаў сястру ці няньку і прасіў піць. Але піць яму не давалі, бо адразу пасля аперацыі піць нельга. Мокрым ручніком яму мачылі сухія, асмяглыя вусны, Грышка жмурыў вочы, пазіраў у столь, потым паварочваў галаву, няўцямным позіркам абводзіў палату: мабыць, ён яшчэ не ўсвядоміў, дзе гэта ён і што з ім здарылася.

— Якое няшчасце! — ціха мармыча Грышка пад самую раніцу, калі ўжо трохі ачомаўся і да яго, нарэшце, пачало даходзіць тое жахлівае, нядобрае і пакутнае, што раптам напаткала яго.

Грышка паспрабаваў варухнуцца, але пякучы боль працяў яго ад галавы да ног, і толькі ў гэты момант ён убачыў на сабе акрываўленыя бінты, убачыў, што няма адной рукі і нагі, не сваім голасам роспачна загаласіў:

— Ох, мамачкі мае!

Яго галашэнне пачула дзяжурная сястра, якая мігам прыбегла ў палату са шпрыцам у руцэ, нічога не кажучы, зрабіла Грышку супакаяльны ўкол,

Грышка аціх, утаропіўся позіркам у дзверы: дарма, што дзень толькі пачаўся — Грышка ўжо некага чакаў.

Валераў ложак побач з Грышкавым, і ён чуў кожны Грышкаў уздых.

— Зробяць пратэзы — будзеш жыць, — самі сабой зрываюцца з Валеравых вуснаў словы. — Прывыкнеш, чалавек да ўсяго прывыкае — да добрага і нядобрага, — дадае Валер.

У гэтай палаце Валер ужо каторы месяц: у аўтамабільнай аварыі ў час службовай камандзіроўкі ён зламаў пазваночнік, не можа ні ўстаць, ні сесці. Да гэтага працаваў інжынерам-тэхнолагам на прадпрыемстве, якое выпускае медыцынскае абсталяванне, бегаў не чуючы ног пад сабой, але ўсё перавярнулася раптоўна, урачы кажуць, што ён можа застацца інвалідам... Ён уцягваецца ў тое няпростае жыццё, якое чакае яго наперадзе, непрыкметна, спакваля і мусіць супакойваць такіх во, як Грышка, таму што добра разумее: пачуць добрае слова ад таварыша па няшчасці — вельмі многа значыць. Яно, гэтае слова, бы компас, арыенцір на цяжкай, нечаканай ды неспадзяванай, дзе ўдосталь пакут і слёз, дарозе...

Пачуўшы Валеравы словы, Грышка горка, няўцешна заплакаў, і Валеру, прызнацца, было і шкада Грышку, і сорамна за яго, прыкра: хіба ў яго, Валера, ці ў каго з тых, што ў палаце, менш гора? Але ніхто не дае волі сваёй слабасці, разгубленасці, кожны трымаецца як можа.

Бальніца зблiжае людзей розных думкамі, гадамі, сацыяльным становішчам. Кожны, амаль кожны, на каго абрынулася нечаканае гора, становіцца больш добрым, удумлівым, чалавечным, спагадлівым.

— Ну чаго ты, — незадаволена кажа Валер. — У кожнага, хто трапіў сюды, радасці мала, але трэба заставацца чалавекам, трэба жыць як набяжыць, — згадаліся яму раптам словы, якія ў хворых даволі часта на языку. — Што здарылася, тое здарылася, назад ужо нічога не вернеш.

Грышка ўслухоўваецца ў тое, што кажа Валер, але да яго, мабыць, з цяжкасцю, не адразу даходзіць сэнс Валеравых слоў. Яно і зразумела: яшчэ ўчора Грышка быў дужы, здаровы, жыццё ўсміхалася яму, а сёння...

— Ты жанаты? — чамусьці пытаецца Грышка.

— Не паспеў. Не было калі: служыў у арміі, вучыўся.

— Табе лягчэй, — уздыхае Грышка.

— Чаму ты так думаеш?

На гэтае пытанне Валер атрымае адказ трохі пазней.

У той жа дзень да Грышкі з’явілася жонка. Як і Грышку, ёй, можа, гадоў трыццаць ці каля таго. Проста апранутая, ціхмяная і, прыкметна, усхваляваная, разгубленая. Дзе тут не хвалявацца ды не разгубіцца, калі з мужам такое вось...

Яна села на краёк Грышкавага ложка, пазірала некуды ўбок, паўз мужа і аб чымсьці пакутліва думала. Усе, хто мог хоць як-небудзь хадзіць, пакінулі палату. А Валер не мог зрабіць гэтага і адчуваў сябе ніякавата, разумеў, што замінае Грышку пагаварыць з жонкай шчыра, начыстату. Разумеў ён і іншае: дактары паспелі ўжо расказаць Грышкавай жонцы, што яе муж застанецца горкім інвалідам — а што ж ты хочаш: у такі пераплёт трапіў Грышка...

Болей Грышкава жонка не наведала мужа ні разу. Грышка моцна змяніўся. Ён заўсёды маўчаў. Пазіраў у столь і маўчаў як вады ў рот набраўшы. Валер спрабаваў з ім загаварыць, але той адказваў коратка, нехаця, неўпапад, даючы зразумець, каб яго не чапалі, не лезлі ў душу.

Усё-такі Валер не стрымаўся і спытаў у Грышкі, чаму ён, энергетык-высотнік, трапіў пад цягнік? Калі б зваліўся з высокага слупа, то гэта яшчэ можна было б зразумець, а то... Грышка расказаў пра тое вельмі коратка:

— Было штармавое папярэджанне... У адной вобласці паваліла лініі электраперадачы, парвала правады, і мы, высотнікі, аднаўлялі тое, што пашкодзіла бура... Вяртаўся на цягніку дадому поначы ўтомлены і абяссілены. Цягнік загналі ў тупік. Мая пільнасць, мабыць, была прытуплена: замест таго каб пайсці ў горад праз падземны пераход, я падаўся па пуцях, а тут як на тое — манеўровы...

— Каб знаў, дзе ўпадзеш, — саломкі падаслаў бы. У кожнага з нас так вось, — суцяшаў і сябе, і Грышку Валер. — Аднаго падпільнаваў выпадак, другі паспяшаўся... Ад свайго лёсу, мабыць, не ўцячы.

Аднойчы Грышка атрымаў ліст і некалькі разоў перачытваў яго. Відно было, што гэты ліст быў для яго нечаканасцю.

— Ад жонкі? — выказаў здагадку Валер.

Грышка зірнуў на яго гэтакім позіркам, які сведчыў, што ён памыляецца.

А выхадным днём, калі ў бальніцу да хворых прыходзяць родзічы, блізкія, сябры, у палату ўвайшла вастраносая, са спалоханымі, але добрымі вачыма, даволі паглядная маладая жанчына. Была яна сярэдняга росту, фігурыстая, хоць і нешыкоўна, але з густам апранутая. На ёй быў фасоністы, доўгі светла-шэры плашч, мабыць зусім новыя, карычневыя, пэўна, першы раз абутыя туфлі на невысокім абцасе. Галава — нічым не пакрытая, пышныя русыя валасы венчыкам падалі на доўгую, прыгожую шыю.

Зачыніўшы за сабою дзверы, яна знерухомела з цэлафанавым пакетам у руцэ. Стаяла, яе позірк перабягаў з аднаго ложка на другі: вочы шукалі таго, да каго яна прыйшла.

Згледзеўшы Грышку, жанчына хуценька прайшла паўз Валераў ложак, упала перад Грышкавым на калені, абняла Грышку, прыхінула яго галаву да сябе, выдыхнула:

— Божа мой! Як жа гэта так?!

З гэтага дня яна пачала з’яўляцца ў палаце, дзе ляжалі Валер і Грышка, ледзь не кожны дзень. Прыйдзе, прымусіць Грышку падняцца, прычэша яго, прынясе ў чайніку ваду, каб спаласнуў твар, дасць з’есці што-небудзь з таго, што прынясе. А потым вядзе ў ванную, таму што Грышка з таго часу, калі трапіў у бальніцу, мабыць, ніводнага разу як след не памыўся — хіба было да таго? Адной рукой Грышка трымаецца за яе, яна ўся напружаная, баіцца, каб ён не ўпаў. Грышка скача на адной назе, задыхаецца, просіць яе не спяшацца: нялёгкія гэтыя першыя крокі, якія ён робіць пасля ўсяго, што адбылося з ім... Валер глядзіць на Грышкавы пакуты, і ў яго міжволі на вочы нагортваюцца слёзы. Але ён усё адно зайздросціць Грышку: ён хоць неяк, ды будзе хадзіць, а ці зможа падняцца ён, Валер? Тое аднаму Богу вядома...

Калі яна пакідала палату, Грышка, было відно, як ажыў, ён не быў падобны на сябе ўчарашняга — раскіслага, роспачнага, няўцешнага. Валер у яго ні аб чым не пытаўся, але Грышку, мабыць, вельмі хацелася з ім пагаварыць.

— Гэта Ліза, — сказаў ён Валеру. — Яна настаўніца. Не разумею — чаму яна гэтак прывязалася да мяне?

З Грышкавых слоў Валер даведаўся, што да таго, як пажаніцца з будучай жонкай, ён сустракаўся з Лізай. Пазнаёміўся з ёй летам каля Мінскага мора. Яна вучылася ў педінстытуце, а ён — у ПТВ, рыхтаваўся быць электрыкам-высотнікам. Ліза адразу спадабалася яму тым, што не ўмела маніць, прыкідвацца, фальшывіць, казала тое, што думала і што было ў яе на душы. Грышка адчуваў яе шчырасць, дабрыню кожным сваім нервам і не разумеў, чаму Ліза завяла з ім знаёмства — што ні кажы, а яна сапраўдная студэнтка саліднага інстытута, а ён хто такі? Пэтэвушнік. Не верылася, што яе прывязанасць да

яго сур'ёзная, надоўга. Аб тым яму казалі і сябры-пэтэвушнікі, калі Грышка адкрыўся ім, расказаў пра Лізу.

— Трэба сячы дрэва па сабе... Няўжо ты не разумееш, галава твая садовая, хто ты для яе? Часовая забаўка, цацка. Яна трохі пацешыцца з табою — і забудзе. Глядзі, Рыгор, бо прыйдзе час — ад перажыванняў не будзеш знаць куды падзецца.

У тым жа інтэрнаце, дзе месціліся будучыя электрыкі-высотнікі, жылі дзяўчаты, што займаліся таксама ў ПТВ, якое рыхтавала швачак, закройшчыц. Там Грышка і напаткаў сваю будучую жонку. З ёй у яго ўсё атрымалася хутка і проста, і ён нават не ўгадаў, калі гэта яна паспела зацяжараць...

— Дурны быў я, мала ведаў жыццё, людзей, слухаўся іншых, а не сваё сэрца, — згадваючы мінулае, перажывае Грышка, калі яны з Валерам у палаце адны. — Каб жа я знаў, што ўсё гэтак павернецца...

На вачах у Грышкі бліщчаць слёзы. Але ён ім волю не дае. За той час, што ў бальніцы, ён прывык да болю, жорсткасці лёсу, да сябе — скалечанага, але жывога і вельмі чуйнага да несправядлівасці, да таго, што яго пакінула жонка ў той самы час, калі яе дапамога, яе ласка і пяшчота былі яму так патрэбны.

— Яна гадзіна! — раптам з гневам кажа Грышка. — Я ёй гэтага ніколі не дарую. Яна ведае, як я люблю сына, і ніводнага разу не прыйшла з ім.

Яго душыць крыўда. Калі быў на нагах, кожны месяц прыносіў дадому важкую зарплату, якой хапала на ўсё неабходнае, на смакі і прысмакі. Жонка брала з яго рук грошы, пералічвала, казала, што ёй дужа пашэнціла на добрага мужа і яна ніколі і нізавошта не хацела б другога... А цяпер? Які пераменлівы, несправядлівы, жорсткі гэты свет!..

Грышка замаўкае і маўчыць тым маўчаннем, ад якога цяжка, невыносна на душы. І Валер не ведае, якія словы трэба сказаць, каб Грышка не думаў, што ўжо ўсё, што дайшоў да мяжы, за якою — ноч, небыццё.

— Вырасце сын — ён абавязкова захоча сустрэцца з табой, а як жа, ты — яго родны бацька, і не твая віна, што ты зараз не можаш бачыцца з ім, размаўляць, — прыходзіць Валеру ў галаву выратавальная думка да таго своечасова, што ён вымаўляе гэтыя словы з асаблівай узрушанасцю.

— Ты так думаеш? — пытаецца Грышка.

Валер глядзіць на яго і бачыць, што на вачах у яго зноў слёзы. Але гэта былі ўжо не тыя, не ранейшыя слёзы адчаю і разгубленасці. Было ясна і зразумела: Грышка пакрысе вяртаецца да рэальнасці, той суровай рэальнасці, якая паланіла яго і не адпускае.



## Іван КАРЭНДА

### РАДЗІМЕ

Шмат бачыў прыгожых краін я на свеце,
Дзе мне рассцілалі гасцінна абрус,
А ты мне адна яркай зоркаю свеціш,
Любімая, родная Белая Русь.

Ты — радасць мая і надзейны прытулак
У непагадзь-слоту і сонечны дзень.
Тут цёплыя рукі самотнай матулі
Мне грэюць душу як нішто і нідзе.

…Стаю ў задуменні на родным падворку.
На стрэмку-пытанне шукаю адказ:
Чаму ты так доўга была на задворках,
Чаму ад цябе адварочваўся час?

Цябе не любілі, насуперак Богу,
Эпохі, стагоддзі, цары і паны.
А ты церабіла, шукала дарогу,
Ішла да сваёй запаветнай вясны.

Цябе ўкрыжаваць цемрашалам карцела,
Сцякала крывёю ў пакутах не раз.
Не раз крумкачы тваё турзалі цела,
А ты як магла ратавала ўсіх нас.

---

***Карэнда Іван Арсеньевіч** нарадзіўся 17 верасня 1950 года ў вёсцы Крывічы Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы (1971), аддзяленне журналістыкі Вышэйшай камсамольскай школы пры ЦК ВЛКСМ у Маскве (1976). Настаўнічаў у Ракавіцкай сярэдняй школе Шчучынскага раёна, працаваў у газеце «Чырвоная змена», быў на партыйнай і дзяржаўнай рабоце.*

*Аўтар зборнікаў лірыкі «Белы наліў» (1995), «Знічка» (2003), «Васількі надзеі» (2008), паэтычнай кнігі для дзяцей «На загадкі ёсць адгадкі» (2001), кнігі прозы «Воплаўская госця» (2011).*

Зямля мая родная! Быў бы я сонцам —
Штодня пасылаў бы праменні свае.
А быў быў дажджом — паліваў бы, да донца,
У летнюю спёку палеткі твае.

А быў бы асілкам — чужынец ніколі
Цябе б не таптаў, твае сокі б не піў,
Ніхто не пазбавіў бы долі і волі
І пальцам злачынным цябе б не чапіў.

Так хочацца верыць, што час памякчэе,
Што шлях твой — насустрач шчаслівым гадам.
Каб сэрцу твайму хоць крыху палягчэла,
Апошнюю кроплю крыві я аддам.

## НЯМОЕ РЭХА

Ростань шчасця не зычыць,
Болем сэрца сціскае.
Маці-Радзіма кліча,
Мама-матуля чакае.

Роспачна. Як малому, —
Будныя дні ці свята, —
Хочацца мне дадому,
Хочацца ў родную хату.

Цягне туды, дзе Нёман
Гойдаў на хвалях мары,
Дзе наш дзіцячы гоман
Песняй звінеў над абшарам,

Дзе маладосць гукала
Летнімі вечарамі.
Як яна нас кахала!
Як абдымалася з намі!

Клёкатам бусел кліча:
Кінь свой вялікі горад,
Птушкай ляці ў Крывічы,
Выракся вёскі — не сорам?

Выракся? Не, няпраўда.
Родным не стаў мне горад —
Шчасце маё і радасць
Там, дзе матулін падворак.

Зноў спаць кладуся з верай:
Заўтра ўсё перайначу,
Дома пабуду яшчэ раз,
Вёску і маму пабачу.

Сон не бярэ — марную
Веснюю ноч бяссоннем…
Сцежку сваю зямную,
Мабыць, згубіў у сутонні.

Лёс дні нервова лічыць,
Рэхам нямым гукае.
Сына Радзіма кліча,
Сына матуля чакае.

* * *

Я не прасіў пазыкі ў долі:
Пазычыш — мусіш аддаваць.
Не аддасі — жыві ў няволі,
І Бог не стане ратаваць.

Я не прасіў пазыкі ў долі,
Бо ведаў: доля — боскі дар.
Кавалак хлеба, жменю солі
У хаце меў, як гаспадар.

Я не прасіў пазыкі ў долі,
За ёй пакорліва ішоў.
З хлуснёй хаўрус не вёў ніколі,
Не гандляваў сваёй душой.

Я не прасіў пазыкі ў долі.
Яна сама мне ўсё дала.
Хапіла мне ўсяго даволі:
Святла, любові і цяпла.

Я не прасіў пазыкі ў долі.
Яна круціла кола дзён
То вокамгненна, то паволі…
За ўсё — ёй нізкі мой паклон.

---

Я не прасіў нічога ў долі.
А перад смерцю папрашу:
Не забяры, пакінь на волі
Адзіны скарб — маю душу.

## СОН

Сон — як песня…
Ранак весні.
Ярка свеціць,
лашчыць, песціць
сонца матухну-зямлю.

Бачу свежую раллю.
Узарана — лепш не трэба:
не загон, а бохан хлеба,
хоць бяры на лусты рэж
і без масла яго еш…

Шнурам роўненькім, скразным —
роскід новай баразны.

Мама хрысціцца набожна,
у разору асцярожна,
спрытна бульбачку кладзе.

Баразною конь ідзе.
Лёгка, жвава, зухавата
цягне плуг. А дзе араты?
Конь адзін ідзе-брыдзе?

Прызіраюся — нідзе
не відаць яго, няма…

Прачынаюся — зіма…
За акном — мароз і снег…

Пэўна, хутка быць вясне.

* * *

Скалануў два берагі
Першы роскат грому.
Па вадзе бягуць кругі,
І няма парома.

Ні парома, ні мастка,
Ні дзіравай лодкі.
І нясе, нясе рака
У віры паводкі.

Ні жардзінкі, ні вясла —
І плыві як хочаш…
…Летуценніца-вясна,
Паглядзі мне ў вочы!..

## ВЯЧЭРНІ ЭЦЮД

За смугою адвячорка
Ціха прыцемак прысеў.
Дрэмлюць хаты і падворкі,
Стыне вёска пакрысе.
У лагчыне за пагоркам

Дзікіх качак позні крык.
На спатканне з першай зоркай
Выйшаў месяц-маладзік.

## БАЛАДА ПРА ЛАСЯ

Бег вёскай лось.
А вёска спала,
не чула тупат капытоў.
Бег вёскай лось,
зямля дрыжала,
снег асыпаючы з платоў.

Бег вёскай лось.
А вёска спала,
ніхто не бачыў, як ён бег.
Бег вёскай лось,
а кроў сцякала
з ягоных ран на белы снег.

Бег вёскай лось.
А вёска спала,
ніхто не чуў звярыны роў.
Бег вёскай лось,
а кроў свістала,
лілася з ран ягоных кроў.

Бег вёскай лось.
А вёска спала,
нібы сышоўшы ў іншы свет.
Бег вёскай лось,
а ноч хавала
уцекача чырвоны след.

Бег вёскай лось.
А вёска спала…
З канца ў канец яе прабег.
І, пэўна, болей
сіл не стала —
абраў ля могілак начлег.

А раніцой,
як развіднела,
калі пачаўся новы дзень,
сюды,
да мёртвага ўжо цела,
крывавы след прывёў людзей.

Стаялі — вохкалі-ўздыхалі:
«Падстрэліў, мабыць, браканьер…» —
«Чаму ён вёскай бег?» — пыталі…
Што адказаць мог мёртвы звер?



## Васіль МАКАРЭВІЧ

# ЯЛІНА-ЯЛІНКА

*Апавяданне*

Ах, ялінка-былінка, ялінка-галінка! Хіба я ведаў, хіба мог здагадацца, што сустрэнуся з табой у вялікім горадзе, далёка ад нашай вёскі. Ішоў я тлумнай вуліцай у перадnavaгодняй людской мітусні і таўкатні. Быў адвячорак. На слупах гарэлі, пераміргваліся ліхтары, на перакінутых цераз вуліцу і абчапляных размаітай паперай дратах свяціліся гірлянды рознакаляровых лямпачак. Пагойдваючыся з боку на бок, павольна плылі тралейбусы, церусіўся мяккі сняжок. Каля Камароўскага рынку віраваў і гуў людскі збой. У закутку, адгароджаным на скорую руку свежымі пляскатымі дошкамі-аполкамі, якія, здаецца, толькі што вымкнулі з-пад пілы-цыркуляркі і пахлі ядранай смалой, стаялі, прыслоненыя адна да адной, навагоднія ялінкі. Каля іх туды-сюды пахаджваў рухавы і гаваркі дзядок-гандляр. Ён то глядзеў людзям у вочы, стараючыся перахапіць іх позірк і адгадаць, што ім трэба, то сабе пад ногі, быццам шукаў згубленую манету. Дзядок быў у жоўта-карычневым кажуху і валёнках-катанках на тоўстай і дзябёлай падэшве. Па зухаватым і задзірыстым голасе («Эй, галота з пазалотай, багачы-секачы, Камароўка — не Кітай, на ялінкі налятай, круць-верць, верць-круць, расхапалі — не бяруць!») можна было здагадацца, што дзядок паспеў ужо дзюбнуць, чапляўся і лез да кожнага прахожага, хапаў за рукі і цягнуў да сваіх зялёных і хвалёных прыгажунь. Жанчыны нязлосна адбіваліся ад назойлівага і вясёлага дзядка, некаторыя фацэтна ўсплясквалі рукамі («От, дзякуй, дзядуля, што нагадаў!») і, на хаду дастаючы кашалёк і шукаючы грошы, спяшалі да ялінак. Узбуджаныя гармідарам і штурханінай, выбіралі лясное зялёнае дзіва, ускідвалі на плячо ці, узяўшы ў ахапак, неслі хто куды. Можа, я прайшоў бы міма гэтай людской крутаверці, пашукаў бы спакойнае месца, дзе можна разжыцца на лясную госцю, калі б не наступіў на лядок, прыцярушаны свежым сняжком, пасліз-

---

***Макарэвіч Васіль Сцяпанавіч*** *нарадзіўся 15 ліпеня 1939 года ў вёсцы Купленка Крупскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1964). Працаваў у газеце «Чырвоная змена», на Беларускім радыё.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Вогненная камета» (1963), «Мерыдыяны і паралелі» (1966), «Ліставей» (1971), «Вечнае дрэва» (1974), «Радоўка» (1977), «Праталіна» (1983), «Відушчы посах» (1987), «Сумежжа» (1989), «Квадратура круга» (2000) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1994).*

нуўся і ледзь не бразнуўся долу. Але, узмахнуўшы рукамі, нібы спрабуючы за нешта ўхапіцца, мне ўдалося ўтрымаць раўнавагу і адзержыцца на нагах. І ў той жа момант (здараецца ж такое!) я пабачыў цябе, ялінка-націнка. Ты стаяла за агарожай ціхая, цемнавокая, крыху разгубленая і задуменная. Можа, успаміпала і не магла ўспомніць, хто ён, той шалапут і прайдзісвет, які спілаваў ці ссек цябе ў густым аснежаным лесе і прывёз сюды, у гарадскі гвалт і тлум? Нешта надта знаёмае і роднае мелася ў тваёй паставе, пірамідальнай кроне, тонкай ножцы, падобнай да ножкі балерыны, на якой ты стаяла, прыхінуўшыся плечуком да сцяны каменнай будыніны. Ад ялінак ішоў, цадзіўся сцюдзёна-васковы водар-пах, трывожыў душу і памяць. Ён прымушаў згадваць вёску, лес, раскацісты перастук дзятла. Бо тут, каля Камароўскага рынку, пахла сырой падталай іглічай, яловай карой, маладым снегам і яшчэ нечым такім, што нельга зблытаць, напрыклад, з пахам сасны, асіны ці распаранай і разамлелай на санцапёку бярозы. У паху яліны маецца прэсны прысмак ладану, які нагадвае пра тое, што жыццё наша не вечнае — ёсць у ім шчаслівы пачатак і трагічны канец. Гэты водар-пах мне знаёмы з дзяцінства, яго я піў, смакаваў, цадзіў-выцэджваў набгом, як бярозавік ці медавуху з гладыша альбо драўлянай ражкі, які смактаў і не мог спатоліць смагу.

Глядзеў я на цябе, ялінка-хмурынка, і ты нагадвала мне іншую ялінку — жвавую, вясёлую і гарэзную. Яна расла за нашай вёскай, падчас зацішы падоўгу маўчала, была зажураная і задуменная. А калі з неба пачыналі сеяцца, як праз сіта, сняжынкі, альбо падхопліваліся з долу завея і ўзвівалася ўгору, яна прыхарошвалася белай хусцінкай, а ў мароз акрывалася срэбраным інеем, каб падабацца зайцам-белякам ды лісянятам, што, паставіўшы тырчком вушы, спалохана прабягалі міма. Улетку, калі пралятала навальніца і выблісквала сонца, яна ззяла, пераліваліся ў дажджавых кроплях.

Азірнуўся я вакол сябе, нібы хацеў упэўніцца, што нікому не замінаю, не таўкуся, як у праламцы смецце, зноў глянуў на цябе, ялінка-малінка, дый не ўтрымаўся, узяў у рукі і ўзняў перад сабой, любуючыся выразна ачэрчанымі аксамітнымі лапкамі, што тапырыліся ўбакі. «А ты, брат, не промах! Вострае вока маеш! — як з-пад зямлі, вытыркнуўся побач дзядок у валёнках-катанках, і, ударыўшы сябе рукамі па баках, тэатральна прысеў і пакруціў галавой. — Ай-яй! Гэта ж трэба, такую князёўну адхапіў!» — «А чаму і не адхапіць! — пагладзіў я цябе, ялінка, задзірыста зірнуў на дзядка і смальнуў: — Унучку знаёмай яліны сустрэў. І сам у лесе вырас!» — «Бывае, што і ў тайзе выцыбае, а схопіць крывуліну — ні сабе паглядзець ні людзям паказаць! Праімчаўся тут нядаўна адзін боўдзіла. Схапіў першую, што папалася пад рукі, ялінку і паляцеў на злом галавы, маўляў, жонка чакае!» — «Значыць, кепскай настаўніцай была тайга ці вучань-ёлупень», — кінуў я. «Гм-гм, можа, твая праўда. Але ж і я не збоку-прыпёку. Бачу, пане-браце, гэта самае, добры ты чалавек, можа, адзычыў бы магарыча?» У мяне быў выдатны настрой, на грошы я не надта зважаў: былі — траціў, не было — сядзеў у чатырох сценах, лапу, як мядзведзь зімой, смактаў. Цяпер, перад святам, я разгавеўся на капейчыну і шчодра мог узнагародзіць дзядка за цябе, ялінка-былінка. Доўга ён успамінаў бы мяне, дзівака. Ды выйшла інакш. «Гэй, чортаў гандляр! Дзе цябе нячыстая сіла носіць? Можа, у Крым збег, пуза ўверх і загараеш? Ды я і там знайду, з-пад зямлі дастану! Мігам сюды! — грымнуў непадалёку густы бас, які, відаць, належаў таму, хто налаўчыўся кіраваць і загадваць. — Паглядзі, гад печаны, якую ламачыну мне падсунуў. З-за яе жонка гармідар узняла, хоць у Афрыку да папуасаў збяжы! Разводам пагражае. Давай новую елку, латруга! Тую, што толькі з лесу! Інакш скуру спушчу! На турэцкі барабан — гы-гы-га!» —

«А божачка, дык гэта ж мой былы начальнік, звер, скуралуп, ад якога я збег, — закалаціўся дзядок. — Казалі, што ў аварыю папаў. Зямельку касцямі парыць. Няўжо ажыў і да мяне дабраўся! Ай-яй, што рабіць?!» Дзядок настолькі перапалохаўся, што хмель з яго, як корак з шампанскага, выбіла. Ён уцягнуў галаву ў плечы, нібы яго выцялі дручком, і з усіх чатырох ірвануў на голас, каб улагодзіць грамілу, які, відно, гатовы быў паставіць дагары нагамі не толькі ягоны гешэфт, але і ўсю Камароўку. Мы засталіся з табой, ялінка-націнка, удваіх, ты паслухмяна схіліла мне на плячо верхавінку, казытнула шчаку.

Я гатоў быў біцца аб заклад з кожным стрэчным-папярэчным, што перада мной дачка той ялінкі-былінкі, якая была маёй равесніцай, роднай сястройсястрычкай. Расла яна ля бруістай крынічкі, за сялом, каля дзедавага гумна, на глеіста-тарфяным грудзе, за якім пачынаўся густы непралазны лазняк і розная іншая непатрэбшчына, а далей ужо развіналася дрыгвяністае балота. Там летам грузлі і тапіліся каровы, а на дробных астраўках раскашавала рудая асака-разуха і трава з мудрагелістай назвай, якую нельга падцяць касой — надта была каляная, нібы жалезная. Нярэдка я шчаміўся паміж кустоў, лез у здзічэлы гушчарнік, дзе раскашавала ялінка-націнка. І падоўгу моўчкі сядзеў каля яе, давяраў свае таямніцы.

У першы раз пабываў я на тым грудзе, калі мне было тры ці чатыры гады, снежным зімовым днём (а зімы раней ой якія багатыя і ўраджайныя былі на завеі, маразы-траскуны і сумёты-пухавікі!). Дык вось недзе перад Багатай Калядой маці ўзяла мяне за руку і павяла за сяло, на ўзлобак, за якім, як я ўжо казаў, пачынаўся густы, пераплецены і перавіты паміж сабой лазняк, у якім летнімі душнымі начамі гушкаліся і забаўляліся ведзьмакі ды чэрці, а ўзімку свісталі вятры, кружыліся настолькі густыя мяцеліцы, што нічога не было бачна нават за паўкрока. Бралася на адвячорак, на небе ўжо усплыў шыракатвары і ўсмешысты месяц, гарэлі, гарэзна пераміргваліся буйныя, нібы заінелыя, зоры. Панавала такая ціхамірная супакоенасць, што хацелася спыніцца і стаяць на адным месцы, як укапанаму, каб пачуць, як звініць навакол звонкая, нібы шкляная, цішыня ды пабачыць, як час ад часу на небасхіле зрываюцца знічкі і падаюць уніз, прачарціўшы бліскотны пісяг. Здаецца, можна было адчуць і зразумець урачыстую сцішаную радасць, якой жыло, цешылася навакалле, што ледзь-ледзь пахіствалася і варушылася, гойдалася і паскрыпвала: і голыя кусты лазняку і балота, якое ўзялося тоўстым і бліскотным панцырам лёду, па якім хадзілі і ездзілі на санях без каліва страху, што можна праваліцца і шухнуць у бяздонную прорву.

Там, сярод лясной драбязы, стаяла і цешылася сабой, як княгіня, абсыпаная брыльянтамі ці караламі, залацістымі шышкамі, высозная разлапістая яліна. Крыху ўбаку ад яе ляпілася невялічкая будыніна, падобная да лазенкі. Яшчэ да вайны яе спехам скідаў наш дзед Нупрэй. У ёй месцілася нешта накшталт майстэрні, дзе разам з дзецюкамі распарваў у печы-каменцы бярозавыя ды кляновыя цурубалкі, гнуў дугі, абады і палазы. Пад старой ялінай, дзе цурчала крыніца, любіў ён улетку пасядзець, паразважаць. Непадалёку расла невялічкая ялінка, абнесеная невысокай, з палак, агарожай. Маці сказала, што ялінка — мая родная сястра-сястрычка, чыстая, даверлівая і званкагалосая крынічка. Яшчэ яна сказала, што мой бацька агарадзіў яе пасля таго, як з'явіўся я на гэты свет. І павінен быў шанаваць і аберагаць ялінку-сястрычку, шчабятуху-сінічку ад усялякіх бед і напасцей. Лёс ялінкі і мой лёс сплецены і пераплецены паміж сабой. Не давядзі бог, калі здарыцца якая-небудзь мітрэнга з ялінкай, тое самае будзе і са мной. Наваліцца бядота на мяне — не мінаваць яе і ялінцы-іскрынцы. Пачну марнець, чахнуць я — стане нудзець, сохнуць

і яна, ялінка-націнка. Помніцца, як мы падышлі да ялінкі, сястры-сястрыцы, малой чараўніцы, і маці сказала, што хутка Новы год і ялінка павінна ведаць, што я, родны брацік, прыйшоў абняць яе і пагладзіць лапкі. Я ступіў да ялінкі, нязграбна развёў убакі рукі, дацягнуўся да лапак. Яны былі прамёрзлыя і надта калючыя. Але я правёў па іглцы далонню. Ялінка страпянулася, як усё роўна войкнула ад радасці, і балюча кальнула іголкай мой палец. Нейкае імгненне я глядзеў на яе спалохана і разгублена і не мог зразумець, дзеля чаго яна гэтак зрабіла? Можа, хацела паказаць, што яна вясёлая і капрызная гарэзасвавольніца, каза-дзераза. У тое ж імгненне я хуценька схаваў руку за спіну і, скасавурыўшыся, збянтэжана пазіраў на лясную штукарку, якая не раз за паўкрока ад сябе бачыла шэрага клыкастага ваўка, гуляку-зайца і праныру-лісіцу, і мне здалося, што яна са спагадлівай усмешкай, але крыху звысоку, глядзіцьпаглядае на мяне ды пацьвельвае, што я такі палахлівы, і ў той жа час пытаецца — можа, пакрыўдзіўся, ці буду прыходзіць да яе, гуллівай свавольніцы?

Не помню, чаму ў мяне перад вачамі ўзбліснуў белізной снег, абсяг з лазняком і старой ялінай, як быццам гайдануўся і адным краем пайшоў угору, галава ў мяне закружылася, я прыхінуўся да маці, уткнуўся тварам у крысо яе паддзёўчыны. Маці ўсё гэта зразумела па-свойму. Ёй здалося, што адведкі да нашай ялінкі зацягнуліся, трэба было вяртацца дахаты. Яна падхапіла мяне на рукі, і тулячы да сябе, панесла да загумення, гладзіла па галаве і казала, што мясціны тут небяспечныя, зімой, пад снягамі ды мятровай таўшчыні лёдам, не спяць, а круцяцца ды валтузяцца балотныя ведзьмары і чэрці і могуць наслаць на любога заклёны-праклёны, з якіх чалавек не можа выбрацца, як кузюрка з павучыны. Мяне ўмомант агарнула санлівая млоснасць. Я баяўся расплюшчыць вочы. Перад вачамі чамусьці стаяла не ялінка, а маленькая дзяўчынка, з кароценькімі хвосцікамі косак, як у суседкі Кацькі, што жыла двары праз чатыры, ледзь не на самым канцы вёскі. Амаль не кожны дзень яна прыходзіла да нас, глядзела, як наша маці ткала кросны і пад яе нагамі спрытна хадзілі панажы, а сярод нітак асновы, як заяц, снаваў і мільгаў чаўнок-бегунок. Бровы Кацькі час ад часу трымцелі, ўзляталі ўгору, калі густое прасмоленае бёрда гакала і прыбівала нітку за ніткай да палатніны, якой, здавалася, ніколі не будзе канца і краю. І мне хацелася, каб гэта ява, падобная на сненне, цягнулася і доўжылася, як сцежка, што з марозным ядраным скрыпам і хрустам слалася маці пад ногі.

Назаўтра я прачнуўся, расплюшчыў вочы і з непрывычкі аж прыжмурыўся. У хаце было прасторна і святліста. На дзвярах, сценах і печы белай крэйдай былі начэрчаны вялізныя многавугольнікі, якія бабуля і маці звалі іярданню. Надыходзілі калядныя святы. На душы ў мяне таксама было хораша і па-святочнаму светла. Дзіва што! Учора здарыўся цуд. У мяне з’явілася ялінка-націнка, сятрычка-сінічка. Яна стала маёй знаходкай і таямніцай. Пра яе не павінен ведаць аніхто. Якая гэта таямніца, калі пра яе ведаюць іншыя, хаця б і твае сябры! Таму трэба маўчаць і не ґаварыць ні слова. Ад радасці я быў на сёмым небе. Мне здавалася, што ялінка стаіць на двары. Я падбег да акна, узлез на лаву і стаў глядзець праз шыбіну. За ноч яна ўзялася лядком, але праз яе можна было ўбачыць, як два парсючкі наперагонкі адзін перад адным хапалі з карыта мешанку, а на іх спінах скакалі вераб’і ды сініцы, вышуквалі і дзяўбалі ў каравай паклычанай шчаціне нейкую спажыву. Троху воддаль забаўляўся вецярок-свавольнік, зарываўся з галавой у сумёт ды ірваўся ўверх, узнімаючы белыя клубы снегу. Ялінкі не было і ў паміне. Аднак гэта мяне ніколькі не засмуціла. Я ўявіў яе, невялічкую і востраверхую, што нагадвала маленькую дзяўчынку, якая, узяўшы пальчыкамі за краёк сукенкі, мерылася

пусціцца ў скокі, як гэта рабіла часам Кацька. На маім твары, мабыць, было нешта такое, што бабуля, клікнуўшы за стол і паставіўшы на снеданне міску з аладкамі і макавай цёртай мачанкай, пільна зірнула на мяне, нібы хацела пра нешта спытаць, пэўна, пра ялінку. Але ў печы забулькала, засіпела, і бабулька кінулася да печы вопрамеццю, загрымела посудам і вілачнікам. А калі вярнулася да стала, я зацяўся і маўчаў, рабіў выгляд, што заняты ядой. Мачанка была настолькі смачнай, што я аблізаў лыжку і, відаць, так старанна, што бабулька здзіўлена паглядзела на мяне і праводзіла гэтым позіркам ажно да печы, куды я палез, каб паляжаць і падурэць з катом Абібокам. Але на печы яго не было, можа, сядзеў недзе пад падлогай у засадзе і, зіркаючы жоўтымі, як круглыя сланечыны, вачамі дый жмурачыся ў прадчуванні блізкай спажывы, цікаваў за мышамі. Я ляжаў і баяўся, каб бабулька не паклікала і не папрасіла змесці з ганку снег ці, як гэта было не раз, пужануць суседскага шалудзівага сабаку, што панадзіўся хадзіць у наш двор і ганяцца за курамі.

Тым часам забразгала клямка, рыпнулі дзверы і парог пераступіла Кацька. Яна, відаць, добра-такі замерзла, бо стаяла як каменная, не магла паварушыць рукамі. Бабулька памагла ёй распрануцца, пасадзіла на зэдлік, пэўна, наважылася чымсьці пачаставаць. Я прытаіўся за комінам і чакаў, што Кацька спытае пра мяне, а потым ускараскаецца на печ і стане пытацца пра маю таямніцу, ялінку-націнку. Але Кацька маўчала. Дзіва што, бабулька дала аладку. Праўда, укусіўшы раз-другі, яна трымала аладку ў руцэ, відаць, не спадабалася. Гэта абурыла мяне. Паненка абралася! Лепшага смакоцця ва ўсім свеце не знайсці! А яна носам круціць! Можна падумаць, што яе маці лепшыя аладкі пячэ! Я паспрабаваў іх, калі аднойчы зайшоў да Кацькі па нейкай дробязнай справе. Неблагая трапілася аладка. Але яна і на каліўца не была смачней за нашы аладкі. Дык няма чаго крывіцца і рабіць выгляд, што яна дома добра паснедала! А можа, справа не ў аладцы? Можа, Кацька стала капрызуляй? Апошнім часам яна паводзіла сябе надта задзірыста і самаўпэўнена. А мінулай ноччу адбылося неверагоднае: яна, гэтая страказа, чамусьці ўзяла і прыснілася мне. Звычайна, калі яна прыходзіла да нас, то моўчкі сядала на зэдлік і глядзела, як наша маці ляскала бёрдам — ткала пасцілкі-перабіранкі. А ў сне Кацька круцілася на зэдліку, раз-пораз саскоквала з яго, лезла пад рукі, замінала нашай маці. Разы са два я пагрозна глянуў на Кацьку, паказваючы ёй усім сваім выглядам, што атрымае на арэхі. Але гэта не толькі не астудзіла, а яшчэ больш раззадорыла Кацьку. Яна здзекліва паказала мне кончык язычка і расхадзілася настолькі, што зачапіла ступу, і тая з грукатам пакацілася на падлогу. Я кінуўся да сваволньцы, каб даць ёй добрага прачуханца, і прачнуўся.

Злосць на Кацьку не праходзіла і, як галавешка, тлела недзе ўнутры. Але я трываў і маўчаў. Маўчала і Кацька. Яна ўсё-ткі з’ела аладку і сядзела на зэдліку, памахваючы нагамі, пакуль бабка, відаць, проста так, каб не маўчаць, не сказала, што я ляжу на печы, магчыма, застудзіўся і захварэў. У той жа момант Кацька, быццам яе ўзняла віхура, скокнула з зэдліка і, караскаючыся на печ, кінула бабульцы, што яна памацае лоб і, калі ён гарачы, трэба будзе намачыць у сцюдзёнай вадзе ручнік, прыкласці да яго, і хваробу як рукой зніме. Я не чакаў такога спрыту ад Кацькі. Знайшлася доктарка! А можа, гэта хітрая зачэпка, каб апынуцца на печы і выведаць тое-сёе пра ялінку. Толькі гэтага не хапала! Я крутнуўся на вялізнай, як капа сена, і мулкай, нібы напханай пілавіннем, падушцы і ссунуўся на другі яе бок. У хаце быў паўзмрок і, палэпаўшы рукамі перад сабой, Кацька спалохана заверашчала і крыкнула бабульцы, што мяне на печы няма і яна не ведае, куды я падзеўся. Бабулька не на жарт устрывожылася і замітусілася, маўляў, яна зараз паглядзіць сама, куды гэта я,

накольнік, знік, і калі наважыўся выкінуць каленца, то пакажа, дзе ракі зімуюць. Далей нельга было таіцца, і я падаў голас, сказаў, што трохі прыдрамаў. Бабулька супакоілася, але загадала злезці з печы і падмесці падлогу.

Не паспелі мы з Кацькай узяцца за венік, як з марознага двара разам з клубамі пары ў хату ўкаціўся Мікітка. Ён цяжка соп і дыхаў, нібы за ім гналася плойма ваўкоў. Няўжо і Мікітка дачуўся пра маю ялінку-націнку? Але ў наступны момант ён па-змоўніцку зірнуў на нас з Кацькай і выцягнуў перад сабой руку са сціснутай жменяй — маўляў, адгадайце, якую рэч ён знайшоў? Мы з Кацькай разгублена пераглянуліся, не ведаючы, што і казаць. Але Мікітку, відаць, настолькі карцела пахваліцца знаходкай, што ён умомант расціснуў жменю. У ёй была звычайная падкоўка. «Фу! Жалязяка?! — скрывіўшыся, хмыкнула Кацька. — А можна было падумаць, што золата знайшоў!» Але гэта ніколькі не збянтэжыла Мікітку. «А ці ведаеш, хто гэту жалязяку згубіў? — здаецца, аж выгукнуў ён. — Бацька твой!» Бабулька перастала памешваць у цэбры пойла, якое рыхтавала карове, і пільна глянула на Мікітку: няўжо праўду кажа? Усе ведалі, што Юстын не з тых, хто мог губляць ці раскідацца дабром. Адусюль, дзе б ён ні пабыў, дамоў вяртаўся з нейкім, хоць і дробным, але набыткам. Юстын слыў ашчадным гаспадаром. Калі раніцай паўз яго вокны праходзіў статак кароў і на вуліцы заставаўся ляпех, ён акуратна падчэпліваў яго рыдлёўкай і нёс у двор. Што ён рабіў з ім, кідаў у хлеў ці на грады, ніхто не ведаў і не дапытваўся. Вяскоўцы прывыклі да таго, што ў Юстына, згодна яго слоў, за што ён ні браўся і ні рабіў, усё ішло як па Канстытуцыі. У ягонай хаце, на стале, як у вясковага грамацея, ляжалі газеты і кніга з законамі, якую ён некалькі разоў перачытваў і ведаў напамяць. Таму ён спасылаўся на Канстытуцыю ўсюды, дзе трэба і не трэба. Калі ў яго пыталіся пра пчол і пра тое, як яны носяць мёд, ён казаў, што, лятаючы да грэчкі, не збіваюцца з маршруту, нікога не кусаюць і ўсё ў іх ідзе як па Канстытуцыі. З цягам часу да Юстына прыліпла мянушка не мянушка, а нешта накшталт прозвішча — Паканстытуцыі, да якога ён прывык і, здаецца, не крыўдаваў. Пра ўсё гэта добра ведала бабулька, але цяпер ёй было цікава, якім чынам гэты хітрун Юстын умудрыўся згубіць падкоўку з-пад бота? Ён жа яе, пэўна, прыбіваў уласнаручна і навек! Адказ у Мікіткі быў просты. Ён бег вуліцай, а наперадзе ішоў дзядзька Юстын, і Мікітка заўважыў, як з-пад бота Юстына бліснула нейкая штуковіна. Кінуўся да яе Мікітка і ўбачыў, што гэта была звычайная падкоўка. Чаму не аклікнуў Юстына і не аддаў знаходку? Юстын так хутка плітаваў да лесу, што Мікітка не паспеў ачомацца, як ён знік у гушчары. За папругай у яго тырчала сякера. «Каляды надыходзяць. Пайшоў, відно, за навагодняй ялінкай!» — выказала здагадку бабулька, і быццам шылам кальнула мне ў сэрца.

Хіба Юстын не мог натрапіць на маю ялінку-націнку? Я ўявіў, як, адгробшы з-пад дрэўца снег і адвёўшы лапкі, каб яны не заміналі, ён узмахнуў сякерай, і яно скаланулася і лягло на бок. Ад гэтага ўяўлення мне стала душна і млосна. Але што я мог зрабіць? Кінуцца ў хвайняк ды стаць каля ялінкі, маўляў, гэта мая прыгажуня, адчапіся ад яе, Юстын-душагуб! Канечне, калі б нейкім чынам я змог апынуцца ў лесе, ён, магчыма, не крануў бы дрэўца. Але ж, мабыць, Юстын ужо недзе ссек ялінку, перакінуў цераз плячо і цяжкімі кірзачамі таўчэ, месіць глыбокі снег, раскідвае і рассоўвае на бакі кусты лазняку, нясе яе дамоў і ўяўляе, як рада будзе Кацька і як будзем ёй зайздросціць я і Мікітка. Мне было не па сабе, але я стараўся не паказаць, што робіцца на душы. А Мікітка тым часам, відаць, задумаўшы нешта сваё, пачаў падбіваць пайсці на вуліцу, узяць з-пад паветкі дошку і пакоўзацца на ёй з гарушкі. Мне

не хацелася не толькі ісці на коўзанку, але і ўвогуле выходзіць з хаты. І, калі ў Мікіткі нічога не выйшла з коўзанкай, ён, хітрун, пачаў заходзіць з іншага боку, пахваліўся, што старэйшы брат змайстраваў лыжы і мы можам пахадзіць на іх. Я, вядома, адразу разгадаў лоўкі намер Мікіткі, — пасля таго як мы паходзім на лыжах, ён папросіць выправіцца да ялінкі, і, ссек яе ці не ссек Юстын, я наўрад ці змагу яму адмовіць. А для таго, каб Мікітка не лез да мяне і перастаў спакушаць новымі прыдумкамі, я глянуў у акно і сказаў, што сёння вельмі холадна і ветрана і можна застудзіцца. Са мной пагадзілася Кацька, яе таксама не надта цягнула на мароз. А яна ніколі не адставала ад нас, хаця Мікітка не вельмі радаваўся такой кампаньёнцы, моршчыўся, шморгаў носам, перш чым згаджаўся ўзяць яе з сабой.

Скончылася гэта тым, што мы селі на ўслон і пачалі сачыць, як маці, што прыйшла ад суседкі, якой памагала заснаваць кросны, села за свае і стала стукаць бёрдам. Яна ткала не звычайнае палатно, а пасцілкі-перабіранкі з буйнымі прыгожымі ўзорамі. А ткаць такія кросны не проста. Перад маці зіхацелі, нагадваючы дажджавыя струмені, ніткі кужэльнай асновы, і настолькі густой, што праз яе, здаецца, не магла капнуць нават кропля вады. Лівень пражы быў прапушчаны і цадзіўся праз восем нітоў, а пад нагамі ў маці мелася столькі ж і панажоў. Калі яна націскала ступнямі на іх, адразу хадзілі ўгору-ўніз ніты, і кужэльная аснова, нібы жывая, варушылася, пералівался хвалямі, як у летнюю спёку над спелай нівай залацістае мроіва. І яно, гэта як усё роўна прывіднае залацістае мроіва, калыхалася перад нашымі вачамі, зачароўвала, не адпускала ад сябе. А маці, падобная на чараўніцу, брала ў рукі чаўнок за чаўнаком, а іх ляжала перад ёй тры ці чатыры, з цэўкамі, на якія былі намотаны залацістыя жоўтыя, чорныя і іншых колераў ніткі ўтоку, і па чарзе пускала гэтыя чаўнакі ў аснову і ўслед за гэтым прыбівала кожную нітку тугім прасмоленым бёрдам да краёчка палатна. Увачавідкі вымалёўваліся, нібы праразаліся, узоры з арнаментам і малюнкамі, розныя квадраты і ромбы, крыжы і крыжыкі, зоркі і шасцяронкі, маленькія сілуэты, падобныя да пірамідак, усялякія завіткі і завітушкі. Маці слыла найпершай пралляй і ткалляй на ўсю акругу. Да яе прыходзілі з-за сорак і больш вёрст, каб павучыцца, як заснаваць шасці- і васьмініты, пераняць нямала якіх ткацкіх прамудрасцей, а потым ужо ўласнаручна ткаць пасцілкі-перабіранкі.

За вокнамі пачынала сутоньвацца, Кацька з Мікіткам выпраўляліся дамоў. А я заседжваўся каля кроснаў да позняй начы, глядзеў, як на палатне з'яўляліся хвалістыя ўзоры, падобныя да тых, што мароз клаў на шыбы, і нагадваў гожыя ялінкі. Можа, так здавалася ад дрымоты, у якую я правальваўся, як у пельку, тузаўся і валаводзіўся, нібы ў нейкай сетцы, сплеценай з тугіх водарасцей, яшчэ больш заблытваючыся ў яе чэпкіх і моцных абдымках. І выходзіла, што перад вачамі стаяла адна і тая ялінка, якая расла за дзедавым гумном, і, калі я прыходзіў да яе, цягнулася насустрач лапкамі, памахвала імі зверху ўніз. А варта было страсянуць галавой, прыадчыніць вейкі, як гожую ялінку-націнку зноў бачыў на палатне. Так было і тады, калі, прастудзіўшыся, злёг у пасцель, і ў гарачцы ява змянялася трызненнем, а трызненне — явай. І аднекуль (хвароба ці незразумелае насланнё?) з прывіднай бяздоннай глыбіні ўсплывала і бегла бясконцая дарожка, магчыма, палатніна, а на ёй маленькія ялінкі, падобныя да тых, што стаялі каля дзедавай будыніны і крынічкі, якая летам бруілася, цурчала ў траве, віравала сярод чаратоў і знікала ў густых кустах. Не ведаю, ці было кепска ялінцы-сястрыцы, калі ў мяне гарэла і смылела душа, хацелася крыкам крычаць і выць па-воўчы ад болю. Такіх момантаў у мяне было ўга колькі! Можа, іншым разам я разгубіўся б, апусціў рукі.

Але побач са мной была ялінка, з якой парадніўся далёкай зімой. Безумоўна, усё гэта было падобна да казкі, а казка — да явы. І кожны раз мне хацелася, каб яно доўжылася і доўжылася, як сцежка, што з ядраным марозным хрустам слалася пад ногі маці тым перадкалядным зімнім вечарам, калі мы вярталіся з лесу.

Яловы лес і яліны раслі і раскашавалі вакол нашай вёскі. Ахутаныя лапнікам, яны як усё роўна былі зашнураваны і зашпілены на ўсе гузікі і хавалі за пазухай нейкую таямніцу. Старыя яліны здаваліся строгімі і маўклівымі манашкамі. Пахлі яны халаднавата-земляным духам, які ідзе з выкапанай на могілках ямы, куды апускаюць дамавіну. А можа, мне ўсяго толькі здавалася. Можа, я проста пабойваўся старых ялін, іх знешне суровага выгляду. Але як утульна і зацішна было пад імі, калі вясной ці ўлетку на дол абрушваўся цёплы лівень, і я, ходзячы падпаскам і адбываючы радоўку з пастухом Гарасімам, старым патлатым дзедам, ныраў пад іх шчыльныя шаты, як у надзейнае сховішча. Над галавой грукатаў гром, а пад ялінамі, у зацішы, каб табе капнула! Мала гэтага, дык па іглiцы поўзалі мурашы, варушыліся розныя кузюркі, жылі сваім спрадвечным жыццём. Пасля навальніцы ельнік іскрыўся на сонцы, свістаў і шчабятаў птушынымі галасамі, параваў і дыхаў на поўныя грудзі. А маленькія ялінкі выбягалі на ўзлесак, красаваліся ў бліскотных абноўках.

На той час маю анёльскую душу і вока цешыла кожнае дрэўца, але больш за ўсё мяне цягнула да маёй ялінкі-былінкі. І я не прапускаў выпадку, каб пабываць каля яе ці хаця б здалёку зірнуць краем вока. Мяне падмывала знайсці нейкую прычыну і ўгаварыць Мікітку пайсці на ўзбалотак, дзе стаяла ялінка-карынка. Праўда, пасля таго як аднойчы, пабачыўшы нас з Кацькай, калі мы ішлі ад ракі, пабраўшыся за рукі, ён залемантаваў на ўсю вуліцу: «Жаніх і нявеста паелі ўсё цеста!» — я пакрыўдзіўся на яго і не размаўляў з ім дні два. Мікітка быў хітры і ведаў, як памірыцца. Калі мы гулялі на выгане ў пікру, ён дастаў з кішэні пернік, разламаў яго і палову даў мне. Пернік настолькі быў смачны і Мікітка так прыязна і па-таварыску глядзеў мне ў вочы, што я ўмомант забыў на крыўду. Наша сяброўства пайшло і пакацілася ранейшай сцежкай, гулялі мы ў лапту і хованкі, бегалі навыперадкі, ныралі з берага ў раку і рэшатам лавілі печкуроў.

А вось з Юстынам, бацькам Кацькі, не атрымлівалася і не выходзіла нічога людскога. Не ў аднаго мяне, але і ў Мікіткі. Што мы не рабілі, як не стараліся дагадзіць Юстыну, каб ён хоць троху палагаднеў, сказаў прыязнае слова, ласкава зірнуў у наш бок. Мы наперабой хвалілі яго сапяжанкі, маўляў, якія яны сакаўныя і смачныя! А Юстын і слухаць не хацеў, крывіўся ды скардзіўся, што мы з Мікіткам ледзь не ўсю яго яблыню атрэслі. Ну хіба не дзівак? Хіба неяк інакш можна вызначыць, якія яны, сапяжанкі, на смак, калі не паспытаць іх на смак? А колькі часу аддалі Барбосу, кідаючы і купаючы яго ў рэчцы, пакуль на ім не заблішчэла і не стала адлiваць аксамітная поўсць, і так, хоць у яе, як у люстэрка, глядзіся! Юстыну радавацца б, а ён зноў дзьмуўся, касавурыўся. Маўляў, псуем сабаку! Замест таго, каб брэхам сустракаць любога і кожнага, ён віляе хвастом, лашчыцца і чакае, каб пачухалі за вушамі. А што да бадлівага і ганарыстага козліка, якога чамусьці празвалі Оберам, мы так упадалі каля яго, што нельга і ўявіць! Прыносілі моркаўку, капусту з Юстынавых град, што раскашавалі каля рэчкі. Обер хапаў смакоцце, церабіў напоўніцу. І было бачна, што таксама хоча нешта добрае для нас зрабіць. Не козлік, а — разумнік! Спіну сам падстаўляе, каб садзіліся і праехаліся на ім. Ну дык хто адмовіцца? То я ўзлезу на Обера, то Мікітка сядзе і, як пан, едзе на ім. А Обер ходзіць як арол. Не выцерпела і Кацька. Захацела і яна праехаць. А што нам

рабіць з Мікіткам, калі Обер не супраць? Пасадзілі мы яе так, быццам сабралася яна ехаць на край свету. Праўда, канфуз невялікі выйшаў. Обер, пэўна, ад радасці, што вязе дачушку гаспадара, падбрыкнуў, нібы кінуўся ў скокі. Кацька не ўтрымалася, звалілася долу і набіла сабе гузак. Прыбег Юстын, ледзь не кінуўся на нас з Мікіткам з папружкай, маўляў, мы ва ўсім вінаваты! Але за нас заступілася Кацька. Сказала, што сама села на Обера. Аднак гэта чамусьці яшчэ больш раззлавала Юстына. Бач, заступніца знайшлася! Узяў Кацьку за руку і павёў дамоў.

Што і казаць, нелады былі ў нас з Юстынам. Не клеілася дружба з ім, нічога не выходзіла. Куды ні кінь, усюды клін. Прыйдзе ён на сяло, дзе збіраюцца вечарам мужчыны, мы з Мікіткам падхопімся з бервяна, каб даць яму месца, а ён нават і не зірне ў наш бок. «Сядай, — кажа яму Мікодзь, якому выбіла вока, калі ён кідаў у раку тол і глушыў рыбу. — У нагах праўды няма!» — «Гэ, — сярдзіта таргане ўгору плечуком, як гэта рабіў кожны раз, калі быў не згодны з кім-небудзь ці чуў глупства, і паблажліва ўсміхнецца Юстын, — а дзе ж тады праўда, як не ў нагах? Калі красуня Марфа нарадзіла дзіцё і ўзвяла паклёп, што гэта ад мяне, каб аліменты плаціў, я па тры разы на месяц у суд плазаваў. Сорак вёрст у адзін канец і столькі — у другі. І ўсе на ўласных нагах. І дабіўся праўды! Выхадзіў яе на нагах! Адкаснулася ад мяне Марфа. Аказалася, што нагуляла дзіця з фінагентам. А ты мне чаўпеш, Мікодзь: няма праўды ў нагах!..» — «Не адны ногі памаглі табе, Юстын! — папраўляе і падказвае яму Мікодзь. — А Канстытуцыя? Сам хваліўся, што не раз выручала цябе!» — «Хваліўся ды не паваліўся! — невядома, дражніць яго Юстын ці кажа проста так. — Канстытуцыя сама сабой! Яна была галоўным для мяне апірышчам і козырам. Дастану яе з-за пазухі і пачну сячы на судзе адзін закон за другім. А там і трэці! Ды яшчэ на Крымінальны кодэкс намякну. Суддзі пык-мык і — маўчаць. А што ім рабіць? Хіба яны пойдуць супраць закона? Ну і апраўдалі мяне. Чысты выйшаў. А гэты таўстун-фінагент схапіў пасля Марфу і дзіця і з’ехаў кудысьці, толькі яго і бачылі!» — «Ат, што цяпер той фінагент! — махае рукой Мікодзь. — Лепш прызнайся, чаму ў цябе ногі такія крэпкія, як у ваўка, і доўгія, як у жураўля? Давай памяняемся нагамі. Адступнога заплачу. Мае ад раматусу скрыпяць». — «Скрыпяць яны ў цябе ад толу, якім ты язёў глушыў, — відаць, не падабаецца Юстыну сказанае Мікодзем, а таму рэжа праўду-матку прама ў вочы. — Вунь і вуха ірванае носіш». — «Ай, і ты не святы, Юстын, — не застаецца ў даўгу Мікодзь. — І не прыкідвайся, што ў Марфы не ад цябе дзіцё. Насілі цябе, чорта, твае ногі туды, дзе трэба і не трэба. Вось і панесла ад цябе Марфа. А дурань фінагент схапіў яе ў ахапку, як пісаную торбу, і з’ехаў. Пашанцавала табе. Іначай не адкруціўся б ад аліментаў, хоць і з доўгімі нагамі». — «Пры чым тут ногі? Я па Канстытуцыі не меў ніякага дачынення да чужога дзіця! — як бы падводзіў рысу пад сказаным Юстын. — А мяняцца нагамі я не стаў бы не толькі на твае, пасечаныя толам, але і на маладзейшыя. Бо што гэта за ногі, якія нясуць дурную галаву немаведама куды. Вунь стаўклі мае каноплі...»

Мы з Мікіткам разумелі, у чый агарод кідае Юстын каменьчыкі, але і выгляду не паказвалі. Гулялі мы разам з Кацькай у тых каноплях у хованкі. Прывязаўся да нас і Барбос. Убіўся ён у такі гушчарнік, што не мог вылезці сам, і мы ледзь выцягнулі яго адтуль. Ну і трохі каноплі паблыталі, хаця яны там высокія, тоўстыя і дзябёлыя, як частаколіны. Але з якой ironіяй гаварыў Юстын пра нас з Мікіткам! Быццам мы сапраўды прапашчыя шалапуты і прайдзісветы! Трэба параіцца з бабуляй, што нам зрабіць, каб хоць неяк увайсці ў давер да Юстына? Бабуля таўкла для парсюкоў гарачую бульбу, і

воблака пары ахутвала яе з усіх бакоў. Пачула яна ці не пачула нашу просьбу, але мы бачылі, як таўкач хутчэй і спрытней захадзіў у яе руках і так моцна пачаў гоцаць, нібы хацеў выбіць у цэбры дно. Можа, яна раззлавалася, што мы лезем да яе з усялякім глупствам? Але як толькі ўправілася з тоўчанкай, бабуля апаласнула рукі, выцерла іх старанна аб фартух і, сеўшы на ўслон, пасадзіла нас абапал і сказала, што трэба зрабіць адно: пры сустрэчы з Юстынам сцягнуць з галавы шапку і павітацца, даць «дабрыдзень». Нават схіліць крыху галаву. Нічога кепскага ў гэтым няма. Так пачціва раней віталіся з настаўнікамі не толькі дзеці, але і дарослыя. Не можа быць, каб душа Юстына не адгукнулася на такую павагу і пашаноту. Ад радасці мы ледзь не падскочылі пад столь.

З таго дня мы пачалі не тое што ганяцца за Юстынам, але пільнаваць яго на вуліцы, каб трапіць яму на вочы. Аднак Юстын, здаецца, зашыўся ў сваёй хаце і носа не паказваў на вуліцу. Праўда, разы са два яго постаць мільганула ў канцы сяла. Ды хіба пабяжыш услед за ім ці наперарэз, каб павітацца? Юстын не дурань, адразу дакумекае, што тут нешта не так. Нарэшце нам пашанцавала. Калі мы шыбавалі ад рэчкі, дзе паспелі выкупацца, то пабачылі Юстына. Ішоў ён насустрач. Быў заклапочаны і задуменны. Не ведаю, што адчуваў Мікітка, а ў мяне сэрца падскочыла, затахкала, як кола на выбоінах. Вось тая хвіліна, ад якой залежала вельмі і вельмі многае. За чатыры ці пяць крокаў ад Юстына мы спыніліся як укапаныя і з такой хуткасцю змялі з галоў картузы, нібы іх ветрам садзьмула, і ў адзін голас выгукнулі «дабрыдзень». Юстын, мабыць, не чакаў такога. Ён, здаецца, нават уздрыгнуў. Нейкае імгненне здзіўлена і разгублена ўзіраўся ў нашы твары, быццам хацеў пераканацца, што гэта я і Мікітка стаім перад ім, а не хто-небудзь іншы. Дзеля гэтага ён нават адступіў крок назад. А ўслед за гэтым шырока ўсміхнуўся і сказаў: «Ну здарова, арлы! Бачу, з рэчкі? Можа, рыбу лавілі? А чаму ў новых картузах?» — «Ды гэтае самае...» — пачаў Мікітка, пэўна, збіраўся прызнацца, што мы знарок і ў гарачыню хадзілі ў шапках, каб пры сустрэчы скінуць іх перад ім і паказаць сваю пашаноту і выхаванасць. Але я так зірнуў на Мікітку, што ён ураз язык прыкусіў. «Можа, гэта абноўкі, у якіх пойдзеце ў школу?» — выказаў здагадку Юстын, і ў голасе было столькі прыязнасці і спагады, што мы не верылі сваім вушам. Можна было падумаць, што ў нас з Юстынам даўным-даўно такое сяброўства, якое нельга і вадой разліць. Але трэба было нешта адказаць на пытанне дзядзькі Юстына, і я пахваліўся, што гэтай восенню збіраемся пайсці ў першы клас. Ужо і чарніла з воўчых ягад выціснулі. «Час, час за навуку брацца! Як гэта і належыць па Канстытуцыі!.. — узняў угору палец Юстын і нечакана для нас пацікавіўся: — А вы тое-сёе, мабыць, ужо ведаеце? Напрыклад, некаторыя літары з буквара? А можа, і лічыць умееце? Ага, хто з вас скажа, якое сёння чысло?» Юстын пераводзіў позірк з мяне на Мікітку і наадварот, чакаў адказу. Мы гатовы былі праваліцца праз зямлю. Нам і ў галаў не прыходзіла, што Юстын стане экзаменаваць нас. Не ведаю, як Мікітка, а што да мяне, то я ні разу і не думаў над тым, якое сёння ці заўтра чысло. Не пытаўся ні ў маці, ні ў бабулі. І тут на табе! Маўчанне наша зацягвалася, і Юстын кіўнуў у бок Мікіткі: «Ну, ты, Мікітка, і скажы!» Мікітка пераступіў з нагі на нагу, потым глянуў на мяне, як тапелец, які прасіў ратунку. Але чым я мог дапамагчы? «Не бойся, Мікітка, смялей», — падахвочваў Юстын. «Мне здаецца, цётка Ганна сказала, што трыццаць шостае...» — цераз сілу выціснуў з сябе Мікітка. Юстын ускінуў галаву ўгору, быццам хацеў нешта там убачыць, а ўслед за гэтым стукнуў сябе далонню па лбе і зарагатаў: «Ну і Мікітка! Ну і малайчына! Геній! Нават Архімед не мог бы дадумацца да такога. Трыццаць

шостае чысло! Ай-яй! — хапаўся за жывот Юстын. — Калі б я настаўнікам быў, пяцёрку табе з плюсам паставіў. На ўвесь раён, ды што на раён, на ўсю рэспубліку б раструбіў і расхваліў бы за такое адкрыццё! Ай-яй!» Я і Мікітка адчулі і зразумелі, што Юстын не так сабе ледзь не поўзае ад смеху, і насцярожыліся. Гэта заўважыў Юстын. Смяяцца ён перастаў, але вясёлы настрой не пакідаў яго па-ранейшаму. Юстын ускалмаціў нашы чупрыны («Дамоў ішлі, то ідзіце!»), чамусьці яшчэ раз у здзіўленні пакруціў галавой, развітаўся з намі і падаўся ў мястэчка, мабыць, у бібліятэку.

Канечне, пра ўсё гэта мы расказалі бабулі і пашкадавалі, што так ганебна праваліліся з чыслом. Хаця бабулька як магла супакойвала нас з Мікіткам, гарчынка прыкрасці і незадаволенасці сабой усё-ткі тлела недзе ў душы. Але прайшоў нейкі час і ад іх не засталося і следу. Памагло і тое, што ў кожнага з нас меўся нейкі клопат і турботы. Я даўнавата не бачыў ялінку-трысцінку. Мне, канечне, не вельмі хацелася, каб Мікітка ведаў пра яе. Але ў ваколлі з'явіліся ваўкі, аднаму страшнавата лазіць па хмызняках. Трэба было неяк завабіць Мікітку ў спадарожнікі. І мне не прыйшло нічога лепшага ў галаву, як сказаць па сакрэце, што за дзедавым гумном маецца груд, на якім, калі добра пашукаць, можна знайсці перунову стралу, гэтакі цуд, што ўсе хлапчукі сяла войкнуць і будуць зайздросціць нам як нідзе і ніколі. Мікітка тут жа, нібы бяроста, загарэўся жаданнем выправіцца на пошукі дзіўнай стралы. Аднекуль, як з-пад зямлі, з'явілася Кацька і, выпытаўшы ў нас, куды сабраліся, заявіла, што пойдзе і яна. Як і кожны раз, Мікітка пачаў муляцца, моршчыцца і ўслед за гэтым страшыць Кацьку, нібыта мы ідзем у такое месца, адкуль можна і не вярнуцца. Было бачна, Мікітка не перастаў крыўдаваць на Кацьку за тое, што яна не паддалася на ўгаворы і адмовілася дружыць з ім адным. Я маўчаў. Зрэшты, можа, гэта і лепш, што Кацька застанецца ў вёсцы і не будзе ведаць пра маю ялінку. Але як толькі мы з Мікіткам увайшлі ў хмызы і азірнуліся, то заўважылі, што за намі назіркам ідзе-крадзецца Кацька і не хоча адставаць. Гэта зрабіла на Мікітку такое ўражанне, што ў яго не хапіла рашучасці пярэчыць, каб у нашым хаўрусе была і Кацька. І мы ўтраіх падаліся хмызнякамі, драліся-прадзіраліся праз кустоўе, чапляліся за ядловец, які, здаецца, хацеў пакінуць нас не ў кашулях, а ў рыззі.

Я ішоў наперадзе, Кацька за мной. Мікітка замыкаў ланцужок. Ён і прыдумаў ісці гэткім парадкам на той выпадак, калі што-небудзь здарыцца, то надзейна абараніць Кацьку і мяне як самы смелы і спрытны з нас траіх. І тут з-пад густога куста шугануў цельпукаваты заяц, які, відаць, дрыхнуў пасля таго, як ноччу ласаваўся калгасным гарохам. І нарабіў такога перапалоху, што ад нечаканасці я ўскінуў перад сабой рукі, а Мікітка войкнуў і пакаціўся долу. Але, пабачыўшы, што гэта не воўк, а шарак, адразу ўскочыў на ногі, прыняў ваяўнічы выгляд і схапіў Кацьку за руку: маўляў, ці напалохалася? Яна здзіўлена, а ўслед за гэтым сярдзіта зірнула на Мікітку і чамусьці вырвала руку. Мікітка нічога не сказаў, відаць, быў упэўнены, што Кацька крыўдуе на яго, што ён не хацеў, каб яна ішла з намі. Прыціхлыя і насцярожаныя сустрэчай з зайцам, мы рушылі далей і неўзабаве выбраліся на груд, парослы крапівой, быльнягом, лазняком і рознай іншай непатрэбшчынай, прыселі на камяні, што нагадвалі сытых япрукоў-кормнікаў. Воддаль узносілася магутная яліна, якая, здаецца, засланяла разгалістай кронай не менш, як паўнеба. Каля яе стаяла ціхая і задуменная ялінка, ад лёгкага подыху ветрыка раз-пораз узмахваючы лапкамі.

Перш чым пачынаць пошукі перуновай стралы, мне захацелася расказаць Мікітку з Кацькай нешта такое цікавае і жахлівае, каб у іх перахапіла дыханне.

І я пачаў з таго, што аднойчы гэтую старую яліну, якая стаіць перад намі, на грудзе, наважыўся зваліць пярун-ліхадзей. Але ён, гіцаль, не ведаў, што перад гэтым пад ялінай сядзеў чарадзей і зачараваў яе. Хоць і прыцэльваўся пярун, ды прамахнуўся, і страла, якую ён пусціў, увайшла ў груд. Дык вось недзе ў зямлі яна астыла і чакае шчасліўчыкаў, якія ў рэшце рэшт знойдуць яе. І тады яны будуць мець усё тое, што толькі душа пажадае. Варта грукнуць стралой аб камень і сказаць: «Божы пярун, прыбяжы ка мне ўгрунь, лётам прыляці, гаспадара азалаці!» — і золата, алмазаў, жэмчугу з'явяцца цэлыя горы. Вось якою сілай валодае чарадзейная страла! Многа было ахвотнікаў знайсці яе. Але ўсе пакідалі гэта месца з пустымі рукамі. Можа, нам пашанцуе. А як шукаць стралу? Вельмі проста! Трэба поўзаць на чацвярэньках і прыглядацца да зямлі. Там, куды ляснуў пярун, павінен быць знак — абгарэлы дол і, магчыма, прапаленая дзірачка. А ўслед за гэтым, вядома ж, капаць углыб.

Мы з Мікіткам поўзалі па зямлі, расхінаючы траву, — дзе яна прытаілася, залатая страла? Кацька сядзела на камені і цікавала, каму пашанцуе і хто з нас першы знойдзе стралу? Я і сам ужо верыў, што яна сапраўды тоіцца недзе ў зямлі. Мы аблазілі добры лапік ляснога груда, звэдзгалі і паабдзіралі голыя каленкі. Ціўкалі сініцы, стракацелі конікі, далёка ў гушчары рыпучым і страхатлівым голасам абазвалася незнаёмая птушка. А ўслед за гэтым, нібы прадракаючы бяду, над нашымі галовамі каркнула і залопала крыламі дурная варона. Ад нечаканасці Кацька ўздрыгнула, схапіла каля сябе шышку і кінула у той бок, куды яна паляцела. А мы з Мікіткам няўцямна задралі ўгору галовы і, каб Кацька не падумала, што спалохаліся, пагразілі вароне кулакамі. А далей адбылося неверагоднае. Мікітка натрапіў на такую мясцінку, якая падалася яму вельмі дзіўнай, загадкавай і падазронай. Ён калупнуў зямлю, адваліў камяк гнілі і пабачыў нешта падобнае да саламянае трухі. З-пад яе чуўся нейкі гуд. Не надта баючыся, што ён можа запэцкацца, Мікітка прыпаў да трухі вухам. Дзіва дый годзе! Пад ёй нешта варушылася, непакоілася. Няўжо абзываецца перунова страла? Можа, адчула, што Мікітка дабіраецца да яе, і пачала кратацца, падаваць знак, што яна непадалёк, варта яму зрабіць яшчэ адно, магчыма, нават нязначнае намаганне — і знаходка будзе ў яго руках. Мікітка паспешліва капануў глыбей, і пад самым носам нешта дзвынкнула і зазвінела. Ён паспеў пабачыць, як мільганула нейкая бліскаўка, і ў той жа момант настолькі балюча пеканула ў ніжнюю губу, што ён адкаціўся ўбок, заенчыў і замахаў рукамі. Над ім кружыўся цэлы рой разгневаных вос, якіх ён незнарок патрывожыў і ад якіх адбіваўся цяпер як толькі мог. Я скокнуў да сябрука, схапіў пад локаць, і мы шуснулі ў кустоўе. А ўслед за намі і Кацька. Дабеглі да крынічкі, і Мікітка пачаў чэрпаць прыгаршчамі ваду і студзіць уджаленую губу. Кацька знайшла лісток трыпутніка і прыклала да пухліны. Але і лісток, пэўна, мала памог Мікітку. Губа распухла так, што з твару ён быў не падобны сам да сябе. Каб Мікітка не ўпадаў у роспач, мы з Кацькай падбадзёрвалі яго, казалі, што пасля асінага яду не страшны і ўкусы змяі. Але Мікітка, здаецца, не чуў нас. Настолькі балела губа. Да ўсяго ў яго пачало распухаць і надброўе. Нейкая аса-шаляніца паспела ўсадзіць сваё джала. Мы чулі, як гэтыя восы-дармаеды раз'ятрана кружыліся над грудам, пэўна, шукалі зламысніка Мікітку і хацелі пачаставаць яго яшчэ раз, каб помніў, як трывожыць іх. Заставацца тут больш не было чаго, я зірнуў на ялінку-націнку. Яна, здаецца, усміхнулася мне, махнула лапкай, і мы, як змоўшчыкі, азіраючыся, каб, чаго добрага, не з'явіліся і не напалі восы, моўчкі падаліся ў бок вёскі.

Пасля таго недарэчнага выпадку да ялінкі хадзіў я адзін, садзіўся на камень і падоўгу глядзеў на аксамітныя лапкі дрэўца. Ялінка расла, падыма-

лася ўгору, развіналася ўшыркі, набіралася сілы. Сюды даносілася фырканне коней, якія пасвіліся на пожні, рыканне кароў, мэканне і бэканне авечак і бляянне коз. На сухім месцы чырванелі разасланай хусткай спелыя і буйныя, па валовым воку, брусніцы, на імшарынах завязваліся журавіны-журавінкі. Цешыла і радавала ялінку і тое, што яе акрывала шырокае крыло старой яліны-бабулі, якая ўзносіла крыжападобную крону высока ў неба, гатовае ў любое імгненне засланіць унучку ад навальніцы і ўрагану, зімніх вятроў, якія налятталі з усіх бакоў, гнулі і тузалі яе лапкі. З удзячнасцю яна глядзела знізу ўверх на сваю бабулю-заступніцу, мружылася, усміхалася ёй ветла і ласкава. А яліна стаяла бухматая і самавітая, здаецца, збіралася жыць вечна, хаця пад яе камлём пастушкі часта разводзілі касцёр, і полымя так прагавіта і сквапна накідвалася на смалістыя карчы, якія яны цягалі адусюль і кідалі ў яго чырвоную пашчу, што час ад часу яно цягнулася і грызла камель яліны. На пачатку пастушкі гасілі агонь, збівалі пяском ці лапнікам. Але паступова звыкліся з тым, што калі гарэў касцёр, то пакрысе тлеў, курадыміў і камель. Нарэшце выгарэла такое дупло, што ў яго можна было залезці двум-тром пастушкам і перачакаць, напрыклад, дождж ці іншую непагадзь. Пра тое, што яліну з дня на дзень падпільноўвае бяда, ніхто і думаць не хацеў. Хіба тады-сяды трывожылася ялінка, яе ўнучка. Але што яна магла парабіць, калі касцёр разводзілі ў самым дупле ўжо і рыбакі. Скаламуціўшы раку, яны вылазілі з таптухай на бераг, і ім ну немаведама як жадалася сербануць рыбацкай юшкі. А дзе яе зручней прыгатаваць, як не ў дупле старой яліны?! Лепшага месца ва ўсім свеце не знойдзеш! Рыбакі раскладалі касцёр, полымя рвалася ўгору, па-драпежнаму грызла-падгрызала камель далей і болей. Ніхто з дзецюкоў і пальцам не паварушыў, каб утаймаваць яго: гарыць дрэва, ну і няхай гарыць! У іх адно наўме — кульнуць чарку ды пасмакаваць наварыстай тлустай юшкі, у якую ўторкні лыжку — старчма стаіць! Яны, відаць, і не чулі, як затраслася, задрыжэла яліна, адчуўшы, што вісіць паміж небам і зямлёй і жыць ёй засталося лічаныя гадзіны, а можа, і хвіліны. Прагавітае полымя падцяло яе вогненнымі ікламі, забрала апошняе здароўе і мацунак. А ўслед за гэтым наляцела навальніца з перунамі ды маланкамі, вецер тузануў вершаліну, заблытаўся ў лапніку і, каб выслабаніцца, ірвануўся, ламануў яліну, бабулю Паліну. Не вытрымала яна напору, узмахнула голлем, затрашчала ў камлі і, не памятаючы сябе, упала бездапаможна долу, прыціскаючы сабой кустоўе лазы. І ўжо ў апошняе імгненне падумала, маўляў, дзякуй Богу, што на багну звалілася, а не на ялінку-ўнучку. Інакш магла б знявечыць.

Ялінка-былінка бачыла, як бездапаможна падала яліна, бабуля Паліна, і ледзь не самлела ад страхоцця і перапуду. Хацела ірвануцца, падбегчы да яе, але дзе там! Карэнне моцна трымала, не адпускала нікуды. Як ні тузалася, нічога ў яе не выходзіла. І не магла зразумець: слёзы коцяцца па шчаках ці сплывае ручаямі дажджавая вада. Не чула, як вецер ірве, шкуматае яе з бакоў і спрабуе вывернуць з долу. Але была яна ўжо даволі моцная і не мог яе адужаць шалёны вецер і праліўны дождж.

Пабедавала ялінка па яліне, бабулі Паліне, разважыла, што мёртвыя з таго свету не вяртаюцца, і перастала нудзіцца. А перад зімою прыйшлі з вёскі дзецюкі, бензапілою распілавалі на чурбакі. Тым жа днём павазілі дамоў і пакалолі на дровы. А наступнай раніцай бялёсы дым ускінуўся над комінамі, пацягнуўся ўгору, нібы збіраўся дапасці да воблачка і паплыць з ім на край свету. Ялінка-ўнучка глядзела на той дым і ўжо не адчувала ні смутку, ні шкадавання, што была ў яе яліна, бабуля Паліна, а зараз няма, адно во толькі дым усплывае ды знікае ў вышыні. А вечарам пайшоў рэдкі, а ўслед ужо мяккі і

густы, як казалі, па лапцю, снег, засцілаючы зямлю і ахінаючы ялінку белай пелярынай.

А каму спіцца, калі выпадзе першы снег і пачнецца зіма? Ускруціўся я з пасцелі на досвітку, калі яшчэ і чэрці ў кулачыкі не білі і ледзь пачало шарэць у вокнах, пабег за сяло да ялінкі-былінкі і пабачыў, што снег каля камля быў стаптаны заечымі слядамі. Пэўна, марознай ноччу, каб хоць крыху сагрэцца, белякі гоцалі сярод лазняку, гуртам кружыліся вакол ялінкі і настолькі сплюндравалі лагчынку, што на ёй не было нідзе жывога месца. Сляды дражнілі, абуджалі ў душы неадольнае жаданне ну хоць краем вока і здаля пабачыць жывога цыбатага беляка. Здавалася, зайцы хаваюца за кожным кусцікам лазы, за кожнай вольхай і ялінкай, і калі захацець і як след пастарацца, то можна хоць аднаго схапіць за доўгія вушы. Я прыпусціўся па ўзбалотку, які ўзяўся тоўстым лядком, што глуха вухкаў, то пагрозліва трашчаў пад нагамі. Не магло быць, каб мне не пашэнціла на ўдачу. Я прабег да рэчкі, ламануў убок, уплішчыўся ў гушчар, у якім уперамежку з крушынамі высіліся і хваінкі, рынуўся лагчынкай, пільна ўзіраючыся перад сабой, зіркаў па баках, але каб хоць адзін які-небудзь нягеглы заяц мільгануў ці скокнуў паблізу. Задыханы і стомлены прысеў пад стажком, пастаўленым на прагаліне, прытаіўся: можа, каторы забудзе на асцярожнасць, саўганецца з лазняку, каб паласавацца сенам? Чакай, Макар, сыр з'ясі! Зайцы не дурні, каб самім лезці ў рукі тым, хто палюе на іх. Прасядзеў я ў сваёй засадзе, пакуль не ўзвілася мяцеліца і не пачала хапаць за чубы кустоўе ды матляць іх ва ўсе бакі, засыпаючы ахапкамі снегу.

Ноччу мне сніліся даўгавухія і пацешныя зайцы. Цісну мароз-крапак, да касцей прабіраў іх, і яны не маглі астаяцца на месцы, бегалі, падскоквалі і кружыліся вакол маёй ялінкі-сястрычкі, нібы вадзілі карагод, некаторыя прыпускаліся ўглыб лазняку і, павалтузіўшыся там, вярталіся назад. Яны не баяліся мяне, гоцалі вакол, падлазілі пад рукі, церліся каля ног. Я адчуваў, што ўсё гэта адбываецца ў сне, але на душы было хораша і прыемна. І як толькі расплюшчыў павекі, стала настолькі кепска, нібы згубіў нешта бясконца дарагое, чаму не было ні цаны, ні меры. А праз нейкую хвіліну я ўжо быў за сялом. Пачынала шарэць і світаць. Светлата ішла і падымалася ад мяккага сняжку, што выпаў ноччу. Цішыня стаяла такая, што не варушылася ні адна галінка. Сцяжынка пятляла і выкручвалася сярод заінелага хмызу, вяла мяне ў гушчарнік. Глянуў наперад, і нешта прымусіла спыніцца, насцярожыцца. Прыгледзеўся больш пільна: пад ялінкай, дзе ўчора было столькі заечых слядоў, цямнела нешта падобнае да хатуля ці скрутка. Я кінуўся да ялінкі: каля камля ляжаў бляк. Яго шыю сціскала драцяная пятля. Яна была прывязана да ялінкі, і касавокі, якога ноччу даймаў мароз, відаць, стараўся сагрэцца і, сігаючы па вытаптанай сцяжынцы і робячы двухметровыя скачкі, трапіў галавой у пятлю, і яна зашморгнулася на шыі. Бляк ляжаў на баку з выцягнутымі нагамі і быў крыху прыцярушаны сняжком. Вядома, паставіць у хмызняку пятлю, каб у яе ўлез бляк, у сяле было нямала ўмельцаў-ахвотнікаў. Але больш за ўсё зачапіла і абразіла тое, што заяц ляжаў пад ялінкай-былінкай, якую я лічыў сваёй сястрой-сястрычкай. Які паганец і душагуб прывязаў да камля драцяную пятлю? Ах, каб я ведаў, хто гэта зрабіў!..

Пакуль я гневаўся і абураўся, з хмызняку, здаецца, не выйшаў, аываліўся Юстын. На яго галаве бялела вялізная, як сяўня, зімовая шапка, пашытая з заечай аўчынкі. Нешта не так выходзіла ў мяне з Юстынам. Я, Кацька і Мікітка хадзілі ўжо ў школу і вучыліся ў адным класе. Разам ішлі са школы, нярэдка Кацька прыбягала да мяне, і мы зубрылі ўрокі. Тады-сяды да яе заходзіў я, і нашы галовы схіляліся над падручнікам, і настолькі блізка, што

дакраналіся адна да аднае, і мы толькі смяяліся. Аднаго разу Юстын пабачыў нас за сталом, праўда, нічога не сказаў, толькі моўчкі паківаў галавой і загадкава ўсміхнуўся. У другі раз ён сустрэў нас з Кацькай, калі мы ўцякалі пад страху ад ліўня. На гэты раз Юстын паглядзеў на мяне доўгім дапытлівым позіркам і, звёўшы на пераноссі бровы, сказаў так, нібы ад яго залежала наша сяброўства: «Ну што ж, дружыце! Можа, зяцем станеш. З гэтага дня і зваць буду цябе зяцем». І сапраўды, пры сустрэчы Юстын спыняўся і прылюдна, нібыта жартам і адначасова ўсур'ёз, пытаўся: «Ну як справы, зяцёк? Можа, чым-небудзь памагчы? Ці гарачых усыпаць?» Гэта значыць, розгаў. Спачатку я бянтэжыўся і губляўся, гатоў быў скрозь зямлю праваліцца. Але з часам прывык і прапусакаў яго кепікі міма вушэй. А ў трэці раз ні з таго ні з гэтага ён заявіў: «Рыхтуй, зяцёк, калым! Хутка ж са сватамі заявішся». Гэта мяне вывела з сябе. Я пакрыўдзіўся на Юстына і, каб адбіць у дзядзькі ахвоту пацвельваць з мяне, вырашыў падкузьміць яго. Але як гэта зрабіць? Трэба скласці частушку! Цэлую ноч не звёў я вачэй. А раніцай, сустрэўшы Мікітку, прачытаў яму: «А да ветрыка Юстын ноччу лазіць цераз тын. Крэкча цяжка ў крапіве, бо аб'еўся груцаю...» Далей ў мяне нічога не выходзіла, як я ні ламаў галаву. Пра гэта сказаў Мікітку. «Ха! — хмыкнуў ён. — Знайшоў над чым мазгі сушыць! Трымай!» І ён на хаду выпаліў: «У сяле адзін жыве ён па Канстытуцыі». Ай ды Мікітка! Ну хіба не чмут?! Хто б мог падумаць, што ён здатны на такое! Я быў упэўнены, што Мікітка можа толькі гарлапаніць, мяне з Кацькай пад манастыр падводзіць. А тут ні з таго ні з гэтага як у сук тапаром уляпіў. Я гатоў быў што заўгодна зрабіць для Мікіткі. Калі б у мяне меліся не толькі цукеркі, а нешта больш каштоўнае і яно спатрэбілася б Мікітку, адразу падзяліўся б з ім. А ён стаяў побач, адно толькі пасміхаўся, быццам нічога не адбылося, і ў той жа час усім сваім выглядам паказваў: «Гэта што? Глупства. Я і не такое магу адштукаваць!» — «Чакай! — сказаў я. — Давай паглядзім, што ў нас атрымалася?» Мы прыселі на завалінку, азірнуліся, каб ніхто не падслухаў, і я прачытаў:

А да ветрыка Юстын
Ноччу лазіць цераз тын.
Крэкча цяжка ў крапіве,
Бо аб'еўся груцаю.
У сяле адзін жыве
Ён па Канстытуцыі.

Мы глянулі адзін на аднаго, ляснулі далонь аб далонь, як гэта рабілі кожны раз, калі ў нас выдатна выходзіла якая-небудзь справа, і разрагаталіся. І настолькі гучна, што цыбаты певень з чырвоным і выгіната-вострым, як серп, грэбенем на галаве, што кавалерам пахаджваў сярод хахлатак і ўжо спыніўся каля адной са сваіх падапечных, каб ускочыць і патаптаць яе, уздрыгнуў, глянуў у наш бок і неяк абвяў, страціў імпэт. Услед за гэтым прарэзліва кукарэкнуў, пэўна, падаў нейкую каманду, і пашыбаваў да хлеўчука. Услед за ім сыпануў увесь курыны вывадак. Мы з Мікіткам пераглянуліся, рассмяяліся і былі ўпэўнены, што цяпер Юстыну, як і пеўню, давядзецца не соладка. Заставалася толькі адно: зрабіць так, каб частушка пайшла гуляць па сяле. Дзеля гэтага накрэмзалі яе на вялізнай картонцы і таксама вялізнымі літарамі. Улучыўшы момант, калі на вуліцы не было ні душы, прыляпілі яе на дошцы, на якой брыгадзір вывешваў нарады і розныя аб'явы. А праз гадзіну-другую каля дошкі ўжо стаяў тлум і вэрхал, падлеткі і дзецюкі лезлі адзін аднаму на плечы і галовы, кожнаму хацелася на свае вочы пабачыць і прачытаць частушку пра Юстына. Якраз прагналі на паўдня кароў, да людскога зборышча зва-

рочвалі пажылыя мужчыны і кабеты. Мы з Мікіткам сядзелі на гарышчы яго хаты, што стаяла насупроць, і добра чулі выкрыкі і воклічы. «Ну і прапясочылі гэтага Паканстытуцыі!» — «Якое там прапясочылі? Прама пад дыхавіцу вілы ўсадзілі!» — «А ці варта гэтак вось чалавека бэсціць? Пасля такой ганьбы можна і засіліцца...» — «Паканстытуцыі засіліцца? З-за чаго? Гэта ж, лічы, пахвала!» — «Хай яна на сухі лес, такая пахвала!»

З мястэчка ехала фурманка ў суседнюю вёску, на ёй сядзелі бацька і сын. Яны, пэўна, вярталіся з кірмашу, бачна было, што ўзялі па кроплі. А тут сярод сяла немаведама што робіцца! Сын нацягнуў лейцы і крыкнуў з воза, каб пачулі, чаму гармідар такі стаіць? Мікодзь, які першы прыджагаў сюды, хоць і нездаровы быў на ногі, зірнуў на дзецюка так, нібы ён, ёлупень, пытаўся: у лес прыехаў ці ў вёску? — і здзівіўся: «А ты не ведаеш?» — «Адкуль? — адмоўна пакруціў галавой фурман. — Хіба не бачаш, во толькі што з мястэчка!» — «Родненькі, тут такое дзееецца, што ніколі і не паверыў бы!» — Мікодзь хапіўся аберуч за галаву, каб паказаць, якое дзіва з дзіў адбываецца ў іх сяле. «Ды кажы ты, чорт, не цягні!» — крыкнуў з падводы бацька, чорны, як смалакур, зарослы па вушы калматай барадой мужчына, хапаючыся за пугу, быццам мерыўся сперазаць ёю Мікодзя. «А, браточкі, аб'яву вывесілі, што на працадні грошы будуць плаціць, жыта даваць і мераць дашчанкай!» — як не загаласіў ад радасці Мікодзь. З ім бывалі незвычайныя дзівосы пасля таго, як яго кантузіла выбухам толу, які ён няўдала кінуў у рэчку. Часам ён мог прыдумаць такое, што нельга і ў сне прысніць. Калі ў яго пасля пыталіся, адкуль ён усё гэта ўзяў, то не мог толкам ні адказаць, ні ўспомніць. Кляўся, біў кулакамі ў грудзі, што ведаць нічога не ведае. Разы са два яго хацелі правучыць дручком. А калі пабачылі, што ў Мікодзя ўсё гэта ад кантузіі, то перасталі чапіцца, проста не слухалі, што ён пляце. Вось і цяпер нешта яму мроілася, трызнілася, і ён уваходзіў у сваю ролю. «Божа, людзі ачмурэюць ад грошай і жыта!» — седзячы, пагойдваўся з боку ў бок Мікодзь і трымаўся за скіўцу, быццам у яго разбаleліся зубы. «Як — грошы і жыта? — ледзь не саскочыў з падводы малады фурман. — Ад прэку-веку не давалі на працадні. За палачкі людзі ўкалвалі!» — «А чаму вэрхал і тлум стаіць? — абвёў Мікодзь рукой зборышча людзей. — Не верацъ ні вачам, ні вушам. А брыгадзір пайшоў клець адмыкаць, ну, дзе жыта ў засеках». — «Адкуль яно ўзялося, тое жыта? — фурман ледзь не схапіў Мікодзя за грудкі. Яму здалося, што Мікодзь нешта не дагаворваў і цямніў. — Яшчэ і жаць не пачыналі!» — «У тым і загвоздка, — нагнуўся да вуха фурмана і перайшоў на даверлівы і таямнічы шэпт Мікодзь. — Як захочуць даць, знойдуць і жыта і грошы. Асабліва калі загадаюць адтуль!» — ён узняў вочы ўгору. «А як жа ў нашай Тылькаўцы? — затрывожыўся бацька. — Будуць даваць? Можа, ведаеш ці чуў?» — «Прачнуўся! — дакорліва пахітаў галавой Мікодзь, — У Тылькаўцы з самае раніцы і грошы, і жыта раздавалі. Цяпер там людзі не ведаюць, што ім рабіць са сваім багаццем? Хочуць спытаць у каго-небудзь, ды ўсе параз'язджаліся хто куды. Банкір як віхура праімчаў. На вуліцы кабеты стаялі, дык ён паўзверх галоў як шугануў». — «Не дай бог, каб па галовах людзей і шугалі, і ляталі! — слухаючы, як цікава расказвае Мікодзь пра нейкіх летуноў, прахапілася ці то ад сну, ці то ад дрымоты напаўглухая Лукер'я, што прагнала на пашу карову і сядзела непадалёк ад Мікодзя, набожна перахрысцілася і абурылася. — Гэткія паганцы развяліся! А дзе ж гэта было, Мікодзь? Ты сам гэта бачыў ці табе сказалі?» — «Як гэта — дзе? — крутануўся да яе Мікодзь. — У нашым сяле, Лукер'я. І ты, здаецца, стаяла з жанчынамі. Дык ён, банкір, хай яго кадук, як скокне цераз усіх на фурманцы…» — «Ай-яй! — спалохалася Лукер'я. — Добра, што я не

бачыла гэтага страхоцця». — «Як не бачыла? — здзівіўся Мікодзь. — Стаяла як слуп і не я бачыла?» — «Нешта мне не помніцца», — падазрона зірнула на Мікодзя старая Лукер'я, адчуваючы, што ён з хлусні лапці пляце і хлуснёй іх падплятае. Лукер'і здалося, што ў Мікодзя ўлез д'ябал, і, каб яго выгнаць, яна хуценька тройчы перахрысціла Мікодзя і задам падалася ад яго падалей. Штосьці не падабалася ёй хапатлівасць і гарачнасць у гаворцы Мікодзя.

А бацька і сын падступалі да яго з іншым: няўжо гэта банкір быў, якога яны сустрэлі па дарозе? «Але чаму ён анучнікам назваўся?» — і закруціліся каля яго, як чэрці каля свечкі, быццам ён быў вінаваты, што далі маху. «А хіба банкір без галавы, каб хваліцца, што ён багацей? — глядзеў на іх Мікодзь, як на дзівакоў. — Такі і роднай маці не прызнаецца, што на мяшках з золатам сядзіць. Ты яго вешай, на дыбе чвартуй, а ён будзе адно плесці — анучнік! Інакш доўбняй прыстукнуць ці ў завуголлі прыдушаць». — «Чаго ж мы ў такім разе стаім? — рвануўся да падводы бацька. — Давай, сын, гані каня! Можа, і мы паспеем?» — «Сонца яшчэ высока, — зірнуў Мікодзь у неба з-пад рукі. — Павінны паспець на шапачны расхоп!» Сын, стоячы на возе на поўны рост, раскруціў над сабой лейцы, ударыў імі па хрыбціне каня, і ён ірвануў з месца. Фурманка загрукацела калдобістай і камяністай вуліцай і знікла з вачэй, толькі пыл услед закурэў.

Мікодзь падняўся з бервяна, на якім сядзеў, і, крэкчучы ды праклінаючы хваробу, што гвалтам убілася ў ногі, паплёўся ў бок сваёй хаты. Нам з Мікіткам было відно, як па дарозе ён сустрэў Юстына, спыніўся і перакінуўся з ім парай слоў. Па тым, як Юстын шпарка кінуўся наперад, можна было меркаваць, што Мікодзь падахвоціў суседа прыспешыць да аб'явы, няйначай, схлусіў, што яго чакае высокая ўзнагарода ці прэмія.

У той дзень частушку ведала ўся вёска. Мы з Мікіткам былі на сёмым небе. Выпадкова ці не выпадкова Юстын сустрэў мяне на вуліцы і, гледзячы паўзверх маёй галавы, сказаў: «Лічы, што ты мне палову калыма ўжо сплаціў, зяцёк, — і загадкава дадаў: — Дзярзай, можа галаву скруціш, а можа і толк з цябе выйдзе». З таго дня ён неяк насцярожана пачаў ставіцца да мяне, радзей трапляўся на вочы. Напэўна, баяўся, каб не выкінуў яшчэ што-небудзь накшталт частушкі.

А тут вось такая сустрэча!

Юстын выцерабіўся з кустоўя на прагал, цераз плячо былі перакінуты два злоўленыя і звязаныя за ногі зайцы. Ён зірнуў пад ялінку, і на зарослым шчацінай твары з'явілася нешта падобнае на ўсмешку. Цягнучы ногі, нібы на іх былі не боты, а пудовыя гіры, падышоў да ялінкі, дастаў з пятлі беляка, які здаля мне здаваўся хатулём ці скруткам. Абвёў позіркам кустоўе і ялінкі, нібы хацеў запомніць мясціну, дзе яму пашчасціла забрытаць касавокага! Атросшы яго ад снегу, прыкінуў, колькі заважыць, зашчаміў за папругу, якой быў падперазаны, і сабраўся ісці далей, але схамянуўся, падняў галаву і зрабіў выгляд, што толькі цяпер заўважыў мяне: «Каго я бачу?! Як ён сюды заблудзіўся?» У Юстына мелася звычка звяртацца да таго, з кім сустрэўся, як да кагосьці іншага. Але голас і тон былі памяркоўныя і дружалюбныя. Адчувалася і пэўная хітрынка. «Заблудзіўся так, як і ты, дзядзька Юстын, — хоць на языку круцілася іншае, сказаў я. — Ішоў сюды, на сляды натрапіў. Можа, на твае?» Але Юстын як усё роўна не пачуў майго пытання. І ці то пацікавіўся, ці то пасміхнуўся: «А чаго так рана ўскруціўся? Учарашні дзень шукаеш? — азірнуўся па баках, быццам хацеў упэўніцца, што яго і ў паміне няма. — А можа, вядзеш рэвізійны падлік зайцавага пагалоўя? Колькі іх засталося? Сягоння во на трох паменела», — Юстын паляпаў па беляках, якімі, здаецца, быў абчапляны з усіх бакоў. Улавіўшы ціхую ды злую іронію ў яго голасе, мне хацела-

ся крыкнуць: «Ідзі ты, ведаеш, куды, дзядзька Юстын!» Але замест гэтага, стараючыся быць стрыманым, сказаў: «Хачу паглядзець, як чэрці ў кулачыкі б'юць». — «Чарцей трэба шукаць не тут, а ў балоце!» — параіў Юстын. «Іх і тут можна сустрэць!» — падпусціў я шпільку Юстыну. «Што ты кажаш! — як усё роўна здзівіўся Юстын. — З самага досвітку плазую, а каб хоць адзін чорт трапіўся». — «Баяцца, дзядзька Юстын. Ведаюць, што можаш з іх скуру жыўцом злупіць. Як і з зайцоў!» — лез я на ражон. «Скуру з зайцоў і іншыя лупяць! — ніколькі не пакрыўдзіўся ён. — Нічога дрэннага ў гэтым няма. А вось ты, зяцёк і вісус, швэндаеш па лесе. А якой карысці ад цябе? Што дамоў прынясеш? Хвігу ў кішэні! А мог бы і з зайцам з'явіцца, маці і бабку Агапу парадаваць».

Я адчуваў, што Юстын гаварыў праўду. Але такую праўду, якую я не хацеў слухаць, яна была не па душы. «Дзядзька Юстын, — як мага больш спакойна, сказаў я, — думаеш, што дроту не знайшоў бы на пятлю? Але мне шкада зайцоў. Не хачу іх душыць». — «Можа, ты вегетарыянец! — як на блазна, зірнуў Юстын і, зразумеўшы, што я не ведаю, што гэта за птушка, патлумачыў: — Ну, той, хто цураецца скаромніны. І жыве святым духам». Юстын гаварыў з усмешкай, мне здалося, што ў яго голасе гучала нейкая скрытая пагроза, і я гатоў быў змоўкнуць. Але разам з гэтым штосьці пратэставала ў душы, не дазваляла згаджацца з Юстынам. А тое, што ён сказаў пра нейкае вегетарыянства, абразіла і раззлавала. «Ніякага вегетарыянства, дзядзька Юстын, не ведаю і ведаць не хачу!» — адрэзаў я. «Што? Абразіўся? — пацяплеў голас Юстына. — А мне, думаеш, салодка слухаць твае папрокі? Які з мяне скуралуп? Паляўнічы сезон пачаўся. Раблю ўсё так, як і трэба! Па Канстытуцыі». У дадатак Юстын чамусьці згадаў яшчэ філасофію і з такім захапленнем пачаў гаварыць пра яе, нібы гэта была мудрая і раздабрэлая на гарадскіх харчах кабета, якая бачыць кожнага навылёт, ведае, пра што ён думае і што ў яго на душы. А сам Юстын, выходзіла, нават сустракаўся з гэтай незнаёмай і таямнічай асобай. Ён гэтулькі чытае кніг і газет, жыве і робіць, як ён сам гаворыць, па Канстытуцыі! У мяне адпала ўсякая ахвота аскірзацца з Юстынам, кідаць нешта рэзкае і непрыемнае. Я ўжо дакараў сябе, што пачаў з ім спрэчку. Але па-ранейшаму быў у такім стане, нібы хтосьці сядзеў ува мне ўнутры і тузаў за нейкую вяровачку, прымушаў казаць тое, што я, здаецца, і не думаў казаць. «Кепская тады гэта, як ты кажаш, твая філасофія, што дазваляе душыць зайцоў!» — ледзь не выгукнуў я. Юстын паглядзеў на мяне, як на неразумнае, але ўпартае і капрызнае дзіця, і, можа, у сваё апраўданне, ці проста так, кінуў: «Нічога ты не разумееш! Падрасцеш, навучышся думаць і рабіць, можа, і не па Канстытуцыі, але так, як робяць многія!» Павярнуўся да мяне спінай і падаўся ў бок ракі, дзе, пэўна, стаялі яго петлі. Моўчкі пазіраў я ўслед і, хаця ён быў бацька Кацькі, мне хацелася, каб ён зараз жа, на маіх вачах, праваліўся ў якую-небудзь палонку і прасіў мяне падаць яму руку, памагчы вырабіцца з бяды. Неўзабаве Паканстытуцыі схаваўся сярод густога кустоўя. Толькі цяпер я адчуў, што ногі ў лапцях-лазовіках прамерзлі, холад забіраецца пад ватоўку, і затанцаваў, не раўнуючы як бяляк на ранішнім марозе. У вочы кінулася драцяная пятля з клокам зайчынай поўсці. Юстын пакінуў яе, спадзеючыся, што ўлезе яшчэ які-небудзь заяц-недарэка. Я тузануў пятлю, але яна была надзейна прыкручана да камля ялінкі. Давялося павалаводзіцца, пакуль даў ёй рады. Зняў і іншыя петлі, якія паставіў Паканстытуцыі. Апошнюю хацеў шпурлануць у кусты, але перадумаў. Узяў з сабой, можа, спатрэбіцца.

У хату я ўваліўся нацямку, прамерзлы, захапканы і ўвесь, з ног да галавы, у снезе. Маці была ўстрывожаная, накінулася на мяне з папрокамі і ледзь не

ўзялася за папругу. Але адчыніліся дзверы, у хату ўвайшла бабулька і заступілася за мяне, маўляў, навошта лаянку ўсчынаць, во, дзякуй Богу, жывы і здаровы прыйшоў дадому! Услед за гэтым пахвалілася, што была ў хаце Юстына: Божачка, што там робіцца! Гаспадар скуркі з зайцоў дзярэ-лупіць, гаспадыня зайчаціну смажыць, дух ад яе ажно столь гайдае ды ўгору ўзнімае. Хто б мог падумаць, што Юстыну так на зайцоў пашэнціць! Бабулька і маці пачалі пра нешта разважаць, а я адсунуў ад сябе міску з верашчкай. Не елася і не пілося, не сядзелася на месцы. Я адчуваў, што ўсё больш і больш ненавідзеў Паканстытуцыі. Ён абразіў маю ялінку. За гэта трэба было адплаціць, і так, каб і дзясятаму наказаў, як душыць зайцоў і абражаць маю ялінку. Частушкі тут будзе мала. Улучыўшы хвіліну, калі маці пайшла на другую палавіну хаты, я хуценька апрануўся і шуснуў на ганак. Стаяла месячная ноч, было ціха і так светла, хоць іголкі збірай. Двор Паканстытуцыі месціўся на ўзгорку, за чатыры хаты ад нашай. Я сышоў з ганка і падаўся сцежкай, што вывела мяне на агароды. Снегу было вобмаль, тут хадзіў-гуляў вецер і зносіў яго на ўсе бакі, куды толькі хацеў. Было цемнавата, але праз якую хвіліну-другую зрок прывык. Бралася на адлігу, снег не рыпеў пад нагамі. Наперадзе грувасціўся хлеў Паканстытуцыі, на якім бліскаў кавалак бляхі, што мацаваў верх даху. У хаце свяцілася толькі адно акно. Я адвёў убок частаколіну і нырнуў у праём, які вёў у сад, дзе летам нас з Мікіткам чакала Кацька і ўпотай ад бацькі частавала яблыкамі. З сада — на падворак. Прывязаў драцяную пятлю да частаколіны, якраз там, дзе кожную раніцу з усіх ног бег парсюк, калі Параска выносіла з хаты мешанку і чаўбохала яе ў карыта. Патузаў, ці моцна трымаецца, і стрымгалоў кінуўся з падворка.

А раніцай, калі добра развіднела, на ўвесь канец вуліцы панёсся парсюковы енк і віск. Выскачыўшы з хлеўчука, кабанчык з разбегу ўсадзіў лыч у пятлю і грымнуўся на дол. Гаспадар вылецеў на ганак і, пабачыўшы, што робіцца з гадаванцам, кінуўся ратаваць, вызваляць з пятлі. На яго шчасце, нічога дрэннага з кабанчыкам не здарылася. Пятля адно толькі падрапала шыю. Кабанчыку, відно, не спадабалася, што яму не даюць дапасці да карыта, і ён, усхапіўшыся на ногі, адкінуў лычам гаспадара ўбок, рвануўся да мешанкі і пачаў хапаць яе напоўніцу. А Параска сашчапіла на грудзях рукі, стаяла моўчкі ды хітала галавой і дзівілася: яе чалавек, здаецца, не п’е і не курыць, а вось нешта сталася з ім, пачаў ставіць петлі не толькі ў хмызняку, але і ў сваім двары. І на каго? На ўласную жывёлу! Можа, гэта ад таго, што многа чытае газет і кніжак, апошнім часам чымсьці незадаволены? Яна са шкадаваннем зірнула на яго, хацела падысці, нешта сказаць. Але ён крутануўся на нагах і падаўся ў хату. Магчыма, гадаў — чыіх рук гэта справа? Пры сустрэчы на вуліцы падазрона зіркаў у мой бок, але я і выгляду не падаваў, што нешта ведаю пра пятлю. Тым больш, што Паканстытуцыі даўно быў не ў ладах з суседам, не менш хітрым, чым сам, і, відно, падазраваў, што гэта ён падстроіў для яго кабанчыка драцяную пастку. У душы я радаваўся і не радаваўся, што не стрываў і вось так адплаціў яму, жывадзёру і душагубу, які не толькі пераводзіў са свету зайцоў, але і апаганіў маю ялінку-былінку, сястру-сястрыцу. Маўчалі і маці з бабулькай. Я чуў, як той раніцай бабулька напаўголаса гаварыла маці: «Давала я карове сена, выйшла на гарод, а там след ад нашага двара ў бок гэтага зайчатніка. Яго сляды, нашага неўвірутніка. Пазнала па лапцях, якія я пляла яму. Але, дзякуй Богу, снег раніцай паваліў валам, прыкрыў сляды. Глядзела я, ад іх цяпер ні знаку! Ніхто не дазнаецца і не здагадаецца. І ты маўчы. Нават выгляду не паказвай яму!» — я здагадаўся, што бабулька ківае галавой у мой бок, дзе я спаў.

Ах, ялінка-былінка! Колькі прайшло гадоў, колькі вады сплыло ў рэках, колькі адгуло навальніц і адкруціла мяцеліц з тых далёкіх дзён! Колькі сцежак і дарог засталося за спінай, колькі пабачана, пражыта і перажыта! Жыццё кідала ў віры і жорны, круціла і цёрла, тапіла з галавой у вадаваротах і выносіла на бераг, каб ачомаўся і ішоў, таптаў сваю сцежку далей. Як ачмурэлая, бегла яна па тайзе і гарах, праз сёлы і гарады і — чаго там таіцца? — гады ў рады вяла ў родную вёску, а там — за дзедава гумно, дзе стаяла ялінка-націнка. Праўда, аднаго разу, калі я пасля доўгіх вандровак завітаў да яліны ў чарговы раз, то пабачыў, што непадалёк ад яе праклюнулася маленькая і бухматая, як вавёрка, ялінка-навінка, ялінка-пушынка і пайшла сабе расці, цягнуцца ўгору. А калі зноў прыбіўся ў родныя мясціны і падаўся на пожню, каб памагчы брату сагрэбсці сена, зірнуў на ялінку і здзівіўся: яна была ўжо мне па пояс. Ад'язджаючы, я папрасіў брата, каб ён прыглядваў за ялінкай, аберагаў ад злога вока, не даваў у крыўду. Брат здзіўлена паглядзеў на мяне, нешта хмыкнуў сабе пад нос, быццам хацеў сказаць, што ў яго ўласных турбот повен рот, калі не болей! І ўсё-ткі я спадзяваўся, што яна, ялінка-карынка, будзе расці і красавацца на ўскрайку сяла, не зачэпіць яе ні злая бура, ні ліхая сякера.

І вось стаім мы з табой, ялінка-былінка, каля Камароўкі, у адгароджаным сырымі аполкамі закутку, сярод гарадскога пераднавагодняга тлуму і вэрхалу, і ты, спалоханая, цемнавокая і прыціхлая, паглядаеш збянтэжана на людзей, якія бяруць-хапаюць лясных прыгажунь, каб прынесці дамоў, абчапіць цацкамі і featurezнымі дзівосамі, што будуць радаваць і дзяцей і дарослых на Новы год. Я вазьму цябе, ялінка-былінка, на рукі і панясу дахаты. Ты адагрэешся ў маім жытле, агледзешся і асвойтаешся. І мы сустрэнем з табой свята. Будзе гучаць музыка, песні, навагоднія тосты, людскі смех і гоман. І ты будзеш радавацца разам з усімі. Пасля свята вынесу цябе на балкон, пастаўлю ў кутку, каб ты глядзела на гарадскую мітусню і на людзей, што раніцай спяшаюцца па сваіх справах і клопатах. А ноччу на твае мяккія лапкі будуць сыпацца ды сеяцца сняжынкі і буйныя святлістыя зоры.

А можа, я памыляюся. Можа, мая ялінка-былінка па-ранейшаму стаіць на ўскрайку вёскі, радуецца вятрам і маразам, завеям і снегападам, зайцам-белякам, што гойсаюць у хмызняках, саграваючыся ў сваіх не надта цёплых кажушках.

Хто ж яго ведае?



Ізяслаў КАТЛЯРОЎ

# «КАЛІ СЛОВАМ СТАНОВІЦЦА ВЕЧНАСЦЬ...»

* * *

Скажу сабе там, дзе паляна,
дзе холад чысціню збярог:
«Не трэба пра Радзіму — марна,
яна таксама мне — як Бог».
Яе тут лес ужо радзее,
хаця нібыта і зарос.
Здаецца нейк, што ён сівее
ужо не толькі ад бяроз.
Пра што вы, елкі, сосны, клёны?
Гул векавечны, вечны шум…
Ізноў закаркалі вароны —
і следам столькі цяжкіх дум.
Твае згубіў я межы-землі,
ці гэта ты губляеш, ты?
З табой, Радзіма, свет мне — белы,
а без цябе ён — з чарнаты.

* * *

І зразумею (мо паглядам?),
што ўздоўж заснежаных прысад,

---

***Катляроў Ізяслаў Рыгоравіч*** *нарадзіўся 21 лютага 1938 года ў горадзе Чавусы Магілёўскай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1966). Працаваў у рэдакцыі раённай газеты «Светлагорскія навіны», дырэктарам карціннай галерэі аддзела культуры Светлагорскага райвыканкама.*

*Піша на рускай мове. Аўтар паэтычных кніг «Друзья мои — свидетели мои» (1981), «Здесь, на трепетной земле» (1989), «На расстоянии взгляда и души» (1990), «А душа и в молитве болит» (1994), «Но даже умираем, чтобы жить» (1999), «Россыпь» (2000), «Земля простит, но не прощает небо» (2001), «Куда б ни шел — иду к своей судьбе» (2002), «Вечное время во мне» (2003), «Сам себе дорога» (2004), «И гром, словно эхо войны» (2005), «По ту и эту сторону окна» (2006), «Небесная весть» (2012) і інш.*

за цішынёй, за снегападам —
скрозь цішыня і снегапад.
Што, колькі б ні ішоў упарта,
дзе прывідная даль відна, —
скрозь калыханне снегападу
і цішыня, і цішыня.
Прайду праз луг ужо без спеху,
сцяжу забытую знайду…
І вось, нібы па хвалях снегу,
па цішыні цяпер іду.
Душу паглядам асляпляю,
міруся з памяццю гадоў
і хрустам зноў у хруст ступаю,
у хруст ступаю хрустам зноў.
Ну а калі зусім стамлюся
ісці за хваляй снегавой,
то снегападам сам зраблюся
і цішынёй, і цішынёй…

* * *

Душу я памяццю лячу, —
стамілася ў папроках, —
не знаю сам, каму хачу
напомніць аб прароках.
І хоць не чую Божы Глас,
ды веру — і не слепа:
адзіныя заўсёды ў нас
для ўсіх Зямля і Неба.
Адна і мудрасць нам для ўсіх,
для душаспазнавання, —
не важна, дзень і век які
Свяшчэннага Пісання.
Кім хочаш будзь сабе тайком
прад пеклам і прад раем,
але заўжды ў жыццё жыццём,
а смерцю ў смерць трапляем.
І ў кожным з нас жыве прарок, —
уцямім, хоць не скора...
Ну вось я зноў зрабіў глыток
сусветнае прасторы.

* * *

Дзе як бы нічога не было,
дзе само паветра знікла ў высях,
бы дыханне, бачу я святло,
і прамень як быццам аддзяліўся.
Ён — не ён, а свеціць мне ў дакор,

сам сябе пад небам прасцірае…
Вось мігціць на ўвесь зямны прастор,
вось бы гасне, быццам бы згарае.
Звузілася гнётка вышыня, —
так, што сцяўся шолах над бярозай.
Вогненных успышак вастрыня
жаласцю пужае і пагрозай.
Ці святло, ці водбліск на шляху?
Што мне ў ім — то мяккім, то суровым?
Я сказаць ніколі не змагу
ні дыханнем, ні душой, ні словам.

* * *

У смерці праўда ці ў жыцця —
хто гэта знаць здалее?
Такая сінь скразная ўся,
што ажно снег сінее!
І бляск шчаслівых купалоў
па дахах і па кронах
так слізгае паверх галоў,
так мкне з царкоўным звонам…
Зноў дачакалася душа,
і думкам — пакаянне...
Зліліся неба і зямля
у ззяючым гучанні.
Ўразлёт адразу — вараннё,
ўсё чорнае — у спудзе...
Пяе паветра ўжо само
ў задумлівай акрузе.
Гул не прапаў — павіс увесь,
не ўзварухнецца вецер...
Ёсць вышні розум, вышні сэнс
на гэтым Боскім свеце.

* * *

Зірні, зірні ў акно!
Заплач ад захаплення...
Бы ў першы дзень тварэння,
свет ясніць нам яно.
Снег дыхае, — не ўціх,
зямля святлей, чым неба...
Ізноў падумай нема,
што Бог мудрэй за ўсіх.
Усё-ткі аддзяліў
зямлю Ён ад нябёсаў.
Зірні, як вербалозы
Ён снегам падбяліў.
Святая чысціня, —

і грэх — падумаць грэшна,
калі ляжыць бязмежна
на далях вышыня.

* * *

Пульсуе ў высях зорнае святло, —
я пульсам адчуваю трапятанне.
І натуральней быць мо не магло,
чым памятнае ў небе шчабятанне.
Ах, ладна, паляцелі — свой ім курс,
вось-вось над полем рэха адгукнецца...
Іду туды, дзе мой сардэчны пульс
пад зоркамі ці проста ў зорках б’ецца.
Ўзнімаюся за поглядам увысь.
За поглядам? А ці па ім — усё-ткі?
Вось пада мною лесу ўжо абрыс,
вось і ракі адолеў рух дрыготкі.
Над ёю у паветры перайшоў,
цяпер над лугам я іду, над полем.
Пункцірны бляск, якім чытаю зноў
аб тым, што кожны жыць сабою волен.
Ў жыццёвым зле? Ў жыццёвай дабрыні?
Сваім рашаем самі ўласным лёсам,
ці нам бадзяцца духам па зямлі,
а ці лунаць усё-ткі між нябёсаў.

* * *

Зноў прасачу за падаючым снегам,
за ветрам, што па лёдзе слізгаціць...
Гасподзь, спадоб застацца чалавекам, —
сам не магу бядотнасці пазбыць.
Я так люблю марознае дыханне
і снежную зямную пекнату,
бязважкае сняжынак трапятанне,
іх заміранне нават на ляту...
Змяшаюцца і ўсплёскі святлаценяў, —
дзе даль, дзе высь — звышколерна ўваччу.
О Госпадзі, усё — з жывых імгненняў...
Ты знаеш Сам, як я жыцця хачу.
Не аднімай ні розуму, ні волі,
мецьсілу хоць бы нейкую дазволь,
калі я слепну ад скразнога болю,
і выдыхаю, і ўдыхаю боль...
Гасподзь, спадоб застацца чалавекам!

* * *

Усё ж зямны з нябесным шлях,
на жаль, не можа памяняцца, —
і ў тым, што будзе мне ў гадах,
сабе страшуся шчэ прызнацца.
А паміж тым, а паміж тым,
як дні ўжо не маімі будуць,
і мне ўсё тое, што — усім:
звязуць, зарыюць і забудуць.
І што там будзе ўжо далей,
нейк уяўляю другарадна,
ды штосьці ж ёсць яшчэ ўва мне,
што смерці нат непадуладна.
А паміж тым, а паміж тым,
калі і ў памяці стамлюся,
сваімі вершамі зраблюся —
і больш, здаецца, анічым...

* * *

Зразумеў, што неба меней знае,
чым і кажа ззяннем скрозь самім.
Зразумеў, што сэрца ўжо знікае,
знікнуць бы імкнецца і зусім.
Раптам абыякавая смеласць, —
як ёй перавагу не аддаць?!
Зразумеў ён, што хацеў праз вечнасць
гэтае зіхценне прачытаць.
Можа, і бязлітарна, а ўсё-ткі
ў тайным бляску слоў знайсці святло.
Ды такога ва ўладаннях Боскіх
і майстэрства, мабыць, не было.
Значыць, мала ўсё-ткі быць паэтам.
Не, паэтам немагчыма стаць,
як святлом не ўмееш чыстым гэтым,
што і не напісана, чытаць.
Зразумеў, што слава — для пакоры
і што ён над ззяючай мяжой
пашырае сэрца да прасторы,
мабыць, і бясконцае ужо...

* * *

Залатая ад сонца тэраса,
перапоўнены водарам кмен...
Нібы з кнігі адметная фраза,
так з жыцця той запомніўся дзень.
Цісне спёка, і бэз адцвітае,

парай дыхае, душыць агрэст.
Там, дзе з цяжкасцю чмель пралятае,
абяссілена хіліцца квет.
Што там тоіцца за агароджай?
І які год мне лік свой вядзе?
Ды збавенне нясе прахалода
з той сцяжыны, дзе мама ідзе...

* * *

Здаецца мне, задуманы ўсё ж быў
для лепшай, — а якой, не знаю, — долі,
і вось, не забываючы, забыў,
як быццам волі не хапіла волі.
Жыву не за сябе, а за таго,
хто мне ўяўляецца, — і гэта бачу,
хоць анікога не віню тугой,
ужо сябе і то не вінавачу.
Сябе самога прывід — і не больш,
няма мяне такога ў вашым «сёння».
Я — скруха, што жыве без скрухі ўсё ж,
я падуладны вышняй забароне.
Здаецца, нелюбоўю ўжо люблю,
адно ўва мне цярпенне ў нецярпенні.
Я кожным днём ізноў сябе гублю
і ў кожным дні шукаю зноў збавення.
А той, хто мною быў павінен жыць,
хто ўсім маім спакойна пагарджае,
кім я ўжо і не смею даражыць,
ўва мне без нараджэння памірае.

* * *

***Таццяне Шпакавай***

Вы толькі што вярнуліся з Венецыі,
пакінулі там любасныя дні…
Ў вачах у Вас, што імі так прасвечаны,
мне бачна ўсё, што бачылі яны.
Звышрадасным спалохам а ці зайздрасцю,
не, позіркам я слухаю расказ, —
і, што вачамі Вы ўбіралі з прагнасцю,
ўсё бачу ў іх, калі гляджу на Вас.
Заліва бераг, так, Венецыянскага,
і астравы, каналы і масты…
І гэтулькі ў дамах дэкору палкага,
а цэрквы — найчысцейшай пекнаты.
І што ім тыя нават інкрустацыі, —
хоць мармур, а губляе фарбу ўсё ж…
І вітражоў квітнеючых вібрацыі,

калі святло знікае ў вецер, дождж.
Ну а масткі здаюцца ўжо графічнымі,
а вулачкі — і прама, і наўскос.
Палацы сталі готыкай антычнымі,
як быццам апраўдання адгалос.
Сабор Сан-Марка, П’яца прад лагунаю,
Палац і дожаў, нат Уздыхаў мост.
Вадой канал Вялікі ззяе струмнаю…
Вакзал Санта-Лучыя… Зорны тост…
Вы толькі што вярнуліся з Венецыі.

* * *

Можа, гэта праверана вечнасцю,
можа, ісціна гэта яе:
анічога не згублена светласцю,
раз усё і не згублена шчэ.
Можна ісціне гэтай пакаяцца
і надзеямі дні маляваць,
калі ёсць, дзякуй Богу, пакуль яшчэ,
чым і кім ёсць мне рызыкаваць.
Усміхаюся, хоць і разгублена, —
ах, не ўсё нам дазволена знаць!..
Ды пакуль што нічога не згублена,
калі ёсць мне пакуль што губляць.
Хоць жыццё на дзве трэці пражытае,
а як многа хачу я хацець,
калі ёсць, яшчэ ёсць не забітая,
не зарытая, лепшая трэць.

* * *

Ў небе, ў зроку — а штораз
аднаго святла улада.
«Жыць хачу!» — яму ў адказ
голас мой гучыць упарта.
Ўюцца ў кронах блікі плям,
луг імкнецца мне настрэчу.
«Жыць хачу!» — ужо і сам
смертнай долі я пярэчу.
Рэчка ў хвалях рабізны,
плынню ўсёй затрапятала…
І ў нябеснай вышыні:
«Жыць хачу!» — душа сказала.
Дыхам зноў святло лаўлю
і рукой кранаю лёгка.
«Госпадзі, жыццё люблю!
Жыць хачу!» — сцвярджаю крокам.
Зрокам з ластаўкай лячу —
побач з ёю, побач з ёю.

«Жыць хачу! Я жыць хачу!» —
моўлю зноў усім сабою.
Як жыццём я даражу,
зразумееце і самі:
«Жыць хачу!» — я вам скажу
нават мёртвымі губамі.

* * *

Зноў такая у думках бязмежнасць,
што выснову, бадай, не забыць:
калі словам становіцца вечнасць,
значыць, вечным і слову ўсё ж быць.
Прарастуць праз сінечу аблокі,
каб душу а ці позірк хаваць, —
паспрабуй гэта словамі ўсё-ткі
так, каб вечнымі сталі, сказаць.
Падзялілі зямлю мы і неба,
нават воды змаглі падзяліць,
ды глядзяцца убога і нема
ўсе шлагбаумы нашых граніц.
Ні вятры іх, ні буры не знаюць,
плыні хмарныя не прызнаюць,
безгранічныя птушкі лятаюць,
бесцэнзурныя песні пяюць.
І душа гэтаксама, бы птушка, —
бескрылатасць яе здолець змог
тым, што больш не хаваецца пудка
там, дзе роўныя Слова і Бог.

***Пераклад з рускай***
***СОФ'І ШАХ.***

Вольга КАВАЛЬЧУК

# ЭКЗІСТЭНЦЫЯЛІЗМ ЦІ РЭАЛІЗМ: АНАЛІЗ ФІЛАСОФСКАЙ ПРАБЛЕМАТЫКІ ПЕРШАЙ АПОВЕСЦІ ВАСІЛЯ БЫКАВА «ЖУРАЎЛІНЫ КРЫК»

«Шмат напісана і сказана пра экзістэнцыялізм у творчасці народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Аднак нельга сцвярджаць, што кропка ў пытанні аб прыналежнасці яго да згаданага кірунку пастаўлена.

Традыцыйна прынята разглядаць напісанае ім у рэчышчы рэалізму, аднак шматлікія даследчыкі акцэнтуюць увагу на экзістэнцыйнай праблематыцы прозы пісьменніка. Рэалізм прадугледжвае паслядоўнае ўвасабленне прынцыпаў «жыццёва-праўдзівага адлюстравання рэчаіснасці», што накіраваны «да мастацкага пазнання чалавека і навакольнага свету» [1, с. 318].

Несумненна, проза В. Быкава, якая грунтуецца на вопыце рэальнага жыцця, праўдзіва паказвае рэчаіснасць і адкрывае чытачу шмат чаго пра чалавека і свет, у якім той жыве. Паколькі пісьменнік сам прайшоў вайну, ён не са слоў ведаў тое, пра што пісаў. Тым не менш, падобная тэматыка твораў спрыяе іх унутранаму накіраванню да экзістэнцыялізму з яго адчуваннем бессэнсоўнасці жыцця і смяротнасці чалавека. Даследчыкі (у прыватнасці, Т. Вельг) адзначаюць уплыў і іншых літаратурна-філасофскіх школ: «Імпрэсіяністычныя сродкі і формы падачы маюць у творчасці Быкава вялікі ўплыў на выяўленне імгненных, мінаючых і неўпарадкаваных фактаў і з’яў» [5, с. 65]. Сапраўды, падобныя канструкцыі можна знайсці ў замалёўках навакольнай рэчаіснасці: салдацкі быт, апісанне прыроды ці знешнія дэталі. Дык усё ж: рэаліст Быкаў, экзістэнцыяліст, публіцыст? Хто ён на самай справе?

Агульнавядома, што аналіз першага літаратурнага вопыту пісьменніка можа шмат што сказаць пра характар яго творчасці і магчымых наступных шляхах развіцця аўтарскіх ідэй і спосабаў іх рэалізацыі. Таму звернемся да аповесці «Жураўліны крык» — самага першага быкаўскага твора буйной формы — з мэтай асэнсавання яго паводле наяўнасці матываў, падобных да экзістэнцыйных, ці іх адсутнасці.

Ужо ў гэтым творы В. Быкаў «<…> намагаецца такім чынам падаць рэчаіснасць, а разам з тым дзейных у ёй асоб, каб з дапамогай усіх кампанентаў створанага свету паказаць уласныя погляды не толькі на тэму вайны, але перш за ўсё на тэму чалавечых адносін, свабоды, барацьбы з уласнымі слабасцямі і маральнага выбару, які трэба рабіць у сітуацыях абсалютна крытычных» [5, с. 64]. Тым не менш, ён пазбягае адкрытых ацэначных рэплік у адрас сваіх герояў, што цалкам адпавядае літаратурнай праграме экзістэнцыялізму, якая «<…> уключала ў сябе перш за ўсё сфармуляваную Сартрам ідэю залучанасці, што разумеецца як актыўныя, але не інстытуцыялізаваныя адносіны пісьменніка да маральных, сацыяльных і палітычных праблем» [4, с. 121].

Сюжэт аповесці такі. Шасцёра пехацінцаў атрымліваюць заданне перакрыць дарогу на суткі, каб прыкрыць адступленне батальёна. Зброі і боепры-

пасаў мала, абставіны вельмі небяспечныя, салдаты нявопытныя, верагодней за ўсё, яны загінуць.

Несумненна, сітуацыя — «пагранічная». У такіх абставінах, паводле канцэпцыі экзістэнцыялізму, і праяўляецца сутнасць кожнага. «Калі ў жыцці канкрэтнага чалавека дамінуе будучае з яго накіраванасцю да смерці (memento mori), то быццё гэтага чалавека з'яўляецца сапраўдным. Калі дамінуе цяперашняе, то быццё гэтага чалавека не з'яўляецца сапраўдным, таму што "свет рэчаў", марнасць засланяюць ад чалавека яго гістарычнасць. Ён пачынае жыць у свеце ілюзій, стварае не рэальныя праекты, а міфічныя» [3, с. 201].

Як жа складваецца лёс герояў твора? Сціслыя характарыстыкі кожнага падаюцца ў сцэне развітання з капітанам, які спачатку пацісную руку старшыне Карпенку, «мужнаму, прысадзістаму, шыракатвараму, з рашучымі вачыма і цяжкімі сківіцамі» байцу [2, с. 20], а потым і ўсім яго падначаленым, «Гэтак жа стрымана пацісную халодную камбатаву далонь і "вучоны" — у акулярах, высокі, сутулы баец Фішар; без крыўды, шчыра зірнуў на камандзіра другі няўдака, на якога скардзіўся старшына, — малады, са свежымі сумнымі вачыма радавы Глечык. "Нічога, чорт не здрадзіць — свіння не з'есць", — бесклапотна пажартаваў пэтээравец Свіст, белабрысы, расшпілены на ўсе кручкі і гузікі, жулікаваты з выгляду хлопец. Спаважна падаў сваю пухлую далонь непаваротлівы, мардаты Пшанічны і пачціва, прыстукнуўшы бруднымі абцасамі, развітаўся чарнявы, прыгожы Аўсееў» [2, с. 20—21]. Усё гэта простыя людзі са сваімі звычкамі, уласным мінулым, аднак кожны з іх апынуўся ў аднолькавай сітуацыі трагічнага выбару, які яны спачатку да канца не ўсведамляюць, як, прынамсі, і чытач.

Першым ацэньвае Карпенка.

Калі батальённая калона знікае ў лесе, і група застаецца адна, Карпенка ўсведамляе цяжкае становішча, у якім яны апынуліся: «Старшына быў незадаволены, сярдзіты, унутры яго тужліва варушылася невыразная, шчымлівая трывога за іх лёс і за тую нялёгкую справу, дзеля якой яны засталіся тут» [2, с. 21]. У другім раздзеле да гэтага ўсведамлення прыходзяць і іншыя. Першым пачуў стрэлы Пшанічны, ад яго пра акружэнне даведаліся ўсе: «Яму ніхто не адказаў, усе стаялі і слухалі, апанаваныя наплывам благіх прадчуванняў. А там, у далёкай цемры ночы, усё разлягаліся чэргі, бухалі гранаты, ветрам разносілася ўдалячынь нягучнае здалёк рэха. Людзі змаркатнелі, самі сабой апусціліся долу іх натруджаныя рукі, ліхаманкавая трывога ўрывалася ў думкі» [2, с. 30].

Гэта ключавы момант, пасля якога вызначаюцца асноўныя падзеі гэтых сутак. Кожны, разумеючы гэта ці не, пачынае вырашаць для сябе, кім яму быць і кім не быць, што рабіць, а чаго не рабіць. Усе яны ў чымсьці змяняюцца ці, можна сказаць, адкрываюць для сябе штосьці новае: у гэтым свеце ці ў самім сабе.

Падобны змест стварае адпаведную псіхілагічную атмасферу, якая суадносіцца з экзістэнцыйнай: «<…> паколькі асноўныя модусы быцця ў экзістэнцыялізме — гэта пакінутасць, страх, пакуты сумлення, палажэнне "адчужанага" чалавека ў варожым да яго свеце, то ў іншасказанне ўкладваюцца пераважна трывога, прыгнечанасць, замяшанне» [1, с. 506].

Васіль Быкаў не маралізуе, у экзістэнцыйным духу ён дае чытачу магчымасць самому зрабіць высновы пра тое, што сапраўднае, а што марнае ў перакананнях розных людзей, у матывацыі іх учынкаў і слоў. Для гэтага выкарыстоўваецца прыём рэтраспекцыі, які дазваляе пазнаёміцца з мінулым герояў, не парушаючы фабульнага часу дзеяння твора. Такім чынам, экзістэн-

цыйны прынцып, сцвярджаючы, што мінулае вызначае цяперашняе і будучае, уступае ў сілу.

Ужо ў чацвёртым раздзеле мы знаёмімся з дзяцінствам і маладосцю Івана Пшанічнага. Ён пачынае ўспамінаць былое пасля сутычкі з камандзірам і паваротнага моманту ў сваім далейшым жыцці — рашэння здацца немцам у палон. Пшанічны разумее, што больш не можа жыць так, як раней, і ў сітуацыі, якая пагражае смерцю, робіць свой выбар.

«Даўно ўжо Пшанічны прыглядаўся, чакаў зручнага выпадку, вагаўся і баяўся, але цяпер, трапіўшы ў такую мышалоўку, канчаткова рашыўся. Свая рубашка бліжэй да цела, а жыццё для яго даражэй за ўсё, і захаваць яго можна, толькі кінуўшы зброю і здаўшыся немцам. Авось не заб'юць, дарма, што столькі баюць пра іх — Пшанічны не дзіця і ведае, што і немцы — людзі» [2, с. 32]. У гэты момант ён забывае, што, не выяўляючы лепшых чалавечых якасцей, спадзяецца на іх праяву з боку праціўніка, што само па сабе абсурдна. Акрамя таго, Пшанічны дае ацэнку тым, хто зараз разам з ім (нельга сказаць «таварышам», таму што ён іх не лічыць ні сябрамі, ні нават блізкімі па духу людзьмі), і разумее, што нічога не трымае яго побач з імі. «Пакідаць тут яму не шкада нікога — старшына зубасты і згрызотны, як фельдфебель, Віцька Свіст — блатняк і брахун — усё Мурло ды Мурло. <...> Аўсееў-то сапраўды паніч, распешчаны ў дзяцінстве белаfailручка, майстра на навуку і гультай у працы; Глечык — зусім дзіця зялёнае, паслухмяны, але як трэба не абстраляны, баязлівы, з такім не дужа весела ў баі. Фішар — падслепаваты кніжнік, з вінтоўкі стрэльнуць не ўмее, заплюшчвае вочы, калі націскае на спуск, — вось і ваюй з такімі» [2, с. 32—33].

Тут мы сустракаемся з праявай несапраўднага быцця (параўнанне з іншымі), у той час як сітуацыя садзейнічае праяве быцця сапраўднага (класічныя паняцці экзістэнцыялізму). Герой хаваецца сам ад сябе, ён намаўляе сябе, угаворвае, што там, на невядомым іншым баку, яму будзе лепш. Некалькі разоў Пшанічны спыняецца, быццам бы сумняваючыся, але праз секунду папракае сябе за маладушнасць і працягвае ісці наперад. «Нейкі нядоўгі час <...> перасільваў нечаканае хваляванне ў сабе ад таго, што гэтак шчыльна наблізіўся ён да ажыццяўлення даўняй сваёй задумы. Нечакана для яго самога непрыемна заварушылася ўнутры нейкае шкадаванне, нібы нясмелы боязны дакор сабе, і ён, адчуўшы, што гэта мімаволі можа спляжыць выпеставаны ім намер, у думках аблаяў сябе» [2, с. 74].

Накіраванасць не да смерці, а да жыцця валодае зараз ім. Ён не заўважае абсурднасці гэтага, не разумее таго, што так ці інакш усё закончыцца смерцю. «Узышоўшы на гулкі насціл мастка ў нізінцы, Пшанічны яшчэ раз азірнуўся і зноў адчуў у сабе самотную тугу і з асаблівай сілай — пачатак невядомай свае адзіноты. Гэтае адчуванне міжвольна ахапіла яго так моцна, што ён аж спыніўся, але затым зноў зазлаваў на сябе і, прыпомніўшы злосную заклапочанасць Аўсеева, падбадзёрыўся. Так, ён не памыляецца, ён задумаў правільна ўжо хоць бы таму, што яны там асуджаны на смерць. А ён урэшце памкнецца асядлаць свой лёс, заслужыць сваё права на людское жыццё, жыццё, якога ён варты, нягледзячы ні на якія няўдачы» [2, с. 75].

Несапраўднае быццё ўзяло верх над кволымі міжвольнымі сумненнямі, прычым відавочна, што герой сам зрабіў выбар адносін да сітуацыі, якая склалася, і паводзін у ёй. Пэўную ролю адыгралі ў гэтым цяжкія абставіны жыцця, з якімі чытач знаёміцца папярэдне. Аповед пра мінулае пачынаецца ацэначным выказваннем: «Няладна і гаротна склалася жыццё гэтага чалавека» [2, с. 33].

Сапраўды, апісаныя падзеі поўныя расчараванняў і балючых перажыванняў Пшанічнага. Аднак у жыцці кожнага з персанажаў былі цяжкія ў большай ці меншай ступені абставіны, ды не кожны зрабіў такі ганебны выбар. Несапраўднае быццё праявілася таксама ў тым, што Пшанічны знаходзіць для сябе падтрымку ў параўнанні сваіх паводзін і паводзін Аўсеева, феномен «як усе» (ацэнка ўласных дзеянняў адпаведна праекцыі іх на дзеянні іншага, «асярэдненага» чалавека) дзейнічае тут на ўзроўні двух суб'ектаў. Але абсурднасць жыцця ў тым, што яно не падпарадкоўваецца логіцы і чалавечым планам.

У трынаццатым раздзеле паўстае сцэна гібелі Пшанічнага — недарэчны і бессэнсоўны канец спыніў не толькі ілюзіі, але і існаванне героя. Ніхто не стаў слухаць яго блытаных тлумачэнняў, на яго звяртаюць увагу таму, што ён з'яўляецца перашкодай, якую трэба і можна лёгка ліквідаваць. І толькі з прыходам смерці Пшанічнаму «адкрываюцца вочы». Ды позна ён робіцца відушчым, хоць меў такую магчымасць і раней. «Афіцэр, аднак, не глядзеў на яго, ён нешта казаў салдатам <...> Пшанічны тады зусім спалохаўся — ён адчуў упершыню, што сталася нешта непапраўна благое. <...> Ён зразумеў, што трэба ісці, <...> здзівіўся, што яны не хацелі суправаджаць яго, нешта жахлівае і незразумелае ўпілося ў яго душу, у балючай грымасе скрывіўся твар, і ён, раз-поразу азіраючыся, баязліва пайшоў, куды паказвалі яму. <...> Ад благога прадчування Пшанічны ўжо страціў уладу над сабой і, не ведаючы, куды і нашто, віхлява крочыў па гразі, <...> нечакана паказалася спалоханая кабета ў тоўстай хустцы з пустымі вёдрамі на каромысле. Пшанічны аж пахаладзеў нутром ад нечаканасці гэтай нядобрай у такі момант сустрэчы і ў той жа час здрыгануўся ад кароткага грому кулямётнай чаргі ззаду. Грудзі яго маланкай пранізаў пякельны боль, і ён, падламаўшыся ў каленях, асеў на гразкі дол вуліцы. <...> сутаргава хапаючы ротам паветра, Пшанічны <...> нема замычаў — ад болю, ад усведамлення канца і апошняй лютай нянавісці да немцаў, якія забілі яго, да тых, на пераездзе, што яшчэ заставаліся жыць, да сябе, ашуканага сабою, і да ўсяго белага свету…» [2, с. 78—79].

Разгледзім сцісла, як склаліся лёсы астатніх пяці персанажаў аповесці.

Віктар Свіст, з мінулым якога мы знаёмімся ў сёмым раздзеле, — чалавек, які прайшоў турму. Але ён не апраўдвае сябе і прызнае віну за зробленае, кажучы, што, калі трэба будзе, ён і яшчэ адкажа за свае памылкі. Ужо ў гэтым праяўляецца цвёрдасць і шчырасць яго пазіцыі. Ён не баіцца губляць, бо шмат чаго губляў у сваім жыцці. Але, у адрозненне ад Пшанічнага, нягоды не зрабілі Свіста жорсткім, а навучылі праўдзе. Яго не крыўдзіць нават тое, як Карпенка абышоўся з трафейным гадзіннікам, прапанаваным яму Свістам: старшына разбівае яго. Цяпер, перад абліччам смерці, былы зняволены дасягае сапраўднага быцця, прыкрываючы таварышаў.

Нельга сказаць, што Свіст быў бясстрашны, бо дрэнныя прадчуванні дакучалі яму, але не паддаваўся ім, стараючыся не падаць духам і падбадзёрваючы салдат жартамі і анекдотамі. У рашучы момант другой сутычкі з фашыстамі, калі ягоная зброя сапсавалася, ён разумее: адзінае месца, дзе можна затрымаць танкі, — гэта невялічкі мосцік каля балота. Свіст кідаецца туды з дзвюма супрацьтанкавымі гранатамі, рызыкуючы ўвогуле не дабегчы да танкаў. На шляху ён атрымлівае раненне, але ўсё ж дабіраецца да маста. «Яны сышліся якраз на мастку — ушчэнт змораны, паранены баец і гэтае грымлівае крыжастае страшыдла. Свіст, слаба размахнуўшыся, адну за адной шпурнуў пад гусеніцы абедзве свае цяжкія гранаты, але сам ні схавацца, ні

адбегчы ўжо не паспеў…» [2, с. 97]. Ён зрабіў свой выбар не па загадзе, не ў выніку доўгіх разваг. Свіст дасягнуў экзістэнцыйнай свабоды, калі сутнасць «memento mori» ўжо не пужае.

Фішар — неабстраляны салдат, па родзе дзейнасці вучоны. Усё, што звязана з вайной, здаецца яму чужым. Ён ніяк не можа прыняць рэчаіснасць такой, якой яе ўспрымаюць іншыя. Нават у баявой абстаноўцы, калі атрыманы загад капаць акопы, дастае кніжачку і з захапленнем чытае біяграфію Бенвенута Чаліні, што, мякка кажучы, не падабаецца камандзіру. Фішар не прымае гвалту, ён не ўмее страляць, хоць і ведае, як гэта робіцца. Але з яго блізарукасцю няма сэнсу нават цэліцца. Карпенка раздражняе яго бесцырымоннымі камандамі. Для мастацтвазнаўцы гэта ўяўляецца неапраўданай грубасцю. Аднак, правёўшы цяжкую ноч у сакрэце ў акопе, Фішар шмат чаго абдумвае. Ён пачынае сумнявацца: ці мае сэнс яго прафесія і мастацтва ў цэлым, ці сапраўдныя яго вартасці і ці правільная яго пазіцыя. Са здзіўленнем Фішар усведамляе, што чамусьці хоча заслужыць павагу «салдафона» Карпенкі, не разумеючы яшчэ, чым камандзір выклікаў ягоны давер.

Фішар — прыклад экзістэнцыяльнага героя, які адчувае сваю непрыстасаванасць да абыякавага свету, перажывае ўласную адзіноту ў ім і ўсведамляе бессэнсоўнасць розных праяў культуры, калі побач вайна, смерць. Экзістэнцыйная ідэя абсурднасці жыцця выяўляецца ў тым, што Фішар усведамляе абясцэньванне ўсяго, чым ён жыў да гэтага. Аднак ён, адчуваючы то разгубленасць, то рашучасць, затрымлівае першае наступленне ворагаў, забіваючы, як падаецца, іх афіцэра. Трэба адзначыць, што загаду трымаць абарону Фішар не атрымліваў. Ён павінен быў толькі папярэдзіць сваіх пра набліжэнне ворагаў, на яго баявую дапамогу ніхто не разлічваў. Аднак не толькі выканаў пастаўленую задачу, але і зрабіў больш, чым, здавалася, мог. Страху смерці Фішар не адчуваў, занадта шмат змянілася за гэтую ноч у ягоным разуменні жыцця.

Сапраўднае быццё, несумненна, і для яго аказалася дасягнутым. Чаргой у адказ ён быў адразу забіты: «<…> страшэнны гром вострым болем расшчапіў яго галаву. Баец выпусціў з рук вінтоўку і, абцярушваючы рукамі мокрую зямлю, споўз на дно акопа. Нейкі час ён яшчэ быў жывы, але ўжо не адчуваў нічога» [2, с. 81].

Мінулае старшыны Карпенкі ў аповесці спачатку выяўляецца ў сцэне яго сну, дзе змяшалася ўсё: колішняе, цяперашняе і нават тое, што, магчыма, будзе (жонка старшыны, якая кажа, што ён не вернецца дадому). У гэтым эпізодзе экзістэнцыйны прынцып часавай абумоўленасці праяўляецца паслядоўна: мінулае — тое, што існуе і ў цяперашнім, што абумоўлівае цяперашняе і будучае; цяперашняе — гэта асуджанасць, а будучае — праект. Калі лічыць экзістэнцыяй тое, за што чалавек гатовы памерці, то экзістэнцыяй Карпенкі з'яўляецца ўсеагульная карысць, жыцці іншых, будучыня наступных пакаленняў.

Як бы пафасна гэта ні гучала, але ён не шукае ўласнай карысці, не імкнецца да росту па службовай лесвіцы і ўсведамляе, што можа загінуць. З дапамогай рэтраспекцыі аўтар паказвае, што Карпенка прайшоў Фінскую вайну, бываў у шматлікіх складаных жыццёвых і баявых сітуацыях, але не згубіў чалавечае, а ўзмацніў яго. Аднак і Карпенка ў чымсьці змяняецца. Гэта паказваецца В. Быкавым на прыкладзе адносін старшыны да Фішара, якога ён лічыць няўдакам і ні на што не здатным чалавекам. Тым не менш, пасля таго як гэты падслепаваты «дрэнны» салдат затрымлівае варожае наступленне коштам уласнага жыцця, Карпенка пераасэнсоўвае свае адносіны да яго. Ён

шкадуе, што быў незадаволены ім і нават адчувае радаснае захапленне байцом, які праявіў мужнасць там, дзе шмат хто не быў бы здольны на гэта і дзе камандзір ніяк не чакаў яе ад Фішара. У апошнія хвіліны жыцця старшыны побач з ім быў толькі Глечык — другі «дрэнны» баец, якім быў незадаволены старшына, вопытны франтавік.

Васіль Быкаў апісвае пакуты камандзіра, які кідаецца ў трызненні ў розныя бакі і не пазнае побач юнага салдата, працягваючы гаварыць пра бой. Але ў момант праяснення свядомасці ён усё ж разумее, хто падтрымлівае яго параненую галаву. Зноў абсурдная сітуацыя: той, хто быў маладзейшы за ўсіх і ў каго зусім не было баявога вопыту, аказваецца апошнім выжыўшым. «Старшына ляжаў ціха, раскінуўшы ў бакі сагнутыя ў локцях рукі і трошкі ашчэрыўшы шырокія зубы. Нічога ў ім ужо не было ад былой рупнай камандзірскай строгасці, толькі цьмяна ўгадвалася ў рысах твару нейкае запытанне, здзіўленне — можа, адбілася гэта ўчарашняя развага аб тым, каму з іх, шасцярых, суджана будзе закончыць бой. І, можа, адчуў ён або зразумеў, што побач адзін толькі Глечык, і таму спазнелым нямым здзіўленнем азначыўся гэты змярцвелы твар» [2, с. 100].

У восьмым раздзеле пісьменнік дае рэтраспектыўную даваенную гісторыю Аліка Аўсеева, які ў жыцці паспрабаваў шмат чаго, але так і не знайшоў сябе ні ў чым. Усюды ён, дасягнуўшы пэўных поспехаў, пераставаў заставацца задаволеным, таму што намаганне быць найлепшым не давала яму магчымасці атрымліваць асалоду ад таго, што ўжо меў. Бацькі песцілі яго, лічылі амаль што геніем, а ён выкарыстоўваў розныя шляхі дасягнення мэт, часта не звяртаючы ўвагі на людзей, якіх у большасці сваёй ён успрымаў ніжэйшымі за сябе.

Менавіта Аўсееў пачынае панікаваць, калі даведваецца ад Пшанічнага пра акружэнне. Гэта паніка не істэрычная, а змешаная з раздражнёнасцю і злосцю. Ён не можа зразумець, чаму старшына не думае пра магчымасць уратавацца, калі ёсць час адысці ў лес, паспрабаваць уцячы ад пераследу. Час ад часу Аўсееў выказвае свае прэтэнзіі ўслых, прарочачы ўсім гібель, за што атрымлівае вымовы ад Карпенкі. Тым не менш, у яго няма такой рашучасці пазбегнуць бою, як у Пшанічнага.

Яшчэ ў ноч перад сустрэчай з фашыстамі ён разумее, што заўтра давядзецца памерці, але ён хацеў жыць. Аўсееў сумняваецца, аднак не ўцякае перад боем. Акрамя таго, пасля першай кароткай сутычкі з ворагам і паспяховай абароны пераезда нават адчувае радасць і гонар — разам з таварышамі адбіў атаку, яны ўтрымаліся. Але пасля другога бою і гібелі некалькіх абаронцаў пераезда не вытрымлівае і кідаецца ўцякаць.

Здавалася б, толькі што адбіта другая атака, ёсць час абдумаць усё і прыняць правільнае рашэнне, але правільнае рашэнне для Аўсеева — жаданне выжыць, а не выканаць загад і захаваць жыццё іншым. Таму пакідае смяротна параненага старшыну і васямнаццацігадовага Глечыка, для якога гэты бой быў першым. Не разумее, што такая здрада не дапаможа яму выжыць, як не дапамагла Пшанічнаму. «Аўсееў на бягу азірнуўся і яшчэ хутчэй замільгаў нагамі, відаць было, не затым ён пабег, каб спыняцца. Тады Глечык дрыготкімі рукамі ўхапіў старшыноў кулямёт, перакінуў яго на тыльны бруствер і, амаль не цэлячыся, выпусціў наўздагон Аўсееву ўсё, што было ў недастрэленым дыску» [2, с. 99—100].

Заключны раздзел — развагі і перажыванні апошняга з жывых — Васіля Глечыка. Ён не збіраецца ўцякаць, хоць і перажывае балючае жаданне ўратавацца пасля рэплікі Аўсеева, які лёгка пераскочыў праз акоп з канаючым

старшыной. Унутраны пералом, які перажывае Глечык, бадай, самы цяжкі з усіх станаў, якія перажылі героі аповесці. Гэта самы малады персанаж, у яго больш за ўсіх спадзяванняў і няздзейсненых мар. Але ён разумее: мабыць, нішто ўжо не збудзецца. Ёсць і тое, пра што шкадуе: дарэмна пакрыўдзіў маці сваім сыходам з дому, перажывае, што не будзе ўжо магчымасці папрасіць у яе прабачэння. Яму давялося забіць чалавека, побач з якім ваяваў, але Глечык не шкадуе пра гэта. Абсурдна ўсё, аднак гэта абставіны яго цяперашняга жыцця. Нягледзячы на тое, што ўсведамляе блізкасць смерці, хоча жыць. З вёскі выехалі машыны і на ўзгорку акопваюць гарматы з прамой наводкай. Васіль жа глядзіць у неба і чуе журавоў. Будучы канец няўмольна набліжаецца, а хлопец аддаецца ўспамінам. Усе асноўныя экзістэнцыйныя паняцці і матывы спляліся тут у адно: абсурд, нішто, млоснасць, безвыходнасць, свабода, сапраўднае быццё, мінулае ў цяперашнім, выбар, экзістэнцыя, пагранічная сітуацыя і г. д.

Фінал твора адкрыты, смерць апошняга героя не паказана, хоць і прадказана. «Глечык схапіў адзіную сваю гранату, прыціснуўся спіной да дрыготкай сцяны траншэі і чакаў. Ён разумеў, што гэта канец, і з усяе сілы зацяў у сабе нясцерпную журботу душы, у якой вялікаю прагай да жыцця ўсё біўся далёкі прызыўны жураўліны крык…» [2, с. 103].

Такое заканчэнне ставіць шмат пытанняў. Ці мог выжыць Глечык? Логіка падказвае: не. Але абсурд гаворыць: так. Аднак да гэтага дзве атакі адбіваліся няздатнай да сапраўднага супраціўлення малалікай групай байцоў, у такім выпадку логіка кажа: так. Тады абсурд, у сваю чаргу, скажа: не. Іншае пытанне: калі б Пшанічны не здрадзіў групе да пачатку боя, ці памножыў бы ён шанцы на выжыванне? Логіка кажа: так. Абсурд кажа: не. Аднак такая ўжо сутнасць абсурду, што ён не падпарадкоўваецца нават логіцы свайго супрацьстаяння лагічным законам. Таму заўсёды магчымы і іншы варыянт адказу. Кожны з герояў, робячы пэўны выбар, сутыкаўся з нелагічнасцю ў той ці іншай форме. Толькі смела можна разважаць, што пры ўмовах дасягнення сапраўднасці быцця кожным з іх агульныя шанцы выжыць былі б большымі. Можа гучаць дзіўна, але аповесць В. Быкава «Жураўліны крык» у гэтым сэнсе даводзіць, што блізкасць смерці дапамагае чалавеку пазнаць самога сябе, а гатоўнасць памерці памнажае, як бы парадаксальна гэта ні было, шанцы выжыць.

Несумненна, экзістэнцыйныя матывы прысутнічаюць у гэтым творы, прычым праяўляюцца яскрава і паслядоўна. Разглядаюцца не толькі асноўныя пытанні экзістэнцыялізму (крытэрый адрознення сапраўднага і несапраўднага быцця чалавека; даследаванне магчымасцей, межаў і спосабаў дасягнення сапраўднага існавання), але і знаходзіцца вырашэнне гэтых пытанняў, увасобленае ў асноўнай экзістэнцыйнай праблеме — праблеме свабоды і выбару. Пагроза смерці рэальна для ўсіх у аднолькавай форме — у вобразе ворага, які набліжаецца, — аднак героі аповесці выяўляюць розныя рысы, паказваючы сваю сутнасць, што адрозніваецца ад сутнасці іншых. Катэгорыя абсурду знаходзіць увасабленне ў наступствах дзеянняў персанажаў, часта супральлеглых тым, што яны чакалі. Праблема выбару стаіць востра перад кожным з шасці, але не ўсе прымаюць правільнае, з агульнавядомага пункту гледжання, рашэнне.

Нельга, аднак, сцвярджаць, што аповесць «Жураўліны крык» у мастацкім плане аналагічная творам, якія трыдыцыйна адносяцца да экзістэнцыйных. У творчасці В. Быкава несумненна жыве традыцыя рэалізму, бачная ў «жыццёвым праўдападабенстве», у адсутнасці яскравай алегарычнасці, падобнай

да алегарычнасці «Чумы» А. Камю. Праўда, гэта не перашкаджае аўтару выкарыстоўваць розныя сродкі мастацкай вобразнасці, якія арганічна дапаўняюць рэалістычнае палатно твора. Імпрэсіяністычны стыль адгадваецца ў В. Быкава ў асобных момантах вядзення аповеда, як і ў імпрэсіяністаў, праз «<…> быццам схопленыя наўздагад дэталі, якія па бачнай форме парушалі строгую ўзгодненасць аповеднага плана і прынцып адбору істотнага, але сваёй "бакавой" праўдай надавалі аповеда незвычайную яскравасць і свежасць, а мастацкай ідэі — нечаканую разгалінаванасць і шматаблічнасць» [1, с. 121]. Падобны стыль можна ўбачыць, напрыклад, падчас апісання ўцёкаў Пшанічнага з чыгуначнага пераезда ў накірунку вёскі, дзе спыніліся гітлераўцы.

Аповесць «Жураўліны крык» выяўляе нават рысы сюррэалізму ў эпізодзе сну старшыны Карпенкі: нагрувашчванне вобразаў, не звязаных паміж сабой, метафарычнасць, парушэнне часава-прасторавых арыенціраў і прычынна-выніковых сувязей. І калі еднасць часу можна аднесці да экзістэнцыйнага «мінулага ў цяперашнім», то скажэнне аб'ектаў і разбурэнне звычайных уяўленняў пра іх уласцівасці відавочна ўказвае на сюррэалістычную вобразнасць. Ведаючы імкненні сюррэалістаў наблізіць адчуванні герояў сваіх твораў да стану сну ці трызнення, лагічна дапусціць, што само па сабе апісанне гэтага, незалежна ад таго, рэалістычная проза ці не, напрыклад, рамантычная, стварае сюррэалістычны вобраз свету. Аднак прыклады айчыннай і сусветнай літаратуры сведчаць пра адваротнае: не кожны сон, уключаны ў сюжэт твора, характарызуецца сюррэалістычнай вобразнасцю. Часта сны адрозніваюцца ад асноўнага аповеда толькі нязначным скажэннем часава-прасторавых арыенціраў ці асобнымі гіпербалічнымі вобразамі.

Такім чынам, відавочна наяўнасць паралелей экзістэнцыйнай эстэтыкі з праблематыкай гэтага твора В. Быкава. Тым не менш, элементы сюррэалізму і імпрэсіянізму (а часам нават натуралізму) узбагачаюць мастакоўскі метад пісьменніка, у якім спалучаны рэалізм і экзістэнцыялізм. Гэта дазваляе рабіць высновы аб своеасаблівым мастацкім сінтэзе філасофска-літаратурных кірункаў і поглядаў, што заяўлена і рэалізавана В. Быкавым у ягонай аповесці.

## Літаратура

1. Андреев, Л. Г. Литературный энциклопедический словарь / Л. Г. Андреев [и др.]; под общ. ред. В. М. Кожевникова, П. А. Николаева. — М. : Сов. энциклопедия, 1987. — 318 с.

2. Быкаў, В. Збор твораў : у 4 т. / В. Быкаў. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1980. — Т. 1 : Аповесці. — 432 с.

3. Кальной, И. И. Философия для аспирантов / И. И. Кальной, Ю. А. Сандулов; под ред. И. И. Кального. — СПб. : Лань, 2003. — 201 с.

4. Głowiński, M. Słownik terminów literackich / M. Głowiński, T. Kostkiewiczowa, A. Okopień-Sławińska, J. Sławiński; pod red. J. Sławińskiego. — Wrocław : Zakład Narodowy im. Ossolińskich, 2008. — 121 c.

5. Wielg, T. Poetyka Prozy Wasila Bykawa / T. Wielg. — Opole : Wydawnictwo Uniwersytetu Opolskiego, 2002. — 65 c.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 18.02.2012.

**Вольга Кавальчук**

## Экзістэнцыялізм ці рэалізм: аналіз філасофскай праблематыкі першай аповесці В. Быкава «Жураўліны крык»»

### Рэзюмэ

Аўтар артыкула аналізуе філасофскую праблематыку аповесці «Жураўліны крык» вядомага беларускага празаіка Васіля Быкава. Некаторыя даследчыкі называюць пісьменніка экзістэнцыялістам, аднак В. Кавальчук выяўляе спецыфічныя рысы твора, якія даюць падставы казаць пра своеасаблівы творчы метад беларускага празаіка. Даводзіцца, што Васіль Быкаў спалучае рэалізм і экзістэнцыялізм, узбагачаючы іх элементамі сюррэалізму і імпрэсіянізму. Аўтар робіць высновы аб своеасаблівым мастацкім сінтэзе філасофска-літаратурных кірункаў і поглядаў у творы пісьменніка.

**Volha Kavalchuk**

## Existentialism or Realism: the Analysis of the Philosophical Problematics of V. Bykau's first short novel «The Cry of the Crane»

### Summary

The author analyzes philosophical problematics of a short novel «The Cry of the Crane» by famous belarusian prose writer Vasil Bykau. Some researchers call him existentialist, but V. Kavalchuk defines special characteristics of the work, suggesting that the writing method of the belarusian author is original. The contribution demonstrates a combination of realism and existentialism in «The Cry of the Crane», which is enriched with some elements of surrealism and impressionism. The conclusion is that in the analyzed work the reader can find original synthesis of various literary-philosophical trends and views.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# БРАМА, АДЧЫНЕНАЯ Ў ВЕЧНАСЦЬ



Максім Гарэцкі.

***Шанцуе апошнім часам на юбілеі знакамітых пісьменнікаў. А таму і шанцуе, што знакамітых пісьменнікаў у нас шмат. Урачыста адзначылі 120-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча, 100-годдзе Максіма Танка. На высокім узроўні прайшлі юбілейныя мерапрыемствы, прысвечаныя 130-м угодкам народных песняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Сёлета ж яшчэ адна знамянальная дата ў гісторыі нацыянальнага прыгожага пісьменства — 120 гадоў таму нарадзіўся класік беларускай літаратуры, пісьменнік, які годна працягваў традыцыі сваіх папярэднікаў і ўпэўнена расчышчаў дарогу наступнікам — тым, каму выпаў гонар таксама самааддана служыць свайму народу, роднай Беларусі і гэтаксама высока ўзнімаць сцяг літаратуры, якая сёння з'яўляецца адной з самых вядомых у свеце. Гэта — Максім Гарэцкі. Сталася, аднак, так, што доўгі час пра ягоную творчасць шырокі чытач ведаў мала, а пра некаторыя творы і зусім не ведаў. Вяртанне М. Гарэцкага ў літаратуру пачалося толькі ў сярэдзіне мінулага стагоддзя. У поўны ж голас, калі можна так сказаць, ён загаварыў толькі бліжэй да завяршэння XX стагоддзя. Тады, калі выйшаў ягоны Збор твораў у чатырох тамах, а потым выдадзены яшчэ адзін том. Калі была перавыдадзена «Гісторыя беларускае літаратуры». Нарэшце, з'явіўся зборнік успамінаў пра гэтага слыннага майстра слова. У розны час выпушчана і некалькі кніг пра ягонае жыццё і творчасць, аўтары якіх Алесь Адамовіч, Дзмітрый Бугаёў, Міхась Мушынскі і іншыя. Праўда, не было кнігі пра М. Гарэцкага, адрасаванай школьнікам. Цяпер гэты прабел ліквідаваны. Такую кнігу напісаў Алесь Марціновіч і назваў яе «Брама, адчыненая ў вечнасць». Гэтая кніга стане свайго роду працягам кніг пра Янку Купалу, Якуба Коласа, выпушчаных выдавецтвам «Мастацкая літаратура». А пакуль што прапануем асобныя раздзелы з яе, якія, несумненна, дапамогуць настаўнікам беларускай літаратуры пры вывучэнні ў школе творчасці М. Гарэцкага, а таксама могуць быць выкарыстаны імі ў пазакласнай рабоце. Дый, несумненна, зацікавяць тых вучняў, якія хочуць глыбей ведаць беларускую літаратуру.***

## Боль і смутак

Радзіма М. Гарэцкага — вёска Малая Багацькаўка. Праўда, на той час яе часцей называлі Меншай Багацькаўкай. Некалі гэта быў глухі куток, атулены дрымучымі лясамі. Цемналессе — так казалі пра іх. Па тадышнім адміністрацыйным дзяленні — Мсціслаўскі павет. Да бліжэйшай чыгуначнай станцыі — больш як 90 кіламетраў.

Максім Гарэцкі нарадзіўся 18 лютага 1893 года, па старым стылі — 6 лютага. Стаў другім дзіцем у сям'і Гарэцкіх. Першынцам быў Іван. Пасля Максіма нарадзіліся яшчэ два хлопчыкі. Іх назвалі Парфірый і Гаўрыла. Апошняй з'явілася на свет дзяўчынка. Ёй далі імя Ганна.

Спачатку хадзіў у школу ў Вялікай Багацькаўцы, а потым навучаўся ў двухкласным вучылішчы ў сяле Вольша. Вучыўся толькі на «выдатна». Аднак найбольшую цікаўнасць праявіў да літаратуры. Але пасля завяршэння вучобы дакументы падаў у Горы-Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча. Там давалі стыпендыю, а яму хацелася менш залежаць ад бацькоў.

У час вучобы пачаў супрацоўнічаць з «Нашай нівай». У 1912 годзе некаторыя ягоныя матэрыялы з'явіліся на старонках гэтага выдання пра беларусаў і для беларусаў. Падпісаны яны былі псеўданімам М. Беларус. Такое літаратурнае прозвішча выбраў сабе невыпадкова. І ў паўсядзённым жыцці адчуваў сябе менавіта БЕЛАРУСАМ.

Усцешаны першымі публікацыямі, узяўся за апавяданні. У гэтым жанры таксама меў поспех. 25 студзеня 1913 годзе ў «Нашай ніве» з'явілася ягонае першае апавяданне «У лазні». Падпісаў яго ўжо больш канкрэтна: Максім Беларус.

Пра сюжэт можна гаварыць толькі ўмоўна. Малады аўтар, зусім яшчэ юнак проста падзяліўся ўражаннямі ад чарговага наведвання ім роднай вёскі. Канечне, паколькі апавяданне — твор мастацкі, і сам галоўны герой яго, дый іншыя персанажы праходзяць не пад уласнымі прозвішчамі. Дый дзеянне адбываецца не ў Меншай Багацькаўцы, а ў Мардалысаве. Аднак навідавоку аўтабіяграфічныя моманты. Гэта відаць ужо з самага пачатку апавядання:

«Вучань апошняга класа каморніцкага вучылішча, казённы стыпендыянт Клім Шамоўскі к Калядам прыехаў удвору і ўжо другі тыдзень жыў у бацькавай хаце ў роднай вёсцы Мардалысаве.

Якраз у трыццаць першы дзень снежня, перад Новым годам, дзядзька Якуб, дамяўшы сваю пянюку, выпаліў лазню, каторых у Мардалысаве на 25 двароў ажно дзве».

Клім Шамоўскі — сам М. Гарэцкі. У дзядзьку Якубе лёгка ўгадаць роднага Максімавага дзядзьку Якава. Адзін жа з братоў апавядальніка праходзіць пад сваім імем: «Увечары Клімаў брат Парфір напаіў коні, падаваў жывёле...»

Збіраючыся ў лазню, «Клім палажыў на палічку "Нізшую геадэзію" Біка і "Песні жальбы" Я. Коласа, што дагэтуль былі ў руках». Гэтыя кнігі Максім не толькі чытаў у вучылішчы, але і не расставаўся з імі на канікулах.

Аднак Клімавай душы ад наведвання лазні спачатку лягчэй не становіцца. Яму было прыкра ад таго, што ў памяшканні «было гразна, нячыста, непрытульна». Праўда, стараецца адпрэчыць гэтыя не радасныя думкі: «Але што ж гэта я? Ці ж я не радзіўся сам у Мардалысаве, ці сам не купаўся ў гэтай гразі, не бачыў усялякага бруду. […] Не, гэта ж я не злуюся, чаго ж гэта я?..»

Толькі супакоіцца не ўдавалася. Асабліва пасля таго, як адзін з вяскоўцаў папракнуў, што «запанеў наш каморнік». Роспач апанавала Кліма. Ён жа ніколі не стараўся сябе выдзяляць сярод тых, з кім прайшло ягонае маленства. Таму і балюча стала ягонай душы: «вучыўся не дзеля таго, каб "заграбаць" грошы, што ён іншы, што ён жа не чураецца вёскі, любіць яе і шануе, як родны сын».

Вяскоўцы не проста не разумеюць яго. Яны не могуць яго зразумець: «І лацвей **ім** (выдзелена М. Гарэцкім. — **А. М.**), — думаў Клім далей, — страляць у вочы

“запанеў”, ведаючы вагу свае векавечнае працы мужыцкае, а хай бы яны пабачылі боль сэрца і смутак душы ў мяне, прымача ў “панстве” і пасынка вёскі».

Клім Шамоўскі знаходзіўся на своеасаблівым раздарожжы. З вёскай яшчэ не развітаўся, але пакуль канчаткова не прыстаў і да горада. Як на той час і сам М. Гарэцкі. Яму таксама не ставала нейкай пэўнасці, належнай апоры пад нагамі. Яе і шукаў М. Гарэцкі. Паводле аўтарскай задумы, шукаў яе ў апавяданні «У лазні» і галоўны герой твора. У многім, па сутнасці, двайнік аўтара. Таму носьбіт ягоных думак. У таго ж, хто нешта настойліва шукае, намаганні не праходзяць марна. Ён часцей за ўсё знаходзіць гэта. Клім, у рэшце рэшт прыйшоў да таго, да чаго не мог не прыйсці: трэба «любіць, шанаваць родную Бацькаўшчыну». Прымаць яе такой, якая яна ёсць. Каб зрабіць такой, якой павінна быць.

У 1913 годзе ў «Нашай ніве» былі змешчаны і іншыя апавяданні М. Гарэцкага: «Роднае карэнне», «Страхаццё», «Красаваў язмін», «У панскім лесе», «Стогн душы». Было і тое, што пакуль не трапіла ў друк, знаходзілася ў рукапісах.

Рэдакцыя вітала творчую актыўнасць маладога пісьменніка. У жніўні 1913 года ў газеце з’явіўся ліст, адрасаваны яму: «Дужа дзякуем за Вашы творы, каторыя Вы нам прысылалі ў апошнія часы. Мы верым, кажучы словамі нашых прадзедаў, што праз Вас “памножана будзе слава слаўнай айчызны нашай”, калі толькі агонь, каторы гарыць у Вас, будзе далей разгарацца».

Твораў набралася больш чым дастаткова для першай кнігі. Пад назвай «Рунь» яе ў 1914 годзе выпусціла Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні.

## Усходы «Руні»

Назву кнізе М. Гарэцкі даў па аднайменным апавяданні, якім яна і адкрываецца. Твор мае падзагаловак «Памяці друга». Ва ўступе «Ад аўтара» згадваецца нехта Уладзімір З., з якім, як прызнаецца аўтар, ён знаходзіўся ў сяброўскіх стасунках. Цяжка сказаць, ці быў гэты Уладзімір З. у сапраўднасці. Істотна іншае: М. Гарэцкі абмаляваў цікавы вобраз аднаго з тых, хто ўсведамляў сябе сапраўдным беларусам. Падаваў вялікія спадзяванні, узяўшыся пісаць мастацкія творы. Гэта відаць па тых з іх, што прыводзяцца ва ўрыўках у апавяданні «Рунь»: «Войт», «Князёўна», «Да самога сябе», «Кавалкі з днеўніка». Уладзімір З. — постаць прывабная. Імпануе ягонае жаданне служыць Айчыне, адраджаць яе.

Каб іншых зрабіць людзьмі відушчымі, сам пазбаўляецца ўсяго другаснага, найперш забабонаў, і студэнт-медык Архіп Лінкевіч з апавядання «Роднае карэнне». Імкнецца заглыбіцца ў сутнасць таго, што не так і лёгка вытлумачыць, і герой яшчэ аднаго твора М. Гарэцкага — «Што яно?». Шукае ісціну, а яна лёгка не даецца:

«Забабоны мае! Адкуль вы? Я ж ведаю, што нічога няма... чаго... І ці ж ведаю? Не! Я дзеткам кажу аб прыродзе па-навучнаму, рэдка раскажу ім страшнае. Любыя дзеткі...»

Сапраўды, перш чым іншым штосьці тлумачыць, у нечым пераконваць іх, трэба самому ва ўсім разабрацца. Таму і спяшаецца ў родную вёску. Бо з ліста ад бацькоў даведаўся, што яны ніяк не могуць пасяліцца ў новай хаце: «...Мы ўжо й папа прывозілі і свянцілі яе, але нехта засеў у ёй і не дае начаваць».

Лінкевіч, аднак, да гэтага ставіцца скептычна. Але пра «чартаўню» ўспомніў і балагол, якога ён наняў, сышоўшы з цягніка:

«Паніч, [...] вы, мусіць, ведаеце, што ў гэтым балоце, што налева, калісь-то ў даўныя гады цэлы горад за нешта праваліўся скрозь-донння. У ноч купальскую чутны званы падземныя.[...] Бывае так яшчэ, кажуць: агонь нейкі над балотам бегае. Ты за ім — ён ад цябе, ты бліжэй — ён уцякае».

У гэты момант і пачалося…

«Не дакончыў балагольшчык свае гутаркі, як далёка на полі паказалася на самай зямлі полымя... Гарыць нешта... То шугае ўверх яно, то без сілы збягае ўніз.

Чорная сцень, як чалавечая фігура, прабегла па ім раз-другі.

Праз некалькі часу полымя ўспыхнула ў другім, у трэцім месцы...»

Пасля пабачанага і перажытага пры гэтым страху Лінкевіч мусіў да ўсіх згадак пра «чартаўню», якія даводзілася яму чуць, паставіцца іначай, чым да гэтага: «Ось так чартаўня. Ну й уцям тут, што за справа. І калі мне робіцца нейк нядобра, то што б было з нашымі.

Праўда, па прыездзе хутка знайшоў тлумачэнне таму, адкуль нечакана з'явілася полымя. Ноччу зламыснікі дадумаліся паліць бароны. Яны ж, ведама, былі драўляныя. «Добрае зданнё», — не без радасці канстатуе Архіп. Як быццам адказ знойдзены. Рознае «страхаццё» (дарэчы, у кнізе «Рунь» ёсць і апавяданне пад такой назвай) — нішто іншае, як забабоны народныя. Праяўленне цемнаты народнай.

Толькі і тут не ўсё «вяжацца». Лінкевіч ведае, як шмат загадкавага ў прыродзе, у жыцці, чаму і навука не можа даць адказу. Тады дзе выйсце? Адказ Архіп знаходзіць у развагах дзеда Яхіма, якога ён добра ведаў і які падвозіў яго на чыгуначную станцыю, калі ён вяртаўся ў горад:

«Першае, што скажу я табе, гэта — чытай, галубец, у кніжках і ў разумных людзей пытайся, як жылі даўней нашы тутэйшыя людзі... Споўніш гэты загад — у жыцці не ашукаешся. Будзеш ведаць, што рабіць трэба. І ніякая, братка, чартаўня, ніякія думы чорныя не змогуць цябе. А другое: часцей у роднае гняздзечка залятай, дык не будзе яно здавацца табе страшным, і не пабяжыш ты, спужаўшыся уцякаць ад яго, калі, часам, пачуеш ад каго дурнога або цёмнага і скрыўджанага нараканні няправедныя, нахабшчыну на справу і працу тваю. А яшчэ дадам: не забывай ты ў горадзе [...] запытаць у сябе: "А можа, цяпер у каго скарынкі хлеба няма?" І ведай тады, што адным енкам ды стагнаннем бядзе людской не паможаш... Помні, што, каб другога вызваляць, трэба самому крэпкім быць, на сілы не ўпадаць, а то і самога затопчуць...»

Кастусь Зарэмба з апавядання «У чым яго крыўда?» таксама ў пакутлівым роздуме: «Як жыць і што рабіць... Каб і самому сярод людзей не згубіцца. Дый да нейкай пэўнасці дайсці. А гэта няпроста. Што ж, такое жыццё».

Часам і радасць бывае нядоўгай. Так сталася і з я-героем з апавядання «Красаваў язмін», якому нечакана «пастукалася [...] ў душу з нечым квола-далікатным» дзяўчына. Толькі шчасце было нядоўгім. Муся паехала да радні ў Вільню, дзе, як ён даведаўся, нечакана памерла.

Сучаснікі М. Гарэцкага з цікавасцю пазаёміліся з ягонай першай кнігай. Максім Багдановіч у артыкуле «Беларускае адраджэнне», напісаным у тым жа 1914 годзе, згадаў яе ў пераліку найбольш значных мастацкіх твораў нацыянальнай літаратуры. Акадэмік Яўхім Карскі быў перакананы, што ў апавяданнях М. Гарэцкага «ёсць усе дадзеныя, каб з аўтара з часам развіўся добры пісьменнік з самародным талентам».

## Ягоная праўда вайны

У войска М. Гарэцкі пайшоў сам, не чакаючы мабілізацыі. Тэрмін службы ў так званых вальнапісаных карацейшы на цэлы год, чым у звычайных салдат. Да ўсяго вальнапісаныя маглі яшчэ самі выбіраць, дзе служыць. Далей адбылося тое, пра што расказваецца ў «Запісках салдата 2-й батарэі N-скай артылерыйскай брыгады Лявона Задумы».

Лявон Задума — гэта сам пісьменнік, а «Запіскі… Лявона Задумы» — дакументальна-мастацкая проза, якая без прэтэнзіі на арыгінальнасць названа про-

ста і лаканічна — «На імперыялістычнай вайне». Яшчэ сучаснікі пісьменніка ставілі гэтыя запіскі поруч з выдатнымі творамі тагачаснай літаратуры, што атрымалі сусветнае гучанне. Прынамсі, з «Агнём» французскага пісьменніка Анры Барбюса.

Праўдзівасць, пераканаўчасць у творы яшчэ больш узмацняецца дзякуючы таму, што аповед вядзецца ад першай асобы. М. Гарэцкі нібыта напамінае: я перад вамі як на споведзі. Для яго важна праўда і толькі праўда. Якой бы — прыемнай ці непрыемнай — яна ні была б.

Занатоўваць жа было што. З самага пачатку тое, з чым сутыкнуўся ў арміі, не проста было для яго новым. Яно з'яўлялася шмат у чым і незразумелым. Не вытлумачвалася звычайнай чалавечай логікай. «Салдату 2-й батарэі» даводзілася паступова прывыкаць да армейскай службы. Праўда, у мірных умовах гэта праходзіла больш-менш спакойна. Куды цяжэй стала, калі пачаліся баявыя дзеянні.

Там, дзе большасць не абцяжарвалі сябе «высокімі матэрыямі», яму было не па сабе. Таму няўтульна адчуваў сябе, што, будучы праціўнікам якога-небудзь насілля, сам вымушаны быў забіваць:

«А я ж пасабляю, не — не пасабляю, а сам разам з другімі старанна забіваю людзей. Забіваю такіх жа нявольнікаў, як сам. Што гэта я раблю? Пакуль што я не адчуў усяе глыбіні гэтага жаху! Не адчуў, а толькі думаў, што тут — вялікі страх, і жудасную сутнасць гэтага страху я зразумею толькі некалі пасля».

Не адзін ён быў такі, чыя душа працівілася вайне. Але Лявон Задума, у адрозненне, скажам, ад «маладзенькага, далікатнага і сарамлівага, як дзяўчынка», падпаручніка Сізова, заставаўся куды большым рэалістам. Сізоў жа ў чымсьці безнадзейны рамантык. Як кажуць, «не от мира сего». Таму, хоць «салдаты любяць яго, але некаторыя цішком пасмейваюцца». Аднак і рэалісту Задуму цяжка. Вельмі цяжка. Бадай, на кожным кроку. Бо як ні стараецца прызвычаіцца да таго, што адбываецца, ніяк не ўдаецца. Хоць, здавалася б, паспеў ужо такое пабачыць!

Аднак не адзін Задума не адразу прывыкнуў да вайны: «...наш батарэец Талстоў, слаўны хлопец, узяў аднаго забітага немца за руку, патрымаў яе, адубелую, і ціханька палажыў. Нашто ён гэта рабіў? Мусіць, цікаваўся, што такое мёртвы». Літаральна праз дзень не стала і самога Талстова. Пасля таго самага бою, у якім Задума атрымаў сваё салдацкае хрышчэнне. Таксама засталіся «груды светласігніх трупаў». Толькі ўжо сваіх.

Асколак гранаты пасек Талстову кішкі. Спадзявання на ўратаванне не заставалася. «Гэтая смерць, — прызнаўся Задума, — зрабіла на мяне гнятучае ўражанне, я нават стаў меней баяцца куль і снарадаў». Толькі істотней іншае прызнанне. Тое, што з'явілася перад тым, як узяўся расказаць пра падзеі гэтага дня: «Я жыў, але ранейшага мяне навекі няма». Дый пасля такога не магло быць.

Гэта таксама праўда вайны па Гарэцкаму. Тая праўда, якую ён хацеў данесці праз свой твор. Лявон Задума прыходзіў да несуцешнай думкі:

«На сучаснай вайне — усе героі ці, лепей кажучы, няма герояў, а ёсць болей ці меней дысцыплінаванае быдла».

У іншым месцы сказана больш рэзка:

«Адно праўда: у нас ёсць "господа офицеры" ды няма палкаводцаў».

Прагучала гэта пасля аднаго з бяздарных адступленняў. Тым не менш, М. Гарэцкі быў патрыёт. Гэта добра відаць па тым, што, пабываўшы ў Нямеччыне, ён цвяроза ставіцца да таго, што пабачыў там і што ёсць на Радзіме. Перавагу аддае свайму, роднаму. Таму, што не могуць засланіць ніякія заграніцы:

«У Расіі пасля Нямеччыны я чую сябе... быццам выйшаў з нечага душнага і такога, дзе ўсё-ўсё вядома і няма паэзіі, і выйшаў на свежае, вольнае і ўбогае паветра...

Хочацца і ў Расіі, тут, бачыць гэтыя зручныя, з прысадамі шосы, прыгожыя цагляныя хаткі (і іншае, і іншае, — абраз нямецкага поля стаіць у вачах: дрэнаж, раскіданыя каля свежае канавы дрэны, культура, але каб і наш прастор захаваць,

паэтычную шырыню і волю лясоў, лужкоў. Ці гэта прызвычаенасць да свайго? Ці гэта дзве душы ўва мне — усходняя і заходняя? І сумна, чагосьці лепшага хочацца. І здаволены, што вырваўся з духаты».

А перадусім — ён найперш сын свайго народа. Беларус, які і ў далечыні ад роднага дома стараецца не цурацца таго, што напамінае пра Беларусь. Не стрымлівае сваіх пачуццяў. Дзеліцца імі ў «Запісках...»:

«Прыйшла і “Наша ніва” за 25 верасня. Колькі радасці прыносіць мне наша друкаванае “мужыцкае” слова! Нервы мае распускаюцца... Але чаго мне саромецца, што я тут, на гэтай праклятай вайне, з нежаданымі спазмамі ў горле і прыкрымі хваравітымі слязьмі на вачах цалую лісты з дому і “Нашу ніву” з Вільні? Чаго саромецца мне? Эх, вы, слёзы, слёзы, дурныя вы слёзы: не засцілайце мне вачэй. І ты, дурное сэрца, не сціскайся болем і жалем».

Толькі было чаго сціскацца ягонаму сэрцу «болем і жалем». Яшчэ раней, калі прыйшло з Вільні некалькі нумароў «Нашай нівы», ягоную «радасць […] зняважыў старшы пісар Лебедзеў, калі камандзір выйшаў:

— Ахвота ж пісаць газеты на такой свінячай мове. *Ведь по-русски так легко научиться* (выдзелена М. Гарэцкім. — **А. М.**)».

Камандзір жа перад гэтым «пакруціў “Нашу ніву” ў руках, з асаблівай цікаўнасцю прыгледзеўся да мяне — і нічога не сказаў».

Адчай тады вырваўся ў Лявона Задумы з грудзей. Уся душа напоўнілася прыкрасцю з-за неразумення. Увесь белы свет стаў нямілы: «Задрыжэла ўва мне ўсё ад гневу, але што я магу сказаць гэтаму чорнасоценцу, калі ён гаворыць так не ад цемнаты, а свядома і наўмысля». А цяпер, прачытаўшы ў «Нашай ніве» «Летапісцаў» Змітрака Бядулі, «прабаваў сёння ўсведамляць аднаго салдата-беларуса з нашага пяхотнага прыкрыцця. Прачытаў яму кавалачак з “Летапісцаў”. Як быццам, з паразуменнем паставіўся, хоць і сцвярджаў пра сябе: “мы польскай веры, польскія мы”».

Пра імперыялістычную вайну М. Гарэцкі пісаў, закранаючы самыя розныя аспекты яе. Звяртаў увагу, здавалася б, і на не вельмі істотнае. Ды на вайне, як і ў жыцці ўвогуле, няма не істотнага. Тут усё важна.

## Чорнае крыло над хутарком

Праўда пярэдняга краю Першай сусветнай вайны паўстае і ў апавяданні «Літоўскі хутарок». Гэта прытым, што баявыя дзеянні праходзяць міма хутарка, дзе яго насельнікі працягваюць жыць сваімі звыклымі клопатамі.

Толькі ваенныя дзеянні і тут не за гарамі. «Познаю начою з фанарам у руках прыскакаў на хутарок конны ад гміны». Ён «уваліўся ўвесь у пыле ў хату, рупліва дастаў паперу і загадаў гаспадару хутарка Яну Шымкунасу той час запрагаць каня і ехаць у гміну для патрэб мабілізацыі». «А на другі дзень, як свет, пацяклі па ўсёй ваколіцы жаночыя слёзы, было хліпанне і выццё, малітвы і кляцьба. Праваджалі запасных».

Аднак і пасля гэтага, і нават тады, калі «ля хутарка на горцы стаяла паўбатарэя, вартавала мост ад ворага з паветра», Шымкунас ніяк не можа змірыцца з тым, што ягоны звыклы ўклад жыцця рушыцца:

«— Няго сюды, да мяне на хутар, можа прыйсці германец? Няго тут на маім родным полі, блізка хаты маёй страляць будуць? І тутака ляжаць будуць забітыя? Не, не можа таго быць! А то што ж тады? — во праз што млела сэрца ў старога».

Як быццам, і сапраўды ўсё павінна абысціся. Дый салдаты, якія ў вечары завіталі ў госці да хутаранцаў, такой думкі. Адзін з іх нават супакоіў Яна: «Не бойся. [...] Хто цябе будзе паліць? Мірных жыхароў чапаць забаронена». Увогуле, салдаты паводзяць сябе так, нібыта ніякай вайны няма. Жартуюць з дочкамі

Шымкунаса — чорненькай Ядвісяй і беленькай Монцяй. То, мо, і праўда няма чаго баяцца?

Але не паспеў Ян супакоіцца, як ноччу з пазіцыі прыйшлі да хутара і ншыя салдаты. Ні слова не сказаўшы, «пачалі ламаць вароты, дзверы, платкі на будоўлю бліндажоў». Стары паспрабаваў спыніць іх, толькі дзе там: «Вайна, дзядуля. Табе заплацяць». Яшчэ цяжэй стала на душы ў Шымкунаса. Зусім заблытаўся ў сваіх думках адносна таго, што адбываецца:

«Ян нічога не разумее. Учора ён раздарыў шмат хлеба і сала. Па-хрысціянску, без грошай. І прыемна самому было. Яму і цяпер не шкода. Толькі нашто ўсё руйнуюць. Прыкрасць. Без вайны зглумуюць».

Вайна ж ужо ля самага парога. «Калоны войска ідуць туды і сюды. Грымяць цялежкі, кухні, гарматы». Потым пачынаюцца і баявыя дзеянні. Аднак Шымкунас, на здзіўленне, па-ранейшаму спакойны: «Гэта ж свае ... чаго баяцца». Ядвіся жа, убачыўшы, як санітар ледзь не ўпусціў раненага з насілак, усміхнулася.

Хутаранцы ўсё яшчэ ніяк не могуць прызвычаіцца да таго, наколькі ўсё сур'ёзна. Вайна прыйшла, але самі яны пакуль... не «ўвайшлі» ў вайну. Уражанне такое, што яна іх не тычыцца. Вайна сама па сабе. Яны ж самі па сабе. Не могуць паверыць, наколькі ўсё сур'ёзна.

Вайна ж усё настойлівей бярэ сабе ахвяры. Колькасць загінуўшых вымяраецца ўжо не дзясяткамі. Нават не сотнямі. Палкоўнік мусіць канстатаваць некаму ў тэлефонную трубку: «Трупаў не менш трох тысячаў на адной маёй пазіцыі». Ён не ведае, што з імі рабіць. Спадзяецца, што, «можа быць, тыл падбярэ». І гэта толькі тут, на подступах да хутарка. Толькі на адным участку баявых дзеянняў.

Хутка на парозе роднага дома з'яўляецца і сын Яна. Блажыс апошні год служыў у войску і якраз «ішоў са сваім палком міма роднай хаты». Ён разумее тое, да чаго ніяк не мог даўмецца ягоны бацька: трэба ўцякаць. Дакладней: трэба было ўцякаць. Цяпер позна. Адзінае, чым Блажыс можа дапамагчы ў такой сітуацыі, гэта параіць: «...выкапайце за дваром ямку і накрыйце тоўстым бярвеннем з зямлёю. Калі будуць біцца, хавайцеся туды, а пакуль што хоць у паграбніцу».

Што такое вайна, яшчэ больш стала вядома пасля таго, як «Монцю немцы павялі з грудам літоўцаў нібы акопы капаць». Гэтае «нібы» стала зразумелым, калі дзяўчаты і маладухі вярнуліся:

«Ішлі, бяднягі, ледзь жывыя: нага за нагу. Чорныя, што зямля чорная.

Няможна было пазнаць Монцю.

Сляды мук, перажытага сораму і гвалту адбіліся страшным выглядам на твары».

Бяда канчаткова накрыла хутар сваім чорным крылом. З-пад яго не выбрацца, ад яго не выслабаніцца. Феерверкер Сініца — адзін з тых салдат, які некалі стаяў на горцы з паўбатарэяй, завітаўшы праз шмат часу сюды, не пазнае ні само паселішча, ні яго жыхароў. На ўсім ляжыць нейкая нябачная пячатка бяды. Аднак ёсць і іншае. Тое, што не адпускае ад сябе сям'ю Шымкунаса. Гэта прывязанасць да свайго гнязда. Хутаранцы не змаглі паверыць, што вайна прынясе ім, мірным людзям, такія няшчасці. Таму і паплаціліся за гэта.

Заканчваецца апавяданне «Літоўскі хутарок» на самотнай ноце. Сініца пакідае гэтае паселішча. Холадна, снежна. «Па снегавой дарозе коламі гармат глыбокія выбіты калюгі. Асцярожна спускаецца з гары калона войска адступаючага, як нейкая шэрая ўстужка, толькі трапечацца і безупынна паўзе». Перад гэтым ёсць яшчэ адно сведчанне: «Варона акалелая аднекуль узялася».

Здаўна ж лічыцца, што гэтая птушка сваім карканнем насылае бяду. Праўда, пра тое пра яе карканне ў творы — ні слова. Хоць і таго сведчання, якое з'явілася, дастаткова, каб упэўніцца: беды хутар гэты не абыдуць і ў далейшым. Дый каб жа толькі адзін. Пра гэта М. Гарэцкі не мог не думаць, пішучы свой «Літоўскі хутарок». Дый не толькі яго пішучы.

## Неабачлівасць каштуе дорага

З думкай пра тое, што вайна — самае страшнае зло на зямлі, пісалася і апавяданне «Генерал». Галоўны герой гэтага твора нямала пабачыў на сваім вяку. Праўда, пра тое, як ваяваў ён, М. Гарэцкі нічога не гаворыць. Хутчэй за ўсё, не горш за іншых, хто меў такое высокае воінскае званне. Дый нездарма не называецца ягонае прозвішча. У творы гэты генерал праходзіць як збіральны вобраз:

«Ён быў ужо старэнькі.

Галіў, на англійскі манер, бараду і вусы, і таму не можна было з пэўнасцю сказаць, колькі яму гадоў. А пад вачмі — жоўтыя, зморшчаныя мяшочкі, на макушцы — рэдзенькія валасы, сівенькія, мяккія, набок зачасаныя.

Рукі ў яго то прыкметна іншы раз, то непрыкметна дрыжэлі».

Дваякае стаўленне выклікае генерал да сябе. З аднаго боку, відавочна, што ён — смелы ваяка, які смерці не баіцца. Не прывык хавацца за чужыя спіны. Толькі, калі лепей разабацца, гэтае ягонае прывыканне да вайны шмат у чым ідзе на шкоду іншым. Тым, у каго такога прывыкання няма. Яны пакуль належным чынам не абстраляныя. Таму часам паводзяць сябе баязліва, аглядкава. Генерал жа няздатны знайсці агульную мову з тымі, хто нядаўна прызваны ў войска. Тым не менш, яму хочацца, каб у яго з падначаленымі было паразуменне. Робіць захады да гэтага: «Ён ласкава паздароўкаўся з камандзірам, людзьмі і начальнікамі. Салдаты, хоць і цьмянымі тварамі, але звычайна-вясёлыя, прапускалі яго, як яму здавалася, добрым і ўдзячным поглядам, што ён, генерал, наведаўся іх тут». Дый не скардзіліся ні на што. Нават з-за таго, што своечасова не прывезлі хлеба, асабліва не перажывалі. Ва ўсякім разе, рабілі выгляд, што могуць патрываць. Генерал усё ўспрымаў усур’ёз, бо ён, паўтаруся, даўно адарваўся ад рэальнасці. Аднак не разумеў гэтага. Ці мо не хацеў зразумець.

«Нічога, — падумаў генерал, — і ў кожнай, здаецца, самай безнадзейнай справе можа раптам, немаведама адкуль, узяцца гэткі творчы настрой, што людзі з налёту робяць самае немагчымае самым магчымым».

«Творчы настрой» і ў самога. Толькі для поўнага ўсведамлення гэтага яму чагосьці не стае: «Раптам ён успомніў, што не паглядзеў яшчэ тут поля абстрэлу. І ўзяў бінокль і пачаў углядацца ў мокрую, туманную пялёнку, што вісела наперадзе перад акопамі». Скрозь туман убачыў, «як два немцы нешта капалі, кідаючы ўгару зямлю, а трэці курыў, вытыркнуўшы галаву з-за бруствера».

Генерал вельмі здзівіўся, а чаму ж ніхто па іх не страляе. Адразу ж спрацаваў інстынкт бывалага ваякі. Папрасіў вінтоўку, прыцэліўся. «Стрэл прагучэў звычна, але як бы незнарок і адзінока. У адказ нічога не было». У генерала нечакана вырвалася: «А па брустверы ідучы, добра відаць поле вашага абстрэлу?» Камандзір роты, які суправаджаў яго, адказаў: «Лепей троху». Аднак адразу выказаў і перасцярогу: «...толькі ўдзень небяспечна, ваша правасхадзіцельства».

Гэта быў «несамавіты на выгляд прапаршчык, вастраносы бландзін», пра якога зусім нядаўна генерал падумаў: «Пэўна, з настаўнікаў». Цяпер «генерал паглядзеў на яго і адчуў нястрымнае жаданне штурхнуць яго некуды ці нешта зрабіць яму такое, каб ён не быў такі разлезлы. У гэты момант генерал так не любіў прапаршчыка, што гатоў быў яго ўдарыць». «...Неспадзявана для сябе самога і для ўсіх (генерал. — **А. М.**) крута адвярнуўся, узышоў на прыступачку і, абапёршыся салдаціку на плячо, сказаў:

— Памажы-тка, брат...

І ўскочыў на бруствер. Пайшоў па брустверы спакойна і проста.

Зьнь, зьнь... — той жа час праляцелі над галавамі адна за адной дзве кулі, з боку нямецкіх акопаў дакаціўся гул стрэлу».

Хтосьці паспеў прамовіць: «Страляюць. Небяспечна». Аднак у асабліва незайздросным становішчы аказаўся той, каго генерал у думках «гатоў быў уда-

рыць». «“Каму патрэбна гэта дзівацкае выстаўленне сябе пад кулі? Здурнеў ён, ці што? — з абурэннем паглядзеў на генерала прапаршчык. — Але ж і мне трэба з ім ісці па брустверы, і мне трэба”, — думаў ён, чуючы, як забілася сэрца».

Максім Гарэцкі надзіва праўдзіва перадае тое, што робіцца ў душы прапаршчыка. Ён у гэты момант паўстае звычайным чалавекам, які разумее, што няма неабходнасці лезці пад кулі толькі дзеля бравады. Іншая рэч, калі б гэта было выклікана неабходнасцю. Тады, несумненна, прапаршчык, не задумваючыся, годна выканаў бы свой воінскі абавязак.

Яно так, але ж, па логіцы, ён мусіць ісці следам за камандзірам. Таму і «забілася сэрца» ў прапаршчыка. Дый не хоча ён, каб палічылі, што палахлівец. Бадай, і здагадваецца, што пра яго ў думках у гэтага генерала. А той зірнуў на прапаршчыка злосна і падумаў: «Вучыцялішка ... з тых, што ядуць з нажа... Шкадуе сябе». Прапаршчыку не заставалася нічога іншага, як падтрымаць «творчы настрой» генерала: ён «раптам скочыў угару і стаў адзаду ў генерала, таксама высока і таксама небяспечна, і момант стаўся тут гадзінаю. Можа, ступіў ён два разы, як раптам перакуліўся і сунуўся ў акоп».

Недарэчная, нічым не апраўданая смерць. Канечне, генерал не хацеў такога зыходу. Ды, калі разабрацца, менавіта ён, генерал, стаў сапраўдным забойцам. Ён, а не хто-небудзь выклікаў гэтую смерць. Сваёй гульнёй у вайну...

Хоць такое вызначэнне, бадай, усё ж няправільнае. Дакладней сказаць: гульнёй з вайной. Сваім забыццём з-за ўзросту, што яна не месца для «творчага настрою». Дый, па сутнасці, ва ўсёй паўнаце так і не ўсвядоміў, наколькі жудасны выпадак здарыўся. І тут ужо «вінаваты» зусім не ўзрост. Прычына іншая, і куды больш істотная. У генерала даўно адбылося прывыканне да вайны. Яна стала для яго тым звыклым, без чаго чалавек не ўяўляе сабе жыцця. Больш за тое, яна, як гэта ні гучыць парадаксальна, сэнс жыцця гэтага генерала. Таму і ставіцца ён да ўсяго так спакойна.

Нават ягонае развітанне з нябожчыкам — гэта не столькі развітанне з тым, хто загінуў. Хутчэй за ўсё — рытуал. Той рытуал, які выпрацаваўся ў яго за доўгія гады армейскай службы і ўдзелу у баях:

«Генерал няпэўна ўлажыў рукі забітага на яго грудзі, […] паважна зняў шапку.

— Вечны спакой, — пашапялявіў ён.

Потым, пачакаўшы і дрыгнуўшы ў задуме мускулам з левага боку санак, зноў апусціў шапку, сагнуўся і пацалаваў у мёртвы лоб.

— Слава загінуўшым сынам бацькаўшчыны! — дадаў і доўга няўмела надзяваў шапку».

Пасля гэта ў апавяданні толькі некалькі сказаў:

«А кулі перасталі дзвінаць. І ўсё зноў было ціха і мокра ў паветры. А далёка, каля лесу, на флангах, не можна было разабраць — дым ці туман».

На фронце зноў наступіла мірная перадышка. Як гэта назіралася неаднойчы. І ніхто, апроч баявых таварышаў прапаршчыка ды тых, хто знаходзіўся поруч з ім, калі ён так недарэчна загінуў, так і не даведаўся, што на зямлі стала меней яшчэ на аднаго чалавека. Гэта таксама суровая праўда вайны.

## Стрэл у спіну

Надзіва арыгінальнае апавяданне «Рускі». Пачуў гэта М. Гарэцкі ў шпіталі. «Дзіўная гісторыя выйшла з гэтым нешчаслівым чалавекам». Як звалі гэтага бедалагу, якое ў яго прозвішча, ён, праўда, не паведамляе. Рускі — і ўсё. Тым больш, што гэтага дастаткова, каб зразумець, што зрабіла вайна з «здаровым, але крышку павольным; здольным ад прыроды, але цёмным, грубым чалавекам». Трапіўшы на фронт, ён хутка да ўсяго прывык. Асвоіўшыся, нават пачаў крыху

«марадзёрнічаць». Па-свойму, па-сялянску, перакопваючы ўвечары бульбянішча, што знаходзілася непадалёку ад акопаў.

Аднойчы ўзняўся на нейкі ўзгорачак, а перад ім, быццам з зямлі, вырас, аўстрыяк. Абодва разгубіліся і адначасова «разам прыспелі да зямлі...». Не ведаюць, як і быць далей. Першым знайшоў выйсце з гэтай незайздроснай сітуацыі аўстрыяк: «Руськый! Я маю горілку...»

Прыселі. Праўда, на ўсякі выпадак кожны паклаў вінтоўку каля сябе. Каб не быць у даўгу перад аўстрыякам за яго гарэлку, Рускі прапанаваў яму сваёй махоркі. Выпілі, пакурылі. Час і разыходзіцца. Што і зрабілі. Кожны накіраваўся ў свой бок. І трэба ж так здарыцца, што акурат у гэты час штосьці нядобрае цюкнула ў галаву «звычайнаму земляробу»: «Э, што ж я за ваяка». Значыць, трэба даказаць адваротнае. Павярнуўся ён у бок аўстрыяка, ускінуў вінтоўку, прыцэліўся...

Чытаеш апавяданне далей, і не па сабе становіцца. Разумееш цёмнасць гэтага селяніна, ягоную забітасць, але каб так — ні з таго, ні з сяго — забіць чалавека?! Няхай і вораг ён. Хоць якім ужо ворагам быў гэты аўстрыяк. Паспелі ж паразумецца. Перад тым жа, як развітацца, аўстрыяк нават прамовіў: «Чы веды менэ до Русі, чым разойдэмя». Дый Рускі, трэба сказаць, павёў сябе ў гэты момант па-чалавечы: «Не, братка, ідзі да сваіх». І літаральна праз мінуту-другую гэтае забойства.

Нібы нейкае памутненне на чалавека найшло. Пасля таго як ён паспеў убачыць дзясяткі, сотні смярцей, тая адмоўная энергія, якая збіралася ўнутры яго, ператварылася ў энергію забойную. Праз чужую смерць хочацца гэтаму селяніну даказаць, які ён адважны ваяка. Не задумваючыся над тым, што ў дачыненні да аўстрыяка — гэта стрэл у спіну. Стрэл подлы, і нічым яго нельга апраўдаць:

«Калі Рускі падбег і нахіліўся над яго (аўстрыяка. — **А. М.**) чубатаю шапачкаю і даўна падстрыганымі вусамі, дык у цямноце мала чаго ўбачыў, але пачуў, як ён яшчэ дадаў, гаворачы быццам аб нейкім трэцім:

— Што ж цій москаль наробыв... Зостанэцця моя жынка і діты.

Безнадзейная крыўда чулася прагучала ад яго; апошнія словы ледзь выдыхнуў, бо ўжо канаў. Раскінуў рукі і ногі. Рускаму здалося, што смяротная плёнка, як у той курыцы, засцілае яго жаўтаватыя бялкі.

— А колькі ж іх маеш? — з апалым сэрцам спытаўся Рускі і мімаволі, выглядаючы сабе падмацаванне, агледзеўся наўкол, у начным змроку.

— Ді-ты...

Забіты яшчэ раз пацягнуўся, замкнуў паволі вочы і быў гатоў».

У гэтым урыўку істотныя два моманты, якія надта псіхалагічна праўдзіва характарызуюць галоўнага героя апавядання. Нібыта яшчэ і не ўсё чалавечае згублена ў ім. Нават цікавіцца, колькі дзяцей засталося ў забітага ім аўстрыяка. У той жа час відавочна і іншае. Тое, што сваёй прысутнасцю знішчае гэтую чалавечнасць. Рускі баіцца за сябе, таму на ўсякі выпадак азіраецца па баках, «выглядаючы сабе падмацаванне».

Хоць гэтага глыбокага псіхалагізму ў творы не менш і далей. М. Гарэцкі, па сутнасці, не проста зазірае ў душу, а як бы прасвечвае наскрозь таго, хто не такі і просты, як можа падацца на першы погляд. Пры ўсёй ягонай абмежаванасці, ён з тых, хто свайго ніколі не ўпусціць. Крыху прыйшоўшы ў сябе, Рускі па-сялянску разважліва і ўважліва пачынае шукаць, ці няма ў аўстрыяка чаго-небудзь, чым можна ў яго пажывіцца. Праўда, робіць ўсё па-хрысціянску, не забыўшы перахрысціцца над мёртвым.

Пасля гэтага «палез у яго кішэню ў штанах. Выцягнуў адтуль пакамечаны ад доўгага часу і замаслены ліст у канверце. Болей нічога не было, і ён расчаравана ці нездаволена падраў яго на колькі частак. Абдумаўшыся, падняў іх з зямлі, каб пасля скурыць. І зноў кінуў. Аж рукі трохі дрыжэлі, і было брыдка, што так блазнуе, быццам не ворага забіў, а якога свайго. Смялей памацаў у яго за пазухаю, ува ўсіх кішэнях і ў шапцы і ізноў нічога добрага не знайшоў. Аглядаючы яго боты,

ці варта здзіраць, глянуў незнарок у цямноту ночы, спалохаўся... Схапіў кацялок з бульбаю у адну руку, дзве стрэльбы за раменне — у другую і пусціўся бегчы што ёсць духу да сваіх».

Не пайшоў, а менавіта «пусціўся бегчы што ёсць духу». Безумоўна, страх гнаў яго. Але ці толькі адзін страх? Бадай, не толькі. Відаць, усё ж штосьці зрушылася ў галаве Рускага. Пакуль што яно яшчэ не дае знаць аб сабе. Адбываецца толькі на ўзроўні таго, што можна вытлумачыць: ноч, аднаму страшна каля забітага.

Аднак праходзіць час і гэты «зрух у галаве» выразна дае аб сабе знаць. Рускага стала не пазнаць. Ён «упадабаў ляжаць на зямлі з раскінутымі нагамі і рукамі». Так, як ляжаў аўстрыяк, якога ён забіў. А яшчэ раз-пораз вырываўся ў яго крык: «Я рускі! Я рускі! Рускі, рускі!» Ад ляжання на зямлі застудзіў грудзі, таму і трапіў у шпіталь. А што яго трэба было лячыць і ад псіхічнага расстройства, ніхто пра гэта і не думаў. Не да таго было. Ішла вайна. Застаўся жывы, то і добра.

## Каб не дваілася душа

Адзін з самых значных твораў у М. Гарэцкага — аповесць «Дзве душы». Яна была ўпершыню апублікавана ў газеце дэмакратычнага кірунку «Беларуская думка», што выходзіла ў Вільні ў 1919 годзе. У тым жа годзе пабачыла свет і асобнай кнігай. Праўда, на вокладцы пазначана «1920». Аднак зноў да чытача гэтая аповесць прыйшла толькі праз семдзесят гадоў, калі была змешчана ў сёмым нумары часопіса «Полымя» за 1989 год.

Прычына падобнай «затрымкі» ў тым, што многім не падавалася, як у «Дзвюх душах» адлюстраваны падзеі рэвалюцыі. Безумоўна, паказана ўсё гэта праўдзіва. Але калі ўспрымаць усё з пункту гледжання сённяшняга дня. На той жа час такой праўды афіцыйныя органы баяліся як чорт ладану. Асабліва палохала іх, што праўда гэтая з «нацыянальнай падсветкай». Персанажы аповесці не проста шукаюць свой шлях у рэвалюцыю. Яны задумваюцца над тым, як у гэтых віхурных падзеях, калі ламаюцца звыклыя ўстоі, не толькі выжыць, застацца людзьмі, а і зрабіць першы, прытым самы важны крок да нацыянальнага самавызначэння. Апошняе немагчыма без адраджэння сваіх духоўных пачаткаў.

Ці не найбольш вострая дылема: быць ці не быць беларусам — паўстала перад «прапаршчыкам армейскім» Ігнасем Абдзіраловічам. Яшчэ колькі тыдняў назад над гэтым ён і не задумваўся. І раптам — быццам нейкі пераварот у ягонай свядомасці адбыўся. Усё звыклае, ранейшае, загадзя ўзважанае, выверанае і прадуманае далёка наперад — адышло ўбок. Замест яго з'явілася нейкая няўпэўненасць у самім сабе, незразумеласць, што рабіць далей. Па сутнасці, надышло тое, што знакаміты рускі пісьменнік Аляксей Мікалаевіч Талстой назваў «блуканнем па пакутах», вынесшы гэтыя словы ў загаловак сваёй вядомай трылогіі.

Аднак душэўныя пакуты Ігнася Абдзіраловіча куды мацнейшыя, чым у талстоўскіх герояў. Стаяла пытанне — прымаць ці не прымаць рэвалюцыю. Для Ігнася мала ўспрыняць яе як небывалы дасюль сацыяльны зрух у жыцці. Спакою яму не даюць іншыя сумненні. Ён не супраць змен, што адбываюцца ў жыцці грамадства. Толькі чый бок узяць? З кім ісці далей? З людзьмі без роду-племені, якія, падобна Гаршку, гатовыя ўсё на сваім шляху ламаць і крышыць? А можа, быць разам з Міколам Канцавым, Ірай Сакавічанкай, Сухавеем, якія, хоць у нечым і суб'ектыўныя, празмерна максімалістычныя, але дбаюць пра Беларусь заўтрашнюю. Іхняя мара — Айчына, пазбаўленая не толькі сацыяльнага, але і нацыянальнага прыгнёту.

«Сярод сумнай імглы восені на нядрогкіх калёсах» думае Абдзіраловіч свае нялёгкія думы. Яны, як і гэтая восень, у чымсьці змрочныя. Але чым больш разважае Ігнась, тым упэўненей, выразней да яго прыходзіць усведамленне таго, што абавязкова неабходна нешта рабіць. Іначай не выбрацца з гэтага тлуму без-

выходнасці, нацыянальнай непрыкаянасці. Ягоны роздум — развагі аднаго з тых, хто апынуўся не толькі на жыццёвых ростанях, а і на ростанях духоўных: «Да ўніверсітэтаў гаварыў найбольш па-беларуску, і думаў па-беларуску. Не: школа научыла думаць па-руску. Ці ж праўда?» Ігнася непакоіць тое, што цяпер «ён нават не можа адчуць усяе глыбі гора і няшчасця гэтай старонкі, што цяпер усцяж укрыта акопамі, крыжамі і могілкамі. Не можа...»

Значыць, упэўнены ён, не так пражыта жыццё... Многае страчана незваротна, і, каб вярнуць хоць часцінку гэтых страт, трэба пераходзіць да дзеяння: «Буду рабіць! Буду рабіць! — грукаталі калёсы з невялічкай горкі і разганялі дрымоту сярод сумнай імглы восені, што патроху робіцца святлейшай і весялейшай».

Лёгка сказаць — нешта трэба рабіць. Але што рабіць, як рабіць, Абдзіраловіч пакуль не ведае: «І душа дваіцца. Дзве душы. Тая, што плакала і жалілася на другую, нашто яна мучыць яе падманкам, цяпер цвярдзеець, але робіцца нядобраю, набірае ўсё болей нейкай калчнасці і нават жорсткасці». Можа, плачацца душа Ігнася ад таго, што адвярнулася ад яго прыгожая паненка Ала Макасеева — «белы тварык з чорнымі бліскучымі вачмі і курчавымі пасмачкамі»? Мо, прыгадалася яму ягонае колішняе каханне, дачка ляснічага Іра Сакавічанка, якая «сеяла беларускую свядомасць сярод сялян і сялянскай інтэлігенцыі»?

Не без гэтага. Толькі дваістаць душы Ігнася адной сентыментальнасцю і меладраматызмам не растлумачыш. Каб усё было так, значна прасцей раскручваліся б вузлы супярэчнасцей, якія абрынуліся нечакана-негадана на колішняга студэнта. Уся бяда ў тым, што людзі, падобныя Абдзіраловічу, імкнучыся да новага, загадкавага для іх жыцця, не заўважваюць, як страчваюць пад сваімі нагамі нацыянальную глебу. Яны ж за яе дагэтуль моцна трываліся. Яна была іхняй надзейнай апорай. Цяпер жа гатовы прымкнуць да любога месца, толькі б лепш, цяплей і ўтульней ім там адчувалася. Дзеля выгод жыцця забываюцца высокія памкненні, што яшчэ нядаўна з'яўляліся галоўнай мэтай гэтага жыцця. Невыпадкова герой М. Гарэцкага ловіць сябе на думцы: «Хоць горача любіў бацькаўшчыну, але з якоюсь недавернасцю думаў аб руху адраджэння, аб якім некалі чуў краем вуха».

Ёсць у гэтай аповесці, праўда, яшчэ адзін момант, які ў чымсьці ўплывае на «дваістасць» душы Ігнася. Сталася так, што жонку старога пана Абдзіраловіча забілі, калі сыну споўнілася ўсяго тры месяцы. Якраз у гэты час у прыдворнай сялянкі Маланні выхоўваўся сын прыкладна такога ж узросту. Жанчына, дбаючы аб лепшай долі для свайго дзіцяці, пайшла на падман. Ігнасем Абдзіраловічам яна пачала называць свайго ўласнага сына Васілька. Сапраўдны ж Ігнасік «ператварыўся»... у Васілька...

Адкрыццё гэтай тайны, праўда, адбываецца пасля таго, калі ўжо Ігнасева «душа дваілася. Адна палова несказана плакалася і жалілася на другую, нашто яна мучыць яе падманкамі». Тым не менш, гэты момант істотны. Даведаўшыся пра сябе ўсю праўду, Абдзіраловіч не можа да ўсяго ставіцца спакойна: «Я з-за непаразумення трапіў у панскія пакоі, я сын гэтай чорнай грамады і хацеў бы павесці яе лепей за ўсіх да шчасця».

Максім Гарэцкі перадаў праўдзіва і непаспешліва працэс выспявання змены ў псіхалогіі прадстаўнікоў розных сацыяльных груп падчас небывалых зрухаў у грамадстве. У аповесці «Дзве душы» асноўная ўвага засяроджана не на ачышчальнай, жыватворнай сіле рэвалюцыйных працэсаў, а на той пене, якая з'явілася. На хвалях гэтай пены ўсплыў і Іван Карпавіч Гаршчок, самы што ні ёсць хамелеон.

Карпавіч, як яго ўсе называюць, «грошы краў, цела брудзіў, а сумленне гарэлкаю заліваў». Папярэдне, канечне, з роднай вёскай парваў, з беларускасцю развітаўся. Адсідка ў турме для яго не прайшла бясследна. Гаршчок захапіўся нелегальнай літаратурай. Хутка стаў «самым ярым ісцінарускім патрыётам, потым пад уплывам сваіх знаёмых студэнтаў — свядомых беларусаў — дужа скора асцюдзянеў», «перамахнуў ... аж да бальшавіцкага лагера». Стаўшы «ідэйна-пад-

каваным», ператварыўшыся ў Карпавіча, ён перакананы, што «ў абы-якой партыі мог бы знаходзіцца з поўнай шчырасцю».

Не сказаць, аднак, каб Гаршчок карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод саратнікаў: «...правадыры-інтэлігенты з іх характэрнай інстынктыўнай цёмнасцю не мелі да яго асаблівай прыхільнасці. Чулі ў Карпавічу той гатунак людзей-самавукаў, каторыя хоць і вялікай высокасці даходзяць у мастацтве, палітыцы ці абы-якой навуцы, але назаўсёды застаюцца з нейкай хібаю ў самым грунтоўным... Яны гэтакія, нейкім дзівам сумяшчаюць у душы сваёй найлепшы, здаецца, гуманізм і найгоршае, акажацца, чалавеканялюбства, хімію і алхімію, марксізм і хірамантыю і з аднолькавай шчырасцю веруюць у тое і другое». Страшнае тое, што чым далей ішла рэвалюцыя, тым болей і часцей на яе шляху сустракалася гэткіх прымазанікаў-хамелеонаў, у якіх, калі разабрацца, нічога святога за душой не было. Прысутнічала толькі нейкая ідэя, узведзеная ў абсалют, не падмацаваная самой складанасцю канкрэтных сітуацый».

Дый ідэя была толькі ў лепшым выпадку. З непрыхаванай трывогай расказвае Васіль, сапраўдны сын старога Абдзіраловіча, які выхоўваўся сярод сялян, а цяпер — пралетарый, партыец, як у адным сяле «ўсе маладыя йшлі раней у свет, у гарады, а цяпер паварочаліcь дамоў гультаямі, бандытамі і пад штандарамі бальшавізму здзекуюцца над усімі сялянамі. Жывуць паразітамі, паўлезлі ў камітэт беднаты...». Такія, як вядома, за лозунг Карпавіча «Сячы трэба да карэння» ўхопяцца абедзвюма рукамі.

Даведваецца пра ўсё гэта Ігнась, і яго душа яшчэ больш пачынае двaіцца. Пражытае аднойчы, калі толькі ўпершыню па-сапраўднаму акунуўся ў вір рэвалюцыйных падзей, ніяк не дае пэўнасці. Усё тое ж раздарожжа, ранейшыя пакутлівыя ростані: «І адна палова яго, каторая разумела белых, маўчала, знямела». Але ж «і другая палова яго, каторая разумела чырвоных», таксама ў нейкай непрыкаянасці. Ды зразумець многае ніяк не можа. Калі тое, што з панскага дома выкінулі рэчы, дзеці гуляюць са здымкамі з альбома, яшчэ неяк можна растлумачыць, то дзе тлумачэнне зверствам, нечалавечай лютасці?!

Вочы Абдзіраловічу адкрываюць не Карпавіч з яго псеўдарэвалюцыйнасцю, і не Васіль, які куды больш цвяроза ставіцца да падзей, але якому, апантанаму ідэяй сусветнай рэвалюцыі, зусім не да лёсу Беларусі. Правільней, Васіль, як і яго многія аднадумцы, памылкова лічыць, што пры паспяховым вырашэнні сацыяльнага пытання само сабой будзе вырашана і пытанне рэвалюцыйнае. Задумацца па-сапраўднаму над лёсам Беларусі яму дапамагаюць Мікола Канцавы, Ірына Сакавічанка, Сухавей.

У самым пачатку аповесці Ігнась гэткі ж, як і іншыя беларускія інтэлігенты, што пазбавіліся родных каранёў: «...Быў ён сам несвядомы і хоць горача любіў бацькаўшчыну, але з якоюсь недавернасцю думаў аб руху адраджэння, аб якім некалі чуў краем вуха». Паблукаўшы ж па душэўных пакутах, многае, хоць і далёка не ўсё зразумеўшы, ён ужо прызнаецца: «Я, бачыце, як беларус, патроху знаходжу сябе ў беларускай нацыянальнай і сацыяльнай свядомасці».

Дваіцца, яшчэ як дваіцца душа Ігнася Абдзіраловіча. Здаецца, вось-вось гатовы ён знайсці сябе на паўстанках гісторыі, ды зрабіць гэта яму па-ранейшаму цяжка. У той самы момант, калі ён ужо многае зразумее, даведваецца ад капітана Гарэшкі, як Гаршчок і яму падобныя здзекаваліся з манахаў. Пачуе яшчэ адну, не менш жудасную гісторыю — пра пакаранне рэвалюцыйнымі кранштацкімі матросамі брата Гарэшкі. Пасля ўсяго гэтага сам Гарэшка, які, як прызнаецца, заслужыў Гаршкову «ласку цэлымі цэбрамі густой, запечанай, чорнай крыві паўстанцаў», не вытрымлівае, забівае яго. Знаёмячыся ж у газеце з некралогам, адчувае «сорам і прыкрасць», «бо шмат напісалі там красамоўнае лухты і проста маны пра камуністычную дзяяльнасць нябожчыка». Калі ж чуе гукі пахавальнага маршу, яны «ўсё дужэлі і бальней хапалі за душу засмучона-паважным, наканаваным». На гэтым у аповесці пастаўлена апошняя кропка.

Максімам Гарэцкім пастаўлена. Нам жа яе ставіць ранавата. Як і ў кожным па-сапраўднаму мастацкім творы, у «Дзвюх душах» многае застаецца па-за яго зместам, і нанава пераасэнсоўваць яго — значыць яшчэ глыбей спасцігаць сутнасць пісьменніцкай задумы, спасцігаючы для сябе ўсю значнасць вобразаў. Аповесць створана з думкай пра тое, каб чалавечая душа ніколі не дваілася. Да чаго гэта можа прывесці, добра відаць на прыкладзе Ігнася Абдзіраловіча. Але ж на яго прыкладзе відаць і іншае: чалавек — на тое ён і чалавек, каб у самых складаных, нават, здавалася б, безвыходных сітуацыях застацца чалавекам. Гэта герою М. Гарэцкага ўдалося.

## Хто ёсць хто

У час рэвалюцыйных зрухаў «душа двоілася» не ў аднаго Ігнася Абдзіраловіча. Ваганні такіх людзей можна зразумець. Толькі ніяк нельга зразумець і апраўдаць прыстасаванцаў, хамелеонаў. Іх М. Гарэцкі паказаў не толькі ў аповесці «Дзве душы».

Да такіх твораў належыць і апавяданне «У 1920 годзе», што мае падзагаловак «Апавяданне народнага чалавека». Тым самым пісьменнік падкрэсліваў, што яго герой у многім тыповы для свайго часу. Як і Ігнась Абдзіраловіч, ён належыць да тых, хто пакуль што не знайшоў на зямлі нейкага пэўнага прыстанішча. Больш дакладна — далёка не ўсё прымае ў рэвалюцыйных падзеях. Праўда, мае для гэтага ўсе падставы.

У рэчаіснасці, якую па-мастакоўску пераканаўча адлюстроўвае М. Гарэцкі, сапраўды непрыглядны выгляд. Ягоны герой, апынуўшыся за лініяй фронту, трапіў у хату селяніна-праваднікa, якога схапілі чырвонармейцы. Больш за тое, яны, па ўсім відаць, яго, ні ў чым не вінаватага, ужо расстралялі. Апавядальнік у тым, што здарылася, адчувае нейкую маральную віну. Гэты ж праваднік дапамагаў яму правільна арыентавацца ў невядомай мясцовасці. Атрымліваецца, што «народны чалавек», па сутнасці, прынёс гора чужой сям'і.

Ды ў гэтай хаце ёсць і такія, у каго сумленне не пакутуе. Яны любым спосабам прыстасоўваюцца да абставін. Адзін з іх, настаўнік, каб выжыць у складаны час, знайшоў выйсце ў сватанні да дочак заможных гаспадароў. Калі ж справа даходзіла да вяселля, своечасова ўцякаў. Пасля чаго шукаў чарговую ахвяру. Гэта рабіў не аднойчы, па чарзе пераходзячы з вёскі ў вёску.

Амаральнасць ягоных паводзін відавочная. Ды, аказваецца, яна яшчэ двайная. Гэты «жаніх» заяўляе, што ён стаіць за беларускасць. З гонарам прызнаецца: «З каханкамі я толькі па-беларуску й гаманіў».

Другі субяседнік, былы афіцэр у сваёй «беларускасці» пайшоў яшчэ далей. Ён без згрызоты сумлення хваліцца: «Я прымазаўся да беларусаў, дастаю паёк у беларускай вайсковай арганізацыі... Цяпер прыехаў вось сюды вербаваць ахвотнікаў». Пасля дадае: «Я, прызнацца, не шаную гэтай мовы: дык няхай, чаго... адно свінства!»

Настаўнік, тым не менш, не прамінуў выпадку, каб папрасіць: «А ўсё ж ты завярбуй мяне ў сваё беларускае войска па старой дружбе». Двурушнасць яго тым больш адчувальная, што перад гэтым былы афіцэр адкрыта сказаў яму: «Як будзе адзіная недзялімая Расея, то я й цябе адным заходам пастараюся павесіць».

У гэтым апавяданні аўтарам як быццам шмат недагаворана. М. Гарэцкі не спяшаўся давесці сваю думку. Даваў магчымасць паразважаць і таму ж настаўніку, і былому афіцэру. Каб чытач лепш адчуў, як шмат супярэчлівага было ў час рэвалюцыйных зрухаў. Не менш і камічнага, а то і трагедыйнага. Хоць часам гэтыя паняцці быццам перакрыжоўваліся між сабой. Як у апавяданні «Незадача».

Выпадак, пра які гэтым разам расказвае пісьменнік, тыповы. Нездарма ў адным з рукапісаў пад самой назвай твора рукой М. Гарэцкага пазначана «Быль».

У апавяданні нічога лішняга. Як бы знарок — пратакольная дакладнасць. Гэта відаць з самага пачатку твора:

«Часовы камісар Н-скай франтавой надзвычайнай камісіі ў справе змагання з контррэвалюцыяй, спекуляцыяй і дэзерцірствам, таварыш Батрачонкаў, ехаў на аўтамабілі ў сваёй матроскай куртцы дамоў к Іллі на свята, каб разам з тым даведацца, як ідзе рэвалюцыя ў вёсцы».

Таварыш Батрачонкаў — тыповы прадстаўнік народнай масы, абуджанай да новага жыцця. У той жа час гэтая стыхійная маса часта была няздольна ўзняцца над самім жыццём. Яна не ў стане ацаніць і свае паводзіны, і паводзіны таварышаў па партыі. Мела амбіцыі, але не мела неабходнай амуніцыі. Калі што і было, то рэвалюцыйны максімалізм.

У героя ж апавядання, як відаць адразу, і прозвішча сімвалічнае — Батрачонкаў. Значыць, знаходзіўся на самай ніжэйшай прыступцы сацыяльнай лесвіцы. Раней увогуле быў Батрачонак.

Хочаш смейся, хочаш плач... Па дарозе ў родную вёску Батрачонкаў у думках прадчувае радасць моманту, як глянуць на яго землякі, калі ўбачаць у аўтамабілі: «Падумаць: былы падпасак Арцёмка Батрачонак — другі чалавек, што едзе па гэтым шляху на аўтамабілі; першым быў Шальновіч» (земскі. — **А. М.**).

«—Хай жыве рэвалюцыя! — голасна крыкнуў Батрачонкаў. Шум машыны і свіст ветру схапілі яго словы.

— Што вы, таварыш? — пачуў, аднак, шафёр і аглянуўся.

— Нічога, нічога... — сканфузіўся матрос».

Фінал жа гэтых адведзін «былога падпаска» Батрачонка і цяперашняга камісара Батрачонкава страшны. Нават страшнейшы, чым можна было б падумаць. Гарачая галава, Батрачонкаў, ап’янелы ўладай, гуляў колькі мог...

Зноў у творы пратакольная дакладнасць. Гэтым разам у заключных радках: «Цераз дзень ён быў арыштаваны і аддадзены пад суд са спекуляцыю, п’янства і шкодную для службы адлучку для асабістых патрэб на казённым самакаце».

***Працяг у наступным нумары.***

**Леанід ЗЕМЛЯКОЎ, Мікалай ШЧОКІН**

# РЫМСКА-КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА Ў СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСІ

З часу абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь адной з найважнейшых састаўляючых працэсу змен стала зацвярджэнне рэлігійнай свабоды і рэлігійных правоў чалавека. Гэтыя трансфармацыі садзейнічалі значнаму ўзрастанню канфесійнай прысутнасці ў грамадска-палітычным жыцці.

Адно з пацвярджэнняў таму — стварэнне разгалінаванай рэлігійнай сферы і разнастайнай канфесійнай сеткі. За 1989—2012 гг. агульная колькасць рэлігійных арганізацый павялічылася з 768 да 3371, г. зн. больш чым у 4,3 раза. Па стане на пачатак 2012 года канфесійная карта краіны прадстаўлена 25 веравызнальнымі напрамкамі, у рамках якіх дзейнічае 3371 рэлігійная арганізацыя, у тым ліку 3210 суполак, 46 цэнтраў і ўпраўленняў, 43 манастыры, 36 місій, 16 брацтваў, 10 сястрыцтваў, 15 духоўных навучальных устаноў і інш. Богаслужэнні праходзяць у 2308 культавых і прыстасаваных пад малітвы будынках, узводзяцца 200 памяшканняў. Сваю дзейнасць ажыццяўляе 3071 служыцель культу. Пастаянна ўзрастае колькасць рэлігійных друкаваных СМІ, якіх на сёння каля 40.

Змены, што адбываюцца, адкрываюць новыя гарызонты ўзаемаадносін дзяржавы і канфесій, паміж веруючымі і атэістамі, аднак яны неадназначна і неадэкватна адлюстраваліся ў грамадскай свядомасці. З аднаго боку, яшчэ вялікая інерцыя былых стэрэатыпаў: частка грамадства расцэньвае гэта як уступку рэлігіі, адступленне ад матэрыялістычнага вучэння. З другога боку, няма глыбокага, сур'ёзнага асэнсавання ўсяго комплексу праблем у гістарычным і сучасным аспектах.

Рэлігійныя ж арганізацыі маюць значны патэнцыял, не выкарыстоўваць які ва ўмовах трансфармацыі ўсіх сфер жыцця — значыць ставіць дзяржаву ў праблемную сітуацыю.

Пільную ўвагу праблемам дзейнасці рэлігійных арганізацый надае Кіраўнік дзяржавы А. Р. Лукашэнка. У пацвярджэнне гэтай думкі дастаткова назваць сустрэчы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з Кіраўніком Рускай Праваслаўнай Царквы Кірылам (10 красавіка 2009 г. у Маскве, 25 верасня 2009 г. у Мінску) і Папам Рымскім Бенедыктам XVI у Ватыкане (27 красавіка 2009 г.), са старшынёй Папскага савета па садзейнічанні хрысціянскаму адзінству кардыналам Куртам Кохам у Мінску 14 лістапада 2011 г.

У сувязі са святкаваннем 300-годдзя Архікафедральнага касцёла ў г. Мінску ў кастрычніку 2010 г. Рэспубліку Беларусь наведаў спецыяльны прадстаўнік Папы Рымскага кардынал Ёзеф Тамко, які таксама быў прыняты Кіраўніком нашай дзяржавы.

Штогод праходзяць сустрэчы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з членамі Сінода Беларускай Праваслаўнай Царквы і кіраўніцтвам Мінска-Магілёўскай архіепархіі Рымска-Каталіцкай Царквы ў Рэспубліцы Беларусь. Кіраўнік дзяржавы прымае ўдзел ва ўрачыстых мерапрыемствах, прысвечаных святкаванню Вялікадня і Каляд, якія праходзяць у Мінскім Свята-Духавым кафедральным саборы.

Прэзідэнт Беларусі сустракаўся з кіраўнікамі канфесій і замежнымі гасцямі, якія прымалі ўдзел у міжнародных форумах, што адбыліся ў Мінску: «Дыялог хрысціянства і ісламу ва ўмовах глабалізацыі» (кастрычнік 2007 г.) і «Хрысціянска-іўдзейскі дыялог: рэлігійныя каштоўнасці як аснова ўзаемапавагі ў цывільным грамадстве ва ўмовах глабальнага эканамічнага крызісу» (лістапад 2009 г.).

У лістападзе 2011 г. у Мінску адбылася Міжнародная канферэнцыя «Праваслаўна-каталіцкі дыялог: хрысціянскія этнічныя каштоўнасці як уклад у сацыяльнае жыццё Еўропы». У пасяджэннях і дыскусіях прынялі ўдзел высокія прадстаўнікі Праваслаўнай і Рымска-Каталіцкай Царквы, аўтарытэтныя дзеячы пратэстанцкіх цэркваў у Беларусі, беларускіх іўдзейскіх і мусульманскіх суполак, свецкія эксперты, багасловы і вучоныя з Беларусі, Расіі, Італіі, Германіі, Літвы, Латвіі, Польшчы, Украіны, Францыі, Славакіі, Бельгіі і Швецыі.

Дзяржаўныя органы падтрымліваюць ініцыятывы рэлігійных арганізацый, накіраваныя на забеспячэнне дыялогу паміж канфесіямі на аснове павагі да правоў чалавека, рэлігійнай цярпімасці. У снежні 2008 г. быў створаны Кансультатыўны міжканфесійны савет пры Упаўнаважаным па справах рэлігій і нацыянальнасцей, які павінен садзейнічаць далейшаму развіццю міжканфесійнага дыялогу, актывізацыі ўзаемадзеяння дзяржавы і рэлігійных арганізацый у вырашэнні сацыяльна значных пытанняў.

На базе Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ў красавіку 2010 г. праведзены семінар «Традыцыі талерантнасці ў захаванні свабоды веравызнання» з прыцягненнем прадстаўнікоў рэлігійных арганізацый, на якім растлумачваліся дзяржаўныя падыходы ў канфесійнай палітыцы.

Дзяржава аказвае значную падтрымку рэлігійным арганізацыям: яны вызвалены ад абкладання зямельным падаткам і падаткам на нерухомасць. Рэлігійным арганізацыям, якія арандуюць памяшканні дзяржаўнай уласнасці для правядзення мерапрыемстваў, распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь устаноўлены паніжаючы каэфіцыент 0,1 пры вызначэнні стаўкі арэнднай платы. Са сродкаў рэспубліканскага бюджэту ў 2010 г. аказана значная дапамога па правядзенні рэстаўрацыйных работ помнікаў гісторыі і культуры — Жыровіцкага Свята-Успенскага манастырскага комплексу і Мінскай духоўнай акадэміі і семінарыі, Свята-Уваскрасенскага сабора ў г. Барысаве, Успенскага манастыра ў в. Пустынкі Мсціслаўскага раёна, былога калегіума езуітаў у в. Юравічы Калінкавіцкага раёна, касцёла Божага Цела ў г. Нясвіжы, а таксама ў будаўніцтве Духоўна-адукацыйнага цэнтра ў г. Мінску. У 2009 г. за кошт сродкаў рэзервовага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь прафінансавана на суму 298,4 млн рублёў факсімільнае выданне Слуцкага Евангелля.

Вырашэнню пытанняў рэлігійных арганізацый, кантактаў з імі ўдзяляюць увагу ўсе ўзроўні дзяржаўнай улады. Гэта сведчанне паслядоўнага ўстанаўлення ў нашай краіне здаровага, гарманічнага балансу ўзаемадзеяння палітыкі і рэлігіі.

Прычыны і характар павышанага інтарэсу да рэлігіі, як і ўзрастання спадарожных з’яў, шматпланавыя: тут выяўляюцца грамадскія і міжнародныя, аб’ектыўныя і суб’ектыўныя фактары. З аднаго боку, ствараюцца неабходныя ўмовы для задавальнення рэлігійных патрэбнасцей веруючых, узнікаюць новыя ўстановы, суполкі, павялічваецца колькасць выданняў. Устанаўліваюцца і больш цесныя сувязі рэлігійных арганізацый з культурна-асветніцкімі аб’яднаннямі, якія маюць на мэце нацыянальнае, рэлігійнае і культурнае адраджэнне кожнай этнічнай групы. Набіраюць моц міжканфесійныя адносіны, што спрыяюць міжканфесійнаму і міжэтнічнаму ўзаемаразуменню. З другога боку, кожная канфесія, рэлігійная арганізацыя таксама мае патрэбу ў сваёй прасторы і імкнецца яе захаваць, атрымаць, замацаваць за сабой, у тым ліку за кошт місіянерства, прапаведніцтва, празелітызму.

Прасторавымі характарыстыкамі валодаюць не толькі канфесіі ў цэлым (у плане геаграфічнай распаўсюджанасці і ўкаранення), але і рэлігійныя інстытуты, якія іх прадстаўляюць, а таксама такія дзеянні рэлігійных арганізацый, як місіянерства, евангелізацыя, культавая практыка, размяшчэнне культавых аб'ектаў пэўных канфесій і г. д. Менавіта таму ўзнікаюць супярэчнасці не столькі паміж канфесіямі і іерархіямі, колькі паміж веруючымі і няверуючымі, паміж іерархамі, клірам і недухоўнымі.

Супярэчнасці рэлігійнага жыцця Беларусі можна падзяліць на ўнутраканфесійныя і міжканфесійныя, а таксама на супярэчнасці паміж рознымі канфесіямі і дзяржавай. Сярод іх, перш за ўсё, унутраканфесійныя супярэчнасці (абвастрэнне канкурэнтнай барацьбы паміж канфесіямі за прыцягненне ў свае рады новых веруючых), што абумовіла ўзмацненне місіянерскай дзейнасці рэлігійных арганізацый, а разам з тым і ўзрастанне празелітызму.

Абвастрэнне міжканфесійных супярэчнасцей звязана і з тым, што ва ўмовах рэлігійнай свабоды тыя рэлігійныя канфесіі, якія раней пагаджаліся са сваім другарадным становішчам у рэлігійным жыцці Беларусі, сталі ўсё больш патрабавальна нагадваць аб сваіх правах і ганіць прэтэнзіі (напрыклад, Беларускай Праваслаўнай Царквы) на асаблівыя адносіны з уладаю.

Аднак спецыфіка барацьбы паміж канфесіямі носіць не прамы, а апасродкаваны характар. У адным выпадку гэта могуць быць намаганні той ці іншай рэлігійнай арганізацыі, накіраваныя на фарміраванне негатыўнай грамадскай думкі аб якой-небудзь арганізацыі. У іншым выпадку гэта дзеянні па аслабленні свайго канкурэнта з дапамогай дзяржавы, у прыватнасці арыентаванага заканадаўства ў сферы свабоды веравызнання. Нельга выключаць, што ў выпадку нарастання рэлігійных супярэчнасцей такая барацьба можа пераўтварыцца ў прамую канфрантацыю.

Праяўленне рэлігійнага фактару ў сучаснай Беларусі можна разглядаць у наступных праекцыях. Па-першае, як унутраную і знешнюю рэлігійнасць, якая выяўляецца ў персанальным вопыце і ў паводзінах. Па-другое, рэлігія выступае ў якасці падмурка для культурна-цывілізацыйнай ідэнтыфікацыі, у якасці культурнай традыцыі, якая не супадае з наборам дагматычных пастулатаў той ці іншай плыні. У многім дадзеная форма вызначае вектар палітычных пераваг і практык, выходзячы за рамкі сэнсавых значэнняў дыхатаміі свецкае/рэлігійнае. Па-трэцяе, размова ідзе аб разглядзе рэлігійных арганізацый як сацыяльна-палітычных інстытутаў і суб'ектаў палітычнага мэтамеркавання.

Па сутнасці, гэта працэс пераўтварэння новых эпізадычных рэлігійных правак, навацый, уяўленняў ва ўстойлівыя, дзеючыя на працягу доўгага часу структуры (падсістэмы) грамадства. Канчатковым вынікам працэсу інстытуцыялізацыі рэлігіі з'яўляецца іх афармленне ў выглядзе сацыяльна-палітычных інстытутаў. Інстытуцыялізацыя рэлігійных утварэнняў залежыць ад многіх аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў, і далёка не ўсе з іх становяцца жыццяздольнымі, гістарычна ўстойлівымі сістэмамі. У грамадствах, што адкрыты для інавацый і якім уласцівыя дынамічнае развіццё, імкненне да разнастайнасці, верацярпімасці, узнікаюць спрыяльныя перадумовы для інстытуцыялізацыі большасці навацый, нават калі яны не прымаюцца значнай часткай грамадства.

Станаўленне Рымска-Каталіцкай Царквы ў сучаснай Беларусі адбываецца шляхам сінхроннай рэструктурызацыі і адаптацыі царквы да новых сацыяльна-палітычных і сацыякультурных умоў, абумоўленых будаўніцтвам і станаўленнем беларускай дзяржаўнасці.

Інстытуцыялізацыя рэлігіі — цэласны працэс дазволу і наладжвання работы ўнутранай царкоўнай арганізацыі з улікам гістарычнага, этнаканфесійнага, грамадска-палітычнага фактараў. Інстытуцыялізацыя ўяўляе сабой паэтапны працэс развіцця такіх састаўляючых элементаў, якімі з'яўляюцца рэлігійная дактрына, культ, арганізацыя і інш. Працэс інстытуцыялізацыі РКЦ уключае ў нашай краіне

такія этапы: арганізацыйнае афармленне; унутраная структураванасць арганізацыі; наладжванне дыферэнцыраваных форм служэння, адкрыццё навучальных устаноў, актыўная сацыяльная і місіянерская дзейнасць, стварэнне інфармацыйнай базы, паслядоўнае ажыццяўленне палітыкі беларусізацыі, актыўны ўдзел у міжканфесійным дыялогу; правядзенне ўнутранай адміністратыўнай рэформы; дзейсны ўдзел у грамадска-палітычным жыцці, пастаянная канстатацыя ўласнага статусу (частка Рымска-Каталіцкай Царквы). Яна — асаблівы актар, які спалучае ў сабе ўласцівасці транснацыянальнай няўрадавай установы і адначасова сувярэннай дзяржавы. РКЦ, з аднаго боку, уяўляе сабой супольніцтва са сваімі інстытутамі, якое ажыццяўляе дзейнасць, уласцівую любой царкве, з другога — у асобе свайго рэлігійнага цэнтра Ватыкана з'яўляецца прызнаным міжнародным юрыдычным суб'ектам, які актыўна ўдзельнічае ў сусветнай палітыцы і вядзе інтэнсіўную дыпламатычную работу пры дапамозе дэлегацый і апостальскіх нунцыятур. Сваіх дэлегатаў і назіральнікаў Святы Прастол накіроўвае для ўдзелу ў розных міжнародных арганізацыях і канферэнцыях, павялічваючы, такім чынам, уплыў Каталіцкай Царквы ў свеце. Так, ён мае статус пастаяннага назіральніка пры ААН, СГА, Савеце Еўропы, Афрыканскім Саюзе, Лацінскім Саюзе і г. д. Папскай дыпламатыі ўдалося дамагчыся членства ў АБСЕ, ЮНКТАД, МАГАТЭ. Аснова міжнароднага ўплыву Ватыкана — больш за 1 млрд католікаў па ўсім свеце.

Велізарнага ўплыву Каталіцкая Царква дасягнула на еўрапейскім кантыненце. Геаадміністратыўная структура яе на тэрыторыі ЕС, уключаючы новыя краіны-члены, складае больш за 600 епархій. Са стварэннем у 1980 г. Камісіі епіскапскіх канферэнцый Еўрапейскага супольніцтва ў Ватыкана з'явіўся новы інструмент палітычнага ўплыву на палітыку ЕС. Некалькі пастаянных і спецыяльных камітэтаў гэтай Камісіі займаюцца сацыяльнымі і прававымі пытаннямі, праблемамі міграцыі, камунікацыі і СМІ, этыкі біялагічных даследаванняў, дыялогу з ісламам, еўрапейскай знешняй палітыкай і пашырэння ЕС.

Рымска-Каталіцкая Царква ў Беларусі аб'ядноўвае чатыры епархіі. Агульная колькасць яе рэлігійных суполак павялічылася са 121 (1989 г.) да 479 (2012 г.), г. зн. амаль у чатыры разы. Дзейнічаюць тры духоўныя навучальныя ўстановы (сярод іх дзве семінарыі, Катэхетычны каледж для недухоўных), сотні нядзельных школ, 11 місій і 9 манастыроў. Суполкі валодаюць 465 касцёламі, 26 узводзяцца. Узровень забяспечанасці культавымі будынкамі складае каля 97 %. За перыяд з 1988 па 2010 г. дзяржавай перададзена РКЦ каля 300 аб'ектаў. Вернікаў настаўляюць 428 святарнаслужыцеляў, з іх 158 — замежныя грамадзяне, пераважна з суседняй Польшчы (152), якія, улічваючы этнічны склад веруючых і блізкасць моў, хутка адаптаваліся да новых умоў работы. РКЦ ахоплівае ўсе рэгіёны, не выходзячы сваімі структурамі за межы дзяржавы.

Інтэнсіўнасць працэсу стварэння суполак РКЦ актуалізавала праблему забеспячэння кадрамі. Перш за ўсё такую сітуацыю трэба звязаць з асаблівасцю свяшчэнства ў традыцыях каталіцызму і адносна нязначным перыядам інстытуцыялізацыі РКЦ у сучаснай Беларусі. У краіне дзве каталіцкія семінарыі: Гродзенская, у якой вучыцца 65 чалавек, і Пінская, дзе колькасць навучэнцаў складае 38 чалавек. За 20 гадоў першая з іх выпусціла 173 свяшчэннаслужыцелі, 103 з якіх настаўляюць веруючых у Гродзенскім дыяцэзе.

Доўгі час пытанне аб аднаўленні дзейнасці навучальных устаноў РКЦ нават не ставілася, бо ніякай перспектывы і шансаў на рэалізацыю яе не было. Працэс пашырэння адукацыйнай сеткі ў асноўным прыпадае на 90-я гады, калі пачалі аднаўляць работу семінарыі, ствараліся каледжы тэалагічнай адукацыі, закладваліся асновы рэлігійных (багаслоўскіх) інстытутаў і спецыяльныя школы. Першымі пачалі рэгістраваць статут семінарыі. Работа, а таксама навучанне ў іх маюць свае асаблівасці. Да адбору навучэнцаў, а ў далейшым і іх высвяшчэнню, нягледзячы на нявырашанасць на сённяшні дзень праблемы, Царква ставіцца аса-

бліва пільна. Гэта тлумачыцца высокім статусам асобы духоўнага сану, які доўгі час фарміраваўся РКЦ у сусветным вымярэнні. Навучальны працэс у семінарыях складзецца з трох этапаў (першы курс — прапедэўтычны, падрыхтоўчы, наступныя два гады — філасофіі і чатыры — тэалогіі). Ступеньчаты характар мае і працэс высвяшчэння (лектарат, акалітат, дыяканітат, свяшчэнства).

Упарадкавана работа спецыяльных школ. Аналіз іх вучэбных праграм і характэрных асаблівасцей сведчыць аб наданні прафесійнай рэлігійнай адукацыі высокага ўзроўню патрабаванняў, неабходных часу (сувязь з жыццём), што забяспечвае яе эфектыўнасць.

Адукацыйныя ўстановы РКЦ пастаянна асучасніваюцца, узровень падрыхтоўкі выпускнікоў высокі, да навучальнага працэсу прыцягваюцца як вядучыя айчынныя, так і замежныя багасловы і вучоныя, падтрымліваюцца цесныя кантакты з замежнымі каталіцкімі ўстановамі адукацыі, семінарысты могуць прайсці стажыроўку або працягнуць навучанне за мяжой. Ажыццяўляецца выдавецкая дзейнасць, праводзіцца значная сацыяльная і дабрачынная работа непасрэдна ў суполках і пры дапамозе дабрачынных арганізацый.

Каталіцкая Царква наогул, і ў прыватнасці ў Беларусі надае вялікую ўвагу пытанням карытатыўнай дзейнасці, прытрымліваючыся палажэнняў сацыяльнай дактрыны каталіцызму і сучаснага погляду на праблемы і задачы ў напрамку «служэнне міласэрнасці», якія стаяць перад Царквой і выкладзены Папам Рымскім Бенедыктам XVI у энцыкліке «Бог ёсць любоў».

У пашырэнні дабрачыннасці асаблівае месца займае арганізацыя «Карытас». Яна мае свае структуры практычна ва ўсіх рэгіёнах. Асноўныя кірункі дзейнасці: адкрыццё дабрачынных сталовых, арганізацыя і падтрымка дзіцячых дамоў сямейнага тыпу, стварэнне дамоў міласэрнасці для пажылых, адукацыя і ўтрыманне рэабілітацыйных цэнтраў рознага профілю, аказанне гуманітарнай дапамогі, апека над цяжкахворымі дома, дапамога і падтрымка людзей, якія жывуць з ВІЧ, работа са зняволенымі, адкрыццё міні-прадпрыемстваў, дапамога бежанцам, а таксама разнастайныя акцыі па зборы сродкаў. На працягу апошніх гадоў назіраецца пашырэнне напрамкаў карытатыўнай дзейнасці. Стаўка робіцца на развіццё валанцёрства і ўдзел моладзі. Вельмі распаўсюджаным стала стварэнне пры парафіях хрысціянскіх сабораў і маладзёжных хрысціянскіх цэнтраў.

Аналіз евангелізацыйнай работы РКЦ паказвае, што прапаведаванне ажыццяўляецца на двух узроўнях — парафіяльным і пазапарафіяльным. Акрамя традыцыйных форм, прадстаўленых у арганізацыі культурна-асветніцкіх падыходаў, выкарыстоўваюцца і найбольш адпавядаючыя сучасным умовам. Адна з такіх форм — выкарыстанне СМІ. Паказальна тое, што ўсе яны маюць тэндэнцыю да пастаяннага абнаўлення, аб’яднання традыцыйных падыходаў і інавацыйных падыходаў.

У 2000 г. выйшла дэкларацыя «Dominus Iesus», складзеная кардыналам Ёзефам Ратцынгерам (зараз Папа Бенедыкт XVI), у якой фактычна адбываецца вяртанне да тэзіса «па-за Рымска-Каталіцкай Царквой няма выратавання». Дэкларацыя замацоўвае неад’емнае права РКЦ на адзінае сапраўднае разуменне, тлумачэнне і прапаведаванне хрысціянскай веры; пры гэтым іншыя веравызнанні характарызаваліся як несапраўдныя і непаўнацэнныя. Гэты дакумент істотна затармазіў працэс экуменічнага дыялогу з пратэстанцкімі і праваслаўнымі цэрквамі ў пачатку XXI ст.

Важна, што Папа Бенедыкт XVI праводзіць палітыку вяртання да многіх традыцый РКЦ. Сваю задачу ён бачыць ва ўмацаванні Каталіцкай Царквы і захаванні духоўнай традыцыі, асабліва ва ўмовах глабалізацыі, страты інтарэсу да Царквы і маральнага заняпаду ў грамадстве.

Можна вылучыць чатыры асноўныя моманты на шляху станаўлення РКЦ у Беларусі, а менавіта: афіцыйнае аднаўленне дзейнасці Мінскага дыяцэзу (1989);

заснаванне Гродзенскага і Пінскага дыяцэзаў і Мінска-Магілёўскай архідыяцэзы (1991), кіраўніком якой быў прызначаны епіскап (з 1994 г. кардынал) Казімір Свёнтак; стварэнне Канферэнцыі каталіцкіх епіскапаў (1999). З верасня 2007 г. кіраўніком РКЦ у Беларусі з'яўляецца Архіепіскап Мітрапаліт Мінска-Магілёўскага архідыяцэзу Тадэвуш Кандрусевіч.

Папа Рымскі Бенедыкт XVI бачыць, што ўніфікаваны свет — не светлая планета без камунізму і межаў. У кнізе «Што такое Еўропа?» ён асуджае не толькі камунізм, але і капіталізм. Папа канстатуе, што Еўропа страціла палітычнае першынство. Нееўрапейцы, і перш за ўсё амерыканцы, прэтэндуюць на рэлігійную ўладу, а Еўропа ад яе адмаўляецца. Для захавання значнасці ў сусветнай палітыцы яна аб'ядналася, але пры будове адзінай Еўропы першынство адышло да эканамічных адносін. Арыентаваны на эканоміку Еўрапейскі саюз стварае для сябе новую сістэму каштоўнасцей, у якой няма месца Богу. На думку Папы, безрэлігійны Захад уяўляе сабой пагрозу свету, тым сусветным культурам, якія ведаюць, што без Бога ў свеце няма будучыні.

Вядома, што Бенедыкт XVI пачаў работу па ўмацаванні Каталіцкай Царквы знутры, перш за ўсё па ўмацаванні веры, таму што лічыць, што без моцнай веры нельга нікога схіліць да Хрыста.

За кошт духоўнага патэнцыялу Беларусі, Расіі, Украіны можна ўмацаваць веравызнанне католікаў і з новай сілай працягваць праект «Планетарнае каталіцтва». Акрамя таго, Каталіцкая Царква мае патрэбу ў кадрах (зараз ролю «кузні» каталіцкіх святароў выконваюць Польшча і Мексіка). Вырашыўшы «ўсходняе пытанне», яна займее значны аўтарытэт у вачах Еўропы, свету, пратэстантаў, мусульман і атэістаў.

Новыя сацыяльна-палітычныя ўмовы прымусілі Рымска-Каталіцкую Царкву звярнуцца да фармулявання сваёй афіцыйнай пазіцыі ў адносінах да выклікаў часу — «Кампендыум сацыяльнага вучэння Царквы», які апублікаваны ў 2006 г.

Гэта дакумент, які рэгламентуе адносіны рэлігійнай традыцыі да грамадства, дзяржавы, іншых рэлігійных традыцый, сусветнага супольніцтва, фармалізуючы свае адносіны да сацыяльна значных паняццяў, адлюстроўвае ідэалогію гэтых адносін, у той час як стратэгія і тактыка адносін са згаданымі інстытуцыямі вызначаюцца веравучэннем і звычаямі, якія склаліся.

Каталіцкая сацыяльная дактрына — сукупнасць спецыфічных сацыяльна-палітычных, сацыяльна-эканамічных і этычных канцэпцый, выкладзеных у афіцыйных дакументах Царквы (у энцыкліках, ватыканскіх дэкрэтах, канстытуцыях, булах, у рашэннях сабораў і г. д.).

Праблема палітычнага ладу грамадства — адна з асноўных у сацыяльнай дактрыне РКЦ. У праватнасці, гэта дэталёва тлумачыцца ў «Кампендыуме сацыяльнага вучэння Царквы». Ён уключае асноўныя ідэі, якія распрацавала Царква ў сацыяльнай сферы на працягу ўсёй сваёй гісторыі.

Складаецца Кампендыум з уступу, трох частак і заключэння. Ва ўступе прадстаўлена неабходнасць у сацыяльным вучэнні Царквы ў пачатку трэцяга тысячагоддзя і значэнне Кампедыума ў гэтай справе. Першая частка распавядае аб фундаментальных перадумовах сацыяльнага вучэння, якімі з'яўляюцца: любоў Бога да чалавека і грамадства, місія Царквы і прырода сацыяльнай дактрыны, чалавечая асоба і яе правы, прынцыпы і значнасць сацыяльнай дактрыны. Другая прадстаўляе класічныя тэмы сацыяльнага вучэння: сям'я, праца, эканамічнае жыццё, палітыка, міжнароднае супольніцтва, навакольнае асяроддзе і свет. У трэцяй даюцца ўказанні па выкарыстанні сацыяльнай дактрыны ў пастырскай практыцы Царквы і хрысціянскага жыцця. Заключэнне кнігі называецца «Да цывілізацыі любві», што, як нам здаецца, адлюстроўвае асноўную думку ўсяго дакумента.

Ён дэманструе імкненне фармуляваць нязменныя на працягу часу і ўніверсальныя па змесце каштоўнасці, якім павінна адпавядаць любое вартае чалавека

грамадства. Кампендыум зыходзіць са сцвярджэння бясспрэчнай значнасці «натуральнага права». Адрасат сацыяльнага вучэння дастаткова шырокі — гэта не толькі каталікі, але і ўсе людзі добрай волі. Як сведчыць паслядоўнасць тэм, якія разглядаюцца, Кампендыум лічыць самымі неадкладнымі пытаннямі «Божую задуму любві аб чалавецтве» і «Місію Каталіцкай Царквы».

Царква заўсёды вывучала розныя канцэпцыі ўлады з мэтай пошуку той мадэлі, якая б гарантавала незалежнасць чалавечай асобы, яе каштоўнасці і правы, не ўзурпіравала свабодную дзейнасць некаторых асоб і груп, а накіроўвала іх свабоду на рэалізацыю грамадскага дабра. У адпаведнасці з сацыяльнай канцэпцыяй РКЦ, народ — носьбіт вярхоўнай улады. Ён рознымі спосабамі дэлегуе яе тым, каго свабодна выбірае сваімі прадстаўнікамі, але захоўвае за сабой прэрагатыву зацвярджаць свой суверэнітэт, ацэньваючы дзейнасць кіраўнікоў і нават змяняючы іх, калі яны нездавальняюча выконваюць свае функцыі. Такое права існуе ў любой дзяржаве і ў кожным палітычным ладзе, аднак найбольш адпавядае гэтым каштоўнасцям, дзякуючы працэдурам кантролю, дэмакратычная форма праўлення.

Характарыстыка дэмакратыі выкладзена ў энцыкліке «Centesimus annus»: «Царква цэніць дэмакратычны лад настолькі, наколькі ён забяспечвае грамадзянам права палітычнага выбару, гарантуе ім магчымасць кантраляваць правіцеляў і, у выпадку неабходнасці, устанавіць іх мірным спосабам. Таму Царква непахвальна ставіцца да стварэння невялікіх кіруючых груп, якія ўзурпіруюць дзяржаўную ўладу для задавальнення ўласных інтарэсаў або з ідэалагічнай мэтай. Рэальная дэмакратыя магчыма толькі ў прававой дзяржаве і на аснове правільнага разумення чалавечай асобы. Для гэтага неабходны ўмовы, пры якіх індывідуум мог бы развівацца, атрымліваць адукацыю і выхаванне ў духу сапраўдных ідэалаў, а грамадства станавілася б «індывідуальным» дзякуючы стварэнню структур, дзе людзі могуць супрацоўнічаць і несці сваю частку адказнасці».

У сучаснай каталіцкай сацыяльнай дактрыне знаходзяць сваё развіццё і іншыя праблемы, такія як дэмакратыя, культура, сям'я, экалогія і да т. п. Эвалюцыя гэтай праблематыкі ажыццяўляецца не толькі ў накірунку паглыблення яе рэлігійнага тлумачэння, але і з улікам неабходнасці гуманістычнага пераўтварэння грамадства.

Паказальнай стала трэцяя энцыкліка Бенедыкта XVI «Міласэрнасць у ісціне» (2009), прысвечаная выкладанню сацыяльнай дактрыны Каталіцкай Царквы ва ўмовах эканамічнага крызісу. У ёй Папа заклікае рэфармаваць ААН і стварыць сусветны ўрад для вырашэння праблем глабальнай эканомікі, голаду, экалогіі, якія стаяць перад чалавецтвам ва ўмовах глабалізацыі.

Сацыяльная дактрына Каталіцкай Царквы, у адрозненне ад сацыяльных дакументаў іншых канфесій, з'яўляецца не проста свайго роду праграмай, рэгламентуючай стратэгію і практыку адносін паміж Царквой і грамадствам, але падрабязна выкладзеным вучэннем, якое ўвабрала шматвяковы вопыт станоўчай практыкі вырашэння сацыяльных праблем у канкрэтных галінах і сферах грамадскага жыцця.

Сёння РКЦ, у адрозненне ад папярэдніх стагоддзяў, не бярэ на сябе абавязак пастаяннага апекуна дзяржавы, а таму сваю ролю ў грамадска-палітычных працэсах бачыць не ў дыктаце і ўмяшальніцтве, а ў своеасаблівай карэкцыі. Пры гэтым сваім абавязкам лічыць выхаванне свядомага грамадзяніна, які актыўна ўключаны ў сацыяльна-палітычнае жыццё краіны. Такім чынам, прадугледжваецца больш хуткае ўстанаўленне функцыі РКЦ у палітычных выбарах, чым актыўна дзеючая, якая рэгулюецца адпаведнымі дакументамі рэлігійнай інстытуцыі. У прыватнасці, разгляд асобных палажэнняў «Кодэкса кананічнага права» і «Душпастырскай канстытуцыі аб Царкве ў сучасным свеце» дазваляе

зрабіць выснову аб існаванні дакладных абмежаванняў правоў духавенства ў грамадска-палітычнай сферы. Акрамя таго, абмежаванні існуюць і ў дзеючым Законе Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе веравызнання і рэлігійных арганізацыях», і ў іншых дзяржаўных дакументах. Разам з тым нельга сцвярджаць, што РКЦ адхілена ад сацыяльна-палітычных праблем, больш таго, выяўляецца падтрымка, якая блізкая Царкве.

Усе звароты да народа мелі дэкларатыўны характар. Відавочна таксама наяўнасць рэкамендацыйных палажэнняў, звязаных з падтрымкай маральна-этычных прынцыпаў, пры гэтым выключаюцца якія-небудзь агітацыйныя моманты. Нейтральная, а не актыўная пазіцыя РКЦ у перадвыбарчых працэсах краіны з’яўляецца найбольш аптымальным варыянтам прысутнасці Царквы ў гэтых працэсах.

Цяперашняя палітыка Ватыкана на пастсавецкай прасторы з’яўляецца працягам гістарычнай палітыкі ў адносінах да Беларусі і Рускай Праваслаўнай Царквы (РПЦ). Беларусь — аб’ект асаблівай увагі Ватыкана. Што цалкам зразумела не толькі з гістарычнага пункта погляду, але і ў кантэксце філасофіі дзейнасці Папы Бенедыкта XVI у адносінах да краін Усходняй Еўропы. Ён, яшчэ з’яўляючыся кардыналам і прэфектам Кангрэгацыі дактрыны веры, бачыў перспектыву дзейнасці РКЦ у «дыялогу з нехрысціянамі і няверуючымі, якія жывуць на велізарнай рускай тэрыторыі». Міжканфесійныя супярэчнасці, як правіла, маюць гістарычныя, тэалагічныя, культурныя, палітычныя і псіхалагічныя перадумовы, што ўскладняе адкрытасць і наладжванне паўнацэннага дыялогу паміж усімі хрысціянскімі цэрквамі, перашкаджаючы развіццю міжцаркоўнага экуменізму.

Не менш важны фактар, які выклікае праваслаўна-каталіцкія супярэчнасці і ўскладняе працэс наладжвання прадуктыўнага дыялогу, — даўняя праваслаўна-каталіцкая канкурэнцыя, што за апошнія дваццаць гадоў абумоўлена нарошчваннем рымска-каталіцкай прысутнасці ў пасткамуністычных краінах.

Місіянерская дзейнасць Ватыкана і Каталіцкай Царквы ў былых савецкіх рэспубліках прымае ўсё больш актыўны характар. За гэтым прагледжваецца традыцыйная стратэгія, якая найбольш эфектыўна забяспечвае захаванне пазіцый РКЦ у свеце і ўплыў Ватыкана на палітычныя працэсы. Больш таго, усходняя палітыка Ватыкана цалкам упісваецца ў палітыку «пашырэння на Усход» палітычных і ваенна-палітычных структур Захаду і фактычна суправаджае, падтрымлівае яе.

Місіянерскай дзейнасці РКЦ садзейнічаюць палітычныя эліты ў шэрагу дзяржаў СНД з мэтай атрымаць падтрымку Ватыкана ў сваёй палітыцы збліжэння з Захадам.

Сучасная палітыка Ватыкана вядзе да парушэння балансу, які склаўся за стагоддзі паміж культурна-рэлігійнымі сістэмамі — Заходняй Еўропай і Усходняй Еўропай, што прама і ўскосна адлюстроўваецца на культурных, палітычных працэсах на пастсавецкай прасторы. Дзейнічаючы на ёй, Ватыкан не можа не быць уцягнутым у палітычны працэс, што наглядна выяўляецца ў сітуацыі ў нашай краіне.

У рэгіянальных працэсах Еўропы Рэспубліка Беларусь заўсёды з’яўлялася той геапалітычнай прасторай, якая ў кожную эпоху знаходзіла сваё асаблівае месца і сваё новае значэнне ў палітычных адносінах. На гэтай прасторы ў мінулым і сёння адбываецца спалучэнне Захаду і Усходу Еўропы і дзвюх культур. Менавіта тут узаемна пранікаюць заходнекаталіцкае і ўсходнеправаслаўнае хрысціянства і ўзаемадзейнічаюць дзве хрысціянскія царквы.

Місіянерская і празелітычная дзейнасць Ватыкана мае абсалютна дакладны геапалітычны аспект, які трэба ацэньваць у кантэксце «пашырэння Захаду на

Усход». Ватыкан разглядае сваю дзейнасць у Рэспубліцы Беларусь як зварот страчанай ім прасторы і ўзмацненне ўплыву РКЦ і каталіцкай рэлігіі сярод насельніцтва. Наша краіна ўспрымаецца як найбольш натуральны і спрыяльны плацдарм для місіянерскай дзейнасці на пастсавецкай прасторы. Гэтая дзейнасць Ватыкана, РКЦ цалкам укладваецца ў фармат сучаснай палітыкі Захаду. Незалежна ад таго, ці выказваецца гэта ў прасоўванні НАТА і ЕС на Усход або ў празелітычнай палітыцы Ватыкана.

Хаця кіраўніцтва Святога Прастола дэкларуе ў сваёй дзейнасці мэты экуменічнага і гуманітарнага характару, тым не менш у наяўнасці адназначнае імкненне павысіць грамадскі статус і ролю Рымска-Каталіцкай Царквы не толькі ў Рэспубліцы Беларусь, але і ў іншых былых савецкіх рэспубліках. Вызначаючы межы сваёй місіянерскай дзейнасці, Камісія «Pro Russia» РКЦ яшчэ ў 1992 г. прыняла дакумент «Агульныя прынцыпы і практычныя нормы каардынацыі евангелічнай дзейнасці і экуменічных абавязкаў Каталіцкай Царквы ў Расіі і іншых краінах СНД».

Растлумачваючы місію Каталіцкай Царквы весці пропаведы сярод усіх народаў, гэты дакумент разам з тым не апраўдвае празелітызм, які разумецца як націск на сумленне. У гэтым дакуменце таксама ідзе размова пра тое, што апостальская дзейнасць Каталіцкай Царквы на тэрыторыі СНД павінна мець экуменічны характар.

Рымска-Каталіцкая Царква ў сучаснай Беларусі дэманструе многавектарнасць і дынамічнасць развіцця, якая вызначаецца такімі асаблівасцямі (характарыстыкамі), як мадэрнізацыя і адаптацыя да сучасных рэалій. Прычым назіраецца тэндэнцыя да ўліку этнічных і рэлігійных дамінантаў краіны, якія забяспечваюць, у сваю чаргу, кампраміснасць, а таксама талерантнасць функцыянавання і развіцця каталіцызму ў нашай краіне.

**Валянціна ЛОКУН**

# СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ КАМПАРАТЫВІСТЫКА: ГЛЫБІНЯ І МАШТАБНАСЦЬ ПОШУКУ

*(па старонках манаграфіі «Літаратурная карта Еўропы: кантакты, тыпалогія, інтэртэкстуальнасць»)*

Беларуская кампаратывістыка, можна сказаць, перажывае рэнесанс. Напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя, калі савецкая літаратура пачала страчваць свае мастацка-сацыяльныя пазіцыі, узнікла аб'ектыўная неабходнасць асэнсавання набыткаў беларускай нацыянальнай літаратуры ў шырокім міжнародным кантэксце — у параўнанні з еўрапейскай і сусветнай. Бо раней наша параўнальнае літаратуразнаўства было абмежавана выяўленнем больш лакальных сувязей: беларуска-руска-ўкраінскіх, пазней — беларуска-славянскіх (найперш, вядома, беларуска-польскіх). Былі, зразумела, і выключэнні (кнігі В. Жыбуля «Беларуская проза пра вайну і класічная трагедыя», У. Сакалоўскага — «Беларуская літаратура ў ГДР» і інш.), але гаворка пра агульную тэндэнцыю.

У канцы 1980-х — пачатку 1990-х гадоў разам з палітычнай і сацыяльна-эканамічнай інтэграцыяй пачалі ўсталёўвацца і больш цесныя сувязі і ўзаемадачыненні ў галіне літаратуры і мастацтва. Актуалізавалася задача іх вызначыць, асэнсаваць іхні характар і прадуктыўнасць, сістэматызаваць; знайсці кропкі судакранання літаратур, акрэсліць агульнае і адметнае ў іх развіцці, выявіць генеалогію і традыцыі. Да ўсяго, як слушна адзначае Мікола Мікуліч, «разгляд твораў беларускіх пісьменнікаў у міжнацыянальным ідэйна-эстэтычным і грамадска-культурным кантэксце, суаднясенні з пошукамі і здабыткамі прадстаўнікоў іншых еўрапейскіх літаратур не толькі дазваляе паказаць іх сапраўдную мастацкую сутнасць, адметнасць і самабытнасць, але і выявіць спецыфіку нацыянальнага тыпу мыслення, прынцыпаў і каштоўнасцей народнай самасвядомасці і маралі, духоўна-псіхалагічнага свету беларусаў, іх ментальнасці». Іншымі словамі, кампаратывісцкія даследаванні дазваляюць шматвектарна паказаць не толькі паўнавартаснасць айчыннай літаратуры ў іншамоўным мастацкім свеце, але і яе прадстаўнічую духоўна-нацыянальную сутнасць. Важным становіцца не толькі выяўленне фактараў уплыву еўрапейскіх літаратур на літаратуру беларускую нацыянальную ва ўмовах тыпалагічнага і генетычнага збліжэння, але і фактараў «процілеглых» — што дала ці дае айчынная літаратура сусветнай. Менавіта такі падыход усё часцей і часцей акрэсліваецца ў сучаснай кампаратывісцкай навуцы. Гэта пацвярджае і калектыўная манаграфія «Літаратурная карта Еўропы: кантакты, тыпалогія, інтэртэкстуальнасць», якая нядаўна пабачыла свет у выдавецтве «Беларуская навука» пад навуковай рэдакцыяй М. Мікуліча.

Кніга, прама скажам, уражвае сваім унушальным аб'ёмам (577 старонак), а таксама складам аўтарскага калектыву. Уражвае «геаграфія» навуковай зацікаўленасці даследчыкаў, тэматычная і канцэптуальная шматвектарнасць працы. Гэта сцвярджэнне новых метадалагічных падыходаў, незвычайных тэарэтычных рашэнняў, нестандартнага навуковага мыслення. Але разам з тым гэта і працяг традыцый папярэднікаў, ранейшых напрацовак, калі мець на ўвазе такія знакавыя даследаванні, як «Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей» у 4-х кнігах (1993—1995), «Нарысы беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей: культурна-гістарычны і літаратуразнаўчы аспект праблемы» (2002), калектыўны зборнік «Беларуская літаратура ў кантэксце славянскіх літаратур XIX—XX стст.»

(2006), калектыўная манаграфія «Еўрапейскі рамантызм і беларуская літаратура XIX—XX стст.» (2008) і інш.

Абапіраючыся на навейшыя дасягненні айчыннай і сусветнай кампаратывістыкі, аўтары манаграфіі засяроджваюць увагу на інтэграцыйных асновах развіцця беларускай і еўрапейскіх літаратур — рускай, украінскай, польскай, іспанскай, нямецкай, англійскай і г. д. Літаратурнае жыццё Беларусі, яго традыцыі і сучасны стан разглядаюцца ў параўнанні з традыцыямі і асаблівасцямі развіцця еўрапейскага літаратурна-мастацкага працэсу. У полі зроку даследчыкаў — розныя гістарычныя перыяды, літаратурна-мастацкія напрамкі і плыні, якія выяўляюцца праз асаблівасці мастацкіх дыскурсаў канкрэтных пісьменнікаў, іх тыпалагічныя і іншыя сувязі. Раскрываецца спецыфіка духоўнага свету герояў, прасочваецца ступень іх сацыяльна-псіхалагічна-нацыянальнай індывідуалізацыі. Актуальна гучаць і праблемы мастацкага перакладу, пытанні паэтыкі і стылю мастацкіх тэкстаў.

Беларуска-іспанскія судакрананні літаратур — адна са сфер, якія мала вывучаны айчыннымі кампаратывістамі. Алена Вальчук звярнулася якраз да гэтай сферы. Яе раздзелам «Рэцэпцыя рамана М. дэ Сервантэса “Дон Кіхот” у беларускай літаратуры» адкрываецца манаграфія. Калі ўлічыць тую акалічнасць, што ў нас адсутнічае поўны беларускамоўны пераклад гэтага твора з мовы арыгінала, то актуальнасць даследавання відавочная.

Раман упершыню быў надрукаваны ў Мадрыдзе ў 1605 годзе (першая кніга), другая з’явілася ў 1615 годзе. А. Вальчук пацвярджае выключную ролю Сервантэса ў развіцці сусветнага рамана. Яго кніга, лічыць яна, «заклала жанрава-кампазіцыйныя асновы Новага рамана, выявіла складаныя быційныя праблемы, садзейнічаючы фарміраванню філасофска-культурных канцэпцый як на радзіме — у Іспаніі, так і далёка за яе межамі, нязменна прыцягваючы ўвагу літаратуразнаўцаў, спрыяла ўзнікненню шматлікіх яе інтэрпрэтацый». Да ўсяго падкрэсліваецца роля нямецкіх рамантыкаў (Ф. Шэлінг, Ф. Шлегель, Цік) у папулярызацыі твора Сервантэса, паколькі іспанскі раманіст у найбольшай ступені адпавядае рамантычнаму характару светаўспрымання. «Нямецкія рамантыкі, — сведчыць А. Вальчук, — не толькі “ўдыхнулі” ў раман Сервантэса новае жыццё, але і заклалі асновы яго ўспрымання як скарбу маральна-этычных каштоўнасцей, прыкладу высакародства і жыццёвай мудрасці, кнігі, чыё жанрава-стылістычнае наватарства стала асновай для далейшых літаратурных эксперыментаў».

Разглядаецца і літаратуразнаўчы аспект гэтага рамана, які адкрыў перад даследчыкамі свет «кіхатызму». Дзякуючы твору Сервантэса філасофская, культуралагічная, этычная і літаратуразнаўчая навукі ўзбагаціліся новай тэрміналогіяй.

Працэс засваення іспанскага рамана ў беларускай мастацкай прасторы няпросты — праз пасрэдніцтва іншанацыянальных літаратур, спачатку французскай, нямецкай, пасля рускай і польскай. Гэта былі аўтарскія перастварэнні, бо перакладчыкі «прачытвалі» твор праз сваё нацыянальна-мастацкае бачанне. Тым не менш, як слушна заўважае А. Вальчук, кожнага захапляла багацце ідэйнага і этычнага зместаў «Дон Кіхота», шматзначнасць яго мастацка-вобразнай сістэмы. Такім чынам, яна прыходзіць да думкі, што «раман Сервантэса быў школай творчага майстэрства для многіх беларускіх пісьменнікаў». І сучасных у тым ліку. Да ўсяго, гэтае ўваходжанне з’яўлялася эвалюцыйным, яно «садзейнічала пашырэнню мастацкіх гарызонтаў нацыянальнага пісьменства, адкрывала перад айчыннымі літаратуразнаўцамі новыя перспектывы даследаванняў, узбагачала духоўны свет народа». І эстэтычную свядомасць, дадамо.

На мяжы XX—XXI стст. назіраецца новая хваля цікавасці да рамана «Дон Кіхот». Ён становіцца аб’ектам ужо кампаратывісцкіх даследаванняў, разглядаецца ў шырокім кантэксце іспанскай літаратуры XVI—XVII стст., а таксама еўрапейскіх літаратур XVIII стагоддзя.

Навукова-тэарэтычныя разважанні А. Вальчук хораша падмацоўваюцца канкрэтным супастаўляльна-параўнальным аналізам. У «Дон Кіхоце» і паэме А. Міц-

кевіча «Пан Тадэвуш» кропкі судакранання выяўляюцца на ўзроўні мастацка-жанравай формы. А ў аповесці Я. Баршчэўскага «Шляхціч Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» даследчыца знаходзіць тыпалагічнае падабенства да рамана Сервантэса на кампазіцыйным узроўні. Сервантэсаўская канцэпцыя падвоенасці бачыцца ёй у меладраме В. Дуніна-Марцінкевіча «Апантаны», тып «кніжнай свядомасці» — у апавяданнях У. Галубка, сервантэсаўскае светабачанне і сюжэтныя матывы ўвасоблены ў творах У. Дубоўкі і Л. Гаўрылкіна.

Арыгінальным атрымаўся падраздзел «“Дон Кіхот” М. дэ Сервантэса і постмадэрнізм: элементы раманнай паэтыкі ў творчасці беларускіх пісьменнікаў XX—XXI стст.» У гэтым плане А. Вальчук абапіраецца на заключэнне Д. Затонскага, адпаведна якому, «Сервантэс стварыў шматузроўневую містыфікацыю, даволі абсурдную па сваёй сутнасці для рамана XVI — пачатку XVII ст.». Іншымі словамі, Сервантэс быў для свайго часу вялікім эксперыментатарам. Менавіта яго вынаходніцтва садзейнічала ператварэнню «свету» ў «тэкст» і, наадварот, «тэксту» ў «свет». А гэта адзін з галоўных пастулатаў мадэрнісцкай «тэхнікі». Такім чынам, іх сувязь выяўляецца яшчэ на генетычным узроўні. Прасочваецца блізкасць і на іншых узроўнях — сюжэтна-кампазіцыйным, асацыятыўным, а таксама на ўзроўні формы аўтарскага самавыяўлення.

Алена Вальчук пераканаўча даказала, што рэцэпцыя рамана Сервантэса «Дон Кіхот» у беларускай літаратуры адбывалася паступова, паэтапна, няўхільна ўплываючы на індывідуальна-мастацкія светы айчынных пісьменнікаў.

Жана Шаладонава ў цэнтр свайго даследавання паставіла ўжо не асобу, а праблему: «Прыродна-рэчыўная прастора ў творах Я. Коласа, М. Гогаля і Т. Шаўчэнкі». Аўтар звяртаецца да катэгорыі прасторы як універсальнай катэгорыі нацыянальнага быцця. Яна бачыць у ёй адзін са структураўтваральных элементаў культуры і літаратуры.

Прастора ў творах Я. Коласа, М. Гогаля і Т. Шаўчэнкі, пераканана даследчыца, ёсць духоўная і матэрыяльная субстанцыя, што знаходзіцца ў цеснай адпаведнасці з агульначалавечымі катэгорыямі і філасофскімі канцэпцыямі, адлюстроўваючы этапнасць і спецыфіку ўзаемадзеяння чалавека з акаляючым светам. Прастора дэтэрмінуе нацыянальна-этычны воблік народа, яго светапоглядную сістэму і найважнейшыя жыццёва-каштоўнасныя прыярытэты. У гэтых пытаннях Ж. Шаладонава спасылаецца на працы такіх вядомых вучоных-тэарэтыкаў, як М. Бахцін, Д. Ліхачоў, І. Нікіцін, В. Тапараў і інш., асабліва вылучаючы Ю. Лотмана, які найбольш разгорнута і грунтоўна вызначыў эстэтычныя функцыі прасторы ў структуры мастацкага тэксту. Вядома, даследчыца ўлічвае таксама вопыт і дасягненні беларускіх вучоных — А. Бельскага, А. Шамякінай, З. Драздовай, А. Лойкі, І. Навуменкі і інш.

Катэгорыя «прастора — час» досыць распрацаваная ў плане яе тэарэтыка-аналітычнага асэнсавання. Аднак Ж. Шаладонава прапаноўвае свой, параўнальна-тыпалагічны ракурс, дзе праблема прыродна-рэчыўнай прасторы падаецца сістэмна і комплексна. Даследчыца закранае гісторыка-філасофскі аспект пытання, вызначаючы ўніверсалізм прасторы, яе анталагічную сутнасць, сувязь з архетыпамі сусветнай культуры. Часам аналіз выходзіць за межы літаратуразнаўчай навукі і звязваецца з такімі галінамі ведаў, як філасофія, культура, этнапсіхалогія.

Звяртаецца Ж. Шаладонава да такіх важных архетыповых мастацка-вобразных катэгорый-канцэптаў нацыянальнай прасторы, як хата, дарога, ежа, стэп, поле, вада і г. д. Усе яны ўтрымліваюць багатую інфармацыйна-функцыянальную і семантыка-сэнсавую характарыстыку. Падкрэсліваецца, што гэтыя катэгорыі ў творчасці Я. Коласа, М. Гогаля і Т. Шаўчэнкі «спалучаны з навакольным светам, грамадска-гістарычным, нацыянальна-культурным фонам», да ўсяго яны «змяшчаюць важную інфармацыю аб пэўных сацыяльных, этычных і этнічных характарыстыках народаў». З’яўляючыся канстантамі нацыянальнай прасторы, яны звязаны з архетыпамі сусветнай культуры. Разгорнутыя мастацка-вобразныя апісанні ключавых топасаў Я. Коласам, М. Гогалем і Т. Шаўчэнкам, «поўна і

гарманічна адлюстроўваючы нацыянальную карціну свету», адпавядаюць уласна нацыянальнаму светабачанню, каштоўнасным установкам свайго народа, яго духоўна-практычнаму вопыту. Аўтарам вылучаецца катэгорыя «хаты» як адна з фундаментальных быційных катэгорый. У тэкстах Я. Коласа і Т. Шаўчэнкі хата з'яўляецца дамінуючым складнікам мастацкай карціны свету. Вобраз мае два сэнсы: як практычная арганізацыя жыцця і побыту і метафарычны, як «быційна-гістарычнае разуменне структуры нацыянальнай рэчаіснасці». Ж. Шаладонава прыходзіць да высновы, што «метафарычная насычанасць вобраза сваёй хаты, яго аксіялагічна і анталагічна-сэнсавая адкрытасць дэманструюць унікальную здольнасць класічных сістэм да сэнсавай поліфаніі, якая пашыраецца да ўзроўню фундаментальных быційных катэгорый».

Не менш глыбокая метафорыка закладваецца і ў канцэпт «дарогі». Вобраз дарогі разглядаецца як «універсалія светавай культуры, рэпрэзентатыўны вобраз нацыянальнай карціны свету, мадэль чалавечага існавання, ёмістая дэталь мастацкай рэчаіснасці і характаралогіі персанажаў». Гэты вобраз даследчыца выяўляе ў шматлікіх інтэрпрэтацыях Я. Коласа, М. Гогаля і Т. Шаўчэнкі. Пісьменнікі выкарыстоўвалі яго «ў розных сэнсавых каардынатах, падпарадкоўваючыся аўтарскім мастацка-эстэтычным задачам, карэлюючы з сусветнымі ўніверсаліямі і этнакультурнымі традыцыямі, стэрэатыпамі, набываючы актуальную змястоўнасць эпохі». Гэта выснова выбудоўваецца на шырокім аналізе канкрэтных мастацкіх тэкстаў.

Глыбокімі на думку і назіранні з'яўляюцца і падраздзелы, у якіх Ж. Шаладонава аналізуе спецыфіку мастацка-вобразнага выяўлення канцэптаў поля/стэпу, воднай стыхіі, мастацкага феномена прасторы і г. д. у творах Я. Коласа, М. Гогаля і Т. Шаўчэнкі.

Параўноўваючы тэксты вялікіх нацыянальных творцаў і выяўляючы пры гэтым асаблівасці іх прыродна-рэчыўнага мастацкага свету, яна імкнецца знайсці не толькі агульнае, што іх яднае, але і адрознае, што раз'ядноўвае. У беларускай мастацка-культурнай традыцыі, лічыць даследчыца, прасторавыя топасы дарогі, стэпу/поля, воднай стыхіі прэзентуюць у асноўным «пазітыўна-гарманічную сутнасць нацыянальнага быцця» і звязаны яны з «эпічнай угрунтаванасцю» беларусаў у навакольны свет. У той час як, напрыклад, ва ўкраінскай культуры прасторавы топас стэпу, дарогі і інш. больш рамантызаваны, звязаны са свабодалюбівымі пачуццямі, казацкай вольніцай, што вынікае з духоўна-анталагічных характарыстык украінцаў.

Падсумоўваючы вынікі свайго даследавання, Ж. Шаладонава абазначае прастору як шматфункцыянальны вобраз свету: «Прастора ў сукупнасці рэчаў, прыродна-сацыяльных топасаў валодае інфарматыўна-пазнавальнай функцыяй як інварыянт канцэптуалізаванай, этнічна маркіраванай, сутнасна нацыянальнай карціны свету». Сімвалічныя значэнні прыродна-прасторавых вобразаў твораў Якуба Коласа, Мікалая Гогаля і Тараса Шаўчэнкі, мяркуе яна, «дапамагаюць больш поўна і глыбока зразумець быційную значнасць класічных шэдэўраў, спасцігнуць іх агульначалавечую сутнасць, засведчыўшы пры гэтым усю непаўторнасць, арыгінальнасць і выяўленчую моц аўтарскай індывідуальнасці».

Па-ранейшаму ўладарна прываблівае беларускіх вучоных польскі «кантэкст». «Беларуская тэма ў польскай літаратуры» — пад такім ракурсам Наталля Бахановіч даследуе развіццё/прысутнасць беларускай літаратуры ў польскім дыскурсе. Аўтар заглыбляецца ў гісторыю станаўлення беларускай тэмы ў польскай літаратуры ад самых вытокаў — ад моманту ўтварэння Рэчы Паспалітай у другой палове XVI ст., калі былі закладзены цесныя стасункі дзвюх культур. Вядома, гэтаму садзейнічала геаграфічнае становішча народаў, агульнасць крыніц мастацкай творчасці, генетычныя і шматлікія тыпалагічныя сувязі.

Даследчыца спыняецца на этапах гэтага працэсу — лацінамоўным (Я. Гусоўскі, Б. Гіяцынт, Ф. Градоўскі, С. Будны і інш.) і польскамоўным (А. Рымша, Г. Пельгрымоўскі, С. Страторый, Ц. Базілік і інш.). На пачатку XX стагоддзя ў

дадзены працэс уключаюцца В. Ластоўскі, М. Багдановіч, М. Гарэцкі і інш. За апошняе 30-годдзе беларуска-польскія кантакты значна актывізаваліся (згадваюцца працы А. Мальдзіса, А. Александровіча, А. Лойкі, М. Ларчанкі, У. Казберука, В. Каваленкі і інш.). Разам з тым Н. Бахановіч пераканана, што беларускі дыскурс у польскай літаратуры XX і XXI стст. менш даследаваны. Наспела неабходнасць «шматвектарнага асвятлення феномена беларуска-польскага сумежжа». Яна выбірае дыяхранічны аспект аналізу, які дазваляе ёй «аналізаваць функцыянаванне беларускага дыскурсу ў польскім мастацтве праз прызму паслядоўнасці падзей» «з мэтай атрымання цэласнага ўяўлення аб спецыфіцы функцыянавання і развіцця гэтага дыскурсу». Даследчыца канцэнтруе ўвагу і на спосабах, і на інтэнсіўнасці праяўлення беларускага дыскурсу ў польскай літаратуры, што, на яе думку, «садзейнічае ўсведамленню працягласці айчыннага ўплыву на польскую літаратуру і фарміраванню цэласнага ўяўлення аб яго этапах».

Адметна і тое, што Н. Бахановіч разглядае эвалюцыю беларускай тэмы ў польскай літаратуры XVI—XVIII стст. у фармаце адпаведных таму часу метадаў і жанраў, засяроджвае ўвагу на феномене гэтай тэмы ў польскай літаратуры XIX ст. — у рамантызме і пазітывізме як мастацкіх з'явах. Але галоўная ўвага скіравана на айчынны дыскурс у польскай літаратуры XX ст., тут яна спыняецца на творчасці М. Ваньковіча, Ч. Мілаша, А. Юрэвіча. Пададзена ідэя знітаванасці з тэмай «крэсаў» беларускага дыскурсу. Пры гэтым паняцце «крэсаў» праходзіць сэнсавую трансфармацыю. У XVI—XVIII стст. у гэтае паняцце ўкладвалася тэрытарыяльнае значэнне, у XIX — пачатку XX ст. дамінаваў план духоўны, у XX—XXI стст. — псіхалагічны. Тэма «крэсаў» у заяўленым Н. Бахановіч ракурсе, здаецца, яшчэ чакае свайго даследчыка.

Мікола Мікуліч працягвае адкрываць свой літаратурны «мацярык» — паэзію Заходняй Беларусі. «Духоўна-ірацыянальная стылявая плынь паэзіі Заходняй Беларусі як мастацкая сістэма» — так абазначана тэма яго навуковага даследавання. Упершыню ў айчынным літаратуразнаўстве прапануецца сістэмна-тыпалагічнае даследаванне паэзіі Заходняй Беларусі, дакладней, той яе часткі, якая ў савецкія часы цалкам ігнаравалася. Паэзія Заходняй Беларусі пададзена даследчыкам як «актыўны суб'ект беларуска-польскага ўзаемадзеяння». У параўнанні з паэзіяй Савецкай Беларусі, яна, лічыць вучоны, прадстаўляла зусім іншы мастацкі свет. Гэты свет меў сваю логіку развіцця, ён быў падпарадкаваны сваім эстэтычным задачам і сацыяльным тэндэнцыям.

Выяўляючы феномен заходнебеларускай паэзіі, як і культуры ў цэлым, М. Мікуліч прыходзіць да думкі, што паэзія гэтая «мела ў многім самадастатковы, аўтаномны характар і ўяўляла сабою пэўнае духоўна-мастацкае адзінства і цэласнасць». Больш за тое, у ёй функцыянавалі плыні, якія не маглі быць рэалізаваны ў Савецкай Беларусі па прычыне партыйна-ідэалагічнага дыктату. У першую чаргу гэта датычыць духоўна-ірацыянальнай паэзіі, якая характарызавалася асаблівым духоўна-ірацыянальным светам, «эстэтычным індывідуалізмам». Даследчык сцвярджае, што, з'яўляючыся альтэрнатывай творчасці паэтаў пракамуністычнай арыентацыі, духоўна-ірацыянальная плынь была звернута да «асэнсавання духоўна-філасофскіх, сацыяльна-маральных і душэўна-псіхалагічных аспектаў узаемадзеяння чалавека і рэчаіснасці, асобы і сусвету, да пазнання глыбінных асноў жыцця, яго складанай і супярэчлівай унутранай сутнасці». Па меркаванні М. Мікуліча, гэта своеасаблівыя сакральна-містычныя тэксты, якія вызначаліся «энергетычным зарадам рэлігійнасці, раскрыццём духоўнага зместу падсвядомага».

Даследуючы прыроду творчасці К. Сваяка, В. Адважнага, Х. Ілляшэвіча, А. Бярозкі і інш., вучоны вызначае і тыя ўнутраныя імпульсы, якімі паэты кіраваліся, — законы найвышэйшага натхнення і духоўна-эстэтычнай прасветленасці. Са шматлікіх характаралагічных момантаў ён вылучае найперш своеасаблівую суб'ектыўнасць мастацкага мыслення, дзе вялікая роля адводзіцца неўсвядомленаму імпульсу, асацыятыўнаму адчуванню навакольнага свету, азарэнню, духоўнаму інстынкту.

Вядома, вучоны закранае і адметнасці свядомасці лірычнага героя, духоўны свет якога быў звернуты да хрысціянскай першакрыніцы, да сцвярджэння ідэальнага пачатку свету, ідэі дабра і красы, уславлення веры ў Царства Божае, высокую Божую праўду.

Роля прадстаўнікоў духоўна-ірацыянальнай стылявой плыні ў развіцці беларускай паэзіі М. Мікулічу бачыцца ў адмысловым кірунку і багацці іх мастацкіх пошукаў, якія вызначаліся прысутнасцю «характэрнай духоўна-інтэнцыянальнай эмоцыі, што акрэслівала модус існавання лірычнага героя праз адметнае сінтэзаванне свету натуральных бачнасцей і адчуванняў як стыхіі абсалютнай усеагульнасці, матэрыяльнага ўніверсуму і творчай суб’ектыўнасці».

Уладзімір Чарота пашырае «геаграфію» параўнальнага аналізу. У раздзеле «Творчасць Кузьмы Чорнага перыяду Вялікай Айчыннай вайны і італьянская ваенная проза» ён звяртаецца да выяўлення тыпалагічных сувязей твораў К. Чорнага ваеннага перыяду і італьянскай ваеннай прозы 1940—1950-х гадоў — празаікаў-неарэалістаў Э. Вітарыні, А. Маравія, М. Рыгоні-Стэрна.

Яшчэ акадэмік В. Каваленка заўважыў некаторыя агульнасці беларускай і італьянскай ваеннай прозы — у сферах светапогляду і эстэтычнай свядомасці; да гэтага ён дадаваў і падабенства ва ўмовах разгортвання партызанскай і падпольнай барацьбы. У. Чарота вылучае да ўсяго і ідэю папулярызацыі К. Чорным агульначалавечых духоўна-маральных каштоўнасцей. З аднаго боку, даследчык, падкрэсліваючы выключнае значэнне тэкстаў гэтага празаіка ў станаўленні айчыннай ваеннай прозы, імкнецца да глыбіннага асэнсавання самабытнасці яго мастацкіх дыскурсаў, вызначэння феномена яго прозы, з другога — стараецца зразумець італьянскі неарэалізм як феномен італьянскай літаратуры 1940—1950-х гадоў. Параўнальнатыпалагічны аспект даследавання двух «феноменаў» падпарадкаваны найперш таму, каб акрэсліць месца К. Чорнага ў сусветным кантэксце і, далей, — праз асаблівасці індывідуальнага мастацкага мыслення паказаць адметнасць духоўнага «шляху» беларусаў у свеце. Усё гэта — у параўнанні з італьянскімі празаікамі. І паралельна — з асэнсаваннем спецыфікі літаратуры Італіі 1940—1950-х гадоў.

Галоўнымі «цэнтрамі» даследавання абраны чалавек і грамадства, чалавек і навакольны свет. Аўтара цікавяць найперш судакрананні гэтых «цэнтраў». Вывучэнне такіх кропак судакранання ў тэкстах К. Чорнага і італьянскіх аўтараў, упэўнены даследчык, вельмі плённае, бо праз іх — судакрананні — можна выйсці да агульначалавечых духоўна-маральных прыярытэтаў. Канкрэтны аналіз твораў скіраваны на вырашэнне менавіта гэтых праблем.

Звяртаецца У. Чарота да чорнаўскай філасофіі фашызму. Ён абазначае дзве канцэпцыі чалавека на вайне ў К. Чорнага: фашысцкую, заснаваную на філасофіі канцэнтраванага эгаізму, і гуманістычную, за якой стаіць найперш адказнасць бацькоў за лёс і будучыню сваіх дзяцей. Абедзве вызначаюцца як стрыжнявыя для чорнаўскай ваеннай прозы. Увогуле, падкрэслівае аўтар, ваенныя падзеі ў тэкстах К. Чорнага — усяго толькі фон для вырашэння праблемы ідэнтыфікацыі чалавека ў чалавеку і яго ўзаемаадносін з іншымі людзьмі.

Чалавек і не-чалавек, людзі і не́людзі — такія тэза і антытэза прасочваюцца і ў тэкстах італьянскіх аўтараў. Гэтак жа, як і матыў сцвярджэння ўніверсальнасці чалавечых каштоўнасцей, боль за пакуты дзяцей на вайне.

Звяртаючыся да аналізу раманаў Э. Вітарыні «Людзі і не́людзі», А. Маравія «Чачара», аповесці М. Рыгіні-Стэрна «Сяржант у снягах» (напісаных, дарэчы, у форме «лірычнага дакумента», характэрнай для неарэалізма), У. Чарота прыходзіць да думкі, што ў італьянскіх пісьменнікаў, у параўнанні з К. Чорным, пераважае пэўны індывідуалізм у характарах герояў, засяроджанасць на асабістым. Героям К. Чорнага ўласцівы калектывізм, грамадская салідарнасць. Яны бралі на сябе адказнасць не толькі за сябе, сваіх дзяцей, а — што вельмі важна — і за жыццё і будучыню ўсяго чалавецтва. Абазначаны і моманты зближэння К. Чорнага і італьянскіх празаікаў — гэта адлюстраванне вайны як асабіста перажытай трагедыі, глыбокая гуманістычная скіраванасць іх тэкстаў.

У сваім навуковым пошуку У. Чарота выкарыстоўвае шматлікія літаратуразнаўчыя працы, аднак ці не галоўным аўтарытэтам для аўтара — калі ўлічваць частату спасылак — з'яўляецца дысертацыйнае даследаванне А. Данільчык «Канцэпцыя чалавека ў беларускай і італьянскай прозе» (2002), што пэўным чынам аднастаіць аналітычную думку вучонага.

Сяргей Мінскевіч зноў закранае беларуска-польскія літаратурныя паралелі, акрэсліваючы новую тыпалагічную сувязь: «Айчына і абавязак у гістарычнай прозе Уладзіміра Караткевіча і Яраслава Івашкевіча». Ён звяртаецца да слынных постацей У. Караткевіча і Я. Івашкевіча невыпадкова. Абодва адыгралі выключную ролю ў развіцці сваіх нацыянальных літаратур. Слушна і тое, што большасць іх твораў пасля публікацый адразу падпадалі пад статус літаратуры **актуальнай**, а не моднай, як бывае часцей. С. Мінскевіч падкрэслівае і той факт, што гэтых пісьменнікаў, нягледзячы на розніцу ва ўзросце, лучыла любоў да Украіны. Адметна, што ў іх радаводзе ёсць паўстанцы 1863—1864 гг. Адсюль і тэма паўстання, створаны імі вобраз Айчыны і матыў служэння ёй сталі знакавымі ў іх творчасці.

Арыгінальным падаецца ракурс вырашэння галоўнай тэмы — праз прызму творчасці яшчэ аднаго карыфея сусветнай літаратуры Адама Міцкевіча, дакладней, праз запачаткаваную ў яго тэкстах рамантычную традыцыю служэння Айчыне. Адзначаючы пры гэтым, што сам У. Караткевіч не прымаў рамантызму, яму даспадобы было іншае азначэнне «дзіўнай рэальнасці» — авантурызм, даследчык звяртае ўвагу на эвалюцыйнае развіццё вобраза Айчыны ў тэкстах польскага і беларускага пісьменнікаў — у параўнанні з мастацкай традыцыяй А. Міцкевіча.

Сцвярджаецца думка, што далучанасць У. Караткевіча да міцкевічаўскай літаратурнай традыцыі была «арганічнай і трывалай», але разам з тым і творчай. Адштурхоўваючыся ад выказвання В. Акудовіча, што «Беларусь Міцкевіча — гэта краіна прыгожых жанчын і гераічных мужчын, высакародных шляхцічаў і самаахвярных святароў, вялікіх паэтаў і апантаных містыкаў», С. Мінскевіч даказвае, што караткевічаўскі ўзнёслы вобраз Айчыны-Беларусі заключае ў сабе нацыянальныя абрысы, выразна аддзяляе жальбу і любоў да Радзімы. Яго Радзіма-Беларусь «вялікая, славутая, змагарная, захапляльная, яе прырода мае непаўторную эстэтычную прывабнасць, яе гісторыя слаўная ратнымі подзвігамі, яе культура высокая дала свету мноства вартага гонару асоб».

Кампаратывісцкі аналіз асобных твораў дазволіў адлюстраваць моманты «крышталізацыі» вобраза «Айчыны-Літвы» ў А. Міцкевіча і «Радзімы-Беларусі» ва У. Караткевіча. Патэнцыял тыпалогіі пры гэтым досыць разнастайны, ён уключае ў сябе і прыёмы «тэкставай гульні», «цытатнай эквілібрыстыкі», выкарыстанне цытат з гістарычных дакументаў, народных вусна-паэтычных крыніц, з Рыгведаў, егіпецкіх гімнаў, арабскіх казак, Святога Пісання, старажытнаўсходніх, грэчаскіх, рымскіх, сярэднявечных аўтараў і г. д. Да ўсяго і У. Караткевіч, і А. Міцкевіч шырока ўжывалі артэфакты: Свіцязь, Нёман, Вільня, пушча, замкі як помнікі і сведкі гісторыі. Разам з тым, як заўважае С. Мінскевіч, на працягу ўсёй сваёй творчасці У. Караткевіч перыядычна пазіцыянуе сябе з А. Міцкевічам, вядзе з ім літаратурны дыялог.

Яраслаў Івашкевіч фармальна больш блізка стаіць да А. Міцкевіча — асабліва ў творах рамантычнага складу. Яго тэксты пазначаны адметнай інтэртэкстуальнасцю, у іх сустракаюцца шматлікія алюзіі, рэмінісцэнцыі, пераасэнсаванні і цытаты з твораў А. Міцкевіча. Прысутнасць А. Міцкевіча адчуваецца і ў філасофскай лірыцы Я. Івашкевіча. Але вобраз Радзімы, сведчыць аўтар, у Я. Івашкевіча не такі «слоены», як у вялікага класіка, з рухам «знізу ўверх», а «ўсеахопны, шырокі ў геаграфічным і культуралагічным сэнсах — з цэнтрам у аднаўленай Польшчы». С. Мінскевіч заўважае ў Я. Івашкевіча «свядомае супрацьпастаўленне вобраза аднаўленай Польшчы «архаічнаму» вобразу «Польшчы-Літвы».

Даследчык закранае тэму складанасупярэчлівага прыцяжэння-адштурхоўвання мастацкіх светаў Я. Івашкевіча і А. Міцкевіча, выяўляючы іх аўтарскія стратэгіі, прыходзячы да высновы, што «Івашкевіч свае творы "рамантычнага

складу", прысвечаныя паўстанцкай тэме, супрацьпастаўляе старому рамантызму Міцкевіча».

Заключная паралель працы: герой Я. Івашкевіча і герой У. Караткевіча. С. Мінскевіч бачыць між імі супярэчнасць экзістэнцыйнага плана. Ствараючы сваіх персанажаў, Я. Івашкевіч спалучае (альбо сутыкае) розныя характаралагічныя моманты: ідэальнае і штодзённае, рамантычнае і экзістэнцыйнае. У. Караткевіч аддае перавагу герою цэласнаму і бескампраміснаму, «прыкладастваральнаму» і «антыўзорнаму» адпаведна сваім мастацкім і нацыянальным дамінантам.

І напаследак. С. Мінскевіч не проста даследуе творчасць пісьменнікаў, ён сцвярджае сваю думку ў дыялогу-палеміцы з іншымі літаратуразнаўцамі, што прыўносіць у яго навуковую працу асаблівую праблемную дынаміку, надае ёй эмацыянальную афарбоўку.

Таццяна Барысюк звужае праблемнае поле свайго даследавання да беларуска-рускай паралелі: «Пошукі бессмяротнасці ў сучаснай беларускай і рускай паэзіі». Тэму бессмяротнасці яна прасочвае ў гістарычным развіцці, пачынаючы ад «вытокаў», ад ідэі бессмяротнасці міфалагічных багоў, ад пошукаў алхімікамі філасофскага каменя, ад філасофіі І. Канта і Ф. Ніцшэ да пазнейшых даследчыкаў — М. Фёдарава, У. Салаўёва, П. Фларэнскага і сучасных — А. Балашовай, Р. Кабілавай, А. Пугачова, А. Шовінай і інш.

Тэма вечнага жыцця была актуальнай ва ўсе часы і ва ўсіх літаратурах. Даследчыца паставіла перад сабой задачу напісаць «сістэматызаваную літаратуразнаўчую працу» і на матэрыяле беларускай і рускай паэзіі 80—90-х гадоў XX ст. і пачатку XXI ст. выявіць асаблівасці вырашэння адзначанай складанай праблемы нацыянальнымі творцамі. Пры гэтым яна ўказвае на залежнасць светапоглядаў аўтараў ад іх біяграфій, творчых індывідуальнасцей і філасофска-этычных пошукаў.

Узброіўшыся навуковымі распрацоўкамі Я. Петушкова, даследчыца вылучае такія разнавіднасці бессмяротнасці, як сацыякультурная, біягенетычная, духоўная, фізічная, метафізічная і матыў помніка як сродак раскрыцця культурнай (паэтычнай) неўміручасці.

Навуковыя пошукі Т. Барысюк угрунтаваныя аналізам шматлікіх вершаў і паэм як беларускіх, так і рускіх паэтаў: Р. Барадуліна, У. Караткевіча, В. Зуёнка, А. Разанава, А. Аўруціна, А. Скарынкіна, Б. Спрынчана, І. Бродскага, А. Вазнясенскага, Я. Еўтушэнкі. Аўтар вызначае тыпалагічна-падобнае і індывідуальна-адметнае ў вырашэнні тэмы бессмяротнасці гэтых і іншых творцаў. Яна робіць выснову, што паэзія сучасных беларускіх і рускіх аўтараў, працягваючы традыцыі сусветнай літаратуры, мае больш тыпалагічных сыходжанняў, чым нацыянальных адрозненняў. Адметнасці праяўляюцца галоўным чынам у сферы менталітэту і выяўляюцца пераважна на ўзроўні этнакультурных працэсаў.

Навуковай глыбінёй і аналітычнасцю вызначаецца раздзел Евы Лявонавай «Алесь Разанаў і нямецкая літаратура», якая закранае некалькі аспектаў узаемадачыненняў адмысловай творчасці беларускага аўтара з нямецкамоўнай літаратурай. А. Разанаў шмат перакладаў з нямецкай мовы, у сваю чаргу, яго перакладалі на нямецкую мову. У Германіі і Швейцарыі былі апублікаваны яго кнігі-білінгвы. Такім чынам, падкрэслівае літаратуразнаўца, «творчасць А. Разанава — надзвычай удзячны матэрыял для даследаванняў кампаратывісцкага кшталту, у тым ліку ў святле нямецкамоўнага літаратурна-эстэтычнага вопыту».

Ева Лявонава заглыбляецца ў нямецкую паэзію XX ст., выяўляючы яе шматжанравасць, раскаванасць, зварот да творчага эксперыменту, новых форм засваення рэчаіснасці, да рэфармавання літаратурнай мовы і мастацкай вобразнасці. Яна звяртаецца да характэрных адзнак еўрапейскага экспрэсіянізму, якія менавіта ў Германіі быў найперш рэалізаваны і тэарэтычна абгрунтаваны. Глыбока прааналізавана творчасць тых аўтараў, тэксты якіх перакладаліся А. Разанавым на беларускую мову, — Э. Эрб, С. Кірш, Н. Гумэльт. Аўтар шукае і знаходзіць не толькі тое агульнае, што паядноўвае гэтых паэтаў, але і тое, што іх адрознівае,

індывідуальна адметнае. Разам з тым у гэты працэс — на роўных — уключаюцца і тэксты самога А. Разанава, а далей — і тэксты іншых беларускіх паэтаў. Выяўляюцца шматлікія «кропкі» судакранання і перасячэння на розных узроўнях: ад змястоўнага да формаўтваральнага, да адкрыццяў у галіне мовы, моўных эксперыментаў, паэтыкі, стылю і г. д.

Традыцыі нямецкіх паэтаў (а да іх можна далучыць і традыцыі мастацкага свету А. Разанава) прадвызначаны тэорыяй і практыкай экспрэсіянізму, філасофска-эстэтычным вопытам Ё. В. Гётэ, Г. фон Клейста, Р. М. Рыльке, А. Блока, Г. Ахматавай, Э. Багрыцкага. Е. Лявонава перакanана, што А. Разанаў як творца «блізкі да перакладзеных паэтаў не так у фармальных адносінах, як па мастацкім светаадчуванні, як іх суразмоўца і сутворца, бо ягоныя ўласныя філасофска-эстэтычныя адкрыцці таксама палягаюць у інтэлектуальнай, анталагічнай сферы і суправаджаюцца найцікавейшымі жанрава-структурнымі навацыямі». Бо «тыя ж праблемы пачатку і руху, зместу і формы, чалавека і свету А. Разанаў распрацоўвае ў шматлікіх версетах і зномах, у паэмах…».

Не менш змястоўным падаецца нам і падраздзел, дзе разглядаюцца кнігі-білінгвы «Гановерскія пункціры» і «Трэцяе вока», ўпершыню выдадзеныя ў Германіі (2002) і Швейцарыі (2007). Гэта дазволіла нямецкамоўнаму чытачу пазнаёміцца з тэкстамі А. Разанава не толькі ў перакладзе, але і ў арыгінале, што вельмі важна. Пункціры як наватворы былі ўведзены А. Разанавым разам з іншымі жанравымі навацыямі — версетамі, вершаказамі, квантэмамі, зномамі. Гэта яго асноўныя формы творчасці. Е. Лявонава сведчыць, што пункціры А. Разанава па змесце і форме надзвычай блізкія да ўсходняй паэзіі, найперш да японскай «кароткай песні» — танкі і вытворнага ад яе — хайку (хоку). Але яны не тоесныя, аўтар тонка ўлоўлівае і перадае іх мастацкія асаблівасці, адценні ўкладзенага ў іх філасофскага сэнсу.

Яшчэ адзін аспект творчасці А. Разанава — яго нямецкі мастацкі дыскурс. Як вядома, выйшлі ў свет дзве кніжкі, створаныя паэтам на нямецкай мове: «Wortdichte» (2003) і «Der Zweig zeigt dem Baum wochin er wachsen soll» (2006). Вершасловы — працяг жанравага вынаходніцтва беларускага аўтара. Е. Лявонава засяроджвае сваю ўвагу на шматлікіх аспектах разанаўскіх пошукаў, аспектах стварэння ім новых форм, рытмічных мадэляў, новай метафорыкі і г. д. Вершасловы — гэта вершы-мантажы, «адмысловае маніпуляванне гукам, фразай, словам» з выкарыстаннем малюнка «іхняй» графікі і г. д. Даследчыца перакананa, што вершасловы А. Разанава, пры ўсёй іх адметнасці, «палягаюць у рэчышчы еўрапейскай і сусветнай паэтычнай традыцыі, з’яўляюцца яе арганічным працягам і адсылаюць да самых розных, перадусім авангардысцкіх, літаратурна-мастацкіх напрамкаў і школ XX ст.». Але найбольш судакранаюцца вершасловы А. Разанава, лічыць Е. Лявонава, з так званай «канкрэтнай паэзіяй», якая ў другой палове XX ст. была распаўсюджана ў амерыканскай, японскай, еўрапейскай літаратурах — у тым ліку нямецкай і аўстрыйскай.

І, нарэшце, апошняя паралель, закранутая Е. Лявонавай: А. Разанаў і славуты аўстрыйскі паэт Р. М. Рыльке. Апошні распрацаваў філасофска-эстэтычную канцэпцыю «новай рэчавасці», традыцыю «Ding-Gedicht» (верша на «прадмет», аб прадмеце, верш — рэч), традыцыю, якая сваімі каранямі ўзыходзіць да старажытнага жанру надпісу. Менавіта з канцэпцыяй «новай рэчавасці», на думку Е. Лявонавай, і асацыіруюцца некаторыя зместавыя пласты тэкстаў А. Разанава. Увогуле ж, паэзія абодвух аўтараў «набывае ў сукупнасці твораў і прэзентаваных у іх герояў-рэчаў маштабы своеасаблівага эпасу».

Такім чынам, асоба А. Разанава, прадстаўленая Е. Лявонавай, набывае еўрапейскія маштабы. Яго эксперыментальныя тэксты ўзбагачаюць і разнастаяць не толькі айчыннае пісьменства, але і сусветную літаратуру, найперш нямецкамоўную.

Інга Бязлепкіна аналізуе праблемы перакладчыцкага працэсу: «Паэзія Вялікабрытаніі ў Беларусі: перакладчыцкі аспект». Яна абагульняе напрацоўкі

тэорыі і практыкі перакладчыцкага дыскурсу ў сучасным літаратуразнаўстве. Актуалізуецца думка аб неабходнасці вывучэння перакладу як аднаго з відаў літаратурных кантактаў, як сведчанне ўваходжання айчыннай літаратуры ў сусветную мастацкую прастору.

Аўтар звяртаецца да «вытокаў», да гістарычнага агляду практыкі паэтычнага перакладу з англійскай мовы ў Беларусі, пачынаючы з канца XVII ст. Вызначаецца польскамоўны перакладчыцкі перыяд на тэрыторыі Беларусі (канец XVIII — XIX ст.) як пачатковы, вытокавы для ўласна англа-беларускага паэтычнага ўзнаўлення. Новы этап у перастварэнні з заходнееўрапейскіх літаратур (1900—1910 гг.) аўтар звязвае з «нашаніўскім» перыядам, творчай дзейнасцю В. Ластоўскага. Наступны перыяд (1920—1940) — перастварэнні «маладнякоўцаў», «узвышанцаў», якія імкнуліся далучыць беларускую літаратуру да ўзораў сусветнай класікі, і г. д.

Пачынаючы з 1920-х гадоў, сведчыць І. Бязлепкіна, спецыфічныя ўласцівасці рэцэпцыі англійскай паэзіі ў Беларусі абумоўліваюцца шматлікімі сацыяльна-палітычнымі, ідэйнымі, аксіялагічнымі, генератыўнымі і іншымі фактарамі.

Пад уздзеяннем гісторыка-культурных працэсаў з 1990-х гадоў распачаўся этап папулярызацыі беларускай перакладной паэзіі.

Адштурхоўваючыся ад літаратуразнаўчых прац апошніх 20 гадоў, што публікаваліся ў замежнай перыёдыцы, І. Бязлепкіна ажыццяўляе на іх аснове аналіз рэцэпцыі англамоўнымі вучонымі беларускіх перакладаў англійскіх паэтаў. У выніку прыходзіць да заключэння, што рэйтынгі замежных творцаў (таго ж Дж. Байрана, У. Уордсварта, Р. Бёрнса і інш.) у сябе на радзіме і ў нас у Беларусі адрозныя — па прычыне іх сацыяльнай, маральнай і гістарычнай запатрабаванасці.

Не засталіся па-за ўвагай даследчыцы і тэхніка перакладчыцкай дзейнасці, асаблівасці беларускага перакладу англійскай паэзіі. Яна спыняецца на метадзе дакладнага перакладу В. Брусава, на традыцыях вольнага перакладу: бунінскай, маршакоўскай, лермантаўскай, — на беларускіх нацыянальных традыцыях, якія ўвасоблены ў практыцы перакладу А. Гурыновіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Коласа, Я. Купалы, В. Ластоўскага і інш.

Перакладчыцкая дзейнасць разглядаецца як складаны суб'ектыўна-індывідуальны творчы працэс. Пры гэтым вылучаюцца і найбольш частотныя, ключавыя складнікі таго, што ўтварае эфект «абеларушвання» замежнага твора: выкарыстанне прыёму антрапамарфізму, або адухаўлення прыродных з'яў; моватворчасць і наданне перакладам больш высокай ступені экспрэсіўнасці; «пераапрананне», або мастацкая праекцыя; адаптацыя перакладу да сацыяльна-гістарычных ўмоў культуры-прымальніцы і г. д. У выніку чаго перакладзены і «абеларушаны» твор становіцца ўжо фактам і беларускай літаратуры, яе мастацкім здабыткам.

Падрыхтаваная і выдадзеная намаганнямі супрацоўнікаў аддзела ўзаемасувязей літаратур Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі (загадчык — кандыдат філалагічных навук М. Мікуліч) калектыўная манаграфія «Літаратурная карта Еўропы: кантакты, тыпалогія, інтэртэкстуальнасць» — гэта працяг лепшых традыцый айчыннай кампаратывістыкі і ў той жа час якасна новая ступень яе паглыблення і развіцця на этапе навейшай гісторыі. Гэта адкрыццё новых гарызонтаў, новых напрамкаў і магчымасцей для далейшых маштабных навуковых даследаванняў. Манаграфія доказна сцвярджае тую думку, што няма асобнай беларускай літаратуры, як няма асобнай літаратуры нямецкай, іспанскай, польскай, украінскай, рускай… Ёсць адзіны шматмоўны, шматстылявы, шматаспектны, шматнацыянальны літаратурны працэс, у якім значныя мастацкія тэксты ўсё часцей набываюць якасці інтэртэкстуальнасці. Беларуская літаратура, пры ўсёй сваёй адметнасці і самабытнасці генетычна-гістарычнага развіцця, з'яўляецца важным складнікам і чыннікам гэтага адзінага сусветнага літаратурна-мастацкага працэсу. Якраз гэтая акалічнасць у многім абумоўлівае яе рух па шляху да новых духоўна-эстэтычных здабыткаў і каштоўнасцей.

**Мікола МІШЧАНЧУК***

# ТВОРЧАСЦЬ ТАІСЫ БОНДАР:
## лірыка, проза

Таіса Бондар — беларуская паэтка і празаік, майстар філасофска-паглыбленай элегічнай лірыкі, што ўвайшла ў зборнікі паэзіі «Захапленне» (1974), «Акно ў восень» (1977), «І голас набыла душа» (1980), «Святочны снег» (1981), «Чырвоны месяц года» (1985), «Спадчынны боль» (1987), «Адна» (1989), «Час душы, мой час вячэрні…» (1995), «Хачу назваць цябе Каханым. Вершы, лісты розных гадоў» (1991), лірычнай прозы, выкананай у стылі літаратуры «плыні свядомасці», змешчанай у кнігах «Час, калі нас любілі» (1988), «Імем Айца і Сына» (2000), «Бог зусім побач. Старонкі дзённіка» (2000), «Ахвяры» (2004), «Павуцінне. Раман-містэрыя» (2004). Дзякуючы намаганням яе і яе равеснікаў-сямідзясятнікаў беларуская літаратура набыла новыя рысы: пазбавілася «параднага настрою», заглыбілася ў духоўны свет герояў за лік павелічэння суб'ектыўнага пачатку, больш арганічна знітавала прыёмы праўдападобнага (рэалістычнага) і ўмоўнага (мадэрнісцкага і постмадэрнісцкага) пісьма. У актыве сямідзясятнікаў — пошукі новай формы, абумоўленыя пераходам ад карыстання прыёмамі эйдэтычнай (традыцыяналісцкай) паэтыкі да выпрацоўкі прынцыпаў уласцівага паэтыцы мастацкай мадальнасці, вольнага, пазбаўленага абавязковых канонаў пісьма.

Значны ўклад Т. Бондар, як і яе сяброўак па пяры В. Коўтун, В. Іпатавай, у распрацоўку гістарычнай тэматыкі (раман «Спакуса»).

* * *

Паэзія Т. Бондар праходзіла эвалюцыю пафасу, настрою — ад зачаравання рэчаіснасцю (не выпадковая назва першага зборніка — «Захапленне»), рамантычнага светаадчування да паступовага расчаравання ёю («Акно ў восень») і, урэшце, мужна-трагедыйнага адчування драматызму жыцця чалавека, прыроды, адзіноцтва ў свеце і сусвеце («…І голас набыла душа», «Адна»). У адпаведнасці са зменаю настрою мянялася жанравая палітра лірыкі: ода, гімн, аптымістычны выгук радасці выцясняліся сумнай, сентыменталісцкага кшталту, а затым і трагедыйнай па змесце элегіяй. Жанравыя змены, у сваю чаргу, выклікалі стылёва-вобразную эвалюцыю, змену каляровай афарбоўкі творчасці — светлай на больш змрочную.

Вызначаны намі вышэй агульны эвалюцыйны рух паэзіі Т. Бондар пацвярджаецца зменай назваў яе зборнікаў, многія з якіх «гаваркія»: «Захапленне» — «Акно ў восень» (аптымізм «згасае») — «Адна» — «Спадчынны боль». Нават зборнікі з «аптымістычнымі» назвамі («Святочны снег», «Хачу назваць цябе Каханым…») складаюцца пераважна з твораў трагедыйнага гучання, як у вось гэтым канкрэтным выпадку:

* Гэты артыкул М. Мішчанчук прапанаваў незадоўга да сваёй смерці.

Душа перад другой душой нямее,
пазнаючы і не пазнаючы
у ёй — сябе… Ах, гэты плач жалеек
там, дзесьці за глухой сцяной начы!

Тое ж самае можна сказаць і пра назвы твораў («Абуджэнне», «Свет летуценняў…», «Здзіўляецца маёй краіне свет…», «Шчасце», «Вясна», «Новы дзень», «Сваё сэрца ў маі…», «Слова, першае ў сэрцы, — Радзіма!..», «Палюбіць! О, гэта свята сэрца…», «Вяселле», «Люблю», «Неруш» — два першыя зборнікі паэзіі; «Трывога», «Як мала закаханых на зямлі!..», «Навошта я — паэт?..», «Адзіноцтва, я прагну цябе…», «Ноч заварвае чорную каву…», «Як мала музыкі ў душы!..», «Душа, што бездань…», «Неправамоцнасць пачуцця…», «Здарожылася сэрца. Боль…», «Незадаволенасць сабой…», «Што шчасце, што бяда…» — творы ў пазнейшых зборніках).

Як і яе пакаленне ў цэлым, Т. Бондар пачынала сваю песню з радаснай мелодыі, з адчування цэласнасці і гармоніі жыцця. Рамантычны настрой, вера ў сябе адліваліся ў адпаведныя афарыстычныя вобразы, выяўлялі крэда «сямідзясятнікаў», якое мала чым адрознівалася ад крэда іх папярэднікаў — «шасцідзясятнікаў» Р. Барадуліна, Я. Сіпакова, В. Зуёнка, А. Вярцінскага, іншых, увасабляліся ў афарыстычныя формулы: «Баліць свая і не свая бяда» («Мінулае чытаю па складах…»), «Цябе любіць вучуся я, Радзіма, // Каб даць табе і песню і жыццё» («Цябе любіць вучуся я заўжды…»); «Нараджаецца, каб жыць! — наш новы дзень // Мірыядамі вясновых сонцаў, // Гімнам спраўджаных людскіх надзей» («Стань песняю, Нарач…»); «І насустрач світанку // Мара зноў павядзе» («Трызніць шчасце маё…»).

Рамантычны настрой не пакінуў лірычную гераіню і ў другім зборніку паэзіі — «Акно ў восень». Яна была папярэднімі творамі падрыхтаваная псіхалагічна да барацьбы са смуткам, трывогай, да пераадольвання бяды, да захавання «святочных імгненняў» жыцця. У пацвярджэнне сказанага хочацца працытаваць канцоўку верша «Палюбіць! О, гэта свята сэрца…»:

Нават птушак ціхі плач расстайны
Не кладзецца на душу журбой.
Я жыву сваёй шчаслівай тайнай —
Ўсе трывогі выклічу на бой,
Ўсё змагу, спасцігну, у захапленні
Скарбы ўсе збяру — і ўсе аддам,
Толькі б не згубіліся ў гадах
Гэтыя святочныя імгненні!

Рамантычна-ўзнёслы настрой у пачатку паэтычнай творчасці шукаў выйсця ў нечаканых, як у імажыністаў, у маладнякоўцаў Т. Кляшторнага, С. Дарожнага, В. Маракова і іншых аўтараў, метафарах.

Аднак параўнальна з першым зборнікам, дзе вершы злучаны паміж сабой «механічна»: і пра Радзіму — малую-вялікую, і пра дзеда Саўку, і пра дзяцей, якія малююць сонца, «неба квяцістае», матылёў і «цыбатыя краны», і пра Рудзенск, і пра світанак, і пра Нарач, і пра вясну, і пра пахмурны дзень, і пра мінулае, і пра сучаснае — пра ўсё трэба напісаць, усё занатаваць на паперы, — зборнік «Акно ў восень» адрозніваецца большай і тэматычнай цэласнасцю, і цэласнасцю настрою, і «глыбейшым» лірызмам. Паэтка звужае кола прасторавых назіранняў, ажыццяўляе зрэз жыцця па вертыкалі. Прадметны свет паступова ператвараецца ў «вобразнае іншабыццё» (В. Кожынаў), сфера аб'ект-суб'ектных адносін замяняецца суб'ект-суб'ектнай. Вынікам падобнага працэсу становіцца філасафічнасць, рэфлектыўнасць. Асобныя вершы становяцца споведзямі, маналогамі душы, а не апісальнымі замалёўкамі з рытарычна-дэкларатыўнымі «застаўкамі». Да такога характару можна аднесці творы «Не ганю надзею», «Аплач сябе і ўваскрэсні…», «Неруш», «Покуль спеюць ліўні». Ва ўсіх іх заключаны вывады пра складанасць,

драматызм жыцця, пра нялёгкае самавызначэнне ў ім, пра працэс пераадолення болю і няўдач песнямі. Аднак філасофскія высновы падаюцца не катэгарычна, не рытарычна, а вынікаюць з адкрытага чытачам складанага псіхалагічнага перажывання. Як у вершы «Покуль спеюць ліўні»:

Я — адна — вы чуеце? — адна
Ўсё змагу: і ачуняць ад болю,
І забыць, забыць… Нікому болей
Не даверу плач. У ночы з дна
Усплываюць чорныя хвіліны,
Мне іх перажыць. Перажыву!
Лета аддае сябе жніву,
Сэрца — песні. Покуль спеюць ліўні.

Зборнік «…І голас набыла душа», выдадзены праз тры гады пасля кнігі «Акно ў восень», засведчыў далейшае сталенне паэткі. З гэтага часу яе лірыка становіцца ўсё больш і больш маналагічнай, спавядальнай, псіхалагічна напружанай, скіраванай, пры ўсёй павазе да знешняга, прадметнага свету (не выпадкова першы раздзел кнігі мае назву «Абрыс»), на сябе, ва ўнутраны свет, у сваё асабістае «Я». Магчыма, гэтым імкненнем раскрыць чытачу памкненні, перажыванні, пакуты душы (адкрыта яна была ўжо ў двух папярэдніх зборніках), якая нарэшце набыла адметны, *свой* голас, світае, як і іншыя душы, разам з буднямі, пачула «змест яшчэ нявыказаных слоў», адчула значнасць імгненняў і тым самым падштурхнула лірычную гераіню да здзяйснення вялікіх спраў. Трыццаціпяцігадовая паэтка цяпер ужо ўсвядоміла сябе не рэгістратарам пэўных падзей, а іх «рэгуліроўшчыкам» (як амаль за два дзесяцігоддзі да яе напіша ў «Новай кнізе» А. Куляшоў), каардынатарам. Адсюль і жаданне, выказанае радкамі верша «Уласным лёсам спалучыць вякі…», што адкрывае трэці паэтычны зборнік Т. Бондар:

Уласным лёсам спалучыць вякі,
Адчуць сябе дачкой свайго народа
І гаварыць з зямлёй на мове роднай
Заўжды адказна. Словам трапяткім
Крануся цішыні — і не парушу
Жывую сувязь лёсу і часоў.

Лірызацыя творчасці неад’емная ад яе псіхалагізацыі. Самым «псіхалагічным жанрам» у літаратуры, што арыентуецца на модульную паэтыку, з’яўляецца ў нашы дні раман. Лірыка Т. Бондар 1980-х — пачатку 2000-х гадоў становіцца раманічнай, з напружаным псіхалагічным сюжэтам, з цэнтральнай калізіяй «Я» — «яны», «Я» — «свет», са «стрыжнявымі», дамінантнымі вобразамі-ўніверсаліямі: Цішыня (варыянт — назва другога раздзела зборніка «…І голас набыла душа» — «Галінка цішыні»), Паэзія, Воля, Каханне, Слова, Хлеб, Вечнасць, Душа, Адзінота. Перажыванні і ў гэтым, і ў пазнейшых зборніках праходзяць усе этапы псіхалагічнага сюжэта: завязваюцца, развіваюцца па лініі абвастрэння, узмацнення да кульмінацыйнага пункта, паслабляюцца. Цішэюць, дасягаюць лагічнай, прызнанай лірычнай гераіняй развязкі ці «застываюць» на кульмінацыйным узроўні, як, напрыклад, у зборніку лірыкі «Адна» (1989) ці ў кнізе «Час душы, мой час вячэрні…», перадапошні верш якога «Несмяротнасць душы — несмяротнасць пакуты…» гучыць набатам трывогі, адчаю, болю за сябе, свой дом, за «ззяннем прыкрытую высь небакраю», за «палка адданую Сонцу зямлю»:

Несмяротнасць душы — несмяротнасць пакуты,
Што наблізіць да сутнасці вечнага «Я».
Дзе тут месца сумненню? А з кожнай мінутай
Паглыбляецца, шырыцца роспач мая.

Кніга «І голас набыла душа…» мае раманічную кампазіцыю. Яна пачынаецца пралогам — вершам «Уласным лёсам спалучыць вякі…». Затым ідзе раздзел

«Абрыс», у цэлым апісальны, у якім паўстае рамантызаваны абрыс навакольнага свету — цэласнага, прасякнутага святлом, жаданнем паэткі давесці да свядомасці людзей яго непаўторнасць, незвычайнасць. Лепш за ўсё гэта ўдаецца аўтару ў пейзажных творах, такіх як «Плылі аблокі — цэлы сад!..», што складаецца з нечаканых метафар, параўнанняў, якія перадаюць рух, колеры, музыку навакольнага жыцця: «Дразды не адпускалі сонца», «Хоць дзень, паблісквалючы донцам, // Завальваўся за далягляд», «І вецер то ўставаў сцяной, // То ў ночі падаў, склаўшы крылы», «Рос, рос уздых. Я камячыла // Яго ў гартані ледзяной».

У наступным раздзеле з незвычайнай назвай, якая з'яўляецца шматзначным асацыятыўным вобразам — «Галінка цішыні» — вядзецца шчырая размова пра мэты жыцця і прызначэнне паэзіі («Як мала музыкі ў жыцці!..»), пра імгненне і вечнасць, якія хочацца, паяднаныя, занатаваць лірычнай гераіне («Вандроўкі люблю не за іх…»), пра сувязь, здаецца, далёкіх адно ад другога паняццяў — Каханне, Хлеб, Цішыня («Неспадзяванка — нібы ў рукі сон!..», «Даль заснежана. Рэха ў душы…»), пра волю, сімвалам якой з'яўляецца конь, упісаны ў ранішні пейзаж, паструнены, трапяткі («Воля»). Кожны з пералічаных у гэтым раздзеле твораў заслугоўвае асобнай размовы.

У трэцім раздзеле — «Насустрач слову» — яшчэ больш паглыбляецца філасофская аснова, выказваецца вера ў тое, што «Зло не павінна даць усходы» («Прыйсці, стагоддзям памаліцца…»), сцвярджаецца, што слова ўсясільнае, бо вырывае чалавека і чалавецтва «з акоў нематы» («Высокі час душы…»), з небыцця («Таварышу»).

Чацвёрты раздзел — «Натуршчыца» — гэта яшчэ адзін адкрыты чытачам куток душы лірычнай гераіні — споведзь пра трагічнае, поўнае выпрабаванняў каханне. Біятокі болю разыходзяцца хвалямі па ўсім цыкле, цэментуюць асобныя псіхалагічныя «хады», фрагменты сцятага, «мужнага» перажывання. Перажыванне болю, яго выказванне адліваецца ў афарыстычныя формулы-вобразы: «Не абсячы мне крылы // Маім жа крыкам: — Мілы!» («Не ўмею быць слабой…»), «А крык не адарваць // Ад вуснаў пабялелых» («Зноў жураўліны клін…»), «Ах, які салодкі пах трывогі!» («Перамога — не за мной, я знаю…»). Асобныя «трывожныя» вершы «выкананы» на цвятаеўскім (недасяжным для многіх паэтак) узроўні.

Цэласнасць складанага, наструненага перажывання запатрабавала ад аўтаркі цыклізацыі вершаў, у выніку якой у зборніку «Святочны снег» выразней акрэсліліся «перапады» настрою, няпростасць думак і пачуццяў лірычнай гераіні. Вызначыліся цыклы «Ружа-кветка» (14 вершаў), «Святочны снег» (18), «Без цябе» (7 вершаў), «Радасць» (вянок санетаў), якія вянчаюцца лірычнай паэмай «Пасаг». Кожны цыкл — пра каханне, якое складаецца і з радасцей, сустрэч з цудам, і з расстання — балючага, трывожнага, але не безнадзейнага, не канчаткова роспачнага, і з сустрэч (варыянт — надзей на тое, што яны адбудуцца). Настрой лірычнай гераіні пастаянна мяняецца, знаходзіцца ў руху, у дынаміцы: то ён радасна-малады («Шчаслівая? Не запярэчу. // Няма шчаслівейшай, чым я»), то радасна-элегічны («Заўжды — рабой, і ўсё ж заўжды на волі! // «Ты мой, — шаптаць таму, хто побач, — мой…»), то засяроджана-філасофскі, стала-разважлівы, які выкліканы запозненай сустрэчай з каханым («усімі, што прайшлі, вякамі // палучана цяпер з табой»), то катэгарычна сцвярджальны, з падтэкставым «давескам» элегійнага суму, як у заключным творы цыкла «Ружа-кветка» — «Шчаслівая? Не запярэчу…».

Адметны ў «Святочным снезе» вянок санетаў «Радасць». Яго змест адпавядае назве: лірычная гераіня шукае формулу сапраўднага шчасця, верыць у рэальнасць яго дасягнення праз сувязь з прыродай, якая праходзіць праз стадыю веснавога абуджэння («Вясна ідзе. Яна прыходзіць смела. // Нязнаная, жаданая! Заднела… // І стыне луста першай баразны»), праз суладнае сэрцабіццё закаханых («Званчэе сэрца, у яго біццё // Нячутны стук другога сэрца ўплецен»), праз перадачу эстафеты сыну-нашчадку, што дапаможа «зблізіць шчасця палюсы», праз пераадоленне трывогі («Шчаслівым не пазбавіцца трывогі»).

Можа, адным з самых цэнтральных вобразаў «Святочнага снегу» з'яўляецца вобраз, які спраўджвае яго назву, — снегу, да таго ж — не бязрадасна аднастайнага, бялюткага, што наводзіць на роздум пра згасанне радасці быцця, існавання, а *святочнага*. І не толькі… Гэта снег цёплы, які «прарастае травой», асветлены пачуццём лірычнай гераіні, агучаны яе маўклівым крыкам («Маўчу, а здаецца, крычу…»), *сонечным* шумам соснаў («Як сонечна сосны шумяць…»), трубнымі поклічамі ласёў, афарбаваны срэбраным колерам капяжоў («…кроплямі срэбраць імя — // твяё! — капяжы нада мной…»).

У зборніку «Чырвоны месяц года» таксама захоўваецца раманічная пабудова. У першым раздзеле паказана жыццё «навырост» — дзяцінства, сталенне, праца, адносіны з Богам, людзьмі, з маці, выказаны адносіны да мінулага, раскрыты складаны працэс прарастання «зерня слоў», паэзіі ў душы лірычнай гераіні, які спачатку «звінеў самотным гукам», быў слабым і няясным, пасля «нагадваў боль», затым зрабіўся *лёсам*. Крыніцай гэтага «прарастання» таленту мастацкага слова лірычная гераіня верша «Як доўга прарастала зерне слоў…» лічыць маці, «песні ўдоў», забытыя сны.

Культ прарастання слова-ісціны, вырастання індывідуальнага «Я», «свету ў сабе» становіцца дамінантным матывам верша «Прасцей абвінаваціць свет…»:

І неба горбіцца слабей,
Хоць заглушае смех трывога:
«свет не навокал, у табе,
і гэткі, вартая якога.
Свет не навокал, у табе…»

У гэтым зборніку паглыбіўся трагедыйны пафас, пашырыліся жанравыя рамкі лірыкі. Раздзел «Тысяча першыя дзверы» мае падзагаловак «Дыялог з Эн Сэкстан». Ён характарызуе настрой лірычнай гераіні Т. Бондар праз пераўвасабленне яе ў амерыканскую паэтку, паэмы якой адлюстроўваюць трагедыю асобы ў грамадстве. Ролевая гераіня вядзе дыялог з гераіняй-паэткай. Думкі адной і другой перакрыжоўваюцца, дыялогавасць спрыяе доказнасці, дынамізуе лірычную размову, дапамагае дасягаць лаканізму выказвання, яго афарыстычнасці. Т. Бондар тут пайшла шляхам слыннай рускай паэткі Марыны Цвятаевай, душу паэзіі (і паэтыкі!) якой складае дыялогавая форма «падачы» перажыванняў.

Зборнік «Спадчынны боль» у многім наватарскі ў змястоўным (аднаўленне даўніх старонак гісторыі — легенды пра Менеска, які заснаваў Мінск, пра Свіцязь-возера, пра Еўфрасінню Полацкую, пра Сымона Буднага і інш.), жанравым (творы паводле легендаў, паводле народных песень, міжжанравыя ўтварэнні: песні-плачы, маналогі-споведзі, элегічныя оды), стылёвым (перапляценне рэальнага і фантазійнага, эпіка-дакументальнага і лірычнага, трагедыйнага і сентыментальнага пачаткаў) планах. Складаецца выданне з дзвюх частак: «Кніга песень» (пра старонкі даўняга мінулага) і паэмы «Мы родам з вайны», якая пазначана назвай «Кніга плачаў».

Кніга Т. Бондар «Адна» — выніковая, надзвычай арыгінальная і зместам, і формай. Вельмі і вельмі балючая настроем, прасякнутая трывогай за лёс людскасці і чалавечнасці, за тое, што жыццё пад пагрозай знішчэння, а ідэалы — пад прэсам дыскрэдытацыі і дэфармацыі. Ужо загаловак — крык аб адзіноце. Адзіноце душы, якая сама сабе і суддзя, і пракурор, і адвакат, і дарадчык, і сябра. Адна — за гэтым загалоўкам трагедыйны пафас, адчуванне згубленасці ў напоўненым галасамі і душамі свеце. Адна — хоць жыццё ідзе сваёй хадою, нешта робіцца, нешта мяняецца. Але ж усё роўна паэтэса застаецца асобай, якой хочацца іншай, не той, што навідавоку, на вачах многіх, сардэчнасці. Ёй хочацца разарваць кола маўклівасці ў шматгалосым свеце. І таму яна імкнецца ў космас, стараецца пераадолець зямное прыцягненне, уздымаецца на крылах дэманічнага настрою ў паднябесную высь, каб там паразмаўляць з іншымі непрыкаянымі душамі. Як жывая, гаворыць яна з душамі мёртвых у элегіі «Такі скразняк — хістае храм начы...»:

Такі скразняк — хістае храм начы,
І ў гуле тоне душаў шматгалоссе,
І дзе чый плач, і за каго хто просіць,
Не ўчуць, і значыць, не дапамагчы.

А я кружу ў ім, не рукой — душой
Кранаючыся самае пакуты,
Бясцелай, у бясцелы змрок закутай
І міг таму назад яшчэ чужой.

Як спалучае ўсё, як родніць боль!
Жывая сярод мёртвых, я малюся
За іх, за ўсіх, хто пахаваны ў скрусе,
Не помнячы, што плачу над сабой.

«Жывая сярод мёртвых...» Які рэзкі, смелы і нечаканы вобраз — на зямлі няма паразумення з жывымі! Многа камення панакідана тут на дарозе. Часам гэтая дарога звужаецца, вось яна ўжо набліжаецца да абрыву. Толькі адно імгненне — і ты будзеш на другім канцы, «паміж маўчаннем і крыкам», у другім жыццёвым вымярэнні. Многа сцен сустракаецца ў чалавека на дарозе (вобраз сцяны не адзін раз пройдзе праз элегіі Т. Бондар, ім кніга адкрываецца, ім фактычна і заканчваецца). Лірычная гераіня не ў стане разбурыць гэтыя сцены. Ёй не хапае фізічнай і духоўнай сілы, каб вырвацца на шырэйшыя жыццёвыя абсягі. Раз-пораз яна хоча святла, а яе слепіць цемра. Ёй так хочацца светлага і чыстага неба, а яно навальваецца на яе чорным крылом. Ёй мрояцца чыстыя кветкі, а з гэтых кветак раптам вылятае чорная страла і наскрозь прабівае людскія сэрцы. Адзіноцтва, згуба, непрыхаваная вялікая бяда, шчымлівае трагедыйнае перажыванне разлітыя па многіх, калі не па ўсіх творах Т. Бондар. Адзінота душы, сэрца, спраў, калі надзеяй і ўцехай становяцца не людзі, што побач, гатовыя ў любы момант табе здрадзіць, а паэзія, якой лірычная гераіня і стараецца аддаць сябе дарэшты. Аднак і паэзія бяссільная памяняць што-небудзь у дысгарманічным свеце, бо і яна — сапраўдная — таксама адзінокая, таксама зняверaная ў самой сабе. Не выпадкова адзін з раздзелаў зборніка так і называецца — «Душу гняце бездапаможнасць слоў...». Бездапаможнасць слова і справы, бездапаможнасць як катастрофа, як знак, сімвал разгерметызаванасці нашага жыцця. Канцэпцыя жыцця выразна трагедыйная. Прарочая.

У Т. Бондар неба навальваецца на чалавека змрочным, непераадольным цяжарам, ператвараецца не ў сімвал радасці і свабоды духу, а ў сімвал бяды і гора. Цэнтральным раздзелам, дзе ён набывае трагедыйную змястоўнасць, у кнізе «Адна» можа лічыць раздзел «Любоўю не вылечыць свету...». З характэрнай назвай, за якой — зноў своеасаблівая канцэпцыя рэчаіснасці, ацэнка чалавечых дзей (а чым жа тады лячыць хворае і пакрамсанае чалавечае жыццё?), ён вынесены амаль у канец зборніка. І зноў-такі, відаць, не выпадкова: паэтэса як пачала кнігу на трагедыйнай хвалі, так і закончыла яе канстатацыяй пакуль што бесперспектыўнасці лячэння рэчаіснасці прапанаванымі гісторыяй рэцэптамі. У вершах «Упала слязінка. З дна кветка ўсплыла...», «Цішыня. Бяссонне зор. Акно...», «Звечарэла. Неба побач, поруч...» выкрышталізоўваецца думка пра злавесную вышыню і згубны ўплыў неба на чалавека. Гэтага неба лірычная гераіня спалохалася яшчэ ў дзяцінстве, гуляючы каля кветак, што выраслі са слязінак, а праараслі стралой. Страла ляцела проста ў сэрца, і не хапала сіл яе спыніць, бо «...Я збаялася неба, відаць, // Яго аграмаднага чорнага ценю». Успомнім, што неба стала прычынай смерці і птушкі ў прааналізаваным вышэй творы. Неба ў лірыцы паэтэсы ахутана змрокам, гэта часцей за ўсё бяззорная начная коўдра, а калі раптам на ім з'яўляецца месяц, то і ён не вабіць вока сваёй пяшчотнасцю, святлом, мяккасцю контураў, а разрастаецца да нечуваных памераў, займае большую палову прасцягу.

Многія стылявыя і жанравыя адзнакі перапляліся ў элегіі «Баюся сваёй нематы...». Пра што яна? Пра пакуты душ. Менавіта душ, а не адной душы. Душ, паміж якімі немата, злавесная, як «замшэлае прадонне». Пра каменных коней і чорныя азёрцы іх слядоў, у якіх «Бялее чарэп’е былога». Намаляваўшы жудасную карціну, паэтэса пакідае чалавеку толькі адну магчымасць уратавання ад пагрозы змярцвення і анямення, лічыць, што «Песня звядзе берагі // Бяссоннай начы і світання — // Мой бераг і твой...». У творы перапляліся розныя вобразы — рэальныя і ідэальныя, прычым рэальнае вырастае з ідэальнага, нематэрыяльнага: у немаце, бы ў замшэлым прадонні, напрыклад, раптам «іржой абрастаюць кусты», а ў магчымых слядах ад сімвалічных коней з’яўляецца «чарэп’е былога». І тут такое цеснае перапляценне абстрактнага і канкрэтнага, такая ўзаемапераходнасць, якая ўласціва мастацтву высокага вымыслу, смелых асацыяцый. Думаецца, падобнай смеласцю асацыятыўнай вобразнасці паэзія Т. Бондар блізкая да паэзіі М. Танка і Э. Межэлайціса.

У элегіях Т. Бондар шмат роднаснага паэзіі А. Куляшова, што змясцілася ў кнігах «Новая кніга» і «Хуткасць», — такая ж танальнасць, такое ж жанравае афармленне, падобныя касмічныя абсягі.

Праз два гады пасля дамінантнага для ўсёй паэзіі Т. Бондар зборніка «Адна» з’явіцца кніга «Хачу назваць цябе Каханым. Вершы, лісты розных гадоў», прасякнутая адчуваннем вострай, балючай адзіноты пакінутай блізкім чалавекам жанчыны. Боль адзіноты сягае ў касмічныя прасцягі («Пад пустым, перамёрзлым да зор небакраем // Можна жыць»), абвастрае яе памяць, прымушаючы яе ўшчуваць (звернем увагу на нечаканае, адмысловае аўтарскае параўнанне!), «як сабаку, якая не хоча служыць», вымушае душэўнай змярцвеласці («Пад цяжкім, перамёрзлым да зор небакраем // Памірае, без слоў памірае душа»). Прыведзеныя цытаты з верша «Не гукаю каханаму, ён не гукае…» сведчаць пра трагедыйнасць светаадчування паэткі, выкліканую як абставінамі пераходнага (у аснове — разбуральнага) перыяду жыцця, так і сямейна-бытавымі праблемамі, узаемаадносінамі з калегамі.

Зборнік «Час душы, мой час вячэрні… Лірыка» дапаўняе трагічныя матывы папярэдніх, адкрывае нам спакутаваную, раскрыжаваную болем душу лірычнай гераіні, якая зняверылася ў магчымасці дасягнення хоць бы часовай гармоніі і супакаення. Псіхалагізм найвышэйшага гатунку поўніць кожны твор, большасць радкоў (нейтральныя цяжка адшукаць). Даходзіць да таго, што лірычная гераіня ўспрымае «радасць як папрок», а міг жыцця «як апошні» («Душа і плоць… Адна да аднае…»). Амаль у кожным вершы сцвярджаецца ў экзістэнцыяльным ключы немагчымасць перамагчы драматычныя абставіны чалавекам. Лірычная гераіня псіхалагічна падрыхтаваная прыняць усё як ёсць, змірыцца з цемрай, з цішынёй, з тым, што сцежка робіцца «жалобным вянком», з безвыходнасцю надзеі, з ноччу, якая, «пяройдзеная ўброд, // Зноў затапіла ўсё навокал», з сусветным холадам, які «скуе ўвесь свет»; са сцяной (як не прыгадаць быкаўскі твор!), якая адгароджвае ад цябе ўвесь свет, з тупіком, з тым, што «неба патухае». Паэтка не раз паскардзіцца на тое, што «Сумотна дагараюць дні», што не ведае, куды ідзе па асветленым арабінамі шляху, што хутка завіруха скуе і ёй ланцуг.

Калі ўніверсальным вобразам зборніка «Адна» з’яўляецца вобраз Адзіноты, дык універсальны вобраз кнігі «Час душы, мой час вячэрні…» — вобраз Зыходу (Небыцця, Смерці). Гэтая эвалюцыя макраперажывання, макравобразнасці ў многім падобная да цвятаеўскай. З лірыкай слыннай рускай паэткі творчасць Т. Бондар яднае рытміка-інтанацыйная «напружанасць», што ствараецца шматлікімі паўторамі, умаўчаннямі, пераносамі слоў у радок, шматлікімі паўзамі, рытарычнымі пытаннямі, выгукамі:

Зман і бяда — спрадвеку спарышы.
Я ведаю. І голасу не веру.
І ў свет гукаю, прычыніўшы дзверы:
Падайце дабрыні… На зман душы…

Заключныя радкі заключнага верша ў кнізе пра вячэрні час паэткі гучаць нам, жывым, як мудры запавет:

Любіце свет і ўсё і ўсіх на свеце
Так, як любілі б Госпада свайго!

* * *

Таіса Бондар вядомая і як майстар пераважна лірычнай прозы. Яе першы зборнік апавяданняў пацвярджае выказаную думку ўжо сваёй назвай — «Сінія яблыкі» (1980), — якая пераразвоньваецца з назвай першага зборніка малой прозы У. Караткевіча — «Блакіт і золата дня», які быў выдадзены ў 1961 г., з назвамі першых зборнікаў М. Стральцова — «Блакітны вецер» (1962), «Сена на асфальце» (1966), І. Чыгрынава — «Птушкі ляцяць на волю» (1965), «Самы шчаслівы чалавек» (1967). Лірычнага пафасу не пазбавілася беларуская проза і пазней, у канцы XX — пачатку XXI стагоддзя. Яна дазваляе выявіць шматграннае «Я», перастварыць прадметны свет у суб'ектыўна-вобразны, пашырыць суб'ект-суб'ектныя калізіі, канфлікты.

Пачаткам сталай, выверанай жыццёвым вопытам, памяццю пра мінулае, адносінамі ў свеце перыяду перабудовы грамадства прозы можна лічыць аповесці «Час, калі нас любілі» і «Жывыя жывуць», надрукаваныя асобным выданнем у 1988 г.

Абодва творы, як і наступныя, пісаліся, хутчэй за ўсё, пад уздзеяннем заняткаў паэзіяй, не маюць акрэсленых эпічных сюжэтаў, складаюцца кампазіцыйна са спавядальных маналогаў, прасякнутыя лірычным пафасам. Дзеянне разгортваецца ў іх слаба, пастаянна перапыняецца перажываннямі герояў. Хранатоп ускладнены: час трохмерны (мінулае, часцей ваеннае і пасляваеннае; сучаснае для галоўных — жывых — герояў; зрэдзь перакідваецца масток у будучыню). Адчувальная арыентацыя на літаратуру «плыні свядомасці», лірыка-філасофскую, спавядальную прозу, на брылёўскую, а не мележаўскую школу. Лірызацыя запаволенага дзеяння абумоўлівае наяўнасць разгорнутых побытавых і пейзажных малюнкаў, якія адпавядаюць настрою персанажаў. Накшталт вось гэтага — пра вясновую раніцу, Павэлака, які жыве з адчуваннем трывогі за лёс жонкі Ніны, якой ён нялюбы, бо жывая ў яе балючая памяць пра першага мужа Сцяпана, забітага ў вайну паліцаямі: «Світала. Дрэвы яшчэ не ацяклі ў траву дрыготкімі ценямі — святло калыхалася, як вада ў аграмадным слоіку. Здавалася: міг — і хлыне шэра-блакітны лівень зыкаў, змываючы начную маркату, размываючы цішыню. <…> А ўздоўж сцежкі, як нехаця адзначыў Павэлак, зацвіла трава. Расой зацвіла. Халоднай расой».

Няспешна, паслядоўна, крок за крокам паглыбляецца ў псіхалогію героя і гераіні аўтар твора, перадае драматызм іх перажыванняў, выклікае чытача на сумоўе. Сюжэтны «трохкутнік»: Ніна — Сцяпан — Павэлак набывае ў творы вастрыню ў першую чаргу дзякуючы таму, што ў яго «ўкліньваецца» чацвёрты персанаж — Памяць, абпаленая вайной. Гэта яна трымае ў сваіх цэпкіх абдымках Ніну, якая помніць сустрэчы са Сцяпанам каля рэчкі, яго словы пра тое, што чалавек не павінен страшыцца неба, што яго каханка «…уся звонкая-звонкая, як жаўранак. Падстаў табе далоні, прыўздымі — і паляціш». Гераіня, зберагаючы каханне, не ідзе замуж за старэйшага, заможнага Павэлака — сакратара сельсавета. У вайну яна распісалася (уладу прадстаўляў Павэлак) са Сцяпанам, але таго забіў паліцай. Уратаваная ад смерці ў адным з баёў былым ухажорам, Ніна выйдзе замуж за яго пасля вайны, але блізкіх адносінаў між імі няма («Пасля вайны ніхто ніколі ўжо не паверыць у вечнасць, у вечнае каханне, у вечнае жыццё»; «А ненавісць сваю сённяшнюю — куды дзець? Памяць сваю — куды?»).

Павэлак перажывае не меншую драму: цяжка жыць з чалавекам, сэрца якога яму не належыць; да таго ж ён даведваецца з ліста сястры Фросі Гуцькі Веры, партызанскай сувязной, якую закатавалі фашысты, што ў той ад яго быў сын Паў-

лік, што жыццё яго — студэнта-практыканта трэцяга курса трагічна абарвалася ў палаючым аўтобусе, калі ён ратаваў дзяцей з піянерскага лагера. Майстэрства аўтара — тонкага псіхолага — выразней за ўсё выяўляецца ў паказе настрою нетрадыцыйнага героя: нялюбы, ён нясе свой крыж, прымірыўшыся з думкай пра незайздроснасць свайго становішча, шануючы каханую, даючы сабе аб'ектыўную ацэнку: «Не чуе ён у сабе сілы»; «Як на святую гляджу. А самому боязна: адкуль гэта ў мяне <…>». Пісьменніца неаднойчы падкрэслівае такія рысы характару героя, як няўменне «лізацца, сюсюкаць, сантыменты розныя разводзіць», скупасць на словы («саромеўся ён іх»), умельства ў працы, нават звычайнай, хатняй (чысціў бульбу акуратна — «Падразаў нажом як мага танчэйшую стружку і накручваў, накручваў яе на нож, пакуль шкарлупіна не ламалася ці не заканчвалася»), адчуванне адзіноцтва пасярод бязмежнага жыцця.

Ніна — паэтычная натура. Яна не можа забыцца на сваё першае летуценнае, зорнае каханне да Сцяпана Ручая. Яе адносіны да Павэлака ў рэшце рэшт у фінале аповесці памяняліся: адчула віну перад ім, прыхінулася да яго. У гэтым новым жаданні, выражаным у загалоўку аповесці «Жывыя жывуць», жыць яе пераканалі ўрач бальніцы, дзе яна працуе, былая партызанка Вера Дзмітрыеўна і дзядзька Сцяпана прафесар Ручай Віктар Юр'евіч, асабліва ж — выпадковы спадарожнік у аўтобусе, дзядок з «вузенькімі, калючымі вочкамі». Ён даводзіць ёй, што неба небам, а душа чалавека «моцна за жыццё, за зямлю чапляецца», што, «як не знойдзеш неба ўнізе, угары яго <…> не знойдзеш».

Аповесць заканчваецца прымірэннем спакутаваных душ, сцэнай пакошы, на якой Павэлаку стала кепска. Яму мроіцца неба, што выпраменьвае звон, падобны на мелодыю тысяч жаўранкаў, Ніна ў белай сукенцы ідзе, «не кранаючыся травы босымі нагамі, каб сказаць яму… штосьці вельмі важнае сказаць».

У творы выявіліся рысы майстэрства пісьменніцы, чуйнай да чалавечых перажыванняў. Аповесць літаральна саткана з унутраных маналогаў герояў, акаймавана аўтарскім аповедам, яскравымі замалёўкамі пейзажу, побыту. Аўтар маніпулюе двума відамі маналогаў: прамых, якія бяруцца ў двухкоссе, і няпэўна прамых, у якіх героі даюць «знешнюю» ацэнку з'явам, што «ўзмацняецца» аўтарскім «умяшаннем». Суаднесці думкі персанажаў з часам, паставіць у кантэкст вечных ісцін, выпрацаваных чалавецтвам, аўтару дапамагаюць крылатыя выслоўі, прыказкі, афарызмы, якімі адкрываюцца некаторыя іх маналогі: «І зямля кажа…», «Не маладосцю жывём, не старасцю ўміраем…», «Ляжачага хлеба нідзе няма…», «Крыві на крыві не відаць…», «Адна бяда — не бяда…», «Тады маю, калі ў руках трымаю…», «Так на свеце вядзецца: адзін плача, другі смяецца…», «Век і камень не вытрымае».

У аповесці «Час, калі нас любілі» паглыбляецца яшчэ больш псіхааналіз. Напісана яна ад імя «Я»-гераіні, уяўляе сабой унутраны маналог Аляксандры Станіславаўны (Лёксы) Радзінскай — адваката, якая ацэньвае сваё дзяцінства, якое прыпала на пасляваенныя гады, жыццё бацькі — таксама юрыста, якога абылгаў калега Шатэрнік і абвінавацілі ў мяккацеласці і які рана памёр. Ёй помніцца, як маці выйшла замуж за Шатэрніка, як яна яго ігнаравала ў дзяцінстве, як і народжанага ад яго брата Мікалая.

Мінулае і сучаснасць цесна пераплятаюцца… Брат Ян, помсцячы, у п'яным трызненні, смяртэльна параніў Шатэрніка, трапіў у турму. Ці меў ён права ўчыняць расправу над ненавісным чалавекам? Ці не адаб'ецца адмоўна ягоны ўчынак на яе адвакацкай практыцы? А якая віна Мікалая Шатэрніка перад ёй? Пытанні гэтыя не даюць спакою, сведчаць пра неўтаймоўнасць, рэфлектыўнасць, аналітычныя здольнасці гераіні.

Галоўная гераіня сама сябе характарызуе як адзінокую з дзяцінства («Я баюся стаць безабароннай, як там, у мінулым… Я ненавіджу мінулае»), настойлівую і самастойную («…Я сама павінна была змагацца за сваё месца ў жыцці… <…> Нікога з блізкіх не шкадавала, не пашкадавала? Але ж я не шкадавала і сябе, каб вырвацца са свайго акружэння, каб вырвацца з нядолі, з гразі»), рашучай, дужай («Быць дужай — што ж яшчэ заставалася»). Аднак пасля смерці Яна Аляксандра пераглядае сваю прамую, суровую жыццёвую пазіцыю, пачынае разумець, што

адной сілы і жорсткасці ў чалавечым жыцці недастаткова: «Прабіцца! Рашучае, жорсткае слова. Яно і патрабавала рашучасці. І ў мяне была яна, гэта рашучасць. Была, пакуль Ян… <…> Законы жыцця і законы грамадства — не зусім адно і тое ж. Не супрацьлегла розныя, але розняцца. Суддзя — урач…»

Маленства і даросласць, час і людзі, розум і пачуццё, крыўда і мана, Я і Мы, абавязак і спачуванне — вось праблемы, узнятыя ў аповесці. Філасофска-значныя, вечныя. Сацыяльны пачатак у гэтым творы большае, сучаснасць дамінуе над мінулым параўнальна з аповесцю «Жывыя жывуць».

Падзеяй у беларускай літаратуры на гістарычную тэматыку стаўся раман «Спакуса» (1989), які, як і твор В. Іпатавай «За морам Хвалынскім», выдрукаваны ў гэтым жа годзе, стаўся добрым працягам традыцый рамантыка-псіхалагічнай з элементамі фантазійнасці, міфалагізму прозы Ул. Караткевіча.

Пісьменніца карыстаецца прыёмам рэтраспекцыі, аднаўляючы асобныя старонкі гісторыі даўняга XII стагоддзя, ствараючы «жывы», запамінальны вобраз Ефрасінні Полацкай — асветніцы, асобы, што ваяўніча абвяргае паганства, у трывожным сне бачыць, як полымя ахоплівае зямлю, б’юцца смяротна чырвоныя коннікі. Вера ў Бога спалучаецца ў сэрцы Ефрасінні (свецкае імя — Прадслава) з верай у асвету: «…розум нам усявышнім не адно для таго дадзены, каб маліцца і грахі замольваць: і навукам розным слугуючы — Богу чалавек слугуе, і рамяству карыснаму навучаны — тым да Бога, да божае справы далучаны». Ефрасіння імкнецца абараніць зямное жыццё ад бяды, пазнаць душу прыроды, «яе мову». Яна належыць і небу, і зямлі. Асабліва выразна чалавечнасць як вядучая рыса характару ігуменні манастыра Спаса раскрываецца ў сцэнах яе заступніцтва за Еўку-«шаляніцу», размоў з сястрой Еўдакіяй, з якіх вынікае яе вера ў тое, што «у кожнай, нават самай цёмнай душы няверніка ёсць зярнятка святла, усявышнім дараванае», што, нягледзячы на поклічы плоці, якая «сваё патрабуе і бярэ — возьме! — ад жыцця», «у духу сутнасць чалавечая, і сутнасцю гэтаю люд выжывае».

Мінулае спраецыравана ў рамане на сучаснасць: паказана жыццё вясковай жанчыны Ефрасінні Суляціч, сыны якой — полацкі археолаг Глеб, які працуе над сцэнарыем пра асветніцу XII стагоддзя, доктар навук Барыс — вылюднелі, але адцураліся роднага дому, толькі на пахаванне бацькі і прыехалі. І «зямная» Ефрасіння, і яе дзеці берагуць запаветы асветніцы, свае душы ад тлену, меркантыльнасці.

«Небныя» клопаты Ефрасінні-ігуменні і «зямныя» клопаты Ефрасінні Суляціч перакрыжоўваюцца, вызначаюць пакутны (незавершаны) шлях чалавецтва да непазнанай ім (Боскай?) ісціны. *Спакуса* выйсця за межы чыста цялеснага, меркантыльнага ўласцівая не толькі Ефрасінні Полацкай, якая адхрэшчваецца ад зямнога кахання, ад Злата, але і Глебу Суляцічу — нязгоднаму з трафарэтным сцэнарыем фільма пра асветніцу XII стагоддзя. Пераадольвае душэўны дыскамфорт любоўю да сына Валодзькі Барыс Суляціч. Вясковая жанчына, маці Святланы — будучай настаўніцы — разгортвае перад дачкой крэда пра тое, што жыць у горадзе — «спакуса занадта вялікая, бо лягчэйшае жыццё», аднак жадае ёй дабра. Еўдакіі, сястры ігуменні, таксама чуецца гэта слова — «спакуса» падчас фантазійнага (у сне, трызненні) вандравання за Спасам з вуснаў нібыта сястры: «спакусу Гасподзь кожнаму пакідае, балазе ім не пакора цэніцца, а пакута».

Філасофска-значны твор пра прыярытэтнасць вечных ісцін па-майстэрску пабудаваны: раздзелы сучасныя, з мінулага, устаўныя легенды, аўтарскае выказванне, унутраныя і «ўскосна-ўнутраныя» маналогі герояў паслядоўна, лагічна-апраўдана чаргуюцца. Прынцып кантрасту задзейнічаны ў поўную сілу, асабліва ў паказе персанажаў твора. Спакуса пошуку ісціны, уласцівая названым вышэй героям, іх духоўная і маральная чысціня супрацьстаяць заклапочанай музыкай мяшчанцы Веры Суляціч, журналісту Якаву Шпаку, нерашучаму рэжысёру Кіцыну. Лірычныя адступленні, сакаўныя пейзажныя і бытавыя малюнкі расквечваюць мастацкае палатно, арганічна ўпісваюцца ў ідэйную дамінанту твора-легенды.

Раман не абцяжараны дакументамі, грунтуецца на вобразных сцэнках, эпізодах, падзеях. У ім закранаюцца не толькі філасофскія, а і сямейна-бытавыя пра-

блемы, раскрываюцца прычыны «распаду» сем’яў, выхавання дзяцей, паказаны ўзаемаадносіны пакаленняў.

Аповесць «Імем Айца і Сына» ці не самая трагічная з усіх празаічных твораў Т. Бондар. Ужо эпіграф з М. Бярдзяева накіроўвае на ўспрыманне філасофскага зместу: «Апошняя таямніца чалавечая — нараджэнне ў чалавеку Бога. Апошняя таямніца Божая — нараджэнне ў Богу чалавека. І таямніца гэта — адзіная таямніца. Бо не толькі ў чалавека ёсць патрэба ў Богу, але і Богу патрэбен чалавек». Лёс гераіні — вясковай жанчыны Параскевы (як і героя рамана В. Астаф’ева «Сумны дэтэктыў») — суцэльны кашмар. Толькі-толькі выбліснула радасць — вярнуўся з вайны зранены муж Пахом, як тут жа і згасла: гуляючы з сынам Януком каля рэчкі, — памёр ад сардэчнага прыступу. Яшчэ большай бядой была страта сына, што адслужыў у арміі, вярнуўся дадому: кавалер яго каханай Марфуткі, што з’ехала ў горад, забівае яго на пакошы. Гіне ў рэчцы і Марфутка — ды гэта невялікая ўцеха для адзінокай цяпер ва ўсім свеце жанчыны, а канкрэтна — у вёсцы Радзімічы, што каля рэчкі Славечна — прытока Прыпяці, у радыяцыйнай зоне. Яна памірае разам з ёю. Раз-пораз звяртаецца жанчына да Бога, вымольвае ў яго заступніцтва. Як і герой дудараўскага «Вечара» Мульцік, аглядае асірацелыя хаты аднавяскоўцаў, дзівіцца на халоднае неба, «ліловыя гронкі бэзу», «заброснелыя, гнілыя калодзежы», на зарослыя сцежкі. На ўсім ляжаць сляды смерці.

Не раз звярталася Параскева да Бога, а ён не адзываўся. Самая псіхалагічна напружаная сцэна — падрыхтоўка гераіні да смерці і яе перадсмяротныя трызненні: вось яна абмываецца перад смерцю («абмыцца, абмыць, як таго патрабуе звычай, цела вады хопіць»), вось спрачаецца з смерцю ў абліччы Марфуткі, ёсць ці няма Бога. І, урэшце, развітваецца з жыццём са словамі крыўды і знявераласці, звернутымі да Бога: «Што ж ты маўчыш, Госпадзе? Што ж ты, смерці ўсё жывое на зямлі аддаючы, так зацята маўчыш?..» Заканчваецца аповесць словамі аўтара твора: «Яна шукала не Бога, як, здавалася б, павінна была, а смерць, якая яго адцясніла, адпрэчыла, умярцвіла, і толькі ў апошні момант зразумела, адчула, што сама прырода, пакрыўджаная, знявечаная людзьмі, пазірала на яе вачыма Бога».

Аповесць напісана ў форме ўнутранага маналога гераіні. Голас аўтара твора ў лічаных выпадках (лірычныя адступленні) набывае самастойнае гучанне. Твор, несумненна, вытрыманы ў стылі прозы «плыні свядомасці», як бы дапаўняе экзістэнцыяльныя высновы кнігі лірыкі «Адна», развівае матыў адзіноцтва Чалавека ў сусвеце.

Раман «Ахвяры» прысвечаны актуальнай праблеме перабудовы грамадства ў сярэдзіне 80-х гадоў, пераацэнцы ранейшых, выпрацаваных у таталітарным грамадстве, каштоўнасцей, нарошчвання патэнцыялу свабодалюбства, разнавектарнасці мыслення ва ўмовах абвешчанай партыяй і ўрадам дэмакратызацыі. Пісьменніца на прыкладзе сям’і Кондрусяў: партызана ў вайну, следчага ў пасляваенны час Савелія, яго сына — у дзяцінстве, у партызанах — Ваньчыка, на сучасным этапе настаўніка гісторыі камуніста Івана, яго брата-маёра, а затым падпалкоўніка міліцыі Рыгора, іх сястры Уладзі, сястры маці Моці, маладзейшага пакалення — рэаліста, філосафа сына Івана Косці, апантанага ідэяй вольнай, дэмакратычнай Беларусі сына Уладзі Вадзіма, іншых герояў — паказвае розныя адносіны да паняццяў «дэмакратыя», «свабода», «ахвяры».

Цэнтральная сюжэтная лінія звязана з лёсам Івана Кондруся. Немалады, з 20-гадовым педагагічным стажам настаўнік, член партыі ўпершыню сутыкнуўся з праблемай выбару: ці прымірыцца з існуючым парадкам рэчаў, забыцца на культ насілля і дыктатуры ў гады сталіншчыны і пазнейшыя, ці выбраць іншы шлях — пошук справядлівасці праз асэнсаванне мінулых трагедыйных падзей. Яго выпадковая прысутнасць на мітынгу ў Курапатах, дзе і яго вучні, дзевяцікласнікі, слухаюць гарачыя прамовы, паступова перарастае ў пратэст: ён адмаўляецца ад нейтралітэту як пазіцыі, прапанаванай братам Рыгорам, падтрымлівае пляменніка Вадзіма, тлумачыць на ўроках вучням, што такое дыктатура, свабода, не прыхарошвае гісторыю. На педсавеце, пасля якога будзе пазбаўлены права настаўнічаць,

ён тлумачыць калегам прычыны ўзнікнення дыктатур, іх мэты: «Сталінізм быў у першую чаргу патрэбен, а мажліва, і дагэтуль патрэбен — апаратчыкам самага living рознага рангу, якія рваліся да прывілеяў і ўлады і размнажаліся, быццам ракавыя клеткі ў арганізме грамадства, каб высмоктваць і высмактаць усе яго жыццёвыя сокі. <…> Менавіта ж яны <…> адчулі сваю сілу, сваё царства, дзе трэба было разбураць, разрабоўваць, а не ўзводзіць і ствараць, <…> сцвярджаючы ўладу маўзера, уладу бязлітаснай жорсткасці». Прачытаўшы пасмяротныя запіскі бацькі — чалавека жорсткага, які ні разу не прытуліў да сябе дзяцей, расстрэльваў за малую правіну партызанаў, а калі вешалі на будынку партрэт Сталіна і вецер пераламаў палотнішча, прымусіў рабочага скінуцца з чацвёртага паверха, каб спісаць выпадак на трагедыю (усё гэта адбывалася на вачах у сына-малалеткі, жонкі), ацаніўшы пакаяльныя і горкія словы мемуараў («Так, я парушаў законы чалавечнасці і заслугоўваю пагарды, але я з пагардаю думаю і пра тых, хто будзе на шалях — на грамы, узважваць сваю і чужую віну, не набыўшы ў скуры ні суддзі, ні падсуднага. <…> У свае сорак тры гады я адчуваю цяжар пражытага так, як адчуваў бы цяжар мёрзлага друзу, якім засыпаюць маю магілу, а ў душы — пуста»), Іван зразумеў, што і бацька, і маці, і ён, і ўсе старэйшыя пакаленні — ахвяры таталітарнай сістэмы. Ён стараецца не дапусціць, каб такімі сталі дзеці («Там жа будуць мае дзеці. І не грэх павучыцца ў іх мужнасці. Мужнасці верыць, што заўтрашні дзень усё-такі наступае».

Антыпод Івана — яго родны брат Рыгор Кондрусь, міліцэйскі чын. Яго прынцыпы — жыць адным днём, выконваць устаноўкі зверху, задавальняць звярыныя інстынкты (узаемаадносіны з жонкай Алімпіяй-Ліпай, з любоўніцай, узятай гвалтам у мядзведжыя лапы, Зояй Пятроўнай). У трэцяй кнізе пісьменніца падае «маналог душы» (а яны — нячастыя) героя-практыка, а не тэарэтыка: «Мінулае, праўда пра яго… Пляваць Рыгору на гэту праўду! <…> Праўда ў яго свая. Сляпая? Жорсткая? Ну і што! Затое яго, Рыгорава! <…> Заўтра будзе тое, што сёння і ўчора: адны будуць пры ўладзе, другія — пры сваіх інтарэсах, а ён, Рыгор, — паміж тымі і другімі. Бліжэй да тых, хто пры ўладзе. <…> …без сілы, без прымусу не абыходзілася і не абыдзецца». Праўда, Рыгор не поўнасцю страчаная для дэмакратычнага грамадства асоба: ён папярэджвае Івана пра сілавы разгон дэманстрацыі (парасткі сумлення відавочныя), яшчэ здольны ацэньваць свае ўчынкі, прыстасаванец, які можа мысліць апалітычна (не ў прыклад Самсону Самасую ці Мікіце Зносаку).

Сямейна-бытавыя калізіі разгортваюцца ў рамане ў трагедыйным плане: здраджвае мужу Івану захопленая музыкай, салонамі, сувязямі з творчай элітай Лера; пакутуе ад сямейнай драмы Косця; Алімпія — жонка Рыгора вымушана выносіць яго змены; Зоя Пятроўна носіць пад сэрцам дзіця ад Рыгора і ў той жа час палохаецца ягонай жывёльнай страсці.

Раман у жанравым плане — сацыяльна-бытавое палатно. Побытавыя сцэны часцей за ўсё падпарадкаваны сацыяльнаму пафасу, перарастаюць у суб’ект-суб’ектныя праблемы. Параўнальна з ранейшымі творамі, у «Ахвярах» дадалося дыскусійных дыялогаў. Як і раней, аўтар выкарыстоўвае прыёмы ўваскрашэння мёртвых (бацька, маці Кондрусі, Моця, Уладзя), якія даюць наказ жывым, трызнення хворых герояў (Уладзя, яе сын Вадзім, мама (цётка) Моця). Твор у стылявым плане ў многім палягае ў рэчышчы літаратуры «плыні свядомасці», традыцый «новага рамана», хоць і не губляе рэалістычных каранёў. У рамане пераадолена стыхія ўсё паглынаючага лірызму, уласцівая іншым мастацкім палотнам.

Творчасць Т. Бондар неаддзельная ад дасягненняў пісьменніцкага пакалення 1970-х гадоў, якое ўнесла ў слоўнае мастацтва Беларусі другой паловы XX стагоддзя матывы сумнення, расчаравання ў існай рэчаіснасці, актыўна змагалася за вызваленне асобы ад ідэалагічнай закамплексаванасці і духоўнага жабрацтва. Разам з сваімі равеснікамі яна стварала новы, мадэрнісцкі (імпрэсіяністычны, звышэмацыянальны, «інтэлектуальна-асабовы», вольны ад канонаў рэалістычнага пісьма) мастацкі стыль. У паэзіі і прозе Т. Бондар адбіліся сумненні, расчараванні, пакуты чалавека, які не хоча быць сляпой ахвярай трагічных абставін, імкнецца зразумець сэнс зямнога і небнага (Боскага) жыцця.

Васіль ЯРОМЧЫК

# ГОЛАС З ВЕЧНАСЦІ

**Аляксей РУСЕЦКІ. На апошнім прыстанку. Вершы. Паэма.**
*Мн.: ІП Логвінаў, 2012.*

Лёс шчодра паставіўся да Аляксея Русецкага — адмераў шмат вёсен і зім: Аляксей Сцяпанавіч не дажыў усяго двух гадоў да свайго 90-годдзя. Нямала на сваім шляху пабачыў, многа дарог прайшоў. Усяго ставала на іх. Ды нязменна заставаўся тым, кім быў: сумленным, прынцыповым і вабным той мужчынскай прыгажосцю, якая не можа не прыцягваць. А яшчэ, што важна для чалавека творчага, нават ва ўзросце больш чым сталым не развітваўся з пяром.

Аднак у параўнанні з іншымі паэтамі, нават з тымі, хто належаў да ягонага пакалення, ён напісаў куды меней. Ды справа, вядома, не ў колькасці напісанага. Куды важней, наколькі яно высокага мастацкага гатунку. У А. Русецкага ў пераважнай большасці — гэта сапраўдная паэзія. Адзнакай таленту пазначаны і тыя творы, што прадстаўлены ў кнізе, названай проста і разам з тым дакладна: «На апошнім прыстанку».

У яе ўвайшлі вершы і паэма «Насланнё», напісаныя Аляксеем Сцяпанавічам у апошнія гады ягонага жыцця. Ён сам склаў гэтую кнігу. Сам і назву даў ёй, але, на жаль, дачакацца яе выдання не паспеў. Дый пасля смерці А. Русецкага яна не адзін год чакала свайго выхаду. Шукаць вінаватых, чаму так адбылося, думаецца, справа марная. Выдавецтвам і так няпроста выжываць, а да ўсяго апошнім часам значна паменшала цікавасць да паэзіі.

Ды што казаць пра гэта, калі і так усё агульнавядома. Галоўнае, што кніга «На апошнім прыстанку» ўсё ж прыйшла да чытачоў. Як да тых, хто добра ведае А. Русецкага па яго прыжыццёвых выданнях, так і да маладых, якія, будзем глядзець праўдзе ў вочы, хутчэй за ўсё, і не чулі пра А. Русецкага. Прачытаўшы ж гэты пасмяротны зборнік, не сумняваюся, юнакі і дзяўчаты не толькі даведаюцца, што такі паэт быў у беларускай літаратуры. Яны ўпэўняцца і ў іншым: у нацыянальным прыгожым пісьменстве ягоная прысутнасць надзіва адчувальная. Дый паэт А. Русецкі назаўсёды застанецца ў ім. Ва ўсякім разе, для тых, хто любіць паэзію зямную. Багатую на думкі, але і багатую на вобразы. А яшчэ такую паэзію, што вымушае задумацца над жыццём. Над ягонай хуткаплыннасцю, але і над яго складанасцю. Гэта ж магчыма толькі тады, калі ў паэтычных радках прысутнічае глыбокі філасофскі роздум. А яшчэ тады, калі ёсць у іх, як кажуць, не толькі тэкст, а і падтэкст.

Усё гэта назіраецца ў цудоўным вершы «Урок заалогіі». Ён невялікі, таму да месца прывесці яго цалкам, каб канчаткова ўпэўніцца, як шмат удалося А. Русецкаму сказаць у гэтым творы:

Іх можа сагнаў у чароды голад
Ці спудзілі грозныя
Землетрасенні.
Яны паўзлі па стэпу голым,
Яны, ці ад воблакаў цьмяныя цені.
З бязмежнай далі паўзлі
Закаспійскай,
Зрабацілі густа сабой дарогу.
Па масе сваёй жывой пацуковай
З віскам і піскам
Паўзлі праз Волгу.
Яны расцякаліся навалаю шэрай
Па ўсёй Еўропе ў горах, долах,
І нават усім пацукам мясцовым,
Ненажэры,
Тады перагрызлі горла.

Якая мускулістасць радка! Якая напружанасць думкі! А за ўсім гэтым — тое, што патрапляе пад вызначэнне — Жыццё. Калі ж канкрэтней — прага выжывання. Жаданне (і ўменне!) выстаяць у любых абставінах, якімі б неспрыяльнымі яны ні былі. Нават тады, калі, па сутнасці, усё супраць цябе. Гэта барацьба канкрэтнага віду за сваё месца пад Сонцам, калі прысутнічае жаданне ў пераносным, а ў дадзеным выпадку і ў прамым сэнсе нават сваім суродзічам перагрызці горла. Абы толькі выстаяць.

Ці не здаецца вам, што ў вершы «Урок заалогіі», пры ўсім іншым, адчуваецца і пэўная знаёмасць матываў. Не, гэта зусім не перайманне, а далейшае развіццё таго, што было сказана раней. Папярэднікамі прамоўлена. Напрыклад, Уладзімірам Салаухіным у ягоным знакамітым вершы «Ваўкі». А яшчэ значна раней, да У. Салаухіна, Аляксандр Блок напісаў сваіх не менш знакамітых «Скіфаў». Калі паставіць гэтыя творы адзін за адным, то атрымаецца ланцуг, які асаблівую сваю значнасць набывае, калі ісці ў зваротным накірунку: «Скіфы», «Ваўкі», «Урок заалогіі».

Паспрабуйце гэтыя творы прачытаць, дакладней, перачытаць іх, менавіта ў такім парадку, як прывёў я. Як шмат у такім разе скажуць яны. І як здзівяць тым, наколькі А. Русецкі, не зважаючы на ўзрост, па-ранейшаму дасканала валодаў словам, як ён, не так, як іншыя, пісаў, каб проста нагадаць пра сябе, засведчыць, так сказаць, сваю прысутнасць. На паперу клалася тое, чым жыў, што хацелася выказаць.

Часам, аднак, гняло А. Русецкага і пачуццё творчай незадаволенасці. У рэшце рэшт, як і кожнага, хто з гадамі не бранзавее, а здатны крытычна ставіцца да сваёй творчасці. Часам нават празмерна самакрытычна. Яму здавалася, што напісалася не так, як магло напісацца. Пра гэта, дарэчы, ён прызнаўся ў вершы «***Пішу не сам, пішу не я...».

У апошнія гады свайго жыцця А. Русецкі працягваў працаваць і ў жанры паэмы. Прынамсі, 6 красавіка 2000 года ён у дзённіку зрабіў такі запіс: «З дзесяці маіх паэм — тры найлепшыя па ідэйна-мастацкаму выяўленню і сугучнасці з часам іх напісання. Гэта — “Яго Вялікасць”, “Маналог Зямлі”, “Насланнё”. Яны адпавядаюць і маім перакананням, і поглядам на ўсё ў час іх стварэння».

Паэма «Насланнё» — гэта твор-учынак. А. Русецкі перагортвае і старонкі ўласнай балючай памяці. Таксама многае адмаўляе, але гэта зусім не крытыканства, якое ж надта ўпадабалі апошнім часам многія з тых, хто нечакана «прозрел». У А. Русецкага — гэта праяўленне ўнутранай неабходнасці душэўнага самаачышчэння. Яно выяўляецца так, што паэту давяраеш. Няма аніякіх падстаў сумнявацца ў ягонай шчырасці. Як і ў тым, што А. Русецкі паспяхова справіўся з той задачай, якую ставіў перад сабой, калі ў яго нарадзілася задума гэтага твора.

Пад канец свайго жыцця А. Русецкі многае зразумеў і ў многім пераканаўся. Паступова прыйшло да яго і самае галоўнае разуменне. Такое, да якога многія з нас знаходзяцца толькі на подступах. Гэтае адкрыццё з адкрыццяў, якое нібыта і на паверхні знаходзіцца, але да яго прыходзіш не адразу. На тое існуюць розныя прычыны. Аднак самая істотная з іх звязана з адсутнасцю ў многіх сапраўднай відушчасці. Затое, калі гэтае прасвятленне настае, становіцца так хораша сэрцу і ўсцішна душы:

А вечнага ж нідзе няма нічога
Апроч нябёсаў зорных Бацькі-Бога.

З іншай нагоды А. Русецкі сказаў: «Час — рака. // Я толькі выкупаўся ў ёй // і мяне няма. // А яна ўсё цячэ». Тым не менш, па-ранейшаму ў гэтай рацэ часу і жыцця відавочна і ягоная прысутнасць. Дзякуючы творам, што пісаліся ў розныя гады. Дый дзякуючы кнізе «На апошнім прыстанку», што стваралася ў той час, калі часцей думалася пра вечнае, а таму ўсё дробязнае, выпадковае адыходзіла на другі план. Калі ж і ўспаміналася, дык толькі дзеля таго, каб лепей разабрацца ў самім сабе, каб адпрэчыць другаснае і высвятліць самае галоўнае і істотнае.

Кастусь ЗМАЧЫНСКІ

# СПОВЕДЗЬ НАД БЕЗДАННЮ

**Ганад ЧАРКАЗЯН. Горький запах полыни. Роман.** *Перевод с курдского Валерия Липневича. Мн.: «Мастацкая літаратура», 2012.*

Раман «Горкі пах палыну» ў творчай біяграфіі Ганада Чарказяна сам па сабе факт нечаканы. Хоць да гэтага ў яго былі два іншыя маштабныя творы (раманы «Барвовы захад» і «Апярэдзіць смерць»), былі апавяданні і навелы ў добра акрэсленым прытчавым стылі, з густоўна-разважлівым разгортваннем дзеяння, з цёплай лірычнай і гумарыстычнай падфарбоўкай. Усё гэта неяк арганічна дапаўняла яго філасофскую і роздумную лірыку ды шматлікія афарыстычныя чатырохрадкоўі (чаргаві), дзе сваё, уласна-адметнае ярка і рэльефна прабівалася і праз пазнавальны і адметны почырк саміх перакладчыкаў. А на іх, варта сказаць, Г. Чарказяну шанцавала. Словам, адметнасць арыгінала мала што траціла ў шчырым перастварэнні. Гэта было адзначана і крытыкай, увагай якой не быў абдзелены ўдумлівы творца. Раман жа «Горкі пах палыну» ўяўляецца своеасаблівым рыўком у роўнай і непаспешлівай аўтарскай творчай хадзе. Здзіўляе не сам трагізм адлюстраванага, а тая відавочная заглыбленасць у жыццёвы матэрыял, эпічная паўната ды праніклівая засяроджанасць на асабістым лёсе чалавека, дзе кожнаму ўчынку, кожнаму кроку яго ёсць сваё жыццёвае абгрунтаванне. І хоць твор у поўным сэнсе мастацкі, увесь час не пакідае адчуванне дакументальнай верагоднасці. Праўда самога жыцця бывае часам мацней за казённы дакумент.

Пакаленнню Г. Чарказяна давялося быць сведкам самых розных жыццёвых перамен, незвычайных катастроф і канфліктаў. На яго вачах рушылася некалі магутная і непахісная дзяржава, прыходзілі да ўлады адны і адыходзілі другія. Самыя непрадказальныя падзеі, імёны і даты мільгалі часам у вачах, як на паскоранай кінаплёнцы. І, вядома ж, пакідалі свой след у душы і памяці чалавека. Але так здаецца, калі глядзіш здалёку, з адлегласці дзесяцігоддзяў. На самай жа справе час рухаўся сваімі звычайнымі крокамі, як і належыць яму.

Прыпала на яго і свая памятная драма — афганская вайна. Калі пра апошнюю Айчынную ў нашай літаратуры напісаны дзясяткі самых адметных твораў, засведчаны ледзь не кожны яе дзень і факт, хоць праўды ўсяе, як лічаць многія, яшчэ так і не сказана, дык тэма афганскай вайны даўно патрабуе свайго ўдумлівага асэнсавання. Сёння мы маем на гэты конт нямала дакументалістыкі, а вось у творчасці мастацкай, у тым ліку і літаратуры, ёсць толькі нейкія подступы. Але ж гэта наша сучаснасць, а таму і слова пра яе належыць сучаснікам.

З першых жа старонак рамана пераконваешся ў тым, што Г. Чарказян добра ведае жыццёвы матэрыял, які яму трэба па-мастацку даходліва і пераканаўча данесці да чытача.

Ён выдатна арыентуецца на мясцовасці, якую адлюстроўвае, глыбока адчувае саму душу афганскага народа. Адчуваецца, што яму блізкае і балючае ўсё тое, што перажываюць ягоныя героі. У рэшце рэшт усе іх учынкі,

намеры і думкі падпарадкаваны яму, пісьменніку. І хоць усё дзеецца па яго волі, ён не хоча мяняць гістарычны, агульнавядомы фон падзей. І галоўны герой зусім не звычайны, і паводзіны яго таксама непрадказальныя. Ён прыходзіць на чужую зямлю не заваёўнікам, як усе іншыя яго паплечнікі, а выратоўцам. Вось і прыклад гэтага. Неяк ля сажалкі ён выратоўвае жыццё маленькаму Ахмеду, якога ўкусіла гадзюка. Сваімі губамі высмоктвае яд з раны хлопчыка, ледзьве пры гэтым не паплаціўшыся ўласным жыццём.

Усе падзеі рамана разгортваюцца на зямлі Афганістана, дзе галоўны герой Глеб Бярозавік апынуўся з кантынгентам савецкіх войск. Але аснова твора беларуская, паколькі Глеб — беларус. Нават імя яму аўтар дае зямное, беларускае, зазямляючы яго на роднай «глебе». Па сутнасці, твор Г. Чарказяна — гэта споведзь над безданню ці страшнае своеасаблівае балансаванне на мяжы жыцця і смерці: «Пазбавіцца назаўсёды ад гэтага жаху можна было, толькі калі рухнуць у бездань пад нагамі. А гэта так проста — адзін маленечкі крок. І больш ніякіх праблем. Але менавіта блізкасць і лёгкасць гэтага кроку і ўтрымлівалі ад яго. Ён заўсёды заставаўся ў запасе. На самы крайні выпадак. Усёй напругай душы і цела я імкнуўся пазбегнуць яго». Сама форма споведзі зусім не спрошчвае аўтарскую задачу, але расповед вуснамі галоўнага героя надае твору больш пераканаўчасці і эмацыянальнага напружання і нібы падкрэслівае саму прыродную арганічнасць матэрыялу.

Праз самыя нечаканыя і неверагодныя выпрабаванні праводзіць аўтар свайго героя, яго жыццё амаль заўсёды вісіць на валаску. Ён увесь час знаходзіцца пад прыцэлам. Смерць прыглядаецца да яго сваім хцівым вокам з усіх бакоў. У рэшце рэшт чужая зямля робіцца яму роднай. Але ўсё ж, і ў думках, і наяве, ён настойліва шукае сваю сцяжынку вяртання на радзіму, разважаючы часам так: «Няўжо дзеля таго сустрэліся мае маці і бацька, каб я дабавіў крыху сваёй крыві да ўжо неймаверна шмат пралітай на гэтай зямлі? І толькі дзеля таго, каб зрабіць пунсовы мак яшчэ больш пунсовым?

Ці расплаціцца за гэту чужую кроў, што пралілася тут у нейкай меры і па маёй віне? Менавіта я і быў тым чалавекам з аўтаматам, гранатамётам, з мінамі і рэактыўнымі снарадамі, бяздумна, як і належыць салдату, што выконвае загады, якія неслі смерць усяму жывому ў гэтых гарах і далінах. Але сказаць сёння, што гэта чужая зямля, чужыя даліны і горы, — я ўжо не мог. Гэта ж тут я пакінуў не толькі сваю маладосць, лепшыя гады жыцця, але і самае дарагое, што даецца чалавеку».

Вось так чалавечы лёс паварочваецца зрэдчас зусім нечаканым бокам. Добры гэта ці дрэнны бок у нашым выпадку — сказаць цяжка. Усё як быццам удала складваецца ў адносінах Глеба з сям'ёй Сайдуло, толькі ўнутраны голас гаворыць нашаму герою зусім адваротнае, не дае яму сну і спакою, настойліва кліча дамоў, у родную Блонь. І ўсе гэтыя пакутлівыя гады — амаль два дзесяцігоддзі — і ёсць нялёгкі шлях вяртання на радзіму, а заадно — і вяртання да сябе самога. Не доўгая, а занадта доўгая атрымалася дарога дамоў!

Лёс… Гэтае слова неаднаразова паўтараецца амаль у кожным творы Г. Чарказяна. У новым рамане лёсаноснымі выглядаюць нават самі дэталі пабачанага. А вось і аўтарскі роздум адносна чалавечага лёсу: «Дык што ж такое лёс? Вынік нашага ўсвядомленага ці інтуітыўнага выбару? Ці наадварот — чакаць і прымаць усё, што прычальвае да нашага берага? Праўда, часамі мы проста пазбаўлены магчымасці выбіраць. Вялікія віхуры падзей падхопліваюць нас на свае крылы і адносяць. Напластоўваюцца на лёс і выпадковасці прыродных катаклізмаў. Выбіраць сабе лёс здольны толькі чалавек з фенаменальным нюхам. Ды і то часта застаецца ля разбітага карыта. Звычайны чалавек не мітусіцца — спакойна, далёка не заглядаючы, нічога не пралічваючы, прымае ўсё, што толькі звальваецца на яго. У лепшым выпад-

ку выбірае меншае зло з тых некалькіх, што прапануюцца яму. Ці наогул ухіляецца ад выбару, пускаючы ўсё на самацёк, каб пасля, у выпадку асаблівай няўдачы, толькі цяжка ўздыхаць і паўтараць гэта магічнае і варажбітнае слова — лёс».

Жанр рамана дазваляе пісьменніку канкрэтызаваць і нават абагульняць тое, што часта пункцірна, нейкімі штрышкамі, намецілася ў яго філасофскіх вершах і апавяданнях. І нават апісваючы асобны лакалізаваны выпадак, ён імкнецца як мага больш сказаць пра лёс чалавека, выкарыстоўваючы пры гэтым і характэрныя дэталі. Г. Чарказян пастаянна шукае свае прыёмы заглыбленасці ў псіхалогію чалавека, у яго сваё бачанне людской натуры, свае акуляры гэтага бачання. Часцей за ўсё гэта дасягаецца за кошт вострага ўспрыняцця прыроды і яе непрадказальных з'яў, праз уласныя, а то і міфалагічныя разгадкі ўсяго, што звязана з прыродай і сусветам.

Сама горная сцяжына, на якой і акрэсліваецца лёс чалавека, — адзін з найбольш яркіх вобразаў рамана. І самыя жыццяважныя разважанні героя твора прывязаны менавіта да яе: «Я ішоў па вузкай сцяжыне, дзе стагоддзямі хадзілі людзі, ацяжараныя сваімі думамі і праблемамі. Якімі былі іх думы — адзін Алах толькі ведае. Вузкая віхлястая сцяжына — вось і ўсё, што засталося ад тысяч людзей, што пратапталі яе. Зараз я ўношу і сваю лепту ў захаванне гэтай векавой і, безумоўна, патрэбнай людзям сцяжыны. Ды і што застаецца ад кожнага з нас? Толькі невялікія дарожкі, якія мы топчам. І таму яны ніколі не канчаюцца. Праўда, некаторыя з іх ператвараюцца ў дарогі. Але і гэта выключэнне. Ды і ў тым, што застаецца пасля цябе малая, ды ўсё ж прыкметная сцяжына, ёсць найвышэйшая справядлівасць. Сцяжына — сціплы шлях ад чалавека да чалавека, ад бацькі да сына, які захоўвае жывы адбітак душы таго, хто ідзе. Сама ж дарога безаблічная і бяздушная. Па ёй не ідуць, а коцяцца ў такую ж безаблічную і прэсную будучыню».

Зазначым, што падобныя роздумныя матывы можна нярэдка сустрэць і ў вершах Г. Чарказяна. Але яны не чытаюцца як нейкія аўтарскія адступленні, хутчэй за ўсё, гэта арганічны звязваючы матэрыял у маналітным тэксце рамана.

Безумоўна, герой кожнага твора заўсёды ідзе той сцяжынай, якую выбірае для яго аўтар. Верны гэты шлях ці памылковы, але выбар застаецца толькі за пісьменнікам. Вышэйшая сіла тут толькі ён. Ну а вышэйшы суд і вышэйшая справядлівасць? Гэтыя ролі заўсёды аддадзены чытачу. Калі ён паверыў аўтару — значыць задума ўдалася і праца была недарэмнай. Шлях дамоў Глеба Бярозавіка мог бы быць значна карацейшым, але наўрад ці задаволіў бы ён чытача, які ўжо адразу падрыхтаваўся да доўгай «хады па пакутах».

Шлях герою адмераны сапраўды пакутніцкі. Выбар у Глеба толькі адзін: жыццё ці смерць. Смерць — самы просты выхад. Аступіўся крыху — а ўнізе прорва. Яна заўсёды перад вачыма, сама глядзіць на цябе чорным вокам смерці. «Смерць — гэта выхад са становішча, але становішча, з якога няма выхаду», — згадваецца жорсткі армейскі каламбур. Значыць, трэба хапацца за жыццё, нават калі яно вісіць на адным толькі валаску. Але дамо слова самому герою: «Я ўпершыню адчуў, як жыццё можа тварыць з чалавекам усё, што захоча. І толькі смерць не дазволіць ёй гэтай сваволі. Але ці гатовы я памерці дзеля таго, каб застацца толькі Глебам Бярозавікам? Тым больш што стаўся ўжо даўно для ўсіх у кішлаку Халебам. Шлях да другога чалавека напалову пройдзены. Не, — змушаны быў сумленна сказаць сабе самому, — я не гатовы паміраць толькі для таго, каб захаваць звыклае і простае адзінства асобы. Значыць, я павінен прыняць тыя ўмовы, якія мне дыктуе магчымае жыццё. Адзінае, што ў маіх сілах, — паспрабаваць як мага далей расцягнуць прыняцце гэтых умоў. Хто ведае, што можа адбыцца. Раптам якаянебудзь адна выпадковасць з плоймы гэтай бязлітаснай рэальнасці. Але ж

галоўнае — гэта не даць ёй мяне зламаць, знішчыць, развеяць ушчэнт у гэтым усепаглынальным афганскім пыле». А «выпадковасцей» на выратавальнай сцяжыне Бярозавіка надта многа. Але ён ужо згадзіўся на іншыя правілы гульні. «Я памёр і зноў уваскрос, — прызнаецца Глеб. — Памёр для мінулага жыцця і нарадзіўся для новага». Як шмат выпрабаванняў бачыцца за гэтым нечаканым прызнаннем! Сумненні, крыўды, прыніжэнні, пошукі выхаду з невыноснага жыццёвага сіла не згінаюць амаль зняверанага, поўнага адчаю вясковага хлопца, а, наадварот, надаюць яму яшчэ больш упэўненасці ў сабе. Што яшчэ ратуе героя ў гэтай незвычайнай сітуацыі, дык гэта моцнае, абвостранае пачуццё радзімы. Яно, магчыма, мацней самой настальгіі і, безумоўна, мацней усіх іншых пачуццяў, уласцівых чалавеку. І хоць аб гэтым нідзе аўтар не прамаўляе адкрытым тэкстам, усім напружаным зместам пачуццё вырастае ў тэму, якая з кожнай старонкай набывае сваю моц і выразнасць. А пакутлівы роздум галоўнага героя толькі ўзмацняе яе гучанне.

Тое, што твораць з чалавекам абставіны, часта непадуладнае і самому розуму. Менавіта ад іх і залежаць у многім паводзіны чалавека. З нейкага часу гэта пачаў усведамляць і Глеб Бярозавік. У самім ім ужо даўно пачалася ўнутраная барацьба двух асоб — бездапаможнага няшчаснага раба і шчаслівага, нанава народжанага чалавека, але ўжо з чужым тварам ды і пашпартам. Ён згаджаўся з тым, што характар чалавека залежны не толькі ад геннай сілы бацькоў, але і ад характару роднай, пяшчотнай беларускай прыроды. Аднак зараз перад ім была дзікаватая, амаль першародная, чужая прырода, дзе крыху інакш узыходзіла і заходзіла сонца, дзе свае фарбы і звабы. Гэта адчувальная энергія чужой прыроды і мірыла чалавека з чужым і загадкавым светам і рабіла яго сваім, а то і звыклым. Сваю немалаважную ролю адыграла і каханне, якое з незвычайнай сілай рагарэлася, здавалася б, з нязначнай іскры: «Я разумеў, што так непрыкметна можа праляцець і дзесяць, і дваццаць, і трыццаць год. І нават усё жыццё, якое забыта супакоіцца потым пад вострым каменем, хоць усё яшчэ спадзяваўся на якіясьці павароты ў маім лёсе і ратоўныя выпадковасці. Надзеі гэтыя проста рабіліся звычным акампанементам да простай і зразумелай песенькі майго жыцця. Іншы раз, асабліва начамі, захліставаў адчай. І здавалася тады, што песенька мая спетая, а ў тым, каб паўтараць яе незайздросны матыў, — няма ніякага сэнсу. Але прыходзіла раніца, гучала знаёмае «Ха-ле-еб!», іскрыліся шчасцем вочы Дурханый і з'яўляліся ямачкі на яе пругкіх шчочках. І сэрца адгукалася на яе ўсмешку, ажывала, зноў спадзявалася і чакала».

Простасць, даверлівы і непасрэдны тон аўтарскага аповеда зусім непрыкметна, ненавязліва ствараюць уражанне рэальнасці дзеяння і прыцягваюць гэтым самым чытацкую ўвагу. Гэта якраз той выпадак, калі само дзеянне нябачна, але адчувальна падпарадкавана ўнутранай рухомасці. А што тычыцца стылю, то ён, у адрозненне ад апавяданняў і навел аўтара, вытрыманы ў параметрах звычнага эпічнага канона, хоць сама распавядальная інтанацыя паводле задумы вельмі нагадвае марудную, стомленую хаду ў гарах. Можа, таму, што аўтарам увесь час кіруе прысутнасць дарогі і самой горнай мясцовасці. У стылі адчуваецца і характар самога пісьменніка, як яно і павінна быць у сапраўдным творы мастацтва. Г. Чарказян аднолькава захоплена апісвае прыроду беларускіх раўнін і нязвычных для нас гор і цяснін. Але тут і там фарбы зусім адрозныя. Тут, у Беларусі, яны больш мяккія і ціхія, там жа, на зямлі афганскай, адценні ў іх больш суровыя і падкрэслена яркія. Але, калі глядзець на іх вачыма ўражлівага аўтара, у кожным адлюстраванні бачыцца свая прывабнасць. Самі пейзажы — толькі фон, яны не іграюць, а хутчэй падыгрываюць дзеянню. Зрэшты, у прозе, якую піша паэт, заўсёды маюць месца і характэрныя яму паэтычныя прыёмы. Без гэтага, відаць, немагчыма. У развагах і роздуме ге-

рояў, у саміх пейзажных замалёўках гэта заўсёды адчуваецца. Ну а самае галоўнае, напэўна, у тым, што ўсё задуманае і па-мастацку ўвасобленае аўтарам цэментуецца на суровай жыццёвай праўдзе. Няма тут нейкіх адхіленняў ад тэмы, недагагаворак, намёкаў ці гульні ў тую ж смеласць. Уся пісьменніцкая смеласць бачыцца якраз тады, калі ён сам здольны ўгаварыць сваё пяро слухаць сваё сэрца.

Так, раман «Горкі пах палыну» хоць і напісаны ў падкрэслена ўмеранай, запаволенай інтанацыі, вельмі дынамічны і напружаны па дзеянні, насычаны падзеямі, якія вельмі арганічна ўплятаюцца ў яго сюжэт. Г. Чарказян па-майстэрску, у дэталях, апісвае ўсё тое, што адбываецца з яго героямі, ён умела, не перабіраючы меры, карыстаецца дыялогамі, не ацяжарваючы тэкст маралізатарскімі маналогамі. У дыялогах, як, урэшце, і ў вершах, аўтар па-ўсходняму кароткі, а то і афарыстычны. У творы вельмі шмат уражальных, запамінальных сцэн. І адна з іх, як нам здаецца, найбольш трагічная і балюча-кранальная, паўстае перад намі ў самым пачатку рамана. Гэта — сцэна пакарання амерыканскага лётчыка. Хутчэй за ўсё, за кошт інтуіцыі выпісана яна аўтарам надзвычай пераканаўча і псіхалагічна бездакорна. Лётчыку, які толькі што бамбіў мірны кішлак, яго жыхары наладжваюць публічнае судзілішча. Коратка, але вельмі пераканаўча апісвае аўтар маральны стан вінаватага: «Раней я думаў, што выраз “пабялеў як мел” проста фігуральны, слоўнае ўпрыгожанне. Але твар рыжага сапраўды стаўся белым, а вяснушкі амаль чорнымі — як быццам на ліст белай паперы сыпанулі жменю грэчкі. На нейкую хвіліну ў лётчыка адняло мову. Потым ён схапіў мяне за рукі і з цяжкасцю выціснуў: “Грошы, многа, вельмі многа грошай! Скажы ім”».

Грашыма адкупіцца няшчаснаму і адначасова вінаватаму не ўдаецца. Суд старэйшыны роду няўмольны. Аўтар удала перадае нарастанне напружання самога відовішча і адчувальнасць хвалі народнага гневу, таго выбуху нянавісці, які ўвасабляе сабой натоўп падчас самасуду: «Адчуваючы, як нарастае агіда да гэтага відовішча, я ўсё ж не мог адарваць ад яго вачэй. Быццам дзейнічалі нейкія сілы супрацьстаяння, якім немагчыма супраціўляцца. Кожны ў гэтым натоўпе — і я ў тым ліку — пачуваўся не толькі забойцам, але і ахвярай. Гэта выклікала такі ўсплёск адчуванняў, з якім нішто не магло зраўняцца. Я ўпершыню зразумеў, што, забіваючы іншага чалавека, ты забіваеш самога сябе. І атрымліваеш ад гэтага якоясьці апусташальнае, але ўсё-такі задавальненне. А тое, што ты робіш гэта разам з усімі, як быццам змывае і даруе табе твой грэх — забойства табе падобнага. Бо яно заўсёды ёсць, парушэнне галоўнай запаведзі чалавечага агульнажыцця — “не забі”. Нават тады, калі мы забіваем самога забойцу.

Але вось напружанне пачало спадаць. Па меры спатолі праведнага гневу натоўп пачаў траціць маналітнасць адзінства. Хтосьці збочваў на некалькі толькі крокаў, хтосьці хаваўся ў блізкі цень і ўжо адтуль назіраў за тым, што адбываецца. Крывавы спектакль падыходзіў да завяршэння».

Такія буйнамаштабныя сцэны пісьменніку заўсёды даюцца цяжка, паколькі фокусная глыбіня бачанага рассейваецца, дзеліцца, спыняецца на другарадным і часта губляе галоўны свой арыенцір. Усё, вядома, залежыць ад майстэрства і таленту мастака. Ні ў якім разе нельга быць простым сузіральнікам, толькі сведкам дзеяння. Ён павінен быць яго актыўным саўдзельнікам. Думаецца, з гэтым правілам Г. Чарказян добра знаёмы. Ён шчасліва пазбягае не толькі апісальніцтва, але і небяспечнага ў рэалістычным творы натуралізму.

Ганад Чарказян пераканаўча, нібыта ўдумлівы даследчык, паказвае нам сапраўдную сутнасць і псіхалогію натоўпу, усе яго выбуховыя магчымасці, небяспечнасць і непрадказальнасць. У нашым выпадку ніхто не націскаў на спускавы кручок, не ўзводзіў затвор, не цэліўся. Людзі забівалі сабе падобнага тымі самымі матыкамі, з якімі потым

ішлі апрацоўваць зямлю і здабываць хлеб для працягу жыцця чалавечага.

Мы ўжо адзначалі, што Г. Чарказян наўмысна пазбягае аўтарскіх адступленняў, усе абагульненні і высновы, якія напрошваюцца пасля падобных сцэн, прамаўляюцца вуснамі галоўнага героя. І то яны часта завяршаюцца пытальнікам. Аўтар памятае і пра тое, што трэба заўсёды даць магчымасць паразважаць, падумаць, а то і дадумаць самому чытачу, якому і адрасуецца твор. Вось якім роздумам завяршаецца вышэйпамянёная дзея: «Стоячы на тутэйшым могільніку сярод вострых вертыкальных камянёў без усялякіх апазнавальных знакаў, пад якімі знайшлі апошні прытулак мучанікі гэтага свету, я думаю пра справядлівасць безыменнасці. Мы ўсе прыходзілі з невядомасці і адыходзілі таксама ў яе. Мы толькі кропелькі магутнага і невычэрпнага, пастаянна ўзноўленага патоку. Дык чаму ж салдаты магутнай краіны, дзе кошт жыцця дакладна акрэслены страхоўкай, абыходзяцца са сваім жыццём гэтаксама — лёгка і бяздумна і заўсёды гатовы рызыкаваць ім. Яны нібыта гуляюць у рулетку. Гэта той адзіны сэнс, які ім зразумелы. І якая ж сапраўдная цана жыцця? Цана смерці? Хто ж дае і прызначае яе?»

Смерць — само па сабе страшнае слова. Але яно зусім лёгка прамаўляецца многімі з нас, жывых, асабліва людзьмі маладымі. Пытанне жыцця і смерці ўвесь час востра стаіць і перад героямі рамана «Горкі пах палыну». Ды і дзеянне яго адбываецца ў краіне, мінулае і сучаснае якой афарбавана полымем не адной вайны, дзе словы «жыццё», «смерць», «кроў», «помста» ні на хвіліну не знікаюць з вуснаў чалавека.

Каштоўным уяўляецца нам новы твор Г. Чарказяна і ў сэнсе пазнавальным. Дасведчана і з любоўю апісвае аўтар звычаі і культуру старажытнага народа. Вачыма беларуса глядзіць ён і на тутэйшыя святы, часта параўноўваючы іх з нашымі і знаходзячы нават штосьці агульнае. Вось, да прыкладу, кароткае апісанне свята наўруз: «Афганскі наўруз — у перакладзе “новы дзень” — падобны да нашага Івана Купалы. І звязаны ён са старажытным культам сонца і яго геніяльным прарокам Заратуштрай. Ды толькі мы ўжо развітваемся з сонцам, калі яно пачынае адыходзіць з небасхілу, а там радасна сустракаюць яго першую перамогу — дзень веснавога раўнадзенства. Хай цемра і святло пакуль ураўнаважаны, ды сонца з кожным днём прыбывае, дорыць жывым новыя плады і новыя жыцці. Як і наш Іван Купала, наўруз таксама суправаджаецца скокамі праз агонь — сем скачкоў ачышчаюць ад усіх грахоў. Агонь жа — гэта таксама маленькае сонца, што спальвае ўсю нечысць».

Можна палічыць зусім неабавязковым такое інфармацыйнае, падобнае на сухую даведку апісанне свята маланаёмага нам народа. Але не будзем спяшацца з высновай. Далей жа ідзе і зусім падрабязнае яго апісанне і ўжо ў канкрэтнай прывязцы да самога дзеяння. Больш за тое, пададзенае і ўзгаданае праз адчуванні самога героя, яно нясе ў рамане пэўную сэнсавую нагрузку: «Хораша выглядалі і сівабародыя дзяды, што рызыкнулі скокнуць праз агонь. Кагосьці з іх агонь балюча хапаў за бароды — яму ўсё можна! — але грахі, смяяліся ліхія і жыццярадасныя старцы, грахі ўсе таксама згарэлі.

Столькі дзіцячага нечакана выяўлялася ў гэтых суровых, на першы погляд людзях. Ды і жорсткасць, з якой яны часта вырашаюць свае праблемы, таксама, па сутнасці, дзіцячая. Гэтак жа сама, як і крыўдлівасць. У душы кожнага чалавека, што жыве ў гэтай першароднай прасторы паміж горамі і небам, прапісаны чыстыя і наіўныя — гэта значыць, з нашага пункту гледжання, проста прымітыўныя — законы чалавечага агульнажыцця. Вочы гэтых людзей свецяцца сапраўднай дружалюбнасцю, жывой цікавасцю да іншага чалавека. Свайму выпадковаму госцю пуштун-дурані аддасць апошнюю аладку. Пакуль госць у яго доме, з ім ніколі нічога не здарыцца, ён пад надзейнай аховай гаспадара.

Я не прымаў актыўнага ўдзелу ў гэтым свяце, але ўважліва сачыў за ім. На душы маёй цяплела».

І гэта былі тыя самыя людзі, якія яшчэ зусім нядаўна жорстка распраўляліся з амерыканскім рыжым лётчыкам. Вось такая жыццёвая кантраснасць і патрабуе самага ўважлівага роздуму, які і апаноўвае героя рамана. Усё гэта падштурхоўвае на роздум і самога чытача.

Як жа ўраўнаважвае герой гэтае нечаканае «пацяпленне» на душы з тым «горкім», да знішчальнасці горкім «пахам палыну», якім прапах увесь ягоны нялёгкі шлях дамоў, які адчувальна прабіваецца праз усе старонкі кнігі? Нягледзячы на дыктат самога лёсу, раўнавагі якраз і не атрымоўваецца. Яно, святое пачуццё радзімы, вяртае ўрэшце Глеба Бярозавіка дамоў, у родную Блонь. Шмат нявыказанага, недагаворанага, нават падтэкставага, ёсць у гэтым вяртанні, і яно змушае нас верыць, што магчымы яшчэ працяг самой дарогі, але ўжо ў іншых абставінах і на роднай зямлі. Урэшце ўсё гэта будзе залежаць ад самога аўтара. А пакуль можна сцвярджаць адно: па сваім мастацкім увасабленні вядомых трагічных падзей афганскай вайны раман стаіць у шэрагу лепшых дасягненняў айчыннай прозы. Вядома ж, за ўсім гэтым бачыцца вялікая і настойлівая праца. Усё гэта пісалася не толькі рукой вядомага аўтара, а і самой праўдай вайны, а яшчэ сваім сэрцам ды ўяўленнем. А вобраз Глеба Бярозавіка безумоўна абагулены, пісьменнік у многім ляпіў яго з гліны сваёй плоці, штосьці чэрпаючы з прыпамінаў удзельнікаў самой вайны, са шматлікіх публікацый, штосьці дадумваючы ды суперажываючы.

Калісьці вялікі Леў Талстой сказаў, што з часам пісьменнікі будуць «не сачыняць, а толькі распавядаць тое значнае і цікавае, што ім выпала назіраць у жыцці». Распавядаць — гэта значыць гаварыць праўду. Думаецца, наконт яе ў чытача да Г. Чарказяна пытання ўзнікнуць не павінна.

Раман «Горкі пах палыну» завяршаецца перадсмяротнымі словамі дзеда Гаўрылкі, які так і не дачакаўся звароту свайго ўнука: «Мы ж недарэмна назвалі яго Глебам. Ён павінен вярнуцца да сваёй зямлі-маці, да сваёй глебы. Я пайду ў зямлю, а ён на яе вернецца». Гэта ўсяго толькі «логіка жыцця і веры». Але і яна мае сваю сілу, бо падпарадкавана логіцы «вечна пераможнага жыцця», падказвае нам аўтар. І ў гэтым мы з ім цалкам згаджаемся.

Уладзімір ДАМАШЭВІЧ

# СУСТРЭЧА ПРАЗ ГАДЫ

Здарылася так, што мае маладзейшыя сябры — Алег Лойка і Вячаслаў Рагойша запрасілі мяне ў сваю кампанію: яны ад Бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў ездзілі па Клецкім раёне, чыталі лекцыі пра беларускую літаратуру, расказвалі пра нашых лепшых пісьменнікаў, пра іх творы, расказвалі і пра сябе: абодва вучоныя, выкладчыкі ўніверсітэта, а Алег Лойка яшчэ і вядомы паэт.

Я тут быў разам з імі як зямляк, тут мае карані, ды і ў школах ужо мяне ведалі як празаіка, які выдаў некалькі кніжак.

І вось мы апынуліся ў Ліскаўскай сярэдняй школе, гэта недалёка ад Клецка. Дырэктар коратка пазнаёміў аўдыторыю — настаўнікаў і вучняў старэйшых класаў — з гасцямі: хто мы такія, што хочам ім расказаць, і першаму даў слова Рагойшу. Той трохі пашырыў рамкі дырэктаравага паведамлення, сказаў некалькі слоў пра мяне, як пра іхняга земляка, а больш гаварыў пра Алега Лойку, вядомага вучонага, выкладчыка і цікавага паэта, які ўжо збіраецца пісаць і прозу, каб у гэтым плане не адстаць ад сябра студэнцкіх гадоў, і ён паказаў на мяне, усміхнуўся.

Рагойша гаварыў хвілін дзесяць, мо трохі больш, зрабіў беглы агляд сучаснай беларускай літаратуры, як прозы, так і паэзіі, назваў некалькі вядомых прозвішчаў, параіў школьнікам, што пачытаць цікавае з таго, што выходзіць з друку, што друкуецца ў часопісах. На гэтым ён закругліўся і перадаў слова мне, папярэдне атрымаўшы вялікую порцыю апладысментаў.

Я вельмі хваляваўся, для мяне выступаць перад публікай было нязвычна, мая рэдактарская праца была далёкая ад людзей, любіла цішыню, а тут трэба нешта гаварыць, пра нешта расказваць — і каб усё было цікава і складна. А можна ж і памыліцца, сказаць не тое…

Распавядаючы пра тое, як стаў празаікам, што напісаў, я міжволі разглядаў публіку, асабліва першы рад, дзе сядзелі настаўнікі, пераважна жанчыны, прыгожа апранутыя, з жывапіснымі прычоскамі, з падведзенымі бровамі і падфарбаванымі вуснамі, на якіх сяды-тады паблісквалі ўсмешкі. І вось мой позірк спыніўся на мажным лабатым і насатым мужчыне сярэдніх гадоў у светлым касцюме, які сядзеў сярод настаўніц.

Я адразу яго пазнаў, хоць бачыў даўно, перад вайною, калі быў яшчэ хлапчуком, недзе ў 1940 годзе, тады ён працаваў фінінспектарам і прыязджаў у нашы Якшычы па нейкай справе да майго дзядзькі Паўла, таксама фінінспектара, але сельскага, які падпарадкоўваўся яму, клецкаму. Прыезджы інспектар таксама зваўся Паўлам, а прозвішча меў Шаняк. Як і мой дзядзька, ён сядзеў у польскай турме за палітыку, як тады казалі, гэта значыць, за сімпатыі да Саветаў і за «падрыўную дзейнасць». Цяпер іх «дзейнасць» была ў тым, каб як мага больш спагнаць падаткаў з жыхароў вёсак, асабліва з багацейшых гаспадарак, якія абкладваліся двайным і нават трайным падаткам.

Постаць Шаняка трохі збіла мяне з тропу, я пачаў траціць лінію свайго выступлення, пераскокваць з аднаго на другое, але потым супакоіўся і выйшаў на роўную дарогу. Гаварыў мо не больш за Рагойшу і таксама ў канцы заслужыў дружныя воплескі.

Самым цікавым было выступленне Лойкі. У яго ўжо была вялікая практыка чытаць лекцыі перад студэнтамі і выступаць перад публікай у розных мясцінах не толькі Беларусі, але і за яе межамі. Да таго ж ён чытаў свае вершы, але не адзін за адным, а ўвязваў іх у тэкст свайго выступлення, і рабіў гэта вельмі дасціпна, дасягаючы вялікага эфекту, выклікаў шмат воплескаў і шчырых авацый.

У канцы дырэктар школы падзякаваў нам за выступленні, прасіў не забываць Ліскаўскай школы і наведваць іх хоць у год раз, таму што такія сустрэчы ўзбуджаюць цікавасць у вучняў да роднага слова, да свае літаратуры, да спадчыны, будзяць патрыятычныя пачуцці.

Потым быў абед, мы шмат гаварылі, асабліва Лойка і Рагойша, яны вельмі спадабаліся як вучням, так і настаўнікам, абяцалі не забываць іх мясціны і такі шчыры, нават гарачы прыём. А я меў яшчэ кароткую гутарку з Паўлам Навумавічам Шаняком, які з фінінспектара перакаваўся на настаўніка, скончыў завочна настаўніцкі інстытут і выкладаў цяпер беларускую мову і літаратуру. Ён ведаў пра цяжкі лёс майго дзядзькі Паўла, які ў вайну, на самым пачатку трапіў у палон пад Мінскам, быў вывезены на Захад і недзе прапаў без усякага следу, хоць казалі, што ён быў у партызанах і заходзіў нават у свае Якшычы, але да нас не наведаўся. Адсюль і было сумненне: як гэта так — быць у роднай вёсцы і не наведаць роднае маткі? А раз не наведаў, дык гэта можа толькі чуткі…

Павел Шаняк быў здзіўлены, што я так вырас, дасягнуў вунь якіх вышыняў, як для вёскі — немалых, стаў пісьменнікам, выдаў некалькі кніжак прозы. Ён пахваліў мяне і пажадаў поспехаў. Я таксама пажадаў яму здароўя і сказаў, што варта было б, каб ён расказаў мне пра сваё жыццё, якое, з яго слоў, было складанае, драматычнае, насычанае падзеямі, асабліва ў вайну. Мы дамовіліся на хуткую сустрэчу, але яна адбылася толькі праз некалькі гадоў…

* * *

Мне давялося апынуцца ў Клецку ў гасцях разам з жонкаю Галінаю Пілецкай, якая тут нарадзілася і дзе цяпер жыла яе матка — адна-адна, у прасторнай старой хаце на два канцы. Вось я і вырашыў, што наш водпуск я скарыстаю, каб наведаць Шаняка, які жыў у Кухчычах, гэта побач з Ліскавам, а заадно адведаць свайго дзядзьку Пятра Пільневіча, ён быў родам з Якшыч, але ўжо даўно жыў у Кухчычах, бо пайшоў у прымы, яшчэ да вайны.

А сваякі мы былі такія: мой дзед Паўлюк быў родным братам яго маткі Арпіні, у якой ад мужа Данілы Пільневіча было пяцёра дзяцей. Вось гэты Пятрусь і яго малодшы брат Алёша сталі добрымі краўцамі, якія абшывалі ўсе навакольныя вёскі, шылі нават кажухі, а гэта лічылася няпростаю справаю, да таго ж вельмі патрэбнаю ў вёсцы: што кажух, то не вата…

У дзядзькі Пятра мы папалуднавалі, праўда, без чаркі, ён павініўся, што якраз выйшлі ўсе «кроплі», пілі толькі мінералку. Ён цікавіўся, як жыве наша сям'я, яшчэ тая, якшыцкая, ці жывуць яшчэ мае бацькі, як сёстры. Ён расказаў трохі пра сябе, сваю сям'ю: вось бяда з жонкаю Марыяй, нешта запала на ногі, не можа хадзіць, і дактары нічога не могуць дапамагчы…

Ад дзядзькі я пайшоў да Шаняка, гэта па дарозе, бліжэй да самага Клецка, і ледзь знайшоў яго хату — даволі прасторную, разгароджаную на пакоі па-гарадскому. Гаспадар якраз канчаў абедаць, запрасіў мяне далучыцца да стала, але я падзякаваў, сказаўшы, што толькі нядаўна папалуднаваў у дзядзькі Пільневіча. Я ўжо ведаў, што Шаняк даўно жыве ўдаўцом, гадаваў адзін чатырох сыноў, а жонка памерла пры родах, пакінуўшы яму чацвёртага сынка. А цяпер сыны ўжо дарослыя, два вайскоўцы, жывуць далёка ад бацькі, а адзін у Клецку, выкладае ў рамесным вучылішчы.

Мы спачатку разглядалі адзін аднаго, знаходзілі значныя перамены ў сваіх абліччах, здзіўляліся, як хутка ляціць час, а мы патроху сталеем, патроху старэем.

Шаняк выглядаў ужо чалавекам пажылым, з голаю галавою, вялікім ілбом, нос яго яшчэ больш апусціўся і, здавалася, гатоў быў дакрануцца да верхняе губы, асабліва калі ён усміхаўся. Аднак глыбокіх маршчын на яго твары не было, ён выглядаў нават маладзейшым за свае гады, і колер твару ў яго быў здаровы, а скура загарэлая і гладкая.

Я павініўся, што не зайшоў да яго раней, як дамаўляліся ў Ліскаўскай школе — гэта прайшло якіх дзясятак гадоў, але ўсякія клопаты не даюць чалавеку збочыць з той дарогі, па якой ён ідзе, і заняцца нечым пабочным. Але ж, як той казаў, лепш позна, чым ніколі…

Я прызнаўся, што хачу напісаць пра яго апавяданне ці нарыс, што біяграфія ў яго цікавая і вартая таго, каб яна не прапала для чытача, для літаратуры. У мяне ўжо быў план пісаць аповесць пра свайго дзядзьку Паўла, таго фінагента, які прапаў у вайну, і я падумаў, што іх дарогі-лініі неяк трэба пераплесці, перакрыжаваць, зрабіць, што яны знаёмыя яшчэ да таго, як селі ў польскую турму — Шаняк першы, а мой дзядзька трохі пазней, у 37-м годзе. І спытаўся, ці згодзіцца ён мне расказаць пра свой жыццёвы шлях больш падрабязна, асабліва пра турму, пра вайну, пра сямейнае жыццё.

«А што, гэта можна. Таму што ляжаш спаць, дык не заснеш адразу, думкі апаноўваюць, пачынаеш залазіць у сваё мінулае, у маладосць. Клецкая гімназія, першыя гурткі камсамольцаў-падпольшчыкаў. Як гэта было цікава, як казытала самалюбства! А потым правал, выключэнне з гімназіі, арышты некаторых хлопцаў. Дайшла чарга і да мяне. Допыты, катаванні, суд… Баранавіцкая турма. Тая самая, у якой пабыў і твой дзядзька. Урэшце вызваленне ў 1939 годзе, а тут і вайна. Вайна ў мяне прайшла цяжка, некалькі разоў быў на валаску ад смерці. Тут можна напісаць цэлую аповесць. Ну, потым мірнае жыццё, сямейнае — чатыры сыны… Смерць жонкі пры родах… Малыя дзеці, школа… Нацярпеўся… Цяпер вось пенсіянер. Колькі засталося — не ведаю…»

Усё сваё жыццё ён уціснуў у такія вось вузкія рамачкі, цяпер мне трэба было іх пашырыць, выпукліць асобныя эпізоды, засяродзіцца на галоўным. Персанаж мне трапіўся цікавы…

Мы дамовіліся, што я буду да яго прыходзіць, пакуль ён не распавядзе мне ўсё па парадку.

Так я і зрабіў. Назаўтра зноў пайшоў у Кухчычы. Пагода стаяла добрая, была сярэдзіна жніўня, неба чыстае, ветрык вее-павявае, шчабечуць птушкі, навокал зеляніна, на прысадах ужо відаць залатыя лісточкі, асабліва на бярозах.

Павел Шаняк сустрэў мяне прыязна, спытаўся, ці добра я паснедаў, я адказаў, што добра, мы пайшлі з хаты на панадворак, селі на лаўку пад бярозаю, і ён патрохі стаў гаварыць пра сябе, а я злёгку занатоўваў. Аповед яго быў непаслядоўны, ён пераскокваў часам з аднаго на другое, як кажуць — з адной эпохі ў другую, даваў эпізоды, якія былі выпадковыя і да гэтай тэмы не адносіліся, але яны ў яго неяк самі ўсплывалі, і ён не мог іх абмінуць. Таму мае занатоўкі былі разбэрсаныя, няроўныя, у іх, апрача мяне самога, цяжка было разабрацца — суцэльнай лініі тут нельга знайсці, толькі нейкія яе ўрыўкі, эпізодзікі, якія цяжка злучыць у адзін ланцуг, але самі па сабе яны цікавыя. Таму я потым павінен быў усё гэта выраўноўваць, дапасоўваць і рабіць паслядоўны малюнак яго жыцця, хоць і шмат што трацілася, бо гаварыў ён па-свойму, часам з гумарам, як жартуючы з сябе самога, выстаўляючы сябе не героем, а нейкім такім няўдаліцам. І гэта вельмі цяжка было зафіксаваць, перадаць на паперы «жыўцом», так, як яно падавалася.

Як хто, а я лічу, што не гэта галоўнае, важна перадаць змест, сэнс, зерне праўды, а як яно аформлена, у якія формы і якія колеры, — на другім ці на трэцім плане. Калі ты хочаш выказаць нейкую думку, то і словы знойдзеш адпаведныя. Таму я падаю змест яго гутаркі не ў такім парадку, як ён расказваў, а так, як трэба было б адказваць урок на зададзеную тэму: вось завязка, вось развіццё тэмы, вось кульмінацыя, нарэшце — развязка. Мо гэта не так урок, як аповед-апавяданне. Ва

ўсякім разе, чытач разбярэцца і дасць сваю ацэнку зробленага мною — паставіць тройку ці чацвёрку, а мо нават пяцёрку з мінусам, на што я мала спадзяюся.

Пачаць трэба з таго, што ў яго загінуў малодшы брат — пакончыў жыццё самагубствам, яшчэ зусім малады. Бацька не дазволіў яму жаніцца з каханаю дзяўчынай, бо яна была бедная, а іх гаспадарка таксама была не вунь якая, нейкіх усяго чатыры гектары. Брат палічыў сябе смяротна пакрыўджаным і налажыў на сябе рукі, хоць прычына яго смерці мо нават сацыяльная, як цяпер сказалі б, аднак старэйшы брат Павел успрыняў бяду блізка да сэрца і нават вінаваціў сябе, што не пагаварыў шчыра з братам, не разагнаў яго цяжкіх думак, не ўтрымаў над абрывам, упусціў момант — і вось чалавека няма, роднага, свайго чалавека — і яго ўжо ніколі не вернеш! А што перажылі бацькі: той жа бацька, тая ж матка, дык і слоў не знойдзеш, каб перадаць іх боль, іх бяду-гора. І адбітак іх віны паселіцца ў іх хаце назаўсёды, а ў брата Паўла адаб’ецца на яго далейшым лёсе, ён стане барацьбітом за сацыяльную справядлівасць, за нацыянальную незалежнасць, за што і будзе пакутаваць у Баранавіцкай турме некалькі гадоў, аж да вызвалення ў верасні трыццаць дзявятага. Якое гэта было вызваленне, ён даведаецца пасля, як стане фінінспектарам, будзе збіраць нядоімкі, абкладаць падаткам багацейшых, каб яны адчулі, што такое вызваленне і што гэта ім «не пры паляках».

Вось у гэты час ён і пазнаёміцца з маім дзядзькам Паўлам, будзе вучыць яго прамудрасці абкладання падаткам, збірання-здзірання нядоімкі, выпісвання папярэджванняў — за няўплату — да канфіскацыі маёмасці: каня, каровы ці якой-небудзь нерухомасці. Дзяржаве патрэбны былі фінансы, і вось яны, фінагенты, павінны рабіць усё, каб гэтыя фінансы цяклі ў казну няспынным ручаём, і штораз болей і болей. І калі вам даверылі такую пачэсную місію, дык выконвайце яе як належыць, на слёзы і нараканні нейкіх там кулакоў і падкулачнікаў не зважайце. Эксплуатататараў шкадаваць не трэба, як не шкадавалі яны тых, каго эксплуатавалі самі.

Расказваў пра Квяткоўскую з Якшыч, пра Вярбіцкага са Сцяпужыч, якіх абкладалі падаткам па некалькі разоў, як нехта падвучыў Вярбіцкага падзяліць гаспадарку і зямлю з маткаю і братам, каб не лічыўся ён кулаком. Так ён і зрабіў — і гэтым пазбавіўся ад раскулачвання і вывазкі ў Сібір, што пагражала той жа ўдаве Квяткоўскай, але яе выратаваў брат, забраў недзе ў Нясвіжскі раён, да таго ж яна была кабета ў гадах, паўнацелая, ледзь хадзіла, куды яе вывозіць? Зямлю яе раздалі бедным, хто меў усяго два-тры гектары, а прасторны яе дом перайшоў пад школу, якая дагэтуль месцілася ў прыватнага гаспадара, які меў дом на два канцы.

У Квяткоўскай быў пры доме вялікі стары сад, які тут жа перайшоў у казну, і ўвесь вялікі ўраджай яблыкаў паплыў у Клецк, там мо іх прадавалі ці выціскалі з іх сок.

Былі яшчэ ў Якшычах два браты Лепцюкі, якім пагражала раскулачванне, але ім таксама нехта параіў падзяліць зямлю на дзве гаспадаркі, і іх не раскулачвалі. Яны мелі кожны сваю хату, сваю сям’ю і гаспадарку, а дагэтуль зямля была агульнай, недзе каля дваццаці гектараў, дык чаму іх было не раскулачыць?

І так гэта рабілася па ўсёй Заходняй Беларусі. У некаторых вёсках нават былі ўжо арганізаваныя калгасы — паказальныя, як іх называлі, каб нашы людзі маглі пабачыць на свае вочы, як добра працаваць калектывам: глядзіце, сяляне-аднаасобнікі, як мы жывём, вучыцеся і пераймайце! Ды глядзець не было на што…

Але пачалася вайна з немцамі. У Клецку, як і скрозь, шумела вялікая паніка. Мабілізацыя прайшла, але шмат каму не хапіла абмундзіравання, не хапала вінтовак, а да іх — патронаў. Праз колькі дзён — тут і немцы. Нямецкая танкетка — казалі, дэсантная — запаліла вайсковыя казармы, кашары па-польску, быў забіты адзін баец, родам з Якшыч, па прозвішчы Бобка, ён якраз стаяў на варце.

Мабілізаваныя хлопцы і мужчыны разбегліся па дамах, хто з вінтоўкаю, а хто і так, хто ў абмундзіроўцы, а хто і ў сваім. Мой дзядзька Павел падаўся на ўсход, з ім ішоў яшчэ адзін чалавек з нашай вёскі, але хутка вярнуўся…

Павел Шаняк разам з клецкім раённым начальствам апынуўся ў Пухавічах, адтуль яны кіраваліся ў Рагачоў, дзе трымаў абарону генерал Пятроўскі. А перад Рагачовам спыніліся начаваць у невялікай вёсцы і трапілі ў бяду. Нашы пільныя танкісты шукалі шпіёнаў сярод тых, якія адступалі, застрэлілі двух чалавек з Баранавіцкай вобласці, узялі на падазрэнне і Шаняка. Ён стаў лаяцца і даказваць, што ніякі не шпіён-дыверсант, вось спытайце ў людзей, з якімі ідзе разам. А з ім былі нават удзельнікі фінскай вайны, нехта Лобан з абмарожанымі вушамі і носам. Іх адпусцілі, яны зноў рушылі на ўсход, але ішлі нядоўга — немцы перарэзалі дарогу да адступлення, а потым невялікую групу акружылі і ўзялі ў палон. Пачалася іх дарога назад, на захад. У Слуцку Шаняку пашэнціла сустрэць знаёмага чалавека з новага акупацыйнага начальства, і яго адпусцілі дадому.

Здавалася, што тут ён ужо схаваецца ад вайны: уладкаваўся ў недалёкіх Дунайчыцах настаўнікам у мясцовай школе, наняў у аднаго чалавека невялікі пакой, кожны дзень хадзіў у школу і быў задаволены. Але не надоўга. Аднойчы на кватэру прыбягае знаёмы вучань і кажа, што яго прыслаў дзядзька Лобка, таксама настаўнік, каб як мага хутчэй хаваўся, бо яго ўжо шукаюць паліцаі.

Шаняк хутка сабраўся і пайшоў хутарамі бліжэй да лесу. І трэба ж было спаткаць тых двух паліцаяў з вінтоўкамі. Яны спыталіся, дзе жыве настаўнік Шаняк, ён ім вельмі патрэбен. Добра, што яны былі незнаёмыя, і Шаняк гэта скарыстаў. Ён сказаў, што настаўнік жыве вунь на тым хутары, дзе на бярозе буслянка. Тыя пайшлі, а ён падаўся далей ад бяды. Вечарам вярнуўся ў вёску, некалькі дзён прабыў на сене ў свайго сябра Івана Лобкі, таксама настаўніка. Але доўга заставацца ў яго было небяспечна, каб не падвесці чалавека, у якога жонка і чацвёра малых дзяцей, дзяўчынак, дзве з іх ужо школьніцы.

Дунайчыцы пакінуў і падаўся ў Ляхавіцкі раён, там за Жылічамі быў адзін знаёмы, які ўладкаваў яго настаўнікам. Нечакана спаткаў знаёмую з Баранавіч, якая да вайны мела кавярню на вуліцы Шаптыцкага, а ён прывозіў туды на ровары свежыя булкі да гарбаты — быў ужо ў высылцы пасля турмы. Яна параіла ісці ў Баранавічы да яе знаёмага, можа ён дапаможа ўладкавацца на працу.

Ля Крошына спаткаў чалавека, трохі нібы знаёмага — гэта быў Ржэўскі, дырэктар настаўніцкага інстытута ў Баранавічах. Яны пагаварылі, нават выпілі нейкага напою, Ржэўскі, выслухаўшы яго, не раіў ісці ў Баранавічы, бо гэта небяспечна. Шаняк вярнуўся назад, падаўся на Стаўбцоўшчыну. Выпадкова пазнаёміўся з нейкім хлопцам, той аказаўся звязаны з партызанамі. І вось Шаняк апынуўся ў атрадзе, сталі друкаваць лістоўкі на беларускай мове. Праз нейкі час забралі да сябе Ржэўскага.

Пазней яму разам з хлопцамі давялося браць Баранавіцкага бургамістра Русака, Шаняк ведаў, дзе ён жыве. Прыехалі на машыне, двое ў нямецкай форме, прапанавалі разам праехаць, без яго не могуць вырашыць важнае справы. Аднак жа вырашылі хутка, час быў такі…

А калі вайна адкацілася на захад, Павел Шаняк вярнуўся ў Клецк, зноў на працу ў райфа. Ён расказаў цэлую сцэнку, як шукаў сабе кватэру. Пайшоў да адной дзяўчыны, з якою раней сябраваў. Яе не аказалася дома, а ў яе хаце застаў маладога вайскоўца, афіцэра. «Што трэба?» — спытаў афіцэр. «Шукаю кватэру», — адказаў госць. «Не, тут занята, я буду жыць. А гэтая малодка мо твая любоў?» — спытаў груба. «Хай яна будзе твая любоў», — адказаў таксама груба Шаняк і пайшоў.

Потым гэтая жанчына прагнала свайго кватаранта, яго прозвішча было Кошалеў, да яго прыехала жонка і двое дзяцей. Гэты Кошалеў працаваў у ваенкамаце, і потым Шаняк меў з ім сутычку. Пачыналася здалёк. Ішла кампанія па здачы паставак збожжа дзяржаве. Недзе на поўдні раёна, ля Карацка, прадстаўнікі ўлады, правяралі, як ідзе здача пастаўкі. Зайшлі да аднаго дзядзькі, той малаціў авёс. «Чаму не здаеш пастаўкі?» — пытаюць у яго. «Буду здаваць, вось малачу авёс», — адказвае дзядзька. «Ах, дык ты Чырвоную Армію аўсом хочаш карміць? То мы табе зараз пакажам!»

Павалілі яго, набілі ў рот аўса, а пасля за ногі апусцілі на вяроўцы галавою ўніз, каб запіў вадою. «Цяпер ты будзеш казаць “іго-го”, як конь», — смяяліся ўпаўнаважаныя. Гэта былі былыя партызаны, якія цяпер сталі рознымі дробнымі начальнікамі.

Павел Шаняк, дачуўшыся пра такое здарэнне, не ўтрымаўся: пазваніў у Маскву свайму дзядзьку, які якраз працаваў у міліцыі. Той адразу ўмяшаўся, прыслалі людзей, разварушылі гэты мурашнік. Былых партызанаў прызвалі ў войска, але яны па старой звычцы падаліся глыбей у лес. Разагналі і ваенкомаўскіх, Кошалева таксама, але ён паспеў яшчэ адправіць Шаняка ў армію па мабілізацыі. І давялося Шаняку весці групу прызыўнікоў з Даматканавіч, дзе размяшчаўся сельсавет, ажно ў Баранавічы. Адтуль праз знаёмых хлопцаў сам трапіў у запасны полк, у якім аказаліся нядаўна выздаравелыя, людзі ў гадах, інтэлігенты. Іх адбіралі ў розныя часці. Шаняк трапіў у каманду транспарціроўкі адказных і сакрэтных грузаў. І з гэтымі грузамі яму давялося паездзіць па ўсім Саюзе: Масква, Вятка, Тула, Ташкент…

Пазней у Клецку спаткаў Кошалева, хацелася з’ездзіць яму па храпе, але стрымаўся…

Апошняя мая гутарка з Паўлам Шаняком была сумная — ён расказваў мне пра сваю жонку, пра сыноў, як іх гадаваў — без маткі. Мы сядзелі за сталом, была пляшка і добрая закусь, мы налівалі і выпівалі, закусвалі, гаварылі. Гаварыў больш гаспадар, я часам кідаў яму якое пытанне.

Ён са схаваным болем у сэрцы гаварыў пра жонку Кацярыну з роду Злотнікаў, яна нарадзілася і жыла ў Капыльскім раёне. Сям’я яе шмат нацярпелася ў вайну, хлопцы былі ў партызанах, давялося хавацца ад немцаў, загінулі два яе браты. Пасля вайны яна вучылася, стала настаўніцай. Недзе на настаўніцкай канферэнцыі Шаняк пазнаёміўся з ёю, узнікла ўзаемная сімпатыя, а потым і каханне, урэшце і сям’я. Жылі дружна, працавалі разам у школе, гадавалі дзяцей. Былі ўжо тры хлопчыкі, чакалі чацвёртага, яна чакала дзяўчынку.

І вось аднойчы пад вечар той хлопчык ці мо тая дзяўчынка неяк далікатна пастукала матцы ў сярэдзіне, як бы нагадваючы, што яна ці ён просіцца на свет Божы. Жонка сказала, што трэба ёй збірацца ў дарогу, ён кінуўся быў шукаць якое машыны, у вёсцы ўжо завяліся яны ў людзей, але яна адгаварыла яго: зойдзем мы памалу і пяшэчкам, колькі тое дарогі. Так яны і зрабілі. Яна сабрала клуначак — для сябе, для малога, ён нёс яго ў левай руцэ, а правай моцна трымаў яе пад ручку.

Яны ішлі памалу-паціху, глядзелі на свет вакол сябе — такі родны, такі знаёмы да драбніц і мілы, гаварылі. Яна расказвала пра сябе, хоць ён і ведаў усё гэта, але часам выплывала з яе аповеда нешта новае, дагэтуль невядомае, і ён мякка папракаў яе, што пра гэта яна раней нічога не гаварыла. А яна ў адказ казала, што шмат чаго і не хацела б яму распавядаць, бо тое ўсё было надта цяжкае, гаротнае, асабліва з ваеннага часу, што лепей пра яго маўчаць і не варушыць, не вярэдзіць, як тую рану, якая яшчэ не зусім загаілася.

Яны ішлі паволі, часам спыняліся, адпачывалі, ён пытаўся, як яна сябе пачувае, як тое малое, ці падганяе яе, ці моцна штурхае ножкамі, ці маўчыць, адпачывае, не ведае яшчэ, што яго маці ідзе якраз туды, дзе яно павінна паказацца на свет.

І так вось ідучы, адчуваючы яе побач з сабою, сціскаючы часам яе мяккую руку вышэй локця, ён пранікаўся да яе нейкім незвычайным пачуццём, якога не ведаў раней. Яна была для яго такая дарагая, такая родная, што ён гатовы быў яе абняць, цалаваць, несці на руках і казаць ёй самыя шчырыя, самыя гарачыя словы, такія пяшчотныя і ласкавыя словы, якіх ён не гаварыў ёй за гэтыя восем гадоў іх сумеснага жыцця. Ён проста не пазнаваў сябе і нават пабойваўся сказаць ёй пра гэта, каб не спалохаць яе, каб яна не пачала думаць нешта такое: а мо што здарыцца, а мо што будзе не так, як трэба, а мо…

Яны пастаялі трохі на мосце цераз раку Лань, тут яна даволі шырокая, робіць паваротку налева, гэта той Краснастаў, тая мясціна, дзе, па паданні, адбываўся бой між ліцьвінамі князя Глінскага і татарамі, дзе яны былі разбіты, а вада ў Лані стала чырвонаю ад іх крыві, ды не толькі татарскай.

«Краснастаў, Краснастаў, Краснастаў», — паўтараў сам сабе Шаняк гэтае фатальнае слова, не падазраючы нават, што сёння яго жонка Кацярына Іванаўна будзе абліваццa крывёю, і ў бальніцы ў гэты час не знойдзецца чалавека, які б спыніў гэты крывацёк, не даў пакінуць жыццю яе спакутаванае родамі цела.

У бальніцы Шаняк пачакаў, пакуль жонку пераапрануць у новае адзенне, сказаў: «А можа, я тут застануся нанач з ёю?» Але яму не дазволілі, хоць доктар і быў яму добра знаёмы. «Справімся самі», — сказаў неяк афіцыйна. «Каб жа твае словы ды Богу ў вушы», — прамовіў на гэта Шаняк.

Ён паволі пайшоў дадому, да дзяцей, якія яго чакалі. Ужо добра сцямнела, было ціха і цёпла, ён ішоў як не сваімі нагамі, яму чамусьці хацелася вярнуцца назад, каб быць побач з жонкай, якая засталася адна, без яго дапамогі, без яго апекі. «Каб жа ўсё было добра, каб жа ўсё абышлося…» — паўтараў сам сабе. Хіба мог ён падумаць, што апошні раз бачыў сваю жонку жывою? Ніколі, ніколі…

Аднак жа назаўтра ён пазваніў са школы ў бальніцу, і яго аглушылі навіною: жонка нарадзіла яму сына, але пасля родаў сама памерла…

Стан яго душы цяжка перадаць, цяжка нават уявіць, што перажыў малады бацька над трупам свае любімае жонкі, якая пакінула яму, на яго рукі, чацвёра сыноў, і самаму малодшаму з іх — усяго адзін дзень. Адзін дзень! Як жа ўсё гэта выцерпець, як вынесці, каб не звар'яцець, не кінуцца ў тую Лань, у той Краснастаў? Свет раптоўна пацямнеў у яго вачах, усе яго фарбы страцілі колер, а ў галаве стаяла-білася адно пытанне: завошта? Завошта так пакараў яго Усявышні?..

Аднак жа — што заставалася рабіць? Сціснуць зубы, сціснуць сэрца і жыць далей, працаваць, даглядаць сыноў — Анатоля, Алеся, Васіля і апошняга — Вячаслава, каб яны выраслі сапраўднымі людзьмі, каб не крыўдавалі на бацьку. А яму самому трэба было заставацца перш за ўсё чалавекам, настаўнікам, каб ніхто не папракнуў цябе, што ты робіш нешта не так, як трэба. Гэта надавала яму сілы, абавязвала ўрэшце: уся сям'я цяпер на тваіх плячах. І пачаўся новы этап у яго жыцці, падобны да мінулага, ды ў дзесяць разоў цяжэйшы, але трэба было цярпець, выводзіць у людзі сваіх сыноў, каб яны менш адчувалі, што страцілі самага блізкага для сябе чалавека — сваю матку, маму, матулю, што яны сіроты — з самых малых гадоў. Разам з імі і ён, бацька, адчуваў сябе сіратою — і па начах плакаў як дзіця — па страчанай жонцы, па сабе, па бедных сіротах-сынках, якія так рана, на пачатку свае дарогі, засталіся без роднае маткі.

* * *

Перш чым ставіць кропку ў аповедзе пра Паўла Шаняка, хачу дадаць, што ён стаў героем майго рамана «Не праспі сваю долю», які друкаваўся ў часопісе «Полымя» (скарочана), а асобным выданнем не выйшаў, вінавата наша беднасць. Там Павел Шаняк выступае пад прозвішчам Сіняковіча Паўла з Куклічаў, але, на жаль, там ён даволі эпізадычны, дзейнічае толькі на пачатку рамана і ў канцы, утвараючы як бы рамку, у якой развіваюцца падзеі, дзе галоўным героем з'яўляецца Кастусь Пальцэвіч, прататыпам якога паслужыў мой дзядзька Павел Пальчык, які прапаў у часе вайны.

Калі б я паралельна даваў яшчэ падзеі вакол Паўла Шаняка-Сіняковіча, то раман мог бы разрасціся і стаць у два разы большым, а ён і без гэтага мае амаль семсот старонак на машынцы.

Біяграфія ж Паўла Шаняка заслугоўвае асобнага вялікага твора, які, можа, калі і будзе напісаны.